**Вінцук Вячорка. Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.** (Бібліятэка Свабоды. ХХI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2017. 316 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Марына Сідаровіч*

Другая кніга нарысаў пра беларускую мову, што гучалі на хвалях і публікаваліся на сайце Радыё Свабода пачынаючы з 2014 г. (Першая кніга выбраных тэкстаў гэтай сэрыі „Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам“ выйшла ў „Бібліятэцы Свабоды“ ў 2016 г.)
Кніга інтрыгуе чытача невядомымі або наноў адкрытымі фактамі пра нашую мову ды яе багацьцямі, нязмушана натхняючы прыгожа гаварыць па-беларуску.


FOL

ISBN 978-0-929849-84-3

# Зьмест

# Простыя рэчы

Каб напісаць гэтую кнігу, трэба проста ведаць астраномію, сацыялёгію, матэматыку, паліталёгію, дзяржаўнае будаўніцтва, замежныя адносіны, канстытуцыйнае права, фінансавы лексыкон, дзяржаўныя стандарты, гандлёвыя маркі, міталёгію, літаратуру, паэзію, музыкалёгію, фальклёр, багаслоўе, псыхалёгію, астралёгію, філязофію, лаціну, арамейскую, славянскія, германскія, раманскія, фіна-вугорскія мовы, дыялекты свае і суседзяў, жаргон, выбарчае заканадаўства, археалёгію, адміністрацыйны кодэкс, грашовыя сыстэмы, рок-музыку, кампутарную тэрміналёгію, інтэрнэт-слэнг, вайсковы статут, канцылярыт, эстэтыку, батаніку, іхтыялёгію, геаграфію, гісторыю ды іншыя нацыянальныя навукі, а таксама чытаць лекцыі, выдаваць слоўнікі, складаць падручнікі, ствараць нефармальныя рухі, узначальваць партыі, весьці мітынгі, сядзець за кратамі, прадстаўляць сваю краіну на міжнародных форумах — іншымі словамі, жыць па-беларуску.

Каб прачытаць гэтую кнігу, трэба проста яе разгарнуць — бо закрыць ужо немагчыма.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

## Мова як імунітэт

Гэта другая кніга маіх тэкстаў, што гучалі на хвалях і публікаваліся на сайце Беларускай службы Радыё Свабода пачынаючы з 2014 году. (Першая, *„Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам“*, выйшла ў 2016 г.)

Акрамя дасьледніцкага і асьветніцкага імпэту, мною кіруе пачуцьцё справядлівасьці. Як магла б разьвіцца — на ўласнай аснове — нашая мова ў XX стагодзьдзі, каб беларускае мовазнаўства не палягло ў курапацкіх ямах 1930-х гадоў?

Таму спрабую масьціць масты: паміж моўнай практыкай міжваенных Менску і Вільні ды постсавецкаю цяпершчынай; паміж старабеларускай мовай і сучаснаю тэрміналёгіяй; паміж фантастычным багацьцем дыялектаў і нэафіцкаю беларускаю моваю маладых гіпстэраў.

Пражыць дзень па-беларуску. Чуць беларускія словы — ад крамніцы да страхавога агента і паліцыянта. На дарожных паказьніках бачыць не Акцябарскія-Кіраўскі-Дзяржынскі, а спрадвечныя беларускія назвы гарадоў і вёсак. Дзецям спазнаваць у школе беларускія назвы сузор’яў ды зьвяртацца да настаўніцы „спадарыня“. Такая Беларусь цалкам магчымая. Таму сягаю ў розныя сфэры жыцьця

й пазнаньня, учытваюся ў тэксты іншых дасьледнікаў — толькі каб пераканацца: па-беларуску вычарпальна й прыгожа сказаць можна пра ўсё.

Ёсьць канцэптуальная гіпотэза Эдварда Сэпіра і Бэнджамэна Ўорфа пра ўплыў  мовы на ўспрыманьне сьвету. Але і лад жыцьця ўплывае на моўныя інструмэнты. Прыналежнасьць народу да пэўнага цывілізацыйнага абшару ўзаемазьвязаная з моваю. Вось жа і я міжволі шукаю повязяў мовы з мэнталітэтам ледзьве ня ў кожным прыназоўніку. Часам, магчыма, перабольшваю — але няхай мяркуе чытач.

***

„Атляс моваў сьвету ў небясьпецы“ UNESCO — дакумэнт даволі змрочны, нагадвае эпідэміялягічную мапу. Беларуская мова там пазначаная як vulnerable (аслабленая, уразьлівая). Гэта першая ступень небясьпекі, ніжэй яшчэ чатыры — да поўнага зьнікненьня мовы. Але мы зможам зрабіць наступны крок угару, а ня ўніз. А перажытае забясьпечыць імунітэт і мове, і празь яе ўсім нам. Уласна кажучы, кніга пра гэта.

## 3 красавіка — Дзень дзяржаўнасьці беларускае мовы

Ужо праз тыдзень пасьля 25 Сакавіка 1918 году айцы-заснавальнікі БНР, поруч зь іншымі дзяржаватворчымі захадамі, задбалі пра статус беларускае мовы:

*Народны Сакратарыят Беларускае Народнае Рэспублікі прыняў пастанову* ***пра абвешчаньне беларускае мовы дзяржаўнаю і абавязковаю моваю Рэспублікі****. Нацыянальным меншыням Беларусі дазваляецца карыстацца сваёю моваю ў афіцыйных дачыненьнях зь дзяржаўнымі ўстановамі. Усе акты, дакумэнты і ліставаньне ўрадавых установаў павінны адбывацца на дзяржаўнай беларускай мове.*

(Архівы БНР. Укл. С. Шупа. Т. I, кн. 1. С. 74)

Гэта, як сказалі б цяпер, урадавы прэс-рэліз ад **3 красавіка 1918 году**. Пісаны яшчэ па-расейску, пераклад мой. Ключавыя словы тут — **беларуская мова дзяржаўная і абавязковая.**

(Дарэчы, тамы „Архіваў БНР“ варта перачытаць з гледзішча вось такіх актаў ды іхных да-

таў — там пачаткі беларускіх дзяржаўных службаў новага часу. Ужо добра-такі муляе штогадовы набор нейчых „дзён“ — мэдыка, паштара, пажарніка, міліцыі, мытнай службы і г.д. Яны выводзяцца ад савецкіх актаў і падзеяў, часта супадаюць з расейскімі. А калі для „прафэсійных сьвятаў“ падшукваюць тутэйшыя падзеі, то зьвязаныя з імпэрыяй ці БССР — як „Дзень міліцыі“, які адлічваецца ад прызначэньня сумнавядомага М. Фрунзэ часовым начальнікам міліцыі Ўсерасейскага земскага саюзу ў Менску).

Але вярнуся да дзяржаўнасьці мовы.

Натуральна, мусім памятаць і Статут ВКЛ 1566 году з істотнаю праўнаю навацыяй:

*А пісар земскі маець па-руску, літарамі і словы рускімі, усі лісты і позвы пісаці, а ня іншым языком і словы...*

(Разьдзел 4, арт. 1)

Была і інструкцыя часоў Першае ўсясьветнае вайны, якую падпісаў нямецкі генэрал-фэльдмаршал Паўль фон Гіндэнбург **16 студзеня 1916 г.** і дзе беларуская мова пасьля доўгага перапынку набывала роўныя зь іншымі мясцовымі мовамі правы ў адукацыі ды рабілася адною з афіцыйных у грамадзкай і самакіравальнай дзейнасьці. (Вядома, бяз захадаў беларускіх дзеячоў гэта было б немагчыма.)

Памятаем і пастановы раньняй ССРБ-БССР пра выкарыстаньне ва ўстановах чатырох моваў,

а менавіта беларускай, расейскай, польскай ды ідыш, прычым беларуская мова вызначалася як „пераважная для дачыненьняў“. Такі стан быў з 1920-га фармальна да 1938 году.

Зрэшты, тэрміну „дзяржаўнасьць мовы“ і за бальшавікамі, і ў вышэйпералічаных дакумэнтах не было. **26 студзеня 1990 году** — гістарычны дзень прыняцьця (у выніку працяглае грамадзкае кампаніі) Закону аб мовах, паводле якога беларуская ўрэшце **вярнула** сабе статус адзінай дзяржаўнай.

***

Але ўсё ж першым рашэньнем аб беларускай мове як адзінай дзяржаўнай, адпаведным сучасным дзяржаўна-праўным нормам і прынятым самімі беларусамі, была тая пастанова Народнага Сакратарыяту БНР ад трэцяга красавіка.

А **24 траўня 1918 г.**, паводле гісторыка Ўладзімера Ляхоўскага, Рада БНР прыняла і **закон** пра абвешчаньне на тэрыторыі Беларусі дзяржаўнага статусу беларускай мовы.

Такі крок БНР насьпяваў, хоць трэба было адольваць і непрыхільнае стаўленьне расейскіх і польскіх вялікадзяржаўнікаў, і прарасейскія настроі ў земскіх самакіраваньнях, і інэрцыю некаторых беларускіх дзеячоў. Аргумэнты супраць дзяржаўнасьці беларускае мовы, што гучалі тады, прынцыпова не зьмяніліся і цяпер. Яшчэ на Ўсебеларускім зьезьдзе ў сьнежні 1917 году гучалі галасы, што па-беларуску немагчыма вы-

кладаць усе прадметы, бо мова нібыта ня можа передаваць усе навуковыя паняцьці.

Але глеба рыхтавалася: прыкладам, яшчэ да абвешчаньня незалежнасьці Беларускі вайсковы зьезд Паўночнага фронту ў Віцебску ў сьнежні 1917 г. пастанавіў, што беларуская мова павінна прызнавацца афіцыйнай мовай ва ўсіх дзяржаўных і грамадзкіх установах краю — праўда, разам з агульнадзяржаўнаю тады расейскаю.

А вось Беларускі нацыянальны камітэт у Магілёве 5 чэрвеня 1918 г. рэагаваў на прыняцьце закону аб дзяржаўнасьці беларускае мовы інакш: „*Вітаючы адраджэньне беларускай народнай мовы і росквіт беларускай літаратуры, паэзіі і мастацтва, Камітэт лічыць, што ўвядзеньне ў дзяржаўнае справаводзтва беларускай мовы як абавязковай [ёсьць] нясвоечасовым крокам*“. (Прыклады і цытаты з манаграфіі У. Ляхоўскага „Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1915—1918 г.“. Беласток – Вільня, 2010.)

Знаёмае стаўленьне — не выпускаць беларускую мову па-за мастацкую нішу.

Але нават у неверагодна цяжкой сытуацыі вайны, эканамічнага заняпаду, чарады акупацыяў, установы Беларускае Народнае Рэспублікі пачалі ўкараняць беларускую мову: ва ўласным справаводзтве, упарадкаваньні тэрміналёгіі, кнігавыданьні. І найперш у асьвеце. Рабілі гэта цалкам сьвядома. Тлумачэньне знаходзім у мэмарыяле Народнага Сакратарыяту БНР канцлеру Нямеччыны за 5 красавіка 1918 году, дзе немцам сьцісла тлумачылі, у якія этнамоўныя

ды палітычныя непярэліўкі яны трапілі, прыйшоўшы ў наш край, і чаго дамагаецца БНР.

*Беларуская мова, выгнаная са школы, суду і царквы спачатку польскім, а затым расейскім урадам, страціўшы ў выніку гэтага два стагодзьдзі свайго разьвіцьця, павінна заняць у Беларускай дзяржаве належнае ёй месца як мова дзяржаўная. Вельмі нізка заняпалыя ў выніку абрусіцельнай палітыкі Расеі асьвета і пісьменнасьць павінны быць пастаўленыя на адаведную вышыню шляхам адкрыцьця новых беларускіх школаў усіх тыпаў і ўладкаваньня існых адпаведна патрабаваньням пэдагогікі.*

(Архівы БНР. Т. I, кн. 1. С. 83.)

БНРаўскія арганізатары адукацыі разьехаліся па краіне. Літаральна за пару гадоў былі створаныя сотні беларускіх школаў усіх ступеняў, курсы, настаўніцкія сэмінарыі, складзены плян утварэньня ўнівэрсытэту. Айцы-заснавальнікі БНР асабіста займаліся школьнай справай на месцах, пачынаючы з старшыні Рады БНР Язэпа Лёсіка і народнага сакратара асьветы Аркадзя Смоліча, якія ўвайшлі ў Менскую школьную субкамісію. А Тамаш Грыб быў яе адказным сакратаром.

У 1917/1918 н. г. у Менску было 7 беларускіх ніжэйшых пачатковых вучэльняў, 1158 дзяцей вучыліся (27% ад агульнай колькасьці вучняў гэтай катэгорыі). У 1919-м — 9 пачатковых і адна сярэдняя, разам 1213 дзяцей. „*У Менску,*

*сталіцы Рэспублікі Беларусі, сёньня існуе ўсяго 4 школы, дзе ўсё выкладанне адбываецца на роднай мове вучняў... Колькасьць тагачаснага жыхарства ў Менску была амаль у 10 разоў меншая, чым сёньня, а беларусы тады не былі ў горадзе нацыянальнай большасьцю*“,— заўважае У. Ляхоўскі.

Зьявіліся грамадзкая школа для дарослых, курсы беларусазнаўства, настаўніцкія курсы ў Менску (проста ў зале паседжаньняў Рады БНР) і Бабруйску. Будслаўская беларуская гімназія, стварэньнем якой непасрэдна апекаваўся Народны Сакратарыят БНР, праіснавала да польскай акупацыі, а супраць яе ліквідацыі пратэставалі больш як паўтысячы бацькоў навучэнцаў.

Рада БНР пасылала адукацыйных упаўнаважаных — прыкладам, а. А. Астрамовіча (паэта Андрэя Зязюлю) у Сеньненскі павет. Урэшце паўстала Віленская беларуская гімназія, якая потым адыграла неацэнную ролю ва ўзгадаваньні беларускай нацыянальнай эліты. У выніку адукацыйных захадаў БНР толькі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1920/21 навучальным годзе было 514 беларускіх школаў, зь іх у Вільні сем.

Нашто падаю тут лічбы?

У публічнай дыскусіі за мяжой пра лёсы Беларусі разам са мной браў удзел менскі публіцыст і філёзаф. Ён разважаў пра беспадстаўнасьць беларускіх нацыянальныя мітаў, а ў якасьці прыкладу прывёў БНР: маўляў, гэта была ізаляваная група, якая ні на што не ўплывала і пра існаваньне якой не падазравалі нават менчукі па-за сьценамі кабі-

нэту Рады, а што ўжо казаць пра ўсю тэрыторыю Беларусі. Г. зн., „БНР няма“.

Але нават калі абстрагавацца ад іншых кірункаў чыннасьці БНР у менскі й горадзенскі пэрыяд (а таксама ад палескага паходу Булака-Балаховіча ці Слуцкага збройнага чыну пад БНРаўскімі штандарамі), а ўзяць толькі моўна-адукацыйную сфэру, то відавочна: наладжанае дзеячамі БНР беларускамоўнае школьніцтва паўплывала на сьвядомасьць сотняў тысячаў чалавек.

Моўная палітыка БНР імкліва разьняволіла патэнцыял беларускае мовы, ня толькі даказала яе здольнасьць абслугоўваць розныя сфэры, але засьведчыла, што вяртаньня роднае мовы ў школу і дзяржаву хочуць самі беларусы. З гэтым вымушаныя былі лічыцца і савецкія бальшавікі, і Польшча, якія тады падзялілі паміж сабою Беларусь. Дзяржаўнасьць беларускае мовы ў XX стагодзьдзі, хай з пакручастаю гісторыяй,— заваёва Беларускае Народнае Рэспублікі.

# Прыгоды адсоткаў у каралеўстве крывых люстэркаў

У імпэрскай палітыцы звычайныя працэнты носьбітаў пэўнае мовы на пэўным абшары могуць быць небясьпечнай зброяй. Адкуль тыя працэнты (ці то адсоткі) бяруцца? Напачатку дыяграма.

**Беларуская мова як родная ў перапісах насельніцтва**




** у межах Менскай, Магілёўскай, Віцебскай, Віленскай, Горадзенскай губэрняў.*
*** у межах БССР да верасьня 1939 г.*

Пасьля непрацяглага росту беларускай моўнай ідэнтычнасьці (была кароткая эпоха „беларусізацыі” 20-х гадоў у БССР) надалей у савецкі час ішоў яе няўхільны, хоць і павольны, спад — па 3–6% кожныя дзесяць гадоў. Тэндэнцыя перамілася, як толькі беларуская мова стала адзінаю дзяржаўнаю і Беларусь аднавіла незалежнасьць. У 1999 годзе 73,7% грамадзянаў назвалі беларускую мову роднай (зразумела, 1999-ы — зусім не 1993-і, але моўна-каштоўнасны выбар людзей мае пэўную інэрцыю).

А паводле перапісу 2009 году працэнт усіх жыхароў дзяржавы, якія лічаць беларускую мову роднаю, упаў з 73,7% да 53,2%. Адсотак беларусаў, якія лічаць роднаю мову свайго народу, абваліўся з 85,6% да 60%. Зразумела, на карысьць расейскае.

Такая радыкальная й хуткая (20–25% за дзесяць гадоў) зьмена моўнай ідэнтычнасьці — беспрэцэдэнтная для моўных сытуацыяў у сьвеце. Пагатоў калі йдзецца пра „маладую дзяржаву“, у якой, здавалася б, мусіць мацавацца ўласная нацыянальна-культурная тоеснасьць. (Зрэшты, „маладосьць дзяржавы“ — рэч адносная: дзяржавы Балтыі за 20 гадоў міжваеннай незалежнасьці забясьпечылі сваім мовам такі непарушны статус, што яго не падарвала нават савецкая моўная палітыка.)

**Нацыянальны статыстычны камітэце, барані сваё!**

Няма абгрунтаваных падставаў сьцьвярджаць, што нехта ў прамысловых маштабах карэктаваў атрыманыя вынікі; магчыма, людзі больш-менш так і адказвалі. Чаму?

Ясна, што радыкальна зьмянілася стаўленьне дзяржавы да беларускае мовы. Гэта выявілася і ў заявах кіраўніка дзяржавы наконт патэнцыялу беларускае мовы, і ў скарачэньні сфэраў яе ўжытку, і ў пэрспэктывах для тых, хто вучыцца па-беларуску. Гэта відавочна кожнаму і ня можа не ўплываць на паводзіны паспалітага беларуса падчас перапісу (г. зн. наўпроставага кантакту зь дзяржаваю): адкажу так, каб патрапіць у чаканьні ды сабе не нашкодзіць.

Але зьмяніліся і фармуляваньні, ужытыя ў перапісе. Яшчэ калі ён плянаваўся, мы з калегамі білі ў званы, але марна. Паняцьце „родная мова“ ў перапісным блянку раней не тлумачылася. Цяпер тлумачыцца як „мова, засвоеная першаю ў раньнім дзяцінстве“. Але ў нашай традыцыі *родная мова* — тая, якую чалавек успрымае як пазнаку нацыянальнай прыналежнасьці, як каштоўнасьць і тым самым пагаджаецца, што беларуская мова павінна жыць, мець пэрспэктыву, што хай ён сам цяпер не гаворыць, але дзеці-ўнукі адновяць надарваны ланцужок.

Многія нашыя сучасьнікі вымушаныя аднаўляць моўную ідэнтычнасьць праз разрыў аднаго ці двух пакаленьняў: іхныя бацькі, самі з маленства беларускамоўныя, размаўлялі

зь дзецьмі як умелі па-расейску, каб не ўскладняць ім жыцьця.

Беларускія службоўцы тлумачылі, што ўзялі такое тлумачэньне паняцьця „родная мова“ з рэкамэндацыяў UNFPA — спэцыялізаванай ААНаўскай структуры для вывучэньня актыўнасьці насельніцтва. Сапраўды, UNFPA імкнецца, каб зьвесткі перапісаў былі параўнальныя міжсобку, мэтадычна дапамагае маладым дзяржавам без традыцыяў уласнай статыстыкі. Нацыянальны статыстычны камітэт Беларусі, рыхтуючы перапіс 2009 году, зважаў на рэкамэндацыі UNFPA (у тым ліку і таму, што з боку ААН мела быць дапамога — праграмным забесьпячэньнем ды інш.).

Ангельская тэрміналёгія ўжывае выраз mother tongue — матчына мова. Аказваецца, пераклад гэтага спалучэньня на беларускую выразам „родная мова“ бывае недакладны (зрэшты, „матчынаю моваю“ завуць беларускую і тыя, з кім маці ўжо не гаварыла па-беларуску — але зь ёю магла гаварыць ейная маці — і выраз у такім выпадку значыць — традыцыйна свая. На расейскую гэтая ідыёма не перакладаецца). Нішто не замінала, скарыстаўшы гатовую матрыцу UNFPA, папоўніць яе пытаньнямі, адпаведнымі нашым рэаліям.

**Люстэркі бываюць якасныя**

Калі перапісы рыхтуюцца ў дэмакратычных дзяржавах, зацікаўленых аб’ектыўна ацаніць складаную моўную сытуацыю, то моўны блёк там заўсёды дапасоўваецца да рэальнасьці.

У **Ірляндзкай Рэспубліцы** пасьля стагодзьдзяў уціску адраджаецца ірляндзкая гэльская (кельцкая) мова. Справа ідзе нялёгка, даводзіцца канкураваць з магутнай ангельскай мовай, глябальным сродкам камунікацыі (адрозна ад расейскай). Пра ангельскую дублінскі блянк перапісу насельніцтва ўвогуле не пытае. Затое прапаноўвае пытаньні пра ірляндзкую:

*11. Ці можаце вы гаварыць па-ірляндзку?*
1. Так. 2. Не.
*Калі „Так“, ці вы гаворыце па-ірляндзку:*
1. Штодня. 2. Штотыдзень. 3. Менш часта.
4. Ніколі.

У выніку здабываюцца зьвесткі пра актыўнае і пасіўнае валоданьне моваю — апошняе мераюць, каб стымуляваць яго пераход у першае.

Яшчэ кельты. **Валія (Уэльс)** — калісьці першая калёнія Ангельшчыны, а сёньня складовая частка Злучанага Каралеўства. Моўнае пытаньне перапісу:

*9. Ці можаце вы разумець, гаварыць, чытаць або пісаць па-валійску? (пазначаць усе пункты, якія пасуюць)*
□ Разумею вусную валійскую мову
□ Гавару па-валійску
□ Чытаю па-валійску
□ Пішу па-валійску
□ Нічога з названага вышэй

І, урэшце, **Швайцарыя** — дзяржава, афіцыйнае чатырохмоўе якой любяць прыводзіць як аргумэнт адвакаты дзяржаўнага дзьвюхмоўя ў Беларусі.

У іх вельмі дэталізаваная моўная анкета перапісу, дзе ёсьць пытаньні і пра мову, на якой чалавек думае і ведае яе найлепей, і пра мову ці мовы, на якой (якіх) гаворыць рэгулярна, прычым асобна ў школе і на працы або дома, зь сям'ёй. Абавязкова павінны пазначацца дыялекты, г. зн. няможна пісаць, што асоба гаворыць па-нямецку, па-італьянску, калі папраўдзе яна карыстаецца швайцарска-нямецкім дыялектам або італьянскім дыялектам Тычына. Асобна зазначана, што калі людзі гавораць па-фрыульску, то гэта не італьянскі дыялект, а рэтараманскі. Так швайцарцы вымяраюць захаванасьць непаўторна сваіх, швайцарскіх, гаворак (кожная зь якіх пераважае ў пэўным кантоне).

## Невыносная лёгкасьць моўнага быцьця

У беларускіх жа перапісных анкетах нічога не было пра варыянты беларускае мовы ў вуснах грамадзянаў: дыялектныя формы, беларуска-расейскія зьмешаныя варыянты („трасянка“), якія ў мовазнаўстве шырэй называюць „піджыны“ й „крэольскія мовы“. Сапраўды, дзе мяжа беларускай і расейскай у такім ланцужку: „на наступным прыпынку“ — „на сьледушчай астаноўцы“ — „на сьледушчай астаноўке“? Адказ ня просты. Фанэтычна, інтанацыйна, часта граматычна гэта прынамсі не расейская мова.

У той жа час у перапісе 2009 году было новае моўнае пытаньне: *„На якой мове Вы звычайна размаўляеце дома?“*

Паводле афіцыйных зьвестак, дома звычайна размаўляе па-беларуску толькі 23,4% (сярод этнічных беларусаў — 26,1%). У той час калі, паводле многіх сацыялінгвістаў і паводле UNESCO, крытычны парог самаўзнаўленьня для мовы — 30% практычных носьбітаў.

Аднак папраўдзе мы маем тут адказ на іншае пытаньне: *„Ці думаеце вы, што мова, якою вы гаворыце, беларуская?“* Вось жа мноства людзей лічыць, што тэрмінам „беларуская мова“ яны маюць права назваць толькі літаратурную, стандартную мову, блізкую да таго, што памятаюць са школы й чулі ў радыё. А іхны родны дыялект або трасянка самі называюць у лепшым выпадку нечым „зьмешаным“. Моўная ідэнтычнасьць можа адрозьнівацца ад моўных паводзінаў. Прычым у абодва бакі. Так, каштоўнасна матываваны расейскамоўны ад нараджэньня чалавек з выразнай беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьцю падчас перапісу можа назваць роднаю моваю (нават калі апытальнік будзе настойваць на „ААНаўскім“ азначэньні) беларускую. І наадварот, носьбіт дыялекту, піджыну запішацца „расейскамоўным“.

Спытаўшыся пра „хатнюю“ мову, варта было б усьлед спытаць і пра мову, якую ўжывае чалавек на працы (як швайцарцы). І мы пабачылі б, якое мізэрнае месца адведзена беларускай мове ў крытычна важных для яе будучыні працоўных сфэрах ужытку.

Трэба меркаваць, што пасіўна валодае беларускаю моваю, гэта значыць яе разумее, абсалютная бальшыня жыхароў краіны. А значыць, вяртаньне беларускае мовы ў інфармацыйную прастору і ва ўсе іншыя функцыі нічым нікога ня „ўшчэміць“. Але перапіс 2009 году не адлюстроўвае ступені актыўнага й пасіўнага валоданьня беларускаю моваю ва ўсіх яе варыянтах.

**Здароў! — Здароў, калі не жартуеш**

Тут гаворка толькі пра перапісы, бо іхныя зьвесткі лічацца найбольш верагоднымі, на іх грунтуецца дзяржаўная палітыка. Апошнім часам і сацыёлягі пачалі больш зважаць на моўныя праблемы, ёсьць цікавыя дасьледаваньні (і ёсьць закарэлыя стэрэатыпы). Скажу хіба пра дробязь, якой ня бачаць ані сацыёлягі, ані арганізатары перапісаў.

Мова, акрамя іншых, мае так званую фатычную функцыю — служыць для завязваньня кантакту. У грамадзтвах з складанаю моўнаю сытуацыяй (а ў нас яна складаная) выбар мовы першага кантакту ўплывае на наступную камунікацыю. Калі апытальнік пачынае гаварыць па-расейску, нават беларускамоўны ў жыцьці чалавек часта падсьвядома да гэтага адаптуецца — і невядома (ніхто ж ня мераў!), ці розьніліся б адказы на пытаньні пра мову, калі б апытальнік пачынаў гутарку па-беларуску.

Падобна выглядае сытуацыя першага кантакту на нібыта двумоўных інфармацыйных парталах. Давялося быць на публічнай сустрэчы з ства-

ральнікам найбуйнейшага такога парталу ў Беларусі. Ён сказаў, што працэнт тых, хто выбірае беларускую мову, вельмі невялікі, хоць за апошні час і вырас удвая (зазначу, так і застаўшыся мізэрным). Аднак калі чалавек разумее абедзьве мовы, а каб пераключыцца на беларускую, трэба адпаведную спасылку знайсьці зь мікраскопам на самым дне парталу, то настойлівымі будуць ну вельмі прынцыповыя людзі. Калі партал стандартна адкрываецца па-расейску — раўнапраўнага выбару мовы няма.

## Перакуленая піраміда калі-небудзь упадзе

Нават, лагодна кажучы, няпоўныя зьвесткі перапісаў могуць служыць беларускамоўным падставаю для абароны сваіх правоў. Так выглядае перакуленая піраміда *функцыянальна неўраўнаважанага двумоўя* ў Рэспубліцы Беларусі.

**Доля беларускамоўных**




Паводле перапісу насельніцтва 2009 г. і зьвестак за 2014/2015 навучальны год

Ведаю з досьведу: іншаземцаў уражвае.

Але з агульнанацыянальнага пяройдзем на лякальны ровень: горад Маладэчна, колішні (пра што там памятаюць) абласны цэнтар, насельніцтва 94 тысячы чалавек. Паводле перапісу 2009 году, роднаю моваю тут назвалі беларускую 65005 чалавек, або 68,9%. Прызналіся, што гавораць дома па-беларуску, 27515 жыхароў Маладэчна, або 29,2%. Сярод іх ня толькі „яшчэ тыя“ міжваенныя дзяды (такіх фізычна гэтулькі не набярэцца), але і эканамічна актыўнае насельніцтва, сем’і зь дзецьмі. У горадзе 6524 вучні. Калі зь іх трэць, або хай сабе чвэрць, або пятая частка, належыць да беларускамоўнае грамады Маладэчна, гэта ад 1200 да 2100 школьнікаў. Магчымасьцяў вучыцца для іх няма зусім, 0%.

Перад 2015/16 навучальным годам сям’я з запамінальным прозьвішчам Брыль, дзе трое дзяцей-школьнікаў рознага ўзросту, спрабавала ў школе № 1 — імя Янкі Купалы! — дамагчыся вучобы па-беларуску. Пагатоў статут школы кажа:

*4.1. Обучение в Школе ведется на белорусском и русском языках с учетом пожеланий родителей и в зависимости от форм и методов обучения учащихся.*

Праўда, ня надта зразумелы і не падмацоўваецца ніякім законам выраз „в зависимости от форм и методов обучения учащихся“ — ці гэта значыць, што ёсьць формы і мэтады, якімі вучыць па-беларуску проціпаказана? Інакш не магу патлумачыць адмову школы вучыць дзяцей Бры-

лёў па-беларуску, а таксама абразьлівую прапанову вазіць дзяцей у вясковую школу ў Выверах.

Наагул кажучы, і збор моўных зьвестак, і рэальная моўная палітыка дзяржавы залежаць ад стратэгіі: ці плянуецца інтэнсіўная тэрапія, ці нехта ўжо рыхтуе патолягаанатамічнае заключэньне — пры жывых і маладых носьбітах ніяк не ўміручага вірусу беларушчыны.

## Унікальнасьць, якою не выпадае хваліцца

„Рэспубліка Беларусь прымае належныя меры для абароны і заахвочваньня разьвіцьця свайго нацыянальнага ўкладу ў агульны культурны здабытак Эўропы“.

Выглядае як фрагмэнт законапраекту парлямэнцкай Апазыцыі БНФ з пачатку 1990-х гадоў, хіба не? Між тым гэта дзейны ў Беларусі праўны акт. Адзінае — замест словаў *„Кожны Дагаворны Бок*“ падстаўленая назва дзяржавы. Бо **Эўрапейскую культурную канвэнцыю Рады Эўропы**, адкуль цытата, Беларусь ратыфікавала, і Канвэнцыя набыла ў нас праўную моц 18 сьнежня 1993 году (хаця афіцыйнага перакладу на беларускую няма).

Мала таго. Аказваецца, Рэспубліка Беларусь павінна рабіць захады з мэтай забесьпячэньня жыцьцяздольнасьці беларускай мовы,

*„у тым ліку яе ідэнтыфікацыю, дакумэнтаваньне, дасьледаваньне, захаваньне, абарону, папулярызацыю, падвышэньне ейнае ролі, яе перадачу, галоўным чынам з дапамогай фармальнай і нефармальнай адукацыі, а таксама адраджэньне розных аспэктаў*“ моўнай спадчыны.

У двукосьсі — цытата з арт. 2 **Міжнароднае канвэнцыі аб ахове нематэрыяльнай культур-**

**най спадчыны.** Ратыфікаваная Рэспублікай Беларусьсю ў 2004 г., набыла праўную моц у 2006 г.

Праўда, аб’ект арт. 2 у арыгінале шырэйшы — гэта ўся ахоўваная спадчына, але Канвэнцыя тлумачыць, што яна праяўляецца ў тым ліку і ў мове *„ў якасьці носьбіта нематэрыяльнай культурнай спадчыны“.*

Пункты на карысьць моўных правоў асобы ёсьць у іншых міжнародных дакумэнтах, фармальна падпісаных (ратыфікаваных) Рэспублікай Беларусьсю.

Гэта і **Ўсеагульная дэклярацыя правоў чалавека** (арт. 27), і **Міжнародны пакт Аб грамадзянскіх і палітычных правах** (арт. 1), і іншыя. Паводле Канстытуцыі, дзяржава *„прызнае прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права“, „гарантуе правы і свабоды грамадзянаў Беларусі, ...прадугледжаныя міжнароднымі абавязаньнямі дзяржавы*“ (арт. 8, 21).

Такім чынам, дзяржава абавязалася перад сьветам гарантаваць культурна-моўныя правы сваіх грамадзянаў. Але калі яна ў гэтым кірунку і працуе, то хіба што „навонкі“.

Напрыклад, школы і ліцэі ў Падляскім ваяводзтве, дзе беларуская мова выкладаецца як прадмет (таму іх афіцыйна, хоць перабольшана, называюць „беларускімі“), раз-пораз атрымліваюць ад амбасады ці консульства Рэспублікі Беларусі камплекты падручнікаў і літаратуры на беларускай мове. Атрымлівае дапамогу і школа імя Ф. Скарыны ў Вільні.

Гэта добра (хоць дапамогі замежным беларусам катастрафічна мала). Але ў межах Рэспублікі Беларусі дзяржаўная падтрымка стварэньню і зьберажэньню беларускамоўных школаў выглядае інакш. Сярод мноства адваротных прыкладаў нагадаю хаця б скандальную зьмену моўнага статусу адзінай беларускамоўнай гімназіі ў Глыбокім — у рэгіёне, дзе беларуская мова пакуль што жыве ў вуснах і старэйшых, і моладзі; ці сытуацыю ў 1-й гімназіі Маладэчна і 4-й гімназіі Баранавічаў, дзе ўлады напярэдадні 2015/16 навучальнага году ігнаравалі заявы на вучобу па-беларуску.

**Першы крок у нябыт зроблены**

А ў цэлым беларуская мова, паводле клясыфікацыі **Атлясу моваў сьвету ў небясьпецы UNESCO**[1], ужо даведзеная да стану vulnerable (аслабленай, уразьлівай). Гэта „белая“ ступень небясьпекі, першая зь пяці прыступак уніз — да поўнага зьнішчэньня мовы. Пэрспэктыва заняпаду наступная:

*Белая* — аслабленая, уразьлівая
*Жоўтая* — пад выразнаю пагрозаю
*Аранжавая* — пад сур’ёзнаю пагрозаю
*Чырвоная* — пад крытычнаю пагрозаю
*Чорная* — вымерла

Ёсьць у Атлясе і дакладныя крытэры вызначэньня ступені пагрозы. Вось жа *беларусы* —

[1] http://www.unesco.org/culture/languages-atlas/index.php, доступ 30.08.2015.

*адзіны сярод дзяржаватворчых народаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, а таксама постсавецкай прасторы, чыёй нацыянальнай мове пагражае небясьпека зьнікненьня.*

Зрэшты, і ў Заходняй Эўропе сярод моваў сувэрэнных народаў пад пагрозаю (2-й ступені) *толькі ірляндзкая*, а таксама рэтараманская (rumantsch) — адна з чатырох дзяржаўных моваў Швайцарыі. (Манэгаскі дыялект лігурыйскай і алеманскую ў мікрадзяржавах Манака і Ліхтэнштайне тут не бярэм пад увагу.)

Пад пагрозаю 1-й ступені, падобна як беларуская, пачуваюцца башкірская, тувінская, адыгейская, асэтынская — у Расеі. Іншым нерасейскім мовам там яшчэ горш, пад пагрозай у Расейскай Фэдэрацыі 131 мова. Акрамя расейскай, цалкам жыцьцядзейная толькі татарская.

У Эўропе маюць моўныя праблемы амаль выключна несувэрэнныя народы: на той жа ступені, што і беларуская, знаходзяцца басконская, валійская, заходнефлямандзкая, сыцылійская, фарэрская мовы[2].

Ёсьць на страшнаватай (нагадвае эпідэміялягічную) мапе UNESCO і пазнака R (Revitalized) — мовы, ажыўленыя пасьля адыходу апошняга прыроднага носьбіта. Гэта ліўская ў Латвіі (дзяржава канстытуцыйна гарантуе падтрымку мове

2 Сярод ужываных у Беларусі моваў пад пагрозаю, паводле UNESCO, таксама ідыш, цыганская (ромская) і так званая „палеская мова“, адзіная крыніца зьвестак пра якую — тэндэнцыйны польскі перапіс 1931 году (гэта папраўдзе беларускія і ўкраінскія дыялекты Заходняга Палесься).

маленькага карэннага народу), мэнская ды корнская кельцкія мовы ў Вялікай Брытаніі (адроджаныя грамадзкім высілкам). Адроджаны раней іўрыт (старажытнагабрэйская, цяпер дзяржаўная мова Ізраілю) на мапе не пазначаецца, бо ягонай будучыні пагрозы няма. Шанец ёсьць заўсёды, але ж яго можна і назаўсёды страціць.

**Унікальнасьць, за якую сорамна**

Апрыёры лічыцца, што мовы сувэрэнных народаў, якія маюць сваю дзяржаўнасьць, надзейна абароненыя. Для дзяржаваў, што абіраюць уласную — насуперак стагодзьдзям моўнага паняволеньня — моўную ідэнтычнасьць і ўваходзяць у эўрапейскую палітычную прастору, пачынаюць дзейнічаць іншыя мэханізмы. Становішча ірляндзкай мовы горшае, чым беларускай у нас, але Ірляндзкая Рэспубліка вядзе палітыку яе адраджэньня і вяртаньня належных функцыяў. Прызнаньне ірляндзкай гэльскай афіцыйнаю моваю Эўрапейскага Зьвязу надало справе імпэту.

Дадатковай абароны патрабуюць мовы недзяржаўных народаў, у тым ліку праз міжнародныя захады. Несувэрэнныя народы (як каталёнцы, баскі, брэтонцы, шатляндцы, валійцы, фрызы; па-за Эўропаю курды, тыбэтцы, карэнныя народы абедзьвюх Амэрыкаў, многія іншыя) у барацьбе за моўныя правы сустракаюцца зь непрыхільнасьцю дзяржаваў, у складзе якіх знаходзяцца, бо паўстае канфлікт функцыяў: пашырэньне ролі мовы такой моўнай супольнасьці можа азначаць звужэньне ролі мовы „асноўнай“ дзяржаўнай

нацыі. Таму адстойваньне моўных правоў часта паядноўваецца з барацьбой за палітычны сувэрэнітэт.

У гэтым сэнсе Беларусь унікальная. Наша моўная сытуацыя ненармальная для Эўропы (па-за яе межамі падобна бывае толькі ў былых калёніях). Беларускую мову назваць мінарытарнай складана: большая частка жыхароў краіны лічыць яе роднаю (53,2% у 2009 г.). Яна нібыта дзяржаўная, але функцыянальную прастору для беларускае мовы дзяржава з аднакаранёвай назвай мэтадычна абсякае. Вытлумачыць іншаземцам стаўленьне ўлады да мовы дзяржаватворчага народу (якая здолела перажыць цэлыя эпохі чужаземнага перасьледу) цяжка.

Такая дзяржава або несувэрэнная, або не адэкватная народу і краіне.

**Міжнародны моўны фронт?**

Шукаць саюзьнікаў, уплывовых сяброў у моўным няшчасьці нам цяжка. Таму трэба цаніць міжнародна-праўныя дакумэнты, далучацца да шматбаковых супольных ініцыятываў у абароне моўных правоў — бязь іх не было б моўных пунктаў у міжнародных пактах і канвэнцыях, згаданых напачатку.

Вось жа бяруцца за такія справы найперш прадстаўнікі моўных меншыняў. Хоць трэба ўдакладняць, стасоўна да каго яны мінарытарныя. Скажам, каталянамоўныя на сваёй тэрыторыі — бальшыня, а ў Гішпанскім каралеўстве яны меншыня. І яны галоўны ў сьвеце матор барацьбы за

моўную разнастайнасьць. Тыя, хто змагаецца за правы сваіх моўных супольнасьцяў, незалежна ад статусу моваў, ад сваіх палітычных сымпатыяў, роўню свабоды й дабрабыту ў іхных краінах, урэшце знаходзяць адзін аднаго. А мы, носьбіты мажарытарнае мовы, вымушана да мінарытараў далучаемся. Чыя салідарнасьць нас прынамсі прымусіць задумацца.

## Чаму кітайцы мусяць вучыцца па-беларуску

Тыя, хто дамагаецца выкладаньня па-беларуску ва ўнівэрсытэтах Беларусі, натыкаюцца на контраргумэнт: у нас, маўляў, вучацца кітайцы й туркмэны, беларуская мова для іх лішняя. А таму яна лішняя і для беларусаў. Ці права носьбіта кітайскай ці расейскай мовы мацнейшае за такое самае права беларускамоўнага?

Унівэрсальныя праваабарончыя пакты згадваюць права асобы на свабоду ад дыскрымінацыі паводле мовы. Але доўгі час не было агульнапрынятай дактрыны й зводнага міжнароднага дакумэнту — асабліва не пра індывідуальныя, а пра *калектыўныя моўныя правы*.

Абаронцы моўнае шматстайнасьці імкнуцца замацаваць гэтае права народаў з 1980-х. Зрух адбыўся — прадказальна — у сталіцы Каталёніі Барсэлёне. 6–9 чэрвеня 1996 году пры ўдзеле UNESCO там прайшла Ўсясьветная канфэрэнцыя наконт моўных правоў, якая ўхваліла **Ўсеагульную дэкларацыю моўных правоў**[3] (УДМП; анг. Universal Declaration of Linguistic Rights, кат. Declaració Universal dels Drets Lingüístics), або Барсэлёнскую дэкларацыю.

Рыхтавалі Дэкларацыю доўга. Ініцыятарамі былі людзі, зьвязаныя з адукацыяй: першы пра-

---

[3] http://www.linguistic-declaration.org/versions/bielorus.doc, доступ 30.11.2015.

ект напісаў быў бразыльскі прафэсар-лінгвіст Францішку Ґоміс дзі Матус для Міжнароднай фэдэрацыі выкладнікаў сучасных моваў. Справу падтрымаў Міжнародны ПЭН-клюб — найстарэйшая ў сьвеце праваабарончая арганізацыя — і яго Камітэт перакладаў і моўных правоў. Гэты Камітэт разам зь міжнароднай асацыяцыяй CIEMEN (каталянская абрэвіятура; Цэнтар этнічных меншыняў і нацыяў імя Эскарэ) і сталі арганізатарамі Барсэлёнскай канфэрэнцыі 1996 году. У ёй бралі ўдзел 102 нацыянальныя ПЭН-цэнтры ды іншыя грамадзкія арганізацыі з розных краінаў, экспэрты (юрысты, лінгвісты), міжнародныя службоўцы. Дэклярацыю прынялі per acclamationem — супольным урачыстым ухваленьнем — і перадалі ў UNESCO для далейшай легалізацыі ў ААН.

Стратэгічная мэта Дэклярацыі — зьберагчы моўную шматстайнасьць чалавецтва:

„*Усеагульная дэклярацыя моўных правоў неабходная дзеля выпраўленьня моўных перакосаў, забесьпячэньня павагі да ўсіх моваў ды іх поўнага росквіту, а таксама дзеля ўсталяваньня прынцыпаў справядлівага і бесстароньняга міру паміж мовамі ўсёй плянэты, што ёсьць ключавым фактарам гарманічнага грамадзянскага суіснаваньня*“ (Уводзіны).

Беларусь пачатку 1990-х гадоў інтэнсіўна далучылася да ўкладаньня міжнароднага моўнага права. Адным з галоўных заснавальнікаў Беларускага ПЭН-цэнтру і яго віцэ-прэзыдэнтам (тады грамадзкім арганізацыям яшчэ не забара-

нялі месца сваіх прэзыдэнтаў) быў Карлас Шэрман, які нарадзіўся ва Ўругваі ў сям'і выхадца зь Беларусі і карэннай паўднёваамэрыканкі. Ад нараджэньня гішпанамоўны, трымаў кантакты з раманамоўным і наагул міжнародным літаратурным сьветам.

Калі пачалася праца над Усеагульнай дэклярацыяй моўных правоў, Карлас Шэрман усёй сваёй энэргіяй падтрымаў яе. Сабраў групу беларускіх экспэртаў для патрэбных менавіта нам дапаўненьняў і рэдакцыйных зьменаў (мне таксама выпала ўкласьці колькі прапановаў). А падпісаў ад Беларусі Дэклярацыю Васіль Быкаў.

У яго аказалася добрае таварыства. За Дэклярацыю выступілі 11 нобэлеўскіх ляўрэатаў, сярод якіх пісьменьнікі Віслава Шымборска, Актавіё Пас, Шэймус Гіні, рэлігійныя, грамадзкія й дзяржаўныя дзеячы Яго Сьвятасьць Далай-Лама, архібіскуп Дэзманд Туту, Нэльсан Мандэла, Ясір Арафат, народжаны ў Беларусі прэзыдэнт Ізраілю Шымон Пэрэс (Пэрскі) ды іншыя. З навукоўцаў дакумэнт ухваліў, напрыклад, мовазнаўца й філёзаф, аўтар тэорыі ўнівэрсальнай граматыкі Ноам Хомскі (таксама карані зь Беларусі). З творцаў — славуты каталёнскі тэнар Жузэп (Хасэ) Карэрас і знакаміты брытанскі музыка, колішні лідэр Genesis, а цяпер папулярызатар World Music, носьбіт тытулу „Чалавек Міру“ Пітэр Ґэйбрыел. Ён лічыць, што ў рок-музыцы і ня толькі зусім не павінна панаваць ангельская мова:

Мы мусім цаніць і аберагаць нашыя культурныя адрозьненьні. Генафонд ня ў стане спарадзіць трывалае і энэргічнае новае жыцьцё, калі няма шырокай геннай разнастайнасьці. Гэта слушна таксама для культуры і мовы.

На беларускую тэкст Дэклярацыі пераклаў Зьміцер Колас. Між іншым, у беларускім перакладзе ўжыты тэрмін „лінгвістычныя правы“; мяркую, аднак, што прасьцей казаць „моўныя правы“, каб нават недавучаны чыноўнік цяміў, аб што ідзецца.

Дэклярацыя — плён дыскусіяў і кампрамісаў людзей розных культурных традыцыяў, носьбітаў моваў мажарытарных (носьбіты якіх у бальшыні) і мінарытарных. Трэ было вызначыць агульныя прынцыпы, а потым знайсьці формулы, прыдатныя для розных сытуацыяў. Таму дакумэнт доўгі — „багаталітараў“, але амаль вычарпальны. Ягоныя параграфы можна разьбіраць на гатовыя артыкулы для нацыянальнага заканадаўства.

Акурат пасуе да нашай моўнай сытуацыі ўводнае палажэньне:

(…) беручы пад увагу, што захоп, калянізацыя і акупацыя, а таксама іншыя віды палітычнага, эканамічнага ці сацыяльнага падпарадкаваньня часта вядуць да простага навязваньня чужой мовы ці прынамсі да перакосаў у ацэнцы

каштоўнасьці моваў і ўзьнікненьня герархічнага стаўленьня да іх, што ўплывае на моўныя прыхільнасьці тых, хто на іх гаворыць; беручы такім чынам пад увагу, што з гэтай прычыны мовы некаторых народаў, якія набылі незалежнасьць, па-ранейшаму перажываюць працэс іх выцясьненьня і падмены, выкліканы палітыкаю, якая ставіць у прывілеяванае становішча мовы былых каляніяльных ці імпэрскіх дзяржаваў; (…)

Найцяжэйшаю задачаю ўкладальнікаў Дэклярацыі было **гарманізаваць індывідуальныя і калектыўныя моўныя правы.** Дэклярацыя ўводзіць паняцьце *гістарычнай моўнай супольнасьці* на яе ўласнай тэрытарыяльнай прасторы і адмяжоўвае ад яго проста моўную групу:

*1. Гэтая Дэклярацыя разумее пад моўнай супольнасьцю любое чалавечае грамадзтва, якое, гістарычна асталяваўшыся на пэўнай, прызнанай ці непрызнанай, тэрытарыяльнай прасторы, усьведамляе сябе як народнасьць і разьвіла агульную для сваіх чальцоў мову як натуральны сродак іх дачыненьняў і культурнай згуртаванасьці.*
*Тэрмін* ***уласьцівая тэрыторыі мова*** *азначае мову супольнасьці, якая гістарычна асталявалася на гэтай самай прасторы.*
*2. Гэтая Дэклярацыя зыходзіць з прынцыпу, што моўныя правы зьяўляюцца аднachасова*

*індывідуальнымі і калектыўнымі, і* ***прымае за аснову паўнаты моўных правоў выпадак гістарычнай моўнай супольнасьці на яе ўласнай тэрытарыяльнай прасторы*** [вылучэньне маё.— *В. В.*]*, якая разумееца ня толькі як геаграфічная мясцовасьць, на якой жыве гэтая супольнасьць, але і як сацыяльная і функцыянальная прастора, неабходная для паўнацэннага разьвіцьця яе мовы. З гэтай асновы, як яе паступовая градацыя ці яе кантынуум, вынікаюць і правы моўных групаў (...), і правы асобных людзей, што жывуць па-за тэрыторыяй сваёй супольнасьці.*

(Арт. 1)

Вось такі фундамэнтальны падыход — прыярытэт правам гістарычнай моўнай супольнасьці ды зьберажэньню ўласьцівай тэрыторыі мовы. (Дэклярацыя імкнецца апісаць усе выпадкі: моўныя супольнасьці маюць таксама вандроўныя або расьсеяныя народы.)

Дыскрымінацыя моўных супольнасьцяў недапушчальная. Гістарычныя моўныя супольнасьці, што зазнавалі моўную дыскрымінацыю, *„дзеля ўсталяваньня дастатковай сацыялінгвістычнай раўнавагі“* маюць дадатковае права на *„кампэнсацыйныя захады“* (Арт. 2). Інакш зьберагчы моўную разнастайнасьць чалавецтва няма як. Бо мова мае варункі захаваньня й разьвіцьця, а значыць, і пэрспэктыву толькі ў моўных супольнасьцях, што ўзьніклі натуральна:

*„Гэтая Дэклярацыя выключае, каб мова магла разглядацца як уласьцівая тэрыторыі на падставе таго, што яна зьяўляецца афіцыйнаю моваю дзяржавы або традыцыйна выкарыстоўвалася на гэтай тэрыторыі ў якасьці мовы адміністрацыі ці ў рамках пэўных відаў культурнай дзейнасьці”* (Арт. 6).

Адсюль вынікае, што расейскамоўныя ў Беларусі (як і ва Ўкраіне) не складаюць гістарычнай моўнай супольнасьці. Хоць індывідуальныя моўныя правы, натуральна, маюць. Мой знаёмы юрыст (які, між іншым, памяняў грамадзянства ЗША на ўкраінскае) Іван Лазавы, будучы „на Ўсходзе“, у інтэрвію для Радыё Свабода пасьля чарговай апэрацыі на Луганшчыне эмацыйна кажа:

*„...Нам трэба павялічыць на расейскай мове трансьляцыі ў Луганскай вобласьці? Трэба, наадварот, людзей прывучаць да таго, што гэта Ўкраіна, што існуе ўкраінская мова, трэба яе разумець. Хочаце сумовіцца на расейскай — калі ласка, ці на іншай мове, але гэта Ўкраіна! Каб людзі не засталіся ў гэтым падвешаным стане, калі яны самі ня ведаюць і ня дбаюць, Украіна там ці Расея, хто там ваюе, абы яно ўсё спынілася...”*

Менавіта моўная супольнасьць, паводле Дэклярацыі, мае на сваёй тэрыторыі неадʼемнае права *„...валодаць любымі сродкамі, неабходнымі для забесьпячэньня пераемнасьці сваёй мовы і яе перадачы ў будучыню”* (Арт. 8). А мове групы або індывіда такія гарантыі пэрспэктывы павінна даваць свая моўная супольнасьць на яе гіста-

рычнай тэрыторыі. Расейская мова выжыве і без заканадаўчай падтрымкі ў Беларусі ці Ўкраіне, дзеля гэтага ёсьць Расея і фэдэральная праграма „Русский язык“ у ёй.

Так вырашаецца складанае пытаньне стасункаў паміж індывідуальнымі і супольнымі моўнымі правамі. Кожны, прыкладам, у Беларусі павінен мець права і магчымасьць ужываць беларускую мову ў любой сфэры і сытуацыі.

Ёсьць і адказ на „кітайскі аргумэнт“ супраць беларускай мовы ва ўнівэрсытэтах. Індывідуальнае права чужамоўнага ня можа парушаць правы гістарычнай моўнай супольнасьці:

„*Кожны мае права ажыцьцяўляць сваю дзейнасьць у грамадзтве на сваёй уласнай мове ў той меры, у якой гэтая мова зьяўляецца таксама моваю, уласьцівою тэрыторыі, на якой ён жыве*“ (Арт. 12)*; „Кожны мае права атрымліваць адукацыю на мове, уласьцівай тэрыторыі, дзе ён жыве*“ (Арт. 29).

***

Брашура з Дэкларацыяй па-беларуску (інтэрнэту яшчэ не было) у 1990-я гады хадзіла па руках; мацнела ўражаньне, што неўзабаве Дэкларацыю ўхваліць ААН і афіцыйны Менск хоцькі-няхоцькі будзе вымушаны яе выконваць.

Пасьля зацьверджаньня УДМП павінна была стаць у шэраг асноватворных міжнародных пагадненьняў — Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Міжнароднага пакту „Аб грамадзянскіх і палітычных правах“ і г.д.— і легчы

ў аснову дзейнасьці *Рады моваў пры ААН* ды кансультацыйнай *Усясьветнай камісіі моўных правоў.* Але ўсё пайшло ня так гладка.

### Гаворка ў гнезьдзішчы

Я сустрэўся зь лідэрамі міжнароднай арганізацыі CIEMEN, якая разам з моўна-перакладніцкай камісіяй Міжнароднага ПЭН-цэнтру цяпер адказвае за Дэклярацыю.

У сустрэчы ўдзельнічаў Аўрэлі Аржэмі, сустаршыня Кіроўнага камітэту Усеагульнай дэклярацыі моўных правоў, заснавальнік і ганаровы старшыня CIEMEN, колішні сакратар каталёнскага абата і незалежніка А. М. Эскарэ. Аўтар „Поклічу салідарнасьці ў абароне мовы, культуры і каталёнскай нацыі“, стваральнік Фундацыі за калектыўныя правы народаў, дырэктар міжнароднага Цэнтру моўных правоў і заканадаўства „Мэркатар“ і г.д.— патрыярх моўнага змаганьня.

Другім суразмоўцам быў маладзейшы Давід Фарньес — кіраўнік дасьледніцкага дэпартамэнту CIEMEN. Вось што распавялі мне каталёнскія калегі.

Ідэі Дэклярацыі у выглядзе гатовых формулаў ужо рэалізуюцца ў канстытуцыйнай і заканадаўчай практыцы асобных дзяржаваў. Паўднёваамэрыканцы цытуюць УДМП у канстытуцыях; урад Гішпаніі выкарыстоўвае Дэклярацыю ў афіцыйных дакумэнтах моўнага права.

Гэта добра. Але што адбываецца на глябальным роўні, — пытаюся я.

У канцы 1990-х моўная структура UNESCO (Адукацыйная, навуковая і культурная арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў) LinguaPax ухваліла Дэкларацыю ў цэлым, хоць парэкамэндавала скараціць. Старшынём UNESCO тады быў каталёнец — Фэдэрыка Маёр Сарагоса. Але, на жаль, ён асабіста ня змог удзельнічаць у сэсіі UNESCO ў Парыжы, дзе Дэкларацыю мелі ўключыць у парадак дня Генэральнай Асамблеі ААН. Іншы спавяшчальнік ставіўся да Дэкларацыі ня надта прыхільна, і ў выніку наконт яе нават не галасавалі.

Стратэгію памянялі. CIEMEN і PEN спрабавалі давесьці Дэкларацыю моўных правоў наўпрост да Генэральнай Асамблеі ААН. На розных этапах гэтыя намаганьні асабіста падтрымлівалі прадстаўнікі ў ААН Францыі, Мэксыкі, Румыніі, Армэніі, Нарвэгіі, Этыёпіі (як бачым, зусім розных дзяржаваў). Урэшце надарыўся шанец — прадстаўніца Балівіі, прызначаная Эва Маралесам (аўтахтонным амэрыканцам з паходжаньня), узялася паставіць пытаньне ў парадак дня. Але справу здыскрэдытаваў сам Маралес — сваёй антыдэмакратычнай палітыкай; Балівію слухаць не схацелі.

Галоўнае пытаньне — клясыфікацыя права на мову. Абаронцы Дэкларацыі дамагаюцца *залічэньня моўных правоў да падставовых, жыцьцёва важных правоў чалавека.* У 2008 г. на Радзе правоў чалавека ААН у Жэнэве Аўрэлі Аржэмі падкрэсьліў, што моўная разнастайнасьць мае абараняцца ў *рамках правоў чалавека, а не*

*культурных правоў*. „Мовы ня маюць правоў, а вось людзі маюць моўныя правы. Менавіта з гэтай прычыны мы звычайна праводзім адрозьненьне паміж мовамі і культурамі“,— сказаў ён і заклікаў ухваліць Дэклярацыю моўных правоў ААН, якая б дапоўніла дзейную Ўсеагульную дэклярацыю правоў чалавека. Але, на жаль, выніку не было.

Мяркую, адна з прычынаў — ніводная з буйных дзяржаваў або, прыкладам, Эўразьвяз не ўзяліся падтрымаць такі прарыў у міжнародным праве. Натуральна, я спытаў, як сябе паводзілі ў ААНаўскіх структурах прадстаўнікі Рэспублікі Беларусі, аднак каталёнцы іх проста не заўважылі.

Калегі запэўнілі мяне, што CIEMEN ня спыніць спробаў дзейнічаць праз Камітэт правоў чалавека ААН. Тымчасам Камітэт перакладу і моўных правоў Міжнароднага ПЭН-клюбу ўзначаліў Жузэп Марыя Тэрыкаўрас (Josep Maria Terricabras) з каталёнскае Жыроны, і ён жа нядаўна стаў дэпутатам Эўрапейскага Парлямэнту. Ён бярэцца правесьці ідэі Дэклярацыі праз Эўрапарлямэнт. Але, зноў жа мяркую я, іх мае падтрымаць якая-небудзь вялікая фракцыя ЭП, вялікія дзяржаўніцкія партыі.

Суразмоўцы разумелі гэта. Давід Фарньес зазначыў, што CIEMEN каардынуе вырашэньне моўных праблемаў ня толькі з прадстаўнікамі несувэрэнных народаў, але, напрыклад, з ірляндцамі. (А іншых прыкладаў у Эўропе і няма, акрамя беларускага, падумаў сабе я…)

## Менскі амон і франкісцкая паліцыя

Спыталі, ці гаворыць па-беларуску Лукашэнка. Прыйшла пара мне распавесьці пра нашае моўнае становішча — з гістарычным экскурсам, статыстыкай і прыкладамі з жыцьця. Пачуўшы, што ў нас падчас абвастрэньня палітычнае сытуацыі міліцыя „бярэ“ беларускамоўных (мова як прыкмета неляяльнасьці), ягомасьць Аўрэлі тут жа адрэагаваў: як у нас у Каталёніі за часы генэрала Франка.

Я сказаў, што пасьля перамогі Незалежнасьці у 1991 годзе хто-ніхто супакоіўся і думаў, што працэс адраджэньня незваротны, але аказалася, што нібыта незалежная дзяржава можа стаць варожаю беларускай мове. А потым, падрыхтаваўшы такім чынам глебу, прыходзіць Пуцін з „рускім мірам“. Значыць, грамадзтва не павінна спадзявацца толькі на дзяржаву нават у самых спрыяльных умовах. Каталёнцаў гэта зацікавіла, распытваліся, думаючы пра сваё.

Выслухаўшы мяне, Аўрэлі Аржэмі папрасіў: „Напішыце, калі ласка, пра моўную сытуацыю ў Беларусі ў наш бюлетэнь. І абавязкова патлумачце, што „рускі мір“ Пуціна — гэта не аднаўленьне мадэлі СССР з роўнасьцю народаў і моваў...“. Старыя міты жывуць — ва ўсякім разе, на процілеглым канцы Эўропы.

## Жыронскі маніфэст моўных правоў

Барацьбу за моўную разнастайнасьць сьвету вядзе цэлы архіпэляг арганізацыяў. Гэта EBLUL — Эўрапейскае бюро менш ужываных

моваў; Інстытут Linguapax, які заснавалі экспэрты UNESCO (і які асеў у Барсэлёне); Абсэрваторыя моўных правоў (стварылі баскі) і г.д. Гэта пераважна меншынёвыя арганізацыі. Пэўна, негалосна лічыцца, што калектыўныя правы моваў дзяржаватворчых народаў і так абароненыя іхнымі дзяржавамі.

Але разьмешчаны ў Лёндане Міжнародны ПЭН-клюб і яго Камітэт перакладаў і моўных правоў ня мае кляйма „мінарытарнае“ структуры. У верасьні 2011 году 77-ы кангрэс Міжнароднага ПЭН-клюбу ў каталёнскай Жыроне ўхваліў Жыронскі маніфэст моўных правоў, які ўжывае паняцьці й сьцісла паўтарае ідэі Ўсеагульнай дэклярацыі лінгвістычных правоў — з акцэнтам на патэнцыял мовы як творчага інструмэнту.

*1. Моўная разнастайнасьць— гэта ўсясьветная спадчына, якую трэба шанаваць і берагчы.*

*2. Павага да ўсіх моваў і культураў — гэта аснова для наладжваньня і падтрыманьня міжкультурнага дыялёгу і міру ў сьвеце.*

*3. Усе людзі вучацца гаварыць у той супольнасьці, якая дае ім жыцьцё, мову, культуру ды ідэнтычнасьць.*

*4. Розныя мовы і розныя спосабы выказваньня — гэта ня толькі сродкі сувязі, але і асяродзьдзе, у якім выхоўваюцца людзі і будуецца культура.*

*5. Кожная моўная супольнасьць мае права выкарыстоўваць на сваёй тэрыторыі сваю мову як афіцыйную.*

*6. Школьнае навучаньне мусіць умацоўваць прэстыж мовы, якою карыстаецца моўная супольнасьць на сваёй тэрыторыі.*

*7. Пажадана, каб грамадзяне мелі ўяўленьне пра моўную разнастайнасьць, бо гэта спрыяе ўзаемаразуменьню ды інтэлектуальнай адкрытасьці, а таксама дапамагае лепш зразумець уласную мову.*

*8. Пераклад тэкстаў, асабліва вялікіх твораў розных культураў, надзвычай важны для глыбейшага разуменьня і ўзаемнай павагі людзей.*

*9. СМІ адыгрываюць важную ролю ў папулярызацыі моўнай разнастайнасьці ды ў кампэтэнтным і няўхільным падвышэньні яе прэстыжу.*

*10. ААН мусіць прызнаць права выкарыстоўваць і абараняць уласную мову адным з асноўных правоў чалавека.*

**Навошта?**

Стомлены чытач спытае: а навошта нам усе гэтыя параграфы, акты міжнароднага права, а пагатоў дэкляразцыі, якія пакуль ня маюць юрыдычнае сілы, дый законнасьці ў дзяржаве няма ў прынцыпе.

Права на мову — і як індывідуальнае права чалавека, і пагатоў як калектыўнае права народу — па-за ўвагаю бальшыні міжнародных праваабарончых арганізацыяў. У міжнародных судох з правоў чалавека справы ў абарону лінгвістычных правоў практычна не разглядаюцца. І ў нас стан беларускае мовы з гледзішча правоў чалавека пачалі ацэньваць толькі нядаўна.

*Усеагульная дэклярацыя моўных правоў* — сёньня найбольш выклераны з гледзішча канцэпцыі ды адпаведнасьці прынцыпам міжнароднага права дакумэнт на тэму. Гэта значыць, не давядзецца вынаходзіць ровар, калі ў Беларусь вернецца ўлада закону і давядзецца разграбаць аўгіевыя стайні дыскрымінацыі. А грамадзкія і палітычныя структуры Беларусі, якія называюць сябе дэмакратычнымі, і сёньня могуць заяўляць пры міжнародных кантактах, што падзяляюць прынцыпы Дэклярацыі.

Пуцінская канцэпцыя „рускага міру“ (тэрыторыі, дзе хоць як бытуе расейская мова) як абгрунтаваньне ўзброенай агрэсіі ды імпэрскага рэваншызму павінна паказаць нават самым упартым, што пэрспэктывы ўкраінскай і беларускай моваў, міжнародна зафіксаваныя правы гістарычных моўных супольнасьцяў — ня клопат купкі філёлягаў, а чыньнік, вызначальны для існаваньня дзяржаваў і будучыні народаў.

## Вышэйшая адукацыя па-беларуску: у 205 разоў меней шанцаў

Да Міжнароднага дня матчынай мовы

21 лютага пад эгідай UNESCO з 1999 году адзначаецца Міжнародны дзень матчынай мовы. У юнэскаўскім Твітэры яго сутнасьць тлумачыцца сьцісла: *„Мовы — гэта тое, кім мы ёсьць. Абарона гэтай тоеснасьці — пытаньне правоў чалавека“.*

Міжнародны дзень матчынай мовы 21 лютага ўшаноўвае памяць студэнтаў трох унівэрсытэтаў гораду Дакі, цяперашняй сталіцы Бангладэш, якія ў 1952 годзе выступілі за прызнаньне бэнгальскае мовы як дзяржаўнай у тагачасным Усходнім Пакістане і былі расстраляныя пакістанскай паліцыяй. UNESCO і ўся ААН адзначае гэты дзень як напамін пра крытычную важнасьць моўнай і культурнай разнастайнасьці сьвету для прагрэсу, роўнасьці, забесьпячэньня фундамэнтальных правоў. Генэральная Асамблея ААН прапанавала

---

*„дзяржавам-сябрам, сыстэме Арганізацыі Аб’яднаных Нацыяў і ўсім іншым адпаведным зацікаўленым бакам распрацаваць, падтрымаць і актывізаваць захады дзеля спрыяньня павазе да ўсіх моваў, а таксама дзеля падтрымкі й абароны ўсіх моваў (асабліва моваў, якія знаходзяцца*

*на мяжы зьнікненьня), лінгвістычнай разнастайнасьці і шматмоўя“.*

Дзень менавіта „матчынай мовы“, па-ангельску International Mother Language . І ў мове, зь якой зьвязаны пачатак традыцыі — у бэнгальскай — мова называецца матчынаю: মাতৃভাষা [mātr̥bhāṣā] — корань matr-, ‘мацярынскі’, агульны для ўсіх моваў індаэўрапейскай сям’і.

Беларускі выраз „матчына мова“ супольны для многіх моваў сьвету — ад ангельскай ці гішпанскай да бэнгальскай і кітайскай. На расейскую з захаваньнем вобразнасьці ён не перакладаецца.

Нагадаю, што Рэспубліка Беларусь — дзяржава-сябра ААН, а значыць, і ёй адрасуюцца згаданыя рэзалюцыі й дэфініцыі. Тым ня менш беларуская мова, паводле клясыфікацыі Атлясу моваў сьвету ў небясьпецы UNESCO[4], ужо даведзеная ў Беларусі да стану vulnerable (аслабленай, уразьлівай). Гэта так званая „белая“ ступень небясьпекі, першая зь пяці прыступак уніз — да поўнага зьнішчэньня мовы.

Штогод Міжнародны дзень матчынай мовы прысьвячаецца пэўнай тэме, зьвязанай з моваю. Тэма 2017 году — „Да ўстойлівай будучыні праз шматмоўную адукацыю“. Генэральны дырэктар арганізацыі баўгарка Ірына Бокава нагадала:

*Магчымасьць атрымліваць адукацыю ды інфармацыю на роднай мове мае найважнейшае*

[4] Гл. с. 32.

*значэньне для забесьпячэньня якасьці навучаньня, умацаваньня даверу і павышэньня самаацэнкі як магутных чыньнікаў разьвіцьця.*

Ці адпавядае пастуляту найбольш аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі, куды ўваходзіць і Беларусь, наша адукацыйная сыстэма? Мы параўналі шанцы расейскамоўных і беларускамоўных прадоўжыць адукацыю ва ўнівэрсытэце тою моваю, на якой яны вучыліся ў школе.

Паводле апошняга дзяржаўнага перапісу насельніцтва, праведзенага ў 2009 годзе, 53,2% жыхароў Беларусі назвалі беларускую мову роднаю. Прызналіся, што ўжываюць яе як гутарковую, 23,4%. Здавалася б, дзяржаўная адукацыйная палітыка павінна грунтавацца на гэтых лічбах. (Папраўдзе яны спрэчныя, перапісная анкета недасканалая, бо чалавек можа гаварыць на дыялекце, на гарадзкім піджыне і не лічыць яго беларускаю моваю, але іншых лічбаў ня маем.)

Даступны публіцы тэматычны зборнік Нацыянальнага статыстычнага камітэту апісвае адукацыйную статыстыку 2014/15 навучальнага году.

У **дзіцячых садках** па-беларуску выхоўваліся толькі **10,5%** дзяцей (у 2010-м было яшчэ 12,8%). У Менску ўтрая меней — **3,2%**. Вучняў беларускамоўных **сярэдніх школаў ці клясаў** было **14,5%** ад агульнай колькасьці вучняў дзённых сярэдніх школаў, або 135,1 тыс. з 931,3 тыс.

А дынаміка колькасьці школьнікаў, што вучацца па-беларуску, за 6 гадоў асабліва красамоўная:

**2010/11 — 178,4 тыс. (19%)**
**2011/12 — 163,4 тыс. (17,8%)**
**2012/13 — 150,7 тыс. (16,6%)**
**2013/14 — 142,0 тыс. (15,5%)**
**2014/15 — 135,1 тыс. (14,5%)**
**2016/17 — 128,6 тыс. (13,1%)**

(Паводле Таварыства беларускай школы)

У Менску, дзе штогод беларускамоўныя бацькі марна шукаюць сваім дзецям беларускае школы ня надта далёка ад дому, толькі для **2,3%** школьнікаў забясьпечана права вучыцца па-беларуску.

У **сярэдніх спэцыяльных** навучальных установах па-беларуску займаліся **0,23%** (**300 чалавек** з 129 тысячаў; відаць, гэтыя 10–12 групаў — выключна навучэнцы пэдагагічных каледжаў, і то ня ўсіх).

І ўрэшце, **вышэйшая адукацыя**. На беларускай мове навучаліся **300 студэнтаў** — гэта **0,08%** ад агульнай колькасці (362,9 тыс.) і ў 9 разоў менш, чым пяць гадоў таму.

(Я ня браў да ўвагі колькасьць тых, што, паводле Міністэрства адукацыі, „обучались на белорусском и русском“ у каледжах і ўнівэрсытэтах, а прыплюсоўваў гэты працэнт да працэнту расейскамоўнага навучаньня. Бо гэта фікцыя, задача якой — зьмякчыць уражаньне ад красамоўнай статыстыкі. Сям-там ва ўнівэрсытэтах яшчэ чытаецца аднасэмэстравы курс беларускае мовы, у пэдагагічных каледжах таксама яе выклада-

юць — вось і маеш „двумоўе“, яшчэ больш уяўнае, чым у расейскамоўнай сярэдняй школе.)

Чым вышэйшы ўзровень адукацыі, тым больш радыкальна — да нуля — звужаюцца магчымасьці вучыцца па-беларуску. Толькі палова дзяцей зь беларускамоўных сем'яў можа вучыцца па-беларуску ў школе (да таго ж пераважна ў вёсцы, а ў гарадах гэты працэнт куды меншы ды часта імкнецца да таго нуля).

**Хто „волен“, а хто не**

Дамагчыся канстытуцыйнага права вучыць сваіх дзяцей па-беларуску мы ня можам, нават непасрэдна плоцячы дзяржаве грошы. Колькі гадоў таму мы з дачкой вырашылі, што ёй для паступленьня варта падвучыцца профільным прадметам — біялёгіі ды хіміі — на платных курсах у Ліцэі БДУ. БДУ ў нас адзін, Ліцэй БДУ зь ягонымі курсамі таксама адзін на ўсю краіну, а значыць, ён і для тых 15–16% школьнікаў, што вучыліся на той момант па-беларуску. На кожны прадмет там набіраюць па некалькі групаў. Ну дык аб'явіце загадзя, што 5 групаў хіміі расейскамоўныя, а адна беларускамоўная. Попыт ёсьць, набор гарантаваны.

Аднак я атрымаў ад тагачаснага дырэктара Ліцэю БДУ такі адказ: „Паколькі мы не атрымлівалі заяў, апрача Вашай, аб беларускамоўным навучанні на падрыхтоўчых курсах, то ўсе сфарміраваныя групы хіміка-біялагічнага кірунку навучання рускамоўныя“. Іронія ў тым, што ніхто не падаваў заяваў і на расейскамоўнае навучань-

не, бо ў стандартным блянку заявы не палічылі патрэбным мець такую графу. Інакш кажучы, апрыёры моўныя правы гарантаваліся толькі расейскамоўным.

Дырэктара звалі Вадзім Матуліс. Я знайшоў ягоны адказ на анкету „Быць беларусам — што гэта значыць?“[5]:

***— Белорус без знания языка — белорус?***

*— Да. У нас в стране два языка: русский и белорусский. Пока никто не отменял этого. Человек волен разговаривать на том, на каком захочет. Конечно, хорошо, если он знает белорусский язык.*

Размаўляць, значыць, кожны „волен“, дзякуй. А вось вучыць дзяцей не атрымаецца „на каком захочет“, тут ужо сп. В. Матуліс, маючы пэўную над намі ўладу, „волен“ указваць, на якой мове гэта рабіць,— дарэчы, за нашыя ж грошы.

Вадзіма Матуліса я ўспомніў, калі на моўную тэму выказаўся намесьнік міністра гандлю Эдвард Матуліс. Ён заяўляў, што пераклад этыкетак на беларускую мову падвысіць сабекошт прадукцыі[6] і што інфармацыя на таварах па-беларуску „павінна быць эканамічна абгрунтаваная”[7]. Правы беларускамоўных спажыўцоў для Эдварда Браніслававіча значаць гэтулькі сама, колькі правы беларускамоўных вучняў — для Вадзіма Эдвардавіча.

[5] https://news.tut.by/society/204942.html, доступ 10.02.2012.
[6] http://www.svaboda.org/a/28221123.html
[7] http://www.svaboda.org/a/28280369.html

## У 205 разоў меней шанцаў

Вернемся да адукацыі. Параўнайма шанцы беларускамоўных і расейскамоўных прадоўжыць навучаньне на сваёй мове — у сярэдняй спэцыяльнай або ў вышэйшай вучэльні. У 2014/15 навучальным годзе ў нас было 135100 школьнікаў, якія вучыліся па-беларуску. Іх чакала 300 месцаў і ў каледжах, і ва ўнівэрсытэтах (вядома, паступаюць найперш сёлетнія выпускнікі, але мы супастаўляем агульныя лічбы). Адпаведна па-расейску вучылася 795300 школьнікаў. На іх разьлічана 128100 навучэнцкіх месцаў у ССНУ і 362600 — у вышэйшых школах.

Няхітры падлік прапорцыяў паказвае, што расейскамоўны школьнік мае ў **73 разы болей шанцаў** прадоўжыць навучаньне ў каледжы на мове школы, чым беларускамоўны. А што да ўнівэрсытэтаў, то беларускамоўны школьнік мае ў **205 (!) разоў менш магчымасьцяў** вучыцца там на мове сваёй школы, чым вучань расейскамоўнай установы сярэдняй адукацыі.

**Гэта нечуваная дыскрымінацыя, у параўнаньне зь якой не ідуць ніякія апартхайды.**

## Cui prodest?

Такая перакуленая піраміда[8] статусу мовы і яе пэрспэктывы. Піраміда, якая сваім вастрыём б’е ў сэрца беларускае мовы. На чыю карысьць? Шчыры адказ я знайшоў у працах Аляксандра Арэф’ева, намесьніка дырэктара Цэнтру сацыя-

[8] Гл. дыяграму на с. 27.

лягічных дасьледаваньняў Міністэрства адукацыі і навукі Расейскай Фэдэрацыі. У цыклі публікацыяў пад агульнай назвай „Сжимающееся русскоязычие“ сацыёляг біў трывогу з прычыны таго, што расейская мова імкліва траціць міжнародны статус. Але ёсьць і выключэньні з трывожных, на ягоную думку, тэндэнцыяў.

Апублікаваныя табліцы адноснай долі школьнікаў, навучэнцаў і студэнтаў, якія вучыліся па-расейску ў былых „рэспубліках“ СССР у 2010/2011 навучальным годзе, вельмі красамоўныя. Тут скажу толькі пра вышэйшую адукацыю. Паводле зьвестак, якімі карыстаўся расейскі аўтар, у тым навучальным годзе па-расейску ў беларускіх ВНУ вучыліся 90,4% (яўна заніжаная лічба). Ва Ўкраіне — 10,2%, у Грузіі — 0,9%, у Эстоніі — 7,9%, у Літве 1,5%. Зь іншага боку, у Кіргізіі 96%, у так званым „Прыднястроўі“ 94,9%, а ў Абхазіі і Паўднёвай Асэтыі па 100% пэтэвэшнікаў і студэнтаў вучацца па-расейску.

(Трэба памятаць, што ў расейскіх крыніцах частка Малдовы так званае Прыднястроўе, часткі Грузіі Абхазія і Паўднёвая Асэтыя лічацца асобнымі дзяржавамі.)

Выснова А. Арэф’ева: „апірышчам“ [у арыгінале „оплотом“] расейскамоўнай адукацыі на былой постсавецкай прасторы ёсьць сёньня Беларусь, Паўднёвая Асэтыя, Абхазія і Прыднястроўе.

Вось у якой кампаніі мы апынуліся і вось на чыю стратэгічную мэту, аказваецца, працуе наша адукацыйная сыстэма.

(Дарэчы, ня думаю, што ідэя так званага Нацыянальнага ўнівэрсытэту спрыяе разьвязаньню праблемы. У кожным унівэрсытэце кожнага гораду, на кожнай спэцыяльнасьці мае быць рэальная магчымасьць вучыцца па-беларуску.)

## „Савушка“ і „бабушка“. Беларускія малочнікі баяцца беларускае мовы

**У Эўразьвязе дзяржавы змагаюцца за права прадаваць свае прадукты як унікальныя і пад нацыянальным імем. А беларускія вытворцы шыюцца пад расейскіх, хаця цьвердзяць, што беларускае купляюць лепш.**

Ці пісаць на ўпакоўках харчовых тавараў па-беларуску? Моўная праблема, недарэчная для якой-хаця эўрапейскай дзяржавы, акрамя Беларусі, апынулася ў цэнтры грамадзкай увагі. Асабліва кіраўніцтва малочных прадпрыемстваў пачало выказвацца на гэтую тэму — маўляў, асноўны рынак у іх у Расеі.

*Пуцін, прыяжджае Пуцін,*
*Наш добры друг. Ура! Браня крапка!*
*Народы нашы скажуць: „В добры пуць“ ім...*
*Но разьбярыцесь в сьферы малака!*

— пасьмейваюцца героі Лявона Вольскага Саўка ды Грышка.

Да некалькіх моваў на ўпакоўках падам два прыклады зь іншых таварных галінаў. Зубная паста беларускае фабрыкі „Модум“ мае зьвесткі на сямі мовах. Беларускай сярод іх няма. А вось прыправа куркума расейскае вытворчасьці. На 10-грамовым пакеціку — інфармацыя па-расейску, па-беларуску, па-казаску. Папярэджваюць пра сьляды гарчыцы і салеры (у афіцыйным слоўніку завецца „сельдэрэй“). У гаворках ёсьць *сялера*, *салера* — радзейшая, але слова прапаноўвае ін-

тэрнэт-перакладнік Google Translate. Г. зн., вытворцы з падмаскоўнага гораду доўга ня думаючы пакарысталіся Ґуґлем (пры ўсіх ягоных хібах). І „сэртыфікаваных“ (ці то прысяжных?) перакладнікаў на беларускую мову, пра якіх, выбачайце, плялі лухту беларускія ж вытворцы і міністэрскія чыноўнікі, расейскаму вытворцу, які хацеў прыйсьці на беларускі рынак, ня трэба.

[Аўтар незабыўнай ідэі „сэртыфікаваных перакладнікаў на беларускую“ нават не схамянуўся: а дзе ў ягонай фірме сэртыфікаваныя перакладнікі на расейскую? Іх няма, а значыць, паводле ягонай жа лёгікі, уся іхная расейскамоўная ўпакоўка незаконная! ☺]

Я і без сэртыфікату й прысягі скажу і „Савушкіным“, і „Бабушкіным“, што малако па-беларуску называецца малако. А масла як харчовы артыкул па-беларуску завецца яшчэ і больш эканомна, чым па-расейску. Там трэба пісаць „сливочное масло“, каб адрозьніць ад „растительного“. Але апошняе ў беларускай мове *алей*. *Масла* ў нас толькі каровіна.

Нашыя ідэолягі „дзяржаўнага двумоўя“ любяць спасылацца на Фінляндыю: маўляў, і там дзьве дзяржаўныя мовы. Так, там некалькі гістарычных рэгіёнаў, кампактна заселеных швэдамі. Таму яны лічацца аўтахтонамі і таму швэдзкая мова таксама дзяржаўная. І надпісы на прадуктовых упакоўках маюць быць на дзьвюх мовах. І малако падпісанае па-фінску і па-швэдзку. І бэльгійская згушчанка падпісаная дзьвюма мовамі, бо Бэльгія складаецца з Фляндрыі й Валёніі.

У Беларусі аўтахтонны народ адзін — беларусы. Але за сваю мову на сваіх прадуктах нам трэба змагацца. Чуючы ад чыноўнікаў у адказ: „А ў нас жа двумоўе“.

**Загадка для расейскага пакупніка: як пазнаць беларускі выраб?**

Чыноўнікі і вытворцы запэўніваюць: ужо тое, што малочны выраб зь Беларусі, гарантуе яму выдатны збыт у Расеі і ня толькі. Значыць, брэнды беларускіх малочных прадпрыемстваў мелі б сьведчыць беларускае паходжаньне тавару. А яны гучаць так: „*Савушкин продукт*“, „*Бабушкина крынка*“, „*Поставы-городок*“. З таго самага шэрагу, што і расейскія „Родные просторы“, „Домик в деревне“ ды „Россия — щедрая душа“.

Разьбярэмся з моўнага гледзішча.

*Савушка* і *бабушка* — выключна, характэрна расейскія словы. У нас практычна няма памяншальных, пяшчотных дый ніякіх утварэньняў з суфіксам *-ушк-а* — накшталт *лебёдушка, Алёнушка, батюшка* ці *зимушка*. Знаўца пытаньня праф. Павел Сьцяцко кажа пра такія словы:

...Яны ня маюць пашырэньня ў беларускай мове. На месцы іх як эмацыйна-ацэнкавыя словы выкарыстоўваюцца вытворныя з адметна беларускім суфіксам *-ухн-а* (*-юхн-а*): *бацюхна, матухна, долюхна, зімухна*. Толькі адно слова *дачушка* мае гэты суфікс.

[Зрэшты, *дачушка* крыху іншай словаўтваральнай мадэлі, з націскам на суфіксе.]

Ёсьць нямала іншых беларускіх суфіксаў для наданьня слову пяшчотнага адценьня: *бабуля*, *Савачка*. Звонкая дзіцячая забаўлянка Васіля Віткі:

*Дзілінь-дзілінь-баў!*
***Саўка** прапаў!*
*Палажылі Саўку*
*На белую лаўку.*
*Лаўка трасецца,*
*Саўка сьмяецца.*
*Курачка сакоча,*
***Савачка** рагоча.*

У берасьцейскім „брэндзе“, гаспадары якога асабліва зацята бароняцца ад беларушчыны, яшчэ адна небеларуская рыса. У нас прыналежныя прыметнікі, калі яны да асобы мужчынскага роду, заканчваюцца на *-оў/-еў/-ёў*: *бацькава* воля, *Васілёў* дом. *Савачка* — чый? *Савачкаў* (прадукт ці што. Дарэчы, „Савушкин“ менавіта „продукт“ і па-расейску гучыць двухсэнсоўна).

Што да слова *крынка*, то ў беларускай літаратурнай мове яго няма. Керамічнае начыньне для малака — акруглае, з шырокім рыльцам, зь дзюбкай і вушкам-ручкай — у нас завецца *збан* або *збанок*, на Палесьсі можна пачуць *глечык*. (*Крынкай* у некаторых гаворках называлі крыніцу, адсюль назва места Крынкі і сьвятая крыніца Крыначка ў Белавескай пушчы). Гістарычны продак збана — бяз вушка — завецца *гарлач* (больш на

Падняпроўі і Падзьвіньні), дарэчы, вадзяныя кветкі *гарлачыкі*, пакуль не распусьціліся, да яго падобныя. Яшчэ ёсьць словы *гладыш* або *гладышка*, *стаўбун*.

Хочаце назваць малочную гандлёвую марку як традыцыйнае начыньне — а яны сапраўды і эстэтычна выглядаюць, і рабіліся, каб захоўваць малако — то выбар беларуская мова і беларуская традыцыя дае.

Трэба сказаць, што „Бабушкина крынка“ спрабуе ўжываць беларускую мову ў брэндынгу, але робіць гэта амаль незаўважна: *Продукт сметанный* „*Калі ласка*“. Беларуская мова тут выконвае дэкаратыўную ролю: па-беларуску не называецца сам від вырабу. Відаць, маркетолягі ўсё ж уцямілі, што беларуская мова можа падказаць расейскаму пакупніку паходжаньне тавару. Але такі падыход ігнаруе беларускага спажыўца. Адзіны добры вынятак — упакоўка малака „Стары Менск“, дзе ўвесь тэкст па-беларуску.

Урэшце — „Поставы-городок“. Статусу „городок“ беларускія паселішчы ня ведалі, хоць слова было (Гарадок, Давыд-Гарадок, Кажан-Гарадок — уласныя назвы). У нашай традыцыі былі мястэчкі і былі месты, якія з Майдэборскім правам. Нашыя Паставы ўнікальныя, маюць чым ганарыцца ў сваёй гісторыі і зусім не павінны прыпадабняцца да расейскай правінцыі („*Городок наш Арзамас...*“ у А. Гайдара). Уладальнік Паставаў граф Канстанты Тызэнгаўз мала таго што паўстанец 1831 году, што найлепшы эўрапейскі арнітоляг свайго часу, дык яшчэ і заснавальнік

сур’ёзнай сыраробнай прамысловасьці ў Паставах. Успамінае пляменьніца Габрыеля Пузына:

„*Ён быў бацькам, панам і лекарам дамовым, а ягоныя спосабы супраць рожы і каўтуну былі слынныя на ўсе ваколіцы, адно што захоўваў іх у таямніцы, як нейкі знахар. Падобна ж чыніў і са спосабам вырабу адмысловых сыроў, фабрыку якіх меў у адным са сваіх фальваркаў*“.

Думаю, граф зьдзівіўся б таму, што ягоныя Паставы завуць „городком“, а навакольныя вёскі — „агрогородками“. Да гонару пастаўскіх малочнікаў, адзін з гатункаў сыру яны назвалі „Тызэнгаўз“. Праўда, падпісалі па-расейску. Гатунак „Vilno“ — з выдуманым напісаньнем, хаця чаму не было назваць „Вільня/Vilnia“. Гэта нешматлікія выняткі з масы безаблічных чыста расейскіх назваў тамтэйшых малочных вырабаў.

## Protected Designation of Origin — як гэта па-беларуску?

Гістарычных назваў беларускіх малочных тавараў нямала. *Дзісенскае масла*, што экспартавалася ў Ангельшчыну. *Літоўскі сыр*, сычужны, падобны да сыру Эдамэр, некалі папулярны ў той жа Расеі, выраблялі ў Гародзеі (цяпер афіцыйна Гарадзея) і ня толькі.

*Абароненае пазначэньне паходжаньня* — важны элемэнт харчовага заканадаўства ў Эўрапейскім Зьвязе, вытворцы за яго жорстка змагаюцца. Вырабы з такім статусам, як правіла, завуцца нязьменна, моваю арыгіналу.

Абаронены геаграфічны статус мае грэцкая белая *фэта* з авечага малака. Яна можа прадавацца пад такой назвай, толькі калі паходзіць з пэўных грэцкіх рэгіёнаў. У Татрах па абодва іх бакі вякамі вырабляюць вэнджаны салёны сыр, пераважна авечы, які па-польску мясцовым гуральскім дыялектам называецца *oscypek*, а па-славацку *oštiepek*. І Славаччына некалькі гадоў юрыдычна аспрэчвала спробы Польшчы зарэгістраваць *oscypek* у Эўракамісіі, што той урэшце ўдалося.

І наш *клінковы сыр* — пад назваю varškės sūris, тварожны сыр — колькі гадоў таму ўключаны Эўракамісіяй у сьпіс абароненых прадуктаў. Яго зарэгістравала Літва. І выробляе яго, і экспартуе ў мностве выглядаў і з смакавымі дадаткамі — ад кропу да ягадаў. А ў нас вытворчасьць клінковага сыру — унікальнага нашага вырабу, вядомага зь сярэднявечча, — няўхільна скарачаецца.

Між іншым, *сырніца* — месца, дзе сушылі традыцыйныя белыя сыры — была неад’емнаю часткаю беларускага краявіду. У Міцкевічавым „Пану Тадэвушу“ апісваецца старая сырніца ў фальварку Судзьдзі:

*Ушыркі так сажні чатыры та сырніца мела*
*уверсе, а ўся на стаўбе на вялізным тырчэла,*
*як бусла гняздо. А той стоўб быў стары, хоць дубовы,*
*ужо пахіліўшыся, выгніўшы аж да паловы...*

(Пераклад Браніслава Тарашкевіча)

Тая сырніца аказалася баявая, героі паэмы Войскі з Возным у наступных радках абвалілі яе на *маскалёў*, г. зн. на расейскіх салдатаў.

Слова *сырніца* мае таксама іншае значэньне: тварог з маслам, падрыхтаваны для доўгага захоўваньня. У народнай малочнай тэрміналёгіі вылучаюць стадыі ператварэньня малака. Перш сьвежае цёплае малако, або *сырадой*. Потым малако, якое пастаяла, але пакуль ня скісла. Яно так і завецца *пастаялка* ці *пастаялка*; далей атрымліваецца ўжо *сыраквашa,* ці *кісьляк,* ці *сырапеня* (у розных дыялектах).

„Простоквашино"— пад гэтым імем расейская карпарацыя прадае беларускае малако. Назва і адсылае да расейскага мультфільму, і прывязаная да малочнага вырабу, які па-беларуску завецца інакш. У маёй сям'і заўсёдна купляць малочнае толькі беларускае, і я абыходзіў гэтае „Простоквашино" здалёк, думаючы, што да беларускіх кароваў яно ня мае дачыненьня. Беларускі тавар пад расейскім псэўданімам не ўспрымаецца як беларускі.

## Як нас заве сьвет — „Беларашэн“ ці Belarus(i)an?

### І што клеіць на бампэр — „Бай“ ці BLR?

Гэта шматбаковая праблема, яна датычыць назвы ня толькі нашай краіны, але і мовы. Напрыклад, як утварыць прыметнік „беларускі“, у тым ліку тэрмін „беларуская мова“, на асноўнай цяпер міжнароднай мове — па-ангельску? Пагатоў па-ангельску часта назвы мовы і жыхароў краіны супадаюць.

Тыя, хто вучыўся ў савецкую пару, вызубрылі прыметнік Byelorussian, вымаўляецца [bjeləʊˈrʌʃn] (прыблізна „б’елэўра́шн“). Ясна, што форма паходзіць ад слова Byelorussia й цалкам сугучная з ангельскаю формаю Russian („рашн“) — расейскі. І дагэтуль не адзін перакладнік, навучыўшыся называць нашую краіну адпаведна прынятаму ў 1991 годзе напісаньню — Belarus, тым ня менш прыметнік „беларускі“ ўпарта перакладае як Byelorussian.

Перадача назвы Беларусі ў іншых мовах — асобная гаворка і некалькі асобных праблемаў. У гарачыя месяцы пасьля жніўня 1991 году, калі незалежнасьць Беларусі стала канстытуцыйным законам ды ішла барацьба за яе ўмацаваньне, пытаньні знакаў і знакавых сыстэмаў незалеж-

най дзяржавы не былі на першым месцы і часта вырашаліся без удзелу спэцыялістаў. Ухваліўшы назву дзяржавы Рэспубліка Беларусь, правільна пастанавілі на іншыя мовы яе трансьлітараваць зь беларускае. У гістарычны дзень 19 верасьня разам з законамі пра герб і сьцяг быў прыняты і кароткі, зь пяці пунктаў, закон № 1085-XII „Аб назьве Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (…)“:

Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку надалей называць „Рэспубліка Беларусь“, а ў скарочаных і састаўных назвах — „Беларусь“. Устанавіць, што гэтыя назвы транслітаруюцца на іншыя мовы адпаведна зь беларускім гучаньнем. (…)

Пачалася ведамасная рэалізацыя закону. Не ўлічылі (або, хутчэй, ня ведалі), што натуральная трансьлітарацыя для нас — гэта беларуская лацінка (нацыянальны альфабэт на лацінскай аснове), даўно кадыфікаваная ў падручніках, граматыках і выдавецкай практыцы. Беларускай лацінкай назва краіны пішацца **Biełaruś**, адпаведна іншым лацінапісьмовым мовам яе можна было прапанаваць без дыякрытычных знакаў: **Bielarus**. Але скарысталі расейскую табліцу трансьлітарацыі (тутэйшы „міліцэйскі“ варыянт якой бальшыня грамадзянаў Беларусі бачыць на прыкладзе сваіх імёнаў у пашпартах). Так атрымалася **Belarus**.

Беларуская дыяспара ў ангельскамоўным сьвеце ўжывала тагачасны „ААНаўскі“ стандарт, каб іншаземцы дакладна ідэнтыфікавалі назву краіны ды прыметнік ад яе. Скажам, вялікі падручнік беларускае мовы для ангельскамоўных аўтарства Валянтыны Пашкевіч, які выйшаў у 1974–78 г. у Таронта, зваўся яшчэ „Fundamental Byelorussian / Беларуская мова“.

Апошнімі дзесяцігодзьдзямі, аднак, у ангельскамоўнай прасторы адбыўся зрух, напісаньне Belarus стала афіцыйным у міжнародных арганізацыях, і прыметнік Byelorussian прызабыўся. Ад *Belarus* прыметнік утвараецца дваяка. Можна сустрэць і форму *Belarusian* [ˌbeləˈruːsiən] („бэлэру́сіэн“), і напісаньне ды адпаведнае вымаўленьне *Belarusan* [ˌbeləˈruːsən] („бэлэру́сэн“). Вялікі „Ангельска-беларускі слоўнік“, укладзены Валянтынай Пашкевіч у Канадзе і выдадзены ў Менску, падае абодва прыметнікі, але Belarusian як асноўны, і на вокладцы таксама бачым English-Belarusian Dictionary.

Пасьля аднаўленьня беларускае незалежнасьці перавагу ў ангельскамоўнай практыцы і публікацыях нашае дыяспары меў суфікс -an (*Belarusan*). Гэтая форма з 1992 па 1995 год была прынятая і ў ААН. Ангельскамоўная навуковая манаграфія доктара Яна Запрудніка „Беларусь на скрыжаваньнях гісторыі“ падае толькі *Belarusan*. З прыметнікам *Belarusan* афіцыйна зарэгістраваныя беларускія арганізацыі (як BAZA — The Belarusan-American Association, Inc.).

І гэта невыпадкова. Формы на -ian у ангельскай мове сыстэмна ўтвараюцца ў бальшыні сваёй (акрамя даўніх традыцыйных выключэньняў) ад назваў краінаў на -ia: *Armenia → Armenian, Estonia → Estonian, India → Indian*.

І, такім чынам, *Belarusian* падказвае неабазнанаму іншаземцу ўяўную, няісную назву краіны — „Belarusia“. А ўрэшце вядзе да спакусы сказаць „Белэрушэн“ — і зноў аднаўляюцца асацыяцыі з Расеяй.

Фіналь -an у ангельскай мове далучаецца да асновы назвы краіны ці народу. Часьцей — калі назва заканчваецца на -a: *Andorra — Andorran*, *Moldova — Moldovan*; на іншыя галосныя, якія адсякаюцца: *Mexico — Mexican*. Але не бракуе і ўтварэньняў ад асноваў на зычны ці паўгалосны, як *Tibet — Tibetan*, *El Salvador — Salvadoran*, *Martinique — Martinican*, *Mozambique — Mozambican*, *Paraguay — Paraguayan*, або назваў карэнных народаў і моваў Амэрыкі *Aztek — Aztekan*, *Chinook — Chinookan*.

Дзяржаўныя службоўцы Рэспублікі Беларусі выкарыстоўваюць форму *Belarusian*. Аднак яны, службоўцы, рэдка адстойваюць нават гэтую форму, пачуўшы на розных міжнародных захадах стары прыметнік „Б’елэўрáшн“, а нават „Б’елэўрáша“ пра краіну.

Адзін з пачынальнікаў беларускамоўнага сеціва і яго дасьледнік, ствральнік Вікіпэдыі па-беларуску Ўладзімер Каткоўскі (псэўданім Rydel23) у 2002 годзе пісаў:

З увагі на разбуральную прыроду імпэрскага панаваньня Расеі, якое вымушана была трываць Беларусь, шмат людзей у Беларусі могуць палічыць прыметнік *Byelorussian* нават абразьлівым. Таму калі вы хочаце ставіцца да беларусаў з павагаю, выкіньце *Byelorussian* ды іншыя падобныя формы (~~*Belorussian*~~) з вашага слоўніка.

У гэтым сэнсе *Belarusian* — меншае зло. Але (IMHO — на маю сьціплую думку) *Belarusan* — лепш.

**Едзе казачнік Бай**

Двулітарны скарот назвы дзяржавы **BY** — у кожным электронным адрасе беларускае зоны, на дзяржаўным нумары кожнага аўтамабіля. А таксама ў скароце для нацыянальнай валюты, на візах, у міжнародных кодах аўтамагістраляў і г.д. Гэта вельмі важны ідэнтыфікатар дзяржавы.

Але чаму ён такі своеасаблівы для Беларусі? Літары **Y** няма ў яе назьве лацінкаю ці трансьлітарацыяй. Бо скарот паходзіць ад тае самае назвы яшчэ савецкіх часоў — Byelorussia.

Двулітарныя абрэвіятуры назваў дзяржаваў рэглямэнтуюцца стандартам Міжнароднай арганізацыі стандартызацыі *ISO 3166-1 alpha-2*. Ужываюцца ў валютных, банкаўскіх, страхавых, транспартных кодах, у бібліятэчных базах, у дамэнах. Стандарт, скаардынаваны з тэрміналёгіяй

ААН, быў прыняты ў 1974 годзе, калі незалежнай Беларусі не было, а была савецкая імпэрыя. Аднак Беларуская ССР фармальна была чальцом-заснавальнікам ААН, а значыць, мела права на стандартнае скарачэньне, і так з „BYelorussia“ атрымалася BY.

У 1991 годзе, калі мы аднавілі статус сапраўды незалежнай дзяржавы, былі свабодныя два больш адпаведныя скароты — BL і BA. Але тады ў дзяржаўных структураў не дайшлі да гэтага рукі, і мы засталіся зь непрыкаянай літарай і малапазнавальным кодам. А вакантныя спалучэньні забралі: BA ў 1992 годзе Босьнія, BL у 2007 годзе Сэн-Бартэльмі (француская тэрыторыя). Іншыя прыдатныя нам спалучэньні належаць: BE — Бэльгіі, BI — Бурундзі, BR — Бразыліі, BS — Багамам, BU — Бірме (якая цяпер М’янма, але скарот зарэзэрваваны за ёю на пераходны пэрыяд з 1989-га ажно на 50 гадоў).

Ёсьць і трохлітарныя коды дзяржаваў (стандарт ISO 3166-1 alpha-3). Ужываюцца ў машыначатальных частках пашпартоў, а таксама ў практыцы Міжнароднага алімпійскага камітэту, ФІФА. Беларусь мае ў гэтай сыстэме больш адэкватны і пазнавальны код **BLR**.

Скароты рэгістрацыі аўтамабіляў рэгулююцца іншым міжнародным актам. Многія зь іх паўтараюць стандартныя двулітарныя ISO-3166, але ёсьць і трохлітарныя, і старыя традыцыйныя аднalітарныя. Дык вось у гэтай сыстэме скарот **BLR** пакуль што вольны.

## Ці абароніць Belarus Сьвятлана Алексіевіч?

Не Vitryssland, не Weißrussland, не Valko-Venäjä, а *Беларусь* на ўсіх мовах сьвету

Разважаючы пра назвы беларускае мовы па-ангельску *(гл. папярэдні тэкст)*, я быў паабяцаў зьвярнуцца да тэмы імя нашай краіны ў іншых мовах сьвету.

І вось нагода: 8 кастрычніка 2015 году слова „Беларусь“ на розных мовах адным зь першых загучала у выпусках навінаў. Прафэсар Сара Даніюс, Неадменны сакратар Швэдзкай акадэміі, абвяшчае рашэньне апошняй:

*„...Nobelpriset i litteratur år 2015 tilldelas den **vitryska** författaren Svetlana Aleksijevitj“.*

Пачуўшы ў жывой трансьляцыі слова „вітрюска“, я ведаў, чыё імя прагучыць усьлед і што сёлетні літаратурны Нобэль — у Беларусі. Але і пераканаўся, што дагэтуль у Швэцыі як афіцыйныя ўжываюцца назва краіны Vitryssland і прыметнік vitrysk(-a). І гэтыя словы зноў пачулі мільёны швэдаў. (Тая абвестка прагучала і па-ангельску, з састарэлым прыметнікам Belorussian — „Бэлэўрашн“, які стасуецца і рыфмуецца з „ра́шн“ і які таксама пачулі мільёны людзей ува ўсім сьвеце).

Па-швэдзку Ryssland — Расея. Вось жа Vitryssland — гэта „Белая Расея“, нават ня „Белая

Русь“, бо гістарычная Русь па-швэдзку Rus або на лацінскі лад Rutenien.

Ужо нямала гадоў швэдзкія грамадзяне родам зь Беларусі (пісьменьнік і журналіст Дзьмітры Плакс, гісторык Андрэй Катлярчук), швэдзкія інтэлектуалы і палітыкі ладзяць кампанію за ўжываньне слова Belarus і прыметніка belarusisk. І за паступовую адмову ад Vitryssland, бо *„ў сьвядомасьці людзей гэта нешта на поўначы Расеі, пакрытае сьнегам“,*— тлумачыў журналісту tut.by Дзьмітры Плакс.

Дыплямат Стэфан Эрыксан, узорны сваёй павагай да мовы народу, сярод якога працаваў,— таксама „за Belarus“.

**Праблема не ў белізьне́**

Беларускамоўны швэд — славіст і праваабаронца, кіраўнік ініцыятывы за дэмакратыю і правы чалавека Östgruppen Ма́ртын Уґля — яшчэ ў 2009 годзе напісаў праграмны тэкст „Vitryssland ці Belarus“. Павольна, але ўпэўнена імя *Беларусь* замацоўваецца ў швэдзкай мове, хоць пераважная бальшыня швэдзкамоўных яшчэ кажа Vitryssland. Дзяржаўны дэпартамэнт Швэцыі ў апошняй вэрсіі „Даведніка іншаземных імёнаў“ (Utrikes namnbok) піша, што назва Belarus ужываецца „ў неафіцыйным кантэксьце“.

Бывае, што Беларусь не адрозьніваюць ад Расеі ня толькі звычайныя швэды. М. Уґля прыводзіць прыклад прэм’ер-міністра Ф. Райнфэльта, які назваў Беларусь Расеяй падчас парлямэнцкай

дыскусіі. На думку М. Уґля, прычына блытаніны — менавіта каляніяльная назва Vitryssland.

М. Уґля цытуе выказваньні спэцыялістаў-беларусазнаўцаў. Нільс Хокансон тлумачыць у паслоўі да свайго перакладу аповесьці Васіля Быкава „Афганец“ (па-швэдзку „Veteranen“), чаму ўжывае там назву Belarus:

Праблема не ў белізьне. „Vit“ — дакладны пераклад шматзначнага прэфіксу бел-, значэньня якога ў гэтым кантэксьце папраўдзе ніхто ня ведае — „белы“, „чысты“, „свабодны“ ці „заходні“. Праблема ў літаральным і пасьлядоўным зьмешваньні дзьвюх гістарычных і культурных зьяваў — *Расеі* і *Русі*.

Гэта дакладнае лінгвістычнае абгрунтаваньне таго, што абедзьве часткі калькі „белы“ + „Расея“ ня маюць дачыненьня да назвы Беларусі. Корань „бел-“ ў слове *Беларусь* даўно страціў пачатную сэмантыку, якой, зрэшты, ніхто сёньня і ня ведае дакладна. І „Русь“ не „Расея“.

Швэдзкія мовазнаўцы, якія выступілі ў абарону Vitryssland, казалі, што паколькі кожная мова мае ўласныя, у тым ліку традыцыйныя, назвы для іншых краінаў (экзонімы), то швэдзкая мова ня мусіць пераходзіць на саманазвы тых краінаў (эндонімы), бо менавіта экзонімы „палягчаюць вымаўленьне і разуменьне“, а ўжываньне эндонімаў „абцяжарвае камунікацыю“.

На гэта я скажу, што традыцыі перадаваць менавіта назву *Беларусь* у іншых мовах да XX стагодзьдзя практычна не было. Мэханічнае раскладаньне на два карані і паасобны іх пераклад — погляд на Беларусь праз прызму расейскае мовы і гісторыі.

А Мартын Уґля даказвае, што слова Belarus нічым не абцяжарвае вымаўленьне, разуменьне і камунікацыю па-швэдзку, а вось зьмешваньне назваў Расеі і Беларусі *„ў доўгатэрміновай пэрспэктыве можа ўяўляць сабой найбольшую пагрозу для незалежнасьці і культурнай адметнасьці краіны на мяжы Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы“.*

Актыўная пазыцыя зацікаўленых людзей, прафэсіяналаў дала плён у Швэцыі. Прайшло 6 гадоў, і ў 2015 годзе сп. Уґля дапісаў да ранейшага свайго артыкулу:

*Назва „Belarus“ цяпер так пашырылася, што пасьля яе больш не пішу ў дужках „Vitryssland“ у сваіх блогавых запісах.*

Але афіцыйная практыка пакуль не памянялася.

**Вайс едзе ў Русьлянд**

Падобная дваістасьць назвы Беларусі ёсьць і ў іншых мовах. Прыкладам — у бальшыні моваў германскай групы: скандынаўскіх, нідэрляндзкай, урэшце, нямецкай. Ува ўсіх іх як імя Беларусі ўжываецца двухкаранёвая калька з расейскай мовы. Першая частка супадае са словам

„белы“ ў гэтых мовах, а другая добра пазнавальная — Russland і пад.

Найбольш аўтарытэтны нямецкі слоўнік Duden прызнае́ слова *Belarus*, але азначае яго так: „*Уласная назва — прынятае ў афіцыйнай міжурадавай карэспандэнцыі абазначэньне для [краіны] Weißrussland*“. Інакш кажучы, нарматыўным і агульнапрынятым застаецца апошняе.

Мы ня можам загадваць швэдам, ісьляндцам і немцам, як ім гаварыць і пісаць у штодзённым жыцьці, можам толькі ўскосна ўплываць на выбар назвы нашай краіны на іхных мовах. Хоць для называньня Беларусі ў афіцыйных дакумэнтах на розных мовах юрыдычная падстава ёсьць — згадваны тут раней Закон „Аб назьве Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (…)“ ад 19 верасьня 1991 году, які патрабуе трансьлітараваць назву *Беларусь* на іншыя мовы ў адпаведнасьці зь беларускім яе гучаньнем.

Ангельскамоўны сьвет на той закон адрэагаваў вельмі хутка і ўжо ў 1991 годзе пачаў ужываць форму Belarus замест ранейшай Byelorussia, а то і White Russia. Прычым ня толькі ў афіцыйных дакумэнтах, але і ў звычайнай моўнай практыцы. А значыць, ніякіх чыста лінгвістычных перашкодаў для такога пераходу няма і ў іншых германскіх мовах.

***

Назвы блізкіх краінаў часта адносяцца да так званых традыцыйных імёнаў, гэта значыць сфармаваліся вельмі даўно і на ўласнай глебе.

Так, мы называем краіну Deutschland *Нямеччына* або на лацінскі лад *Германіяй*. Magyarorszag для нас *Вугоршчына* або на польскі лад *Вэнгрыя*. Тая ж *Грэцыя* ў арыгінале Ελλάδα ці Ελλάς. Так што і нашую зямлю суседзі маюць права зваць традыцыйна — пры ўмове, калі такая традыцыя сапраўды ёсьць. Бо пераносіць на Беларусь традыцыю называньня Расеі — беспадстаўна.

Наагул жа назвы краінаў, як правіла, не перакладаюцца. Бераг Слановай Косьці пару дзесяцігодзьдзяў таму ў нас на пажаданьне кіраўніцтва гэтае дзяржавы[9] пачалі зваць Кот д'Івуар, захоўваючы французскі ўзор.

**Пярун не рабіў сэлфікаў**

У нашых паўночна-заходніх суседзяў — літоўцаў — бытуе дзьве назвы Беларусі. Дзяржаўная камісія літоўскай мовы (пастанова № 48 ад 26.01.1995 г. „Пра назвы дзяржаваў“) вырашыла афіцыйна называць нашу дзяржаву Baltarùsijos Respublika, але ў якасьці кароткіх традыцыйных назваў краіны ўжываць Gùdija ці Baltarùsija — менавіта ў такім парадку.

Афіцыйная Baltarusija [Балтару́сія] зноў-такі значыць даслоўна „Белая Расея“. Хоць гучаць галасы, што больш правільна, без намёку на Расею, было б Baltarusia [Балтарусʹя́].

А вось у слова Gudija сапраўды архаічны корань. Выдатны літоўскі мовазнаўца, індаэўрапеіст Казімерас Буґа пісаў, што словам gudas

[9] Гл. с. 89.

у літоўскіх дыялектах называюць іншапляменцаў, таксама і літоўцаў, але „іншых“: так, для жамойтаў gudas — кожны літовец на ўсход ад Жамойці, для жыхароў Малой Літвы „ґудамі“ былі літоўцы Сувальскага краю. Пазьнейшыя дасьледнікі заўважылі, што словам gudas у гаворках маглі назваць і немаўля (называлі ж славяне „немцамі“ тых, хто „нямы“ — хто не гаворыць або гаворыць „ня так“).

Жыхары Ўсходняй Літвы — дзукі — „ґудамі“ называлі сваіх суседзяў беларусаў. К. Буґа зафіксаваў у вуснах літоўскамоўных насельнікаў Троцкага павету і назву краіны славянамоўных суседзяў — Gùdo šalìs, даслоўна „краіна Ґуда“ ці то „Ґудава краіна“.

Ён выводзіў слова gudas ад старажытнай саманазвы германскага народу ґотаў (якія сапраўды праходзілі нашымі землямі) і лічыў, што пасьля сыходу ґотаў слова абазначала ўсякага славянамоўнага — крывіча ці паляка. Менавіта Буґа наказаў літоўцам называць беларусаў ды Беларусь словамі гэтага кораню.

У Беларусі і Літве мноства тапонімаў і прозьвішчаў з гэтым коранем (*Гудзевічы*, *Гудагай*, *Гуд*, *Ґудавічус*).

Слова gudas ёсьць у розных прыказках, не заўсёды прыемных; найбольш вядомая — старадаўні заклён *Perkūne dievaiti, nemušk žemaitį, bet mušk* ***gudą***, *kaip šunį rudą* („Пяруне, божачка, ня бі жамойта, а бі ґуда, як сабаку рудога“). Невядома, каго той жамойцкі Пярун лічыў ґудамі

і адпаведна лупіў пасьля такіх малітваў: відэа не захавалася. Можа, аўкштайтаў і дзукаў.

У кожным разе літоўская мова мае традыцыю, замацаваную міжваеннай практыкай, называць Беларусь словам Gudija.

**Белакрывія**

Латышы называюць Беларусь імем Baltkrievija. І хоць у слове чуваць мілы нашаму вуху крывіцкі корань, але зь цягам часу (і з нашага гледзішча спрэчна) латышы перанесьлі назву найбліжэйшага да іх славянамоўнага племя крывічоў на маскавітаў. Расея — Krievija. Значыць, і па-латыску мы „Белая Расея“. Падобна па-эстонску Valgevene, па-фінску Valko-Venäjä (яшчэ і праз злучок!), па-вугорску (ці то вэнгерску), па-турэцку, па-грэцку (Λευκορωσία, у якой чуваць белыя леўкацыты і ляўкас, а таксама Расію).

Цікава, што іншыя генэтычна і геаграфічна няблізкія мовы як могуць зьберагаюць блізкасьць да нашае саманазвы. Гэта крымскататарская (адрозна ад турэцкай), гэта ўсе кельцкія (An Bhealarúis па-ірляндзку), гэта японская — ベラルーシ [Berarūshi], слова не рыфмуецца зь японскаю назваю Расеі [Roshia].

Вядома, кожная мова мае права на свае гукавыя ды словаўтваральныя асаблівасьці. Украінцы памянялі ранейшую „Білорусію“ на *Білорусь*. Г. зн. і зьберагглі характэрную рысу сваёй фанэтыкі, і пазьбеглі рыфмаваньня з словам *Росія*. Але, скажам, славянскія мовы былой Югаславіі завуць нашу краіну *Белорусија* ці падобна. Па-чэску,

славацку, кашубску, на сэрбалужыцкіх мовах будзе *Bělorusko* і аналягічна. Усе такія назвы суадносяцца з назваю Расеі ў тых мовах.

Цяпер людзі зьбіраюць подпісы, а нават усчынаюць судовыя справы за тое, каб у расейскай мове пасьлядоўна ўжывалася форма *Беларусь*, а не „Белоруссия“. Але праблема ня толькі ў расейскай мове, на факты якой мы рэагуем больш эмацыйна — і таму, што яны вялікія ў сэнсе памеру суседзі, і таму, што яны былыя калянізатары, а значыць, мелі б з большай пашанай ставіцца да нашых тапанімічных пажаданьняў.

Зрэшты, калі самі будзем шанавацца як народ з сваёй мовай — тады і ад іншых будзе болей увагі й пашаны.

## Нават Швэдзкая акадэмія мусіць прыслухацца

Вярнуся да нобэлеўскіх падзеяў. Ляўрэатка мае пэўную маральную ўладу. Сп-ня Алексіевіч можа распарадзіцца малой частачкай тае ўлады й выканаць функцыю беларускай амбасады (якая маўчыць на гэтую тэму) — папрасіць швэдаў закончыць доўгую дыскусію і надалей называць нашу краіну імем *Belarus*.

## Пішам па-расейску: *Беларусь, беларус, беларусский*.

Паводле закону й правілаў

Здаецца, з напісаньнем слова *Беларусь* па-расейску нашае грамадзтва разабралася канчаткова і ахвотна дае адлуп аматарам пісаць „Белоруссия“, кім бы яны ні былі.

Але праблемы *Беларусі* ў расейскім правапісе далёка ня скончыліся, як ня скончыліся і гарачыя дыскусіі ў сеціве. З характэрнымі рэплікамі:

Пишете на русском языке — будьте добры руководствоваться его правилами.

Так кажуць і многія расейскія мовазнаўцы. Што ж, патрабаваньне слушнае. Кіруймася правіламі! Але як па-расейску правільна — *белару**сс**кий*, *белару**с**кий*? Ад якога слова ўтвораны прыметнік? Ізноў вяртаемся да назвы краіны.

### Малороссія, Новороссія, Бѣлоруссія

Калі прыметнік — ад спалучэньня *Белая Русь* або ад вытворнага зь яго *Белоруссия* — то так, дзейнічае расейскае правіла злучальных галосных паміж каранямі ў складаных словах (толькі О ці Е).

Асабліва калі ў адзін шэраг з каляніяльнымі ярлыкамі „Малороссия“ і „Новороссия“ ставяць назву нашае краіны. Як тут:

*Финляндия, Естляндия, Лифляндия, Курляндия,* ***Белоруссия, Малороссия, Новороссия,*** *Бессарабия, Крым, Грузия, Весь Кавказ, Земли Киргизов, все Народы Сибирские и разные другие племена внутри Государства обитающие никогда не пользовались и никогда пользоваться не могут самостоятельною независимостью (...) а по сему и подлежат все они Праву благоудобства долженствуя при том на веки* ***отречься от права отдельной Народности****. В следствие сего подводятся все вышеназванные страны со всеми племенами в них обитающими под право благоудобства для России и объявляются в удовлетворение оному и на основании оного на вечные времена оставаться имеющими в Составе Российского Государства.*

Гэта „Русская правда“ 1825 г.— праграмны дакумэнт дзекабрыстаў (напісаў Павел Пестэль; сапраўды, расейскі дэмакрат часта заканчваецца там, дзе пачынаюцца імпэрскія рэфлексы).

Вось жа словаўтваральныя гульні не бяскрыўдныя. (Зьвярнеце ўвагу: многія назвы тагачасных расейскіх калёніяў цяпер замененыя на формы, бліжэйшыя да саманазваў адпаведных дзяржаваў. Але не імя Беларусі.)

Пра назву Беларусі ў розных мовах мне ўжо даводзілася пісаць[10]. На жаль, у некаторых мовах дагэтуль калькуюць расейскае прачытаньне, два

10 Гл. с. 70–84.

карані: *белы* і *Русь* = *Расея*. Але Беларусь — гэта ня „белая Расея“. **Слова Беларусь з гледзішча сучаснае мовы — непадзельны корань.** Інакш былі б немагчымыя такія назвы, як *Чырвоная Беларусь.*

І калі ў расейскай мове назва Беларусь, як назвы бальшыні іншых краінаў/дзяржаваў сьвету, трактуецца як суцэльны корань, то літара **А** ў ёй не пярэчыць ніякім правілам расейскае мовы — ні правапісным, ні вымаўленчым.

## Каляніяльныя традыцыі *vs* гістарычная справядлівасьць

ААНаўская спэцыялізаваная тапанімічная структура UNGEGN заахвочвае міжнародную стандартызацыю перадачы геаграфічных назваў, бо прынцыпы перадачы іншамоўных тапонімаў у розных мовах склаліся розна. Скажам, у баўгарскай мове назвы перадаюцца бліжэй да арыгіналу, так званых традыцыйных назваў (як *Париж, Грузия*) няшмат. У польскай традыцыйных напісаньняў болей.

Але з расейскай мовай пытаньне ня толькі правапіснае і ня толькі вернасьці традыцыі.

З аднаго боку, яно зьвязанае з павагаю нацыянальнае годнасьці раней паняволеных народаў. З канца 1980-х, падчас развалу савецкай імпэрыі ў Расеі былі праявы своеасаблівай тапанімічнай кампэнсацыі ранейшага моўнага ўціску. Нейкі час там пісалі *Алматы, Ашгабат, Кишинэу, Таллинн, Кыргызстан, Молдова, Беларусь.*

З другога боку, у Расеі нарастаў супраціў гэтай зьяве (і рос сантымэнт да імпэрскай — расейскай і савецкай — мінуўшчыны). У 1995 г. выйшла распараджэньне адміністрацыі расейскага прэзыдэнта вярнуцца да ранейшых напісаньняў *Алма-Ата, Ашхабад, Кишинёв, Таллин*, *Киргизия, Молдавия*, *Белоруссия*.

Хоць з гледзішча ўласна моўнага часьцей за ўсё ніякіх перашкодаў для пісаньня „па-новаму“ не было. Хіба што патрабаваньне пісаць не *Кыргыз-*, а *Киргиз-* можна патлумачыць расейскаю фанэтыкай (якой не ўласьцівыя спалучэньні *кы, гы*).

Вядомы расейскі лінгвіст Максім Кронгаўз кажа, што *„предложение писать Таллинн с двумя **н** (...) не вполне соответствовало правилам и традициям русского языка“*. Традыцыям — магчыма. Але прычым тут правілы? Расейскі правапіс не забараняе падвойныя зычныя ў канцы пазычанага ўласнага імя. Чаму пісаць *Бонн, Сезанн, Лилль, Гримм, Тэлботт* адпавядае правілам, а *Таллинн* — не? Гэтаксама трэ быць пільнымі, калі гавораць аб правілах, якім нібыта супярэчыць напісаньне *Бел**а**русь*.

Што ж да традыцыяў, то вельмі аўтарытэтная расейская знаўца міжмоўнай перадачы імёнаў Аляксандра Суперанская пісала:

*„...Мова назвы адначасова паказвае на тое, якому народу яна належыць“*. А *„пры зьмене дзяржаўнай, палітычнай, моўнай і да г.п. арыентацыі той ці іншай тэрыторыі назвы аб’ектаў, зьвязаных зь дзейнасьцю чалавека* [у тым ліку

дзяржаваў.— *В.В.*], *зазнаюць непазьбежныя зьмены, і самыя гэтыя зьмены — інфарматыўныя*“.

**Вось жа і зьмена „Белоруссии“ на *Беларусь* — надзвычай інфарматыўная, яна засьведчыла зьмену дзяржаўнага статусу краіны.** Закон № 1085-XII *„Аб назьве Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (...)*“ ад 19 верасьня 1991 году патрабуе:

*...Гэтыя назвы* [Рэспубліка Беларусь, Беларусь] *трансьлітаруюцца на іншыя мовы ў адпаведнасьці зь беларускім гучаньнем.*

## Хунта, партыйны зьезд ці законны парлямэнт?

У расейскай мове ёсьць прыклады зьмены перадачы назваў дзяржаваў, у тым ліку з так званых „традыцыйных“, перакладзеных, на саманазвы.

З 1986 году па-расейску пачалі пісаць „Республика Кабо-Верде“ замест „Республика Острова Зелёного Мыса“ — адпаведна рашэньню самой дзяржавы і прынятай у ААН практыцы.

У тым жа годзе ўкаранілі назву „Республика Кот-д’Ивуар“ замест ранейшай „Республика Берег Слоновой Кости“. Адпаведна **пастанове зьезду** кіроўнай партыі гэтае дзяржавы ў 1985 г., назву апошняй нельга перакладаць.

Зь Бірмы на М’янму іншамоўную перадачу назвы краіны ў 1989 годзе памяняла **вайсковая хунта**. Ня ўсе дзяржавы паслухаліся, але па-ра-

сейску — тады ў СССР, а цяпер Расеі — дзяржаву адразу пачалі называць М’янма.

Значыць, пастанова партыйнага зьезду або генэральскай хунты ў далёкай краіне — для расейскіх моўных чыноўнікаў закон. А рашэньне законнага парлямэнту Беларусі ды жаданьне беларускага народу можна ігнараваць?

Названыя прыклады — не славянскія. Але ў расейскай мове такія славянскія назвы гарадоў, як сэрбскі *Нови Сад*, харвацкая *Rijeka* ці славацкая *Banská Bystrica* не русыфікуюцца — („Новый Сад“, „Река“ і „Банская Быстрица“), — а перадаюцца блізка да арыгіналу: *Нови-Сад, Риека, Банска-Бистрица*.

Нехта слушна заўважыць, што перадача назваў дзяржаваў, краінаў, краёў (г. зв. харонімаў) падлягае трохі інакшым правілам. Добра, вось гістарычны славенскі край *Prekmurje*. Даслоўна назва абазначае зямлю *за* ракой *Мурай*, але расейская мова не перадае яе як „Замурье“, а шануе мову арыгіналу і зьберагае *Пре́кмурье.*

Ёсьць, праўда, прыклад назвы славянскай краіны/дзяржавы *Crna Gora*, якую па-расейску перадаюць *Черногория* (і па-беларуску *Чарнагорыя*). Але тут этымалёгія бясспрэчная — назва ад Чорнае Гары. І заканадаўча рэгулюецца толькі перадача імя краіны па-ангельску — *Montenegro* (ад старой італьянскай калькі арыгінальнае назвы).

Беларускія тапанімісты настойваюць на тым, што назва *Беларусь* павінна не перакладацца, а перадавацца палітарна на іншыя мовы. Старшыня нацыянальнай тапанімічнай камісіі Акадэміі

навук, а цяпер і дырэктар Інстытуту мовазнаўства Ігар Капылоў нагадвае, што гэты прынцып

*...зацьверджаны Групай экспэртаў у геаграфічных назвах пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. Распрацаваныя рэкамэндацыі: назва на іншай мове не павінна скажаць арыгінальную. У афіцыйных ды іншых тэкстах на расейскай мове цалкам правамерна пісаць* ***Беларусь****.*

І адсюль для расейскае мовы вынікае наступнае.

**БелАрус, белАруска**

Калі назва дзяржавы па-расейску — *Бел**а**русь*, то і назва дзяржаватворчай нацыянальнасьці — *бел**а**рус*, *бел**а**руска* — мае пісацца праз **А**. Інакш няма лёгікі, я не знаходжу, каб у расейскай мове назвы пэўнай краіны, народу і мовы (аднакаранёвыя) розна пісаліся. (Хіба што *Катал**о**ния* vs *катал**а**нский язык*, як і па-беларуску ў клясычным правапісе *Катал**ё**нія* — *катал**я**нская мова*, але і ў арыгінале там розныя галосныя: *Catal**u**nya* — *catal**à***.) І нікога (акрамя высакалобых акулярнікаў, што зямлі ня нюхалі ☺) напісаньнем *БЕЛАРУС* на шырокіх расейскіх прасторах ня зьдзівіш: яно ж на кожным сабраным у Менску трактары.

**Усё ж *беларуССкий***

А колькі літараў **С** пісаць? Можа, адну — *„беларуский“*? Гэтак радыкальна робяць, пішучы па-расейску, нямала беларусаў. Але мы ж дамо-

віліся выконваць правілы. Прыметнік утвараецца паводле мадэлі расейскае мовы: корань *беларус-* + суфікс *-ск-*. На такую мадэль ёсьць правіла:

Двойное **н** и двойное **с** пишутся при сочетании корня и суффикса, если корень кончается, а суффикс начинается согласной **н** или **с:** ...с суффиксом **-ск-,** например: *котласский (Котлас), арзамасский (Арзамас), русский (Русь),* но: *тартуский (Тарту)...*

(§ 60 дзейных „Правил русской орфографии и пунктуации“)

Таму — *белару**сс**кий.* Два **С**. Паводле ўнівэрсальнага правіла расейскага правапісу.

***

Мы ня можам прымусіць носьбітаў іншае мовы называць нашую краіну, яе гарады і вёскі цалкам па-нашаму. Але — парадаксальна — калі ўжо цяперашняя дзяржава лічыць расейскую мову сваёй, то на тэрыторыі Беларусі, пішучы па-расейску, неканечне слухацца Расейскай акадэміі навук. І прынамсі ўжываць трансьлітарацыю тапонімаў, як мага бліжэйшую да беларускага першаўзору. Скажам, ня „Мозырь“ або „Несвиж“, а *Мазыр* і *Нясвиж*. Па-расейску!

## Украінскі горад Дніпро і беларускі горад Шміт. Пра дэкамунізацыю тапонімаў

21 траўня 2015 г. набылі моц законы Ўкраіны пра дэкамунізацыю публічнае прасторы. Законы грунтуюцца на дакумэнтах ААН, АБСЭ і Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы, напрыклад на рэзалюцыі апошняй аб ліквідацыі спадчыны колішніх камуністычных таталітарных рэжымаў. Неадкладная дэкамунізацыя ва Ўкраіне разглядаецца як частка палітыкі бясьпекі дзяржавы. Украінскі закон „Пра асуджэньне камуністычнага й нацыянал-сацыялістычнага (нацысцкага) таталітарных рэжымаў і забарону прапаганды іхнае сымболікі“ стасуецца і геаграфічных назваў паселішчаў ды вуліц.

Мяняюцца назвы, скіраваныя на прапаганду таталітарных рэжымаў, іхнай ідэалёгіі й сьвятаў, органаў бясьпекі ды іншых сілавых структураў, дзеячоў (акрамя дзеячоў навукі і культуры, якія не былі прафэсійнымі прапагандыстамі накшталт Горкага ці Фадзеева).

Пераназвана 988 аб’ектаў, або 3% усіх назваў. Гэта імёны 76 гарадоў і паселішчаў гарадзкога тыпу. Гэта незьлічоныя вёскі, мястэчкі й гарады з „запамінальнымі“ назвамі — усялякія *Ленінскія, Ульянаўкі, Камінтэрны, Ударныя, Каліпіны, Шчорсы, Дзяржынкі-Мянжынкі, Выдвіжэнцы, Чырвоны Плугатар* ды нават *Чырвоная Грэбля*. Найбольшая канцэнтрацыя такога — у Данецкай вобласьці. Канкрэтна вырашалі пытаньні мясцовыя самакіраваньні, беручы пад увагу прапановы экспэртаў-тапанімістаў. Недзе аднаўлялі гісторыю, недзе стваралі новае.

Назвы многіх прыкметных гарадоў пайшлі лёгка. Радзіма Леаніда Брэжнева і Дзьмітра Яраша *Днепрадзяржынск* ізноў стаў *Каменскім*, *Арцёмаўск* — *Бахмутам*, *Ільічоўск* каля Адэсы — *Чарнаморскам*.

Але найважнейшай праблемай аказаліся імёны буйных гарадоў — абласных цэнтраў: гэта мільённы былы Днепрапятроўск і немалы былы Кіраваград.

У рэгіёне, калісьці званым Дзікім Полем, тапонімы часта стваралі або расейскія імпэрскія ўлады, або ўжо ўлады бальшавіцкія. Часам украінскім спэцыялістам не было як апэляваць да імя даакупацыйнай эпохі.

У былога ўжо Днепрапятроўску складаная ўрбаністычная гісторыя. На яго месцы было некалькі паселішчаў: летапісны Перасічань, фартэцыя Рэчы Паспалітай Кадак. Калі ў часы Расейскай імпэрыі было заснаванае новае места, яго назвалі Екацярынаслаў у гонар вядома каго.

Пабыло яно і Новарасійскам. Украінская Народная Рэспубліка прапанавала новы, але ўтвораны традыцыйна, тапонім — Січаслаў, у гонар Запарожскай Сечы на Дняпры. А бальшавікі адкідвалі і царскія, і ўкраінскія імёны гарадоў. Так атрымаўся Краснадняпроўск, а з 1926 г. Днепрапятроўск — у гонар аднаго з арганізатараў Галадамору ўкраінскага народу Грыгорыя Пятроўскага.

Пракамуністычныя сілы адчайна баранілі сваю назву. Яна, маўляў, цяпер зьвязаная ўжо са сьвятым Пятром. Гарадзкая грамада так і не прыняла канчатковага рашэньня. На людзкой інэрцыі ды няведаньні лёгка спэкуляваць. Таму ўрэшце вырашыла сама Вярхоўная Рада Ўкраіны: горад з 21 траўня 2016 году завецца ***Дніпро***. Пагатоў у жывым маўленьні яго менавіта так і называюць па-ўкраінску.

Па-расейску кажуць *Днепр*. Але дырэктар украінскага Інстытуту нацыянальнае памяці ўжо заявіў, што і па-расейску горад мае звацца *Днипро*. Правільна. Ва Ўкраіне адна дзяржаўная мова, зь яе назвы і павінны трансьлітаравацца на іншыя мовы. У беларускай мове таксама не павінна быць праблемы. Рака — *Дняпро*, бо яна і наша, і маем ёй уласную назву. А горад завем інакш: *Дніпро*. Хоць даўнейшыя ўкраінскія тапонімы мы з старажытных часоў ужываем па-беларуску. Кіеў, Львоў, Чарнігаў (ці нават Чарнегаў).

Дэкамунізаваць тапанімію нам будзе трохі лягчэй за ўкраінцаў: у нас назвы ўсіх вялікіх гарадоў вельмі старажытныя і яны зьбераглісяя (ін-

шая рэч, што імёны Менску, Горадні і Берасьця былі скажоныя іншамоўнымі матрыцамі).

Цікава, што ў савецкай гісторыі павісеў-такі меч перайменаваньня над нашым горадам на Дняпры. Хаця яго імя нават апетае ў клясычнай паэме „Магіла Льва“ — пра трагедыю разбойніка Машэкі:

*Яго высокую магілу —*
*Дзе лес ды вецер панаваў —*
*Знаць, што вялікую меў сілу,*
*„Магілай Льва“ народ назваў.*

*Над ёю з часам дрэвы палі,*
*І горад вырас, як зь зямлі,*
*Яго Магілевам назвалі,*
*Бо йнакш прыдумаць не маглі.*

Гэта Купала так наіўна думаў, што не маглі. Мясцовыя савецкія кар’ерысты спрабавалі выслужыцца і перайменаваць горад у 1924 годзе, адразу пасьля сьмерці Леніна. Як кажуць гісторыкі Ільля Куркоў і Ігар Пушкін, правабярэжную частку прапаноўвалі назваць Уладзімір-Ільінскі, а левы бераг, прадмесьце Лупалава, перайменаваць у Леніна. Але акурат тады Магілёў далучалі да БССР, і за трывожнымі для сябе клопатамі тутэйшая кампартыйная тусоўка забылася на ідэю.

А ў 1930-я гады над Магілёвам навісла больш сур’ёзная небясьпека тапанімічнага зьнішчэньня. З Магілёва родам Ота Шміт, савецкі астраном і геафізык, кіраўнік так званай Чалюскінскай паў-

ночнай экспэдыцыі (у складзе якой, магчыма, перавозілі вязьняў ГУЛАГу). Калі Шміта ўрачыста сустракалі на вакзале ў Менску, Андрэй Александровіч, афіцыёзны камуністычны паэт і ўкладальнік русыфікатарскага слоўніка беларускае мовы, прачытаў верш са словамі „Хай будзе слаўны горад Шміт!“ Верш апублікавала „Зьвязда“, працоўныя слалі лісты падтрымкі. Але ці то не хапіла Шміту заслугаў перад Сталінам, ці то прозьвішча было надта нямецкае. Да перайменаваньня нейкім дзівам не дайшло. А то жылі б у нас цяпер над Дняпром шміцяне.

А менскаму парку Чалюскінцаў трэба вярнуць адно з гістарычных імёнаў. Або архаічнае — лес Воўчы Хвост, або з эпохі клясыцызму — Ваньковічаў лес, бо ў ім была сядзіба нашага выдатнага мастака Валента Ваньковіча.

## Не Акцябарскі, а Рудобелка; не Дзяржынск, а Койданаў; ня Кіраўск, а Качэрычы

Якія тапонімы ў нас падпадаюць пад крытэры дэкамунізацыі, аналягічныя апісаным ва ўкраінскіх законах[11]? Сёньня ў Беларусі прынамсі тры раённыя цэнтры і адпаведныя ім раёны носяць яўна прапагандысцкія таталітарныя назвы.

**Прадказальна пачну з Акцябарскага.**

Фармальна мястэчка абыймае былыя вёскі *Карпілаўку*, *Рудню* і *Рудобелку*. Назва *Рудобелка* сама па сабе непаўторная, інфармацыйна насычаная (бо ад радовішчаў балотнай жалезнай руды, як назвы *Рудодзіма*, *Рудамэйка*, *Рудакопішча*). *Белка* ў народнай тапанімічнай намэнклятуры, паводле тапаніміста Івана Яшкіна,— ‘нягрузкае недрыгвістае верхавое балота’. Ідэнтычныя паводле будовы назвы знаходзім у Літве: *Rū̃dbalis, Rūdbalỹs, Rū̃dpelkis* — таксама ад руды і балота.

Хоць Рудобелка вядомая з XV ст., але яна трапіла нават у камуністычны канон, бо ў колішняй Рудобельскай воласьці ў 1918–1920 гг. праіснавала антынямецкая і антыпольская так званая Рудобельская рэспубліка, партызанскае ўтварэньне, якое кантралявалі бальшавікі. І ўсё роўна тыя ж

[11] Гл. папярэдні артыкул.

бальшавікі двойчы Рудобелку пераймяноўвалі: спачатку ў 1920-м — яе воласьць у *Акцябарскую*, а потым у 1954-м, далучыўшы да Рудобелкі яшчэ дзьве вёскі, назвалі і саму яе *Акцябарскі* ў гонар свайго перавароту. Гучыць па-беларуску немілагучна і чужародна. Нездарма менавіта ў Акцябарскім нават у наш час зьяўляюцца такія шэдэўры прапаганды, як піянэрскі рэп „Я из деревни“. Спадзяюся, у Рудобелцы такое было б немагчыма.

**Найбольш адыёзную камуністычную назву носіць, вядома ж, Дзяржынск.**

У 1932 годзе так была зьмененая назва *Койданава*. Вельмі даўно гэтае паселішча, магчыма, звалася *Крутагор'е*. Паданьне зьвязвае яго наступную назву *Койданаў* зь імем Койдана (Кайдана), татарскага вайскавода, пераможанага тут у XIII ст. Але больш рэалістычная легенда — што назва ад імя татарскага ж вайскавода, ляяльнага ВКЛ, які тут меў рэзыдэнцыю з канца XIV ст. Тут жа ён і пахаваны. Паступова Крутагор'е было паглынутае Койданавым паселішчам, мяркуе гісторык Анатоль Валахановіч. Назва Койданаў фіксуецца з 1442 году, потым яе падладзілі да расейскіх формаў накшталт „Орехово-Зуево“, зрабілі *Койданав**а***. Ды і яно засталося толькі як назва чыгуначнай станцыі, апетая гуртом „Бонда“ ў песьні на верш койданаўца Адама Глёбуса.

Ну а хто такі Фэлікс Дзяржынскі — стваральнік ЧК і канцлягераў — асабліва тут тлумачыць ня трэба.

**Трэці таталітарны тапонім для раённага цэнтру — Кіраўск.**

Ён менш прыкметны, бо крыху ўбаку ад трасы Менск — Гомель. Але назва *Кіраўск* таксама пахавала пад сабой старадаўнія тапанімічныя рарытэты.

Ужо ў XVI ст. гэта было вялікакняскае сяло *Качэрычы*, потым фальварак, цэнтар воласьці Бабруйскага павету. Назва ад прашчура зь мянушкай ці нават дахрысьціянскім беларускім імем *Ка́чар*. У 1935 годзе бальшавікі ва ўсім СССР пераймяноўвалі ўсё што можна ў гонар акурат застрэленага камуністычнага дзеяча Сяргея Кірава (які да таго ў сваю чаргу масава расстрэльваў так званых контррэвалюцыянэраў, у тым ліку сьвятароў і вернікаў). Так і *фальварак Качэрычы* перайменавалі ў *Кіраўск*, утварылі *Кіраўскі раён*, але з цэнтрам у суседняй вёсцы *Старцах*, якую пазьней пераназвалі ў *Кірава*. Потым перанесьлі цэнтар *Кіраўскага* раёну ў пасёлак *Кіраўск*, а ў 1955-м *Кіраўск* аб’ядналі зь вёскай *Кіравам*. Тэатар тапанімічнага абсурду.

Вёска *Старцы* папала пад раздачу з дадатковай матывацыяй. Маўляў, старцы — гэта жабракі, назва абразьлівая, вось *Кірава* неабразьлівая. Але, як сьведчыць гісторыя, тут людзі жылі заможна. Увогуле дзіўна было б, каб назва вёскі паходзіла ад жабракоў, яны ж кампактна не жывуць. Папраўдзе возны Бабруйскага замку, які меў двор у Качэрычах, даў сваім людзям, якія вартавалі замак, а таксама зьбіралі падаткі зь сялянаў, як тады належала, па дзьве валокі зямлі.

А словам *старац* у старабеларускай мове называлі службовую асобу — старасту, зьбіральніка падаткаў. Напрыклад, *старац сярэбраны* адказаваў за збор падаткаў у воласьці. Бываў і *старац мядовы* ды іншыя.

Болей пра напоўненасьць спрадвечных беларускіх назваў — у наступных тэкстах. А пакуль што пачысьцім гістарычную памяць ад відавочных таталітарных напластаваньняў.

# Ігумен → Чэрвень. Шацілкі → Сьветлагорск. Паўзучая тапанімічная прапаганда

Ёсьць назвы-навадзелы, якія не прапагандуюць камуністычную ідэалёгію толькі на першы погляд. Вёсак пакуль не чапайма, разьбярэмся найперш з гарадамі.

***

Вось горад **Чэрвень**. Здавалася б, слова і беларускае, і не зьвязанае з барабаннай прапагандай. Але ўсё ня так проста.

У *Чэрвень* перайменавалі ў 1923 годзе *Ігумен*, бо бальшавікі яго ўзялі ў чэрвені 1920 году і бо Ігумен — рэлігійны назоў, ад кіраўніка манастыра ў царкоўнай ярархіі, а бальшавікі былі, калі хто забыў, зацятыя атэісты і забойцы сьвятароў. Чаму перайменавалі ў Чэрвень, а не ў „Іюнь“? Бо тады яшчэ адбывалася так званая беларусізацыя, палітыка прываблівання беларусаў да новай улады.

*Ігумень* — такая яго першая назва — вельмі старажытны горад. Першая згадка — у 1387 годзе, як і пра Майдэборскае права Вільні. Праўда, манастыра ў Ігумені не было і адпаведна не магло быць ігумена. Затое ў навакольлі дзьве ракі *Ігуменкі,* а да назваў рэк манастыры звычайна не спрычыняліся; да таго ж імёны паселішчаў гістарычна ўтвараюцца ад назваў рэк, а не наадварот.

Паводле тапаніміста Івана Яшкіна, для беларускай мясцовай геаграфічнай тэрміналёгіі тыповыя словы ад кораня *гумно*: поле ці ўрочышча маглі назваць *гумяньнё, падгу́меньне, гу́мнішча*; вёска *Гумны* недалёкага Крупскага раёну, сяло *Гумня* на возеры *Гумне* (Полацкі павет, XVI ст.). Дык вось пра Ігуменскую воласьць у сярэдзіне XV ст. пішуць *districtum Humyen*.

Карацей, назва, на маю думку, паходзіла не ад імя царкоўнае пасады, але ад зусім нэўтральнага гумна для збожжа. Але бальшавікі доўга не разьбіраліся і яе не пашкадавалі. І рэчку не ашчадзілі, перайменавалі ў *Чэрвенку*.

Быў Ігуменскі павет. Вялікі наш кампазытар Станіслаў Манюшка нарадзіўся ў маёнтку *Убелі* менавіта ў Ігуменскім павеце, а ня ў Чэрвеньскім раёне.

Урэшце назва Чэрвень абярнулася для гораду змрочным сымбалізмам. 26 чэрвеня 1941 году тут ва ўрочышчы Цагельні НКВД расстраляў каля трох тысяч вязьняў перасыльнае турмы — беларусаў, палякаў, літоўцаў ды іншых.

***

Немалы і эканамічна важны горад цяперашні **Сьветлагорск**. Але названы ён так толькі ў 1961 годзе, у зьвязку з пабудоваю буйной электрастанцыі. Назва ня проста банальная — у Расеі чатыры такія паселішчы — але яна практычна дэзарыентуе, бо няма над Бярэзінай гор. Ізноў жа паселішча даўняе, маёнтак *Шацілінскі Востраў* згадваецца пад 1560 годам як уласнасьць

Рамана Шацілы. Лёсам паселішча пасьля сьмерці Шацілы займаецца сам Жыгімонт III (паводле ВКЛаўскай нумарацыі) Аўгуст. Потым яно завецца *Шацілавічы* і ўрэшце ў XVIII ст.— *Шацілкі*, шляхоцкая ваколіца. Пазьней і чыгуначная станцыя звалася Шацілкі, цяпер Сьветлагорск-на-Бярэзіне, каб адрозьніваць ад штампаваных блізьнятаў.

*Шаціла* — тыповае беларускае прозьвішча, ад мянушкі ці імя дахрысьціянскага, са значэньнем станоўчым — няўседлівы і рухавы чалавек — і больш адмоўным — які гойсае бяз справы. У кожным разе запамінальнае. Дарэчы, у савецкі час быў такі міністар фінансаў БССР Баляслаў Шаціла, які нават у 70-я і 80-я гады публічна выступаў толькі па-беларуску. У кожным разе ў цяперашнім цэнтры гораду ніякай „Сьветлай гары“ няма, нават Леніна няма, а Раман Шаціла ў мэтале стаіць. І турысты ці маладыя пары ідуць да яго, а не да агняноснага Прамэтэя, пастаўленага на ўезьдзе ў горад. Відаць, выеў-такі Дзэўсаў арол Прамэтэеву пячонку.

Хаця вогнепаклонства і наагул паганская містыка ў Шацілках нікуды не падзеліся. Праўда, яны не зьвязаныя з электрастанцыяй і Прамэтэем. Вось і народжаны там гурт Re1ikt сьпявае пра тое самае: „*Каб акрыяць — выпі нашае травы*...“

***

Паводле ўкраінскага закону (а ён дэталёва распрацаваны, ёсьць чаму павучыцца) падлягаюць перайменаваньню і дэмантажу назвы і аб’екты,

зьвязаныя ня толькі з адыёзнымі пэрсанажамі ды ідэалягемамі, але таксама зь дзейнасьцю камуністычнай партыі ў цэлым. Напрыклад, з усталяваньнем яе ўлады, з антырэлігійнымі кампаніямі (пад гэта падпадае Чэрвень — былы *Ігумен*), з так званымі вялікімі будоўлямі камунізму (як Сьветлагорск).

Спрашчэньне *Шацілавічы — Шацілкі* ўласьцівае жывой беларускай тапанімічнай практыцы. Так *Баранавічы* іхныя жыхары зь любоўю завуць *Баранкі*. Што да Шацілак — Шацілавічаў, няхай свае сымпатыі выкажуць самі шацілкаўцы або шацілаўцы (між іншым, украінскі закон прадугледжвае мясцовыя рэфэрэндумы толькі ў крайнім выпадку, і не пра тое, ці наагул пераймяноўваць, а толькі на што менавіта пераймяноўваць).

## Як расейскія пісьменьнікі пакрыўдзілі наш старажытны Прапойск

Вышэй мы ўжо разважалі пра Акцябарскі-*Рудобелку*, Кіраўск-*Качэрычы*, Дзяржынск-*Койданаў*, Чэрвень-*Ігумен* і Сьветлагорск-*Шацілавічы* як пра ідэалягічныя пераназваньні, у пэрспэктыве падлеглыя скасаваньню.

Іншыя савецкія перайменаваньні гарадоў у Беларусі наўпрост не падпадаюць пад крытэры дэкамунізацыі. Камуністычная ўлада быццам бы дбала пра замену абразьлівых для жыхароў назваў. Ці так гэта папраўдзе?

***

Вось **Слаўгарад.** Старэйшыя людзі яшчэ нядаўна па-ранейшаму звалі свой горад *Прапойск*, *Прапоськ*, *Прупой*. Ён на рацэ *Проні* (ад *праняць* ‘прарыць’), фіксавалася назва *Пропа*; а яе вусьце ў Сож завуць *Пропасьць* за стромыя берагі. Гэта сьведчыць лінгвіст Іван Яшкін, які з таго краю паходзіць. Ад назвы *Пропасьць* утвараюцца *Прапошаск* ці *Прапоськ*; *Прапойск* можа быць і ад формы *Пропа*.

Чаму васьмісотгадовы Прапойск стаў раптам Слаўгарадам? Галоўная прычына — тое, што назва гораду апынулася ў 1944 годзе ў цэнтры ўвагі савецкага вайсковага камандаваньня і прапаганды.

Расейскамоўным і расейскадумным генэралам і ня толькі чулася ў ёй выключна расейскае слова „пропойцы“. Хоць у нас у розных рэгіёнах аналягічны кантынгент завецца хутчэй *п'я́ніца* ці *п'яні́ца*, *п'янюга*, *пітох*, *пітун*, *выпівака*, *апівоха*. Нямала ёсьць словаў зь іншымі каранямі, напрыклад *жлуктач*, *бардахлыст* у Насовіча.

Расейскае ўспрыманьне назвы гораду мацавалі вядомыя пісьменьнікі. Канстанцін Сіманаў хоць і ваяваў на Магілёўшчыне, а значыць, бачыў тутэйшы край і людзей, але пісаў:

*Должно быть, название это*
*Недаром Пропойску дано,*
*Должно быть, и зиму, и лето*
*Там пьют беспробудно вино.*
*Должно быть, в Пропойске по-русски*
*Грешит до конца человек,*
*И пьет, как в раю,— без закуски,*
*Под дождик, под ветер, под снег.*

Яшчэ і абяцае ў тым вершы надаць гораду „трезвое имя“ „Протрезвенск“.

Падобна казаў і Веніямін Каверын (той, што „Два капітаны“), толькі прозай. Прыплёўшы да беларускага тапоніма чыста расейскія асацыяцыі.

*В названии Пропойск отцу почудилось нечто родное, потому что, подивившись меткости русского языка, он пустился в воспоминания о том, как некогда служил у одного генерал-майора. (Тот)...разденется до кальсон, плачет и пьет... Кухарка, пожилая, верующая, сорок лампадок,*

*почтенная, наливалась с утра как налим. ...Пьянка поголовная. Чуть не погиб.*

(Раман „Открытая книга“)

Такая вялікадзяржаўная і абразьлівая для беларусаў моўная глухата.

Легенда кажа, што ў 1944 годзе дзьве савецкія дывізіі, якія бралі горад, прэтэндавалі на званьне гвардзейскіх. Такім дывізіям звычайна давалі імя ў гонар адпаведнага гораду: Таманская, Палтаўская. Адпаведна мусіла зьявіцца і Прапойская, і генэралы прыйшлі ў жах. Але больш праўдападобна, што салют у Маскве ў гонар узяцьця Прапойску абразіў Сталінава вуха. Карацей, у траўні 1945 году прэзыдыюм Вярхоўнага савету БССР, вядома ж, на просьбу працоўных, перайменаваў старажытны горад у безаблічны Слаўгарад. Назва штучная, банальная і дэзарыентуе, бо Слаўгарады ёсьць і ў Расеі, і ва Ўкраіне (Дніпроўская і Сумская вобласьці).

А тыя самыя працоўныя, якія нібыта прасілі ўладу забраць імя ў іхнага гораду, як сьведчыць пісьменьнік Іосіф Сёмкін родам зь недалёкай Крамянкі, так і засталіся міжсобку *прапайшчане*, *прапайск**і**я*.

***

Наступны горад, пра які гаворка, таксама заснаваны нашымі продкамі ля вусьця меншай ракі, што ўліваецца ў большую, і атрымаў імя ад меншай. Дзьвінскія *Друя*, *Дзісна*, *Полацак*, *Віцебск* — усе стаяць на меншых рэках з адпаведнымі назвамі. Так і *Дрыса*.

Паселішча Дрыса старажытнае. У XV ст. гэта была асобная воласьць, якая належала да Полацку. Родам з самой Дрысы ці з навакольля мноства выдатных людзей, напрыклад паўстанец 1863 году і выдатны географ Ян Чэрскі. З Дрысай зьвязаны лёс Эдварда Вайвадзіша ды іншых беларускіх дзеячоў міжваеннай Латвіі. У Дрысенскім павеце нарадзіўся дзяяч эміграцыі Францішак Бартуль. І ніхто з дрысенцаў не саромеўся свайго паходжаньня.

Але не шукайма такога гораду на сучаснай мапе. З 1962 году гэта *Верхнядзьвінск*. І не шукайма лёгікі ў такой назьве, бо Полацак і Віцебск вышэй па Дзьвіне. Дрыса як бы Дзьвінск Верхні стасоўна гістарычнага Дзьвінску, але той цяпер у Латвіі і афіцыйна Даўгаўпілс, ягоную беларускую назву ў часы БССР не было прынята ўспамінаць.

Між іншым, *Верхнядзьвінскі* — найдаўжэйшая назва раёну ў Беларусі.

Менавіта ў 1960-я гады на Беларусь нахлынула чарговая хваля перайменаваньняў. Спрадвечныя тутэйшыя тапонімы расейскаму вуху чыноўнікаў здаваліся немілагучнымі. Так і з Дрысай. Але фізіялягічны дзеяслоў тут ні да чога, бо яго поўны корань заканчваецца на -т-; ён этымалягічна блізкі да анг. dirt „бруд“.

А корань *дрыс*- балцкі. *Дрыса* — характэрны для рэгіёну гідронім. Так завуцца возера і рака. Да таго ж кораню ўзыходзяць назвы ракі *Дрысьвята*, возера і мястэчка *Дрысьвяты*. Магчыма, той самы корань з чаргаваньнем *дры-/*

*дру-* маюць *Друя, Друць*. Іван Яшкін знайшоў ва Ўсходняй Беларусі назву *дры́сак* або *дрыса́к* — іскрак (калчадан) ці жалезная балотная руда. Карацей, у назьве *Дрыса* зашыфравана нямала старадаўніх таямніц.

***

Прышлыя камандзёры не разумелі беларускае мовы, ня ведалі гісторыі ды мелі свае ўяўленьні пра паліткарэктнасьць, як бы цяпер сказалі, ды эстэтычнасьць. На маю думку, у нас дэкамунізацыя тапаніміі мае быць неаддзельная ад яе дэрусыфікацыі, пазбаўленьня ад усяго адміністрацыйна накінутага. Нават калі ў адвольных псэўдаэстэтычных заменах старых беларускіх тапонімаў няма сьлядоў таталітарнай ідэалёгіі.

## Як палюбіць Савецкі раён?

Да ўкраінскага досьведу дэкамунізацыі савецкіх геаграфічных назваў мы будзем зьвяртацца неаднойчы. Украінцы часткова дэкамунізавалі і дэкалянізавалі сваю тапанімію за два дзесяцігодзьдзі незалежнасьці, але несыстэмна і нераўнамерна. Таму ўрэшце спатрэбілася апошняя генэральная тапанімічная прыборка, на гэты раз хуткая і рашучая.

Асобная тапанімічная група — назвы **раёнаў** у гарадох. У штодзённым жыцьці гараджанін безупынна сутыкаецца з назвай адміністрацыйнага раёну, у якім жыве. А назвы ж уплываюць на сьвядомасьць.

Гэтыя раёны як адміністрацыйныя адзінкі ствараліся ў савецкі час. Называючы іх, камуністы не зважалі на тапанімічныя традыцыі. Для ўсяго Савецкага Саюзу быў стандартны набор найменьняў гарадзкіх раёнаў. Праілюстраваць яго лёгка акурат на прыкладзе Беларусі. У нас падзяляюцца на раёны сем гарадоў — Менск, абласныя гарады і Бабруйск. У Менску раёнаў дзевяць, у Берасьці ці Бабруйску па два, а ўсіх разам гарадзкіх раёнаў 24.

Зь іх:

*Ленінскіх* 5,

*Кастрычніцкія* 4,

*Першамайскія* 3,

*Савецкіх* і *Маскоўскіх* па два,

*Фрунзэнскі* адзін.

Разам 17 (з 24) — чыста ідэалягічныя, як прапагандысцкія плякаты, і безаблічныя. Вось як любіць свой родны Ленінскі ці Фрунзэнскі раён?

*Все в районе этом дружат*
*И друг другу честно служат,*
*И всегда дают советы*
*По-соседски от души.*
*Голосами детства детский*
*Милый мой район Советский.*
*Милый мой район Советский,*
*Свои тайны расскажи.*

Гэта ня сьцёб. Гэта афіцыйны гімн Савецкага раёну ў Менску, вэртыкальныя айцы якога такім чынам укараняюць у падуладных савецкі раённы патрыятызм.

Астатнія назвы раёнаў — Цэнтральны, Чыгуначны, Заводзкі — хоць і выконваюць пэўную арыентацыйную функцыю, але ніяк не зьвязаныя з традыцыйнымі імёнамі зямлі. Дарэчы, Заводзкі раён Менску раней быў Сталінскім, а значыць, досьвед частковай дэідэалягізацыі назваў раёнаў быў нават у савецкі час.

І толькі адзін-адзіны ў Беларусі — з дваццаці чатырох — Навабеліцкі раён Гомля мае назву з традыцыйнай матывацыяй. Яна зьберагае тапанімічную памяць пра колішняе асобнае места Новую Беліцу на левым беразе Сажа. *Новая Беліца* (*Навабеліца*) некалі была цэнтрам павету. Назва *Навабеліцкі раён* выдатна арыентуе месьцічаў і гасьцей ды, вядома, мацуе лякальны патрыятызм.

У кожным нашым горадзе ёсьць назвы старых гарадзкіх пасадаў, прадмесьцяў і слабодаў, паглынутых горадам вёсак. У Магілёве гэта *Старое Места* і *Лупалава*, у Горадні *Замак*, *Новы Сьвет* і *Дзевятоўка*, у Віцебску *Ўзгор'е* ды *Маркаўшчына*, у Берасьці *Кіеўка*, *Граеўка*, *Трышын*, *Замухавечча*. Кожны месьціч лёгка прадоўжыць пералік. Імёны гэтыя напоўненыя тапанімічным зьместам, легендамі, асацыююцца зь мясцовымі традыцыямі ды нават адметным мэнталітэтам. У Менску ганарыцца сваёй малой радзімай жыхар *Грушаўкі*, *Масюкоўшчыны*, *Асмалоўкі* ды, вядома, славутых *Шабаноў*:

*Мы вучыліся з табой у розных школах,*
*Не суседнічалі нашыя дамы,*
*З тваіх вокнаў адкрываўся Верхні горад,*
*А маімі закрываліcь Шабаны.*

Гэта „Балада пра таварыша Гастэлу“ Зьмітра Бартосіка, а ў куплеце йдзецца пра сацыяльна-тэрытарыяльную несумяшчальнасьць дзяўчыны і хлопца — новага Гастэлы.

***

Абсурд, але ўсе названыя прыгожыя, жывыя і несумненна беларускія тапонімы, адрозна ад Савецкіх-Першамайскіх раёнаў, фактычна ня маюць афіцыйнага статусу.

Што зрабілі ўкраінцы? Большыня цяперашніх назваў раёнаў Кіева — акурат ад старых тапонімаў: Пячэрскі, Падольскі, Абалонскі, Сьвяташынскі, Дарніцкі раёны. Зусім нядаў-

на ў межах дэкамунізацыі ў Дніпры, былым Днепрапятроўску, пайшлі падобным шляхам. Жовтневий (г.зн. Кастрычніцкі) раён стаў Саборным, Ленінскі раён стаў Новакада́цкім (ад назвы паглынутага старога гораду), а Краснагвардзейскі — Чачаліўскім (Чачаліўка — даўнейшая слабодка). Хаця ёсьць і мэмарыяльная назва: Бабушкінскі раён (быў такі бальшавік) стаў Шаўчэнкаўскім.

Зрэшты, ва Ўкраіне, як і ў нас, гарадзкія раёны вялікія і звычайна большыя за старыя традыцыйныя слабоды. А вось Варшава, колькасьцю насельніцтва крыху меншая за Менск, падзяляецца на 18 дзяльніцаў — удвая-ўтрая больш кампактных за нашыя раёны, таму зручнейшых для адміністраваньня. А галоўнае — з рэальнымі правамі самакіраваньня і рэальнымі ў тыя самакіраваньні выбарамі. Назвы варшаўскіх раёнаў традыцыйныя, пазнавальныя цягам вякоў: Жалібаж, Макотаў, Ахота, Урсынаў, Сьрудмесьце, за Віслай — Праґа-Поўнач і Праґа-Поўдзень. Адпаведна і мясцовы патрыятызм жыхароў зьвязаны з гэтымі адвечнымі назовамі, з прывязанымі да іх гарадзкімі легендамі.

Магчыма, калі беларускі народ верне гарадам і раёнам самакіраваньне, высьветліцца, што аптымальная канфігурацыя раёнаў іншая. Натуральным чынам у афіцыйны ўжытак увойдуць народныя геаграфічныя назвы — ад паселішчаў, а таксама меншых рэк. У Менску гэта могуць быць Кальварыйскі і Цнянскі, Сьляпянскі і Сера-

бранскі, Лошыцкі раёны. Або проста Серабранка ці Лошыца.

А калі межы гарадзкога раёну як штучнага, негістарычнага ўтварэньня зусім не супадаюць з старадаўнімі або традыцыйнымі назвамі паселішчаў, імя такога раёну можа быць мэмарыяльнае. Напрыклад, Каліноўскі, Касьцюшкаўскі або Сапегаўскі раён.

## Квасыч, Капірыч і Рыгорыч: імя па бацьку як чужы брэнд

Беларускую інфармацыйную прастору абышла навіна: Антось Вусовіч, фізык і пэдагог, у выніку чатырохгадовага дужаньня з пашпартна-міліцэйскімі органамі дамогся-такі пашпартных запісаў адпаведна сваім патрабаваньням.

Па-першае, у пашпарт запісалі беларускую нацыянальную форму імя *Антось*. Па-другое, імя і прозьвішча і па-расейску запісаныя карэктна — *Антось Вусович*, мэтадам трансьлітарацыі, а не „Антон Усович“ (гэта ўсё роўна як запісаць імя польскага прэзыдэнта Andrzej Duda як „Андрей Дудо“). Па-трэцяе, для міжнароднага ўжытку імя і прозьвішча набраныя беларускаю лацінкаю, а не псэўдаангельскім трансьлітам, праўда, без дыякрытычных значкоў над **Ś** і **Č** (бо кампутары пашпартна-візавага ведамства ў XXI стагодзьдзі такіх літараў, бач, ня маюць). Г. зн. *Antos Vusovic* (спрошчаная вэрсія ад *Antoś Vusovič*).

А яшчэ ён, спаслаўшыся на арт. 33 Закону аб мовах, паводле якога

*„...асабовыя імёны і прозьвішчы ўжываюцца ў адпаведнасьці з нацыянальнай іменаслоўнай традыцыяй, нормамі і правіламі беларускай* [у гэтым выпадку]... *мовы“,*

запатрабаваў не пісаць імя па бацьку ў асабовым дакумэнце. Дарэчы, можа, хто ня ведае, але

апошнія інструкцыі Міністэрства ўнутраных справаў дапускаюць, што ў грамадзянаў Беларусі можа ня быць імя па бацьку. Прыкладам, стандартная форма заявы аб наданьні зьвестак з рэгістру насельніцтва.

Але чамусьці менавіта гэтае пажаданьне А. Вусовіча выклікала спрэчку і нават непрыманьне ў сеціўных дыскусіях. Маўляў, адмова ад імя па бацьку — непавага да бацькі. Да таго ж Вусовіч патрабаваў запісаць ягонае поўнае імя ў „спрадвечнай беларускай форме“— без імя па бацьку, якое ёсьць расейскай традыцыяй. І тут на яго напалі пэўныя гісторыкі. Маўляў, разгортваеш які-хаця беларускі дакумэнт эпохі ВКЛ — і там імёнаў па бацьку безьліч, а значыць, Вусовіч выдумляе.

***

Разьбярэмся.

Вядома ж, бывалі ў нашых продкаў у даўніну імёны па бацьку. Дасьледніца імёнаў Ганна Ўсьціновіч аналізуе даўнейшыя спосабы менаваньня жыхароў Горадзеншчыны й Берасьцейшчыны і робіць выснову:

У XV—XVIII стст. адсутнічаў адзіны спосаб пэрсаніфікацыі асобы … тыпу сучасных прозьвішчаў. Гэтая акалічнасць ускладняла ідэнтыфікацыю асобы. …Каб пазьбегнуць гэтай нязручнасьці, выкарыстоўваліся … другое ўласнае імя, імя-мянушка, імя па бацьку, назва ўладаньня або мясцовасьці. …Ужываліся адна-,

двух-, трох- і чатырохскладнікавыя назвы, якія ўтвараліся фармантамі *-овичl-евич, -ичl-иц, -еняl-эня, -енко, -овl-ев, -ин, -скийl-цкий; -овнаl-евна, -инна, -анкаl-янка, -овичl(а)l-евич(а), -оваяl-евая, -оваl-ева, -иная, -ихаl-ыха.* Найбольш пашыранымі былі двухскладнікавыя намінацыі, у якіх другі кампанэнт на *-овичl-евич, -ич* не зьяўляўся прозьвішчам, а выступаў у якасьці імёнаў па бацьку (*на Войтка Федковича — Войткова отца Федька*, *Тимохъ Миткевичъ — отецъ Митко*).

Тое самае было ўва ўсіх іншых эўрапейскіх народаў. Але ўзьнікла эканамічна-юрыдычная патрэба дакладна вызначаць спадкаемцаў ды падаткаплатнікаў. Таму сярэднявечныя імёны па бацьку ў Эўропе практычна ўсюды сталі імёнамі ад продка старэйшага калена, г. зн. ператварыліся ў прозьвішчы, запанавала эўрапейская мадэль „асабовае імя + сямейнае імя (прозьвішча)“.

Ёсьць вынятак. Адзіны эўрапейскі народ — ісьляндцы — на сваім краі сьвету, дзе ўсе ўсіх і так ведаюць, празь вякі захавалі архаічную мадэль „асабовае імя + імя па бацьку“. *Ingólfur Arnar**son*** — Арнараў сын — скандынаўскі першапасяленец выспы. Вядомая лёгкаатлетка (бег з бар’ерамі) *Guðrún Arnar**dóttir***, адпаведна, будзе Арнарава дачка. Затое прозьвішчаў у ісьляндцаў няма і яны нават забароненыя законам.

Ісьляндзкі спосаб ідэнтыфікацыі асобы некалі быў агульны для многіх эўрапейцаў. Але ў іншых народаў Эўропы імя па бацьку ператва-

рылася ў прозьвішча. Так узьніклі прозьвішчы блізкароднасных ісьляндцам нарвэжцаў, швэдаў і данцаў на *-son/-sen*.

**Адамовіч — нашчадак Адама**

Тое самае ў беларусаў. Ян Станкевіч у сваім „Маленькім маскоўска-беларускім слоўнічку“ адвёў праблеме асобны разьдзельчык.

Ветлых зваротаў па бацьку („по имени и отчеству“) ў Крывічоў няма і ніколі ня было. Былі калісь назовы сыноў на -іч (Ільлініч, Хадасевіч, Пятровіч), але яны ня былі ветлымі зваротамі …Пазьней гэтыя назовы сталіся прозьвішчамі.

Перш у манаршых радзінах. Скажам, Альгерд і Кейстут — Ґедымінавічы, бо Ґедымінавы сыны. А ўжо іхныя нашчадкі — Вітаўт, Ягайла, Жыґімонты І, ІІ і ІІІ завуцца Ґедымінавічамі як радзінным найменьнем. Зь цягам часу падобна адбылося ўва ўсіх станах Вялікага Княства: імёны па бацьку сталі прозьвішчамі *Адамовіч, Барткевіч, Пацэвіч, Пятровіч*. Акрамя гэтай — найбольш пашыранай — мадэлі, таксама ад колішніх найменьняў паводле бацькавага імя, прафэсіі ці мянушкі паходзяць беларускія прозьвішчы накшталт *Клімук, Міхалок*, *Петрушэнка*, *Дзямідчык, Глебка, Кавалец, Кірпічонак* (ад *кірпа* ‘кірпаты’) і г. д.

Жаночыя найменьні ўяўлялі сабою адметную разбудаваную сыстэму з асобнымі ўтварэньнямі

ад імёнаў бацькі ды мужа (*Андрэевая Харужычавая Ейшыская Зафея Янаўна Сурвілянка*, Лідзкі павет, 1567 г.).

Аўтар першых вялікіх працаў у беларускай антрапаніміі акадэмік М. Бірыла лічыў, што прозьвішча як элемэнт поўнага найменьня асобы ў Беларусі канчаткова сфармавалася ў XVII—XVIII ст.

Сапраўды, вось інвэнтар гораду Вяліжу з попісам падаткаплатнікаў, 1772 год — перад самай маскоўскай акупацыяй. Вуліца *Замак да Дзьвіны ідучы*. Уласьнікі пляцаў: *Я[сны] П[ан] Мацей Грыжэвіч. Фляр'ян Станкевіч. Ян Станкевіч. Ян Багдановіч. Прахор Semіпядны. Апанас Кантараў. Аўдзюня, удава. Даніла Рацкевіч. Антон Гінак. Міхал Тулкоўскі. Клім Іваноў. Халімон Кузьмін. Андрэй Гніда. Несьцер Шчукін. Якуш Гніда. Улас Данькевіч. Я[сны] П[ан] Францішак Лявіцкі.*

| | Place. | Hiberna. | |
|---|---|---|---|
| | | Złł. Pol. | Gr. |
| **Zamek ku Dzwinie idąc.** | | | |
| J. P. Maciey Gryżewicz | 1 | 12 | — |
| Floryan Stankiewicz | 1 | 3 | — |
| Jan Stankiewicz | 1 | 3 | — |
| Jan Bohdanowicz | 1 | 10 | — |
| Prachor Siemipiadny | 1 | 3 | — |
| Apanas Kantorow | 1 | 5 | — |
| Audziunia, wdowa | 1 | 1 | — |
| Daniło Rockiewicz | 1 | 4 | — |
| Anton Hinek | 1 | 7 | — |
| Michal Tułkowski | 1 | 6 | — |
| Klim Iwanow | 1 | 3 | — |
| Chalimon Kuzmin | 1 | 3 | — |
| Andrey Hnida | 1 | 5 | — |
| Nieścier Szczukin | 1 | 4 | — |
| Jakusz Hnida | 1 | 6 | — |
| Ulas Dańkiewicz | 1 | 54 | — |
| J. P. Franziszek Lewicki | 1 | 8 | — |
| Place puste miasto płaci | 2 | 7 | — |

Як бачым, мадэль „імя + прозьвішча“ ўжо пануе, імёнаў па бацьку як „сярэдняга складніка“ няма ні ў кога — што ў звычайных мяшчанаў, што ў „ясных паноў“. *Багдановіч* такое самае прозьвішча, г.зн. сямейнае найменьне, як і *Лявіцкі* ці *Тулкоўскі*. Гэта крайні ўсход беларускай этнамоўнай прасторы, таму бачым і мадэль прозьвішчаў на *-оў/-ін*. У цэлым антрапанімічная карціна цалкам беларуская.

### „Глаза вылезли, борода задралась“

У Расеі ж разьвіцьцё сыстэмы найменьня асобы пайшло зусім інакш. Прычына — адрозьненьне ў статусе розных формаў колішніх імёнаў па бацьку:

Трэба адзначыць розьніцу ва ўжываньні другога члена найменьняў на *-овичь (-евич)* у Маскоўскай дзяржаве, дзе імя па бацьку на *-овичь (-евич)* у XV–XVI стст. маглі насіць толькі прадстаўнікі вышэйшых слаёў пануючага класа, а ўсе іншыя асобы мелі імя па бацьку на *-ов*, *-ин*, і ў Літоўскім княстве, у склад якога ў разглядаемы перыяд уваходзіла тэрыторыя сучаснай Беларусі, дзе падобнага абмежаваньня не было. У „Тысячнай кнізе“ Маскоўскай дзяржавы 1550 г. прыкладна на тысячу выпадкаў імя па бацьку на *-овичь (-евич)* маюць 28 асоб, на *-ин* — 41 асоба, на *-ого* — 2 асобы і больш 900 асоб — на *-ов (-ев)*. Ва Ўхвале 1528 г. адваротны малюнак. На 1500 выпадкаў імя па бацьку на *-овичь (-евич)* маюць звыш 1200 асоб і толькі каля 50 — імя па бацьку

на *-ов (-ев)*, *-ан*. Паступова ўжываньне імён па бацьку на *-ов (-ев)* у Маскоўскай дзяржаве і імён па бацьку на *-овичь (-евичь)* у Літоўскім княстве становіцца ўстойлівай кніжнай традыцыяй, якая... адыграла немалаважную ролю ў фармаваньні прозьвішчаў на *-оў (-еў)* і *-овіч (-евіч)*.

Мікалай Бірыла. Беларуская антрапанімія: Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы. Мінск, 1966

Згаданая „Ўхвала 1528 г.“— гэта Ўхвала на Вялікім сойме Віленскім. Для беларусаў тыповыя былі імёны па бацьку на *-віч*, для асноўнай масы маскоўцаў — на *-ов (-ев)*. Статус імя па бацьку ў Маскоўскай дзяржаве апісаў і вядомы расейскі лінгвіст Афанасій Сяліщчаў:

„…Імёнам па бацьку на ***-ич, -ович*** у афіцыйным ужытку нададзенае было вузкасаслоўнае значэньне. Так належала менаваць князёў і цароў і блізкіх да іх асобаў. Як праява вышняй ласкі разглядалася даραванае нямногім асобам права менавацца імем па бацьку з заканчэньнем ***-ич, -ович, -евич***. Ранейшыя прозьвішчы, што атрымаліся з імя па бацьку на ***-ич***, зьмяняліся на загад Масквы. Так, у Пскове … прозьвішчы *Строиловичи, Люшковичи, Ледовичи* ды інш. зьмяніліся на *Строиловы, Люшковы, Ледовы*...“

Селищев А. М. Происхождение русских фамилий, личных имен и прозвищ. Москва, 1948

Кацярына II зацьвердзіла сьпіс тых, каму належала „поўнае“ імя па бацьку на *-ич*. Гэта чыноўнікі найвышэйшых пяці службовых клясаў. Службоўцы 6–8 клясаў мелі права на „прасьцейшае“ імя па бацьку („полуотчество“) на *-ов, -ев, -ин,* а ніжэйшым забаронена было пісацца зь імем па бацьку.

А. Сялішчаў бачыць гэта часткаю шырэйшае карціны сацыяльнай дыскрымінацыі ў расейскай мове таго часу:

„Паралельна з абмежаваньнем ужытку імёнаў па бацьку на *-овичь, -евич*, якія набылі надта прывілеяванае значэньне, … адбываўся працэс зьневажальнага слоўнага выяўленьня асобы перад вялікім князем і царом: і сяляне, і баяры, і сьвятарства ўсялякага рангу — ня „люди“, а „людишки“; у іх ня „честь“, а „честишка“; яны абараняюць часам не „животы“ свае, а „животишка“ (маёмасьць, жывёлу), сябе і сваіх блізкіх называюць імёнамі з суфіксамі памяншальнага і зьневажальнага значэньня“.

Расейскі мовазнаўца Леў Усьпенскі ваяваў у складзе Чырвонай арміі супраць Станіслава Булак-Балаховіча, але пазьней напісаў сэрыю добрых і нешавіністычных папулярызатарскіх кніг пра лінгвістыку, у тым ліку „Ты и твоё имя“.

Пра формы на *-вич* ён кажа: „*...На протяжении веков эта незаметная частица делила весь народ на господ и слуг*“. А ілюструе сказанае эпі-

зодам з раману Аляксея Талстоя „Пётр I“, дзе цар намаўляе купцоў вазіць тавар за мяжу, а купцы не адважваюцца. І вось цар выкладае апошні аргумэнт-заахвочваньне:

— А сам поедешь с товаром?.. Молодец!.. Андрей Андреевич, пиши указ... Первому негоцианту-навигатору... Как тебя,— Жигулин Иван, а по батюшке?
Жигулин раскрыл рот, поднялся, глаза вылезли, борода задралась.
— Так с отчеством будешь писать нас?.. Да за это — что хошь!
И, как перед Спасом, коему молился об удаче дел, повалился к царским ножкам...

Так, імёны па бацьку на *-вич* сталі ў Расеі прадметам зайздрасьці і статусу. Таму пасьля вызваленьня сялянаў у 1861 годзе іх сталі ўжываць усе станы поруч зь імем і прозьвішчам. Сфармавалася спэцыфічна расейская трохчасткавая сыстэма найменьня асобы.

Магчыма, што на яе замацаваньне ў расейскай мове паўплываў таксама іншамоўны кантэкст. Імя па бацьку ў тым ці іншым кшталце ўжываецца ў цюрскай, арабскай і некаторых іншых усходніх традыцыях.

Расейская акупацыя — у абліччы Расейскай і савецкай імпэрыяў — прынесла з сабой асыміляцыйную анамастычную палітыку, якая закранала і тапанімію, і найменьні людзей. Расейскі ана-

маст Уладзімір Ніканаў у 1986 годзе пісаў пра антрапанімічную сытуацыю ў СССР:

*„За прыкладам расейскай сыстэмы імёнаў ува ўсіх народаў нашай краіны распаўсюджваецца імя па бацьку, якога яшчэ 30–40 гадоў таму яны ня ведалі“.*

Не магу не дадаць ужо з сучаснасьці. Гвалтам навязваюць сваю мадэль, а потым самі ж і зьдзекуюцца з уяўных яе ўвасабленьняў у мовах, дзе „отчества“ няма (альбо яно ўтвараецца зусім інача): маўляў, як утварыць імя па бацьку ад грузінскага Сосо ці эстонскага Тыну.

Ніканаў зьвяртаў увагу на самастойную вагу „отчества“ ў расейскай мове, якое там ужо ў XIX стагодзьдзі магло ўжывацца асобна *„для выяўленьня пэўнага спалучэньня фамільярнасьці і павагі — напрыклад, у дачыненьні да прыгонных выхавальнікаў“*. І падаваў прыклады з Пушкіна — *Савельич* („Капітанская дачка“), *Филипьевна* („Яўгеній Анегін“).

**Іванавіч? Гэта я, значыць?**

А вось у Беларусі таго ж XIX стагодзьдзя імёнаў па бацьку ў народным словаўжываньні не было. Нядаўна апублікаваны „Канкарданс беларускай мовы XIX стагодзьдзя“— поўны слоўнік з кантэкстамі на аснове ўсіх вядомых тэкстаў; укл. Ніна Сянкевіч. Дык зь яго ясна вынікае, што імёнаў па бацьку беларусы міжсобку не ўжывалі.

Адзіным аўтарам, які ўкладаў у вусны сваім пэрсанажам імя па бацьку на *-віч* як форму звароту, быў Аляксандар Пшчолка, дастаткова спэ-

цыфічны дзяяч, тыповы „западноросс“, перакананы, што цёмнага беларускага мужыка ўратуе расейская асьвета.

У ягонай сатыры „Панскае ігрышча“ дурны селянін апісвае баль:

І-іх, заработалі нагамі: чэшуць, чэшуць, чэшуць, як брыклівая кабыла. Сталі. Чмыхаюць. Аддуваюцца. Труць лбы. Я адвярнуўся, падняў руку к носу, а паніч мяне цап во за гэта месца. Мікалай Іванавіч (гэта я, значыць), пройдзем вон туды. (…) Пашлі к будкам. Тут барыні манаполію прадаюць, толькі бутылкі не таго калібра…

Паніч называе селяніна *Іванавіч*, а той зьдзіўлена ўдакладняе: так, гэта мяне ён так заве. У беларускую рэальнасьць пераносілася расейская мадэль, у якой „отчество на *-вич*“ паказвала на высокі статус асобы.

І ў наступным XX стагодзьдзі беларуская літаратура спачатку ня сьведчыла пра імёны па бацьку ў побыце беларусаў. У Коласавай „Новай зямлі“ *-вічоў* нямала, вось так званая „сэсія“ палясоўшчыкаў — калегаў галоўнага героя:

*Тут быў Скварчэўскі, Ліхтаровіч,*
*Амброжык, Суднік, Астаховіч,*
*„Памдзей“, аб’ездчык і мысьлівы,*
*На пачастункі памаўзьлівы,*

але Ліхтаровіч ці Астаховіч — звычайныя нашыя прозьвішчы (якія паходзяць ад старадаўніх

іёнаў па бацьку). Уласна ж імя па бацьку зьяўляецца толькі ў Коласавай прозе. Раман „У палескай глушы“. Заежджы школьны інспэктар звараччаецца да мясцовага настаўніка: *Трахім Пятровіч*. А той адказвае: *Так, гаспадзін інспектар*. Колас дае зразумець, што гаварылі яны міжсобку па-расейску. Такіх выпадкаў у рамане толькі тры, і ўсе яны — да дзяржаўных службоўцаў, якімі былі і настаўнікі, ці іхных сямейнікаў.

Цікава, што Колас наўпрост закранае ў рамане тэму *-вічоў*, але імя па бацьку тут ні да чога:

Тутэйшае жыхарства лічыла яго палякам, сам жа пан падлоўчы з гэтым не згаджаўся.
„Я — ліцьвін“,— зь нейкаю гордасьцю зазначаў пан падлоўчы і сваю належнасьць да ліцьвіноў даводзіў … і тым, што яго прозвішча — Баранкевіч — мела канчатак на „іч“…
Даведаўшыся, што прозьвішча новага настаўніка Лабановіч, падлоўчы пры спатканьні зь ім прыметна выказаў адзнакі здавальненьня:
— То і пан — ліцьвін! — весела сказаў ён маладому настаўніку і пастукаў яго па плячы. Сваё ліцьвінства ён падкрэсьліваў пры кожным зручным выпадку, кажучы: „Мы, ліцьвіны, любім піць гладка!“

## „Копирыч“ як „Копипастыч“

Нездарма беларуская песьня-танец пра жанчыну завецца „Лявоніха“, а расейская — „Семё-

новна“. У Беларусі завядзёнка ў побыце называць чалавека проста Пятровіч або Пятроўна зьявілася толькі ў сярэдзіне XX стагодзьдзя пад магутным уплывам расейскай мовы, войска, масавай культуры. Уплыў працягваецца. Вось назіраньне аўтара падарожных нататак на расейскім рэсурсе „Сноб“:

Минск оглушает социальной рекламой. Он заботлив, настойчив и убедителен. Бросайка ты, братец, курить. В остальном — русский город поменьше Москвы и побольше Тамбова. Довольно пусто. Довольно чисто. ...Печенье „Слодыч“. Консервы „Помидорыч“. Копировальный центр „Копирыч“. Квас „Квасыч“. А главный тут Рыгорыч, он же Григорьевич, он же Батька, он же Лука.

Зь лінгвістычнага гледзішча цяжка запярэчыць. Такія другасныя, правінцыйныя „брэнды“ імітуюць звароты толькі па бацьку, ды яшчэ з моцнай рэдукцыяй (не „Михайлович“, а „Михалыч“),— чыста расейскую моўную зьяву (у інтэрнэт-жаргоне мэханічнае, нятворчае капіяваньне называюць англіцызмам „копі-паст“).

Выняткам магла б быць „Слодыч“ — у беларускай мове назоўнік жаночага роду, мадэль назоўніка якасьці, аналягічная словам *горыч* і *далеч* (корань *слод-*, праўда, з гістарычна польскім няпоўнагалосьсем). Слова прыгожае, паэтычнае, песеннае. *Што з сабой вазьму, а што пакіну?*

***Горыч** палыну ці **слодыч** мёду?* (Алфансас Малдоніс, пераклад Алеся Разанава). Але кіраўнікі былой бісквітнай фабрыкі вырашылі перапісаць слова ў мужчынскі род: „Чайный Слодыч“ (чытаецца „чяйный слодычь“). І яно перайшло ў разрад „Михалычей“ ды „Копирычей“.

**Васілёва дачка, ясна паннначка**
***(з валачобнай песьні)***

Трэба адрозьніваць ветлівы зварот па бацьку, абавязковую форму на *-віч, -ўна* і фармальную патрэбу пазначыць у дакумэнце бацькава імя. Між іншым, у пашпарце БНР графы „імя па бацьку“, як і іншых графаў для складнікаў асабовага найменьня, не было наагул.

Мікалай Бірыла зазначае, што ў дакумэнтах ВКЛ ужываліся, хоць нячаста, апісальныя канструкцыі з словам *сын*: *Ханец Мордасаў сын Карозіч* (Горадзенскі павет); *Марцін Асташоў сын Яцкевіча* (Слонімскі павет); *Іван Яцкоў сын Калбовіч* (Пінскі павет). Усе прыклады з Попісу (перапісу вайсковаабавязаных) 1567 г.

Форму гэтую натуральна ўжывалі беларускія дзеячы XX стагодзьдзя:

*Хай мне даруецца абмылка.*
*Затым з пашанай застаюсь*
*Ўладзімер, сын Адамаў, Жылка,*
*Па волі лёсу беларус.*
*(„Вельмішаноўны Пан Рэдактар...“, 1921)*

Яшчэ ў 1920-я гады, падчас кароткай беларусізацыі, у дакумэнтах імя па бацьку пазначалі родным склонам. Паводле аўтара даведніка „Як у нас клічуць“ Сымона Барыса, у пасьведчаньні аб нараджэньні гісторыка Леаніда Лыча (н. 8 лютага 1929 г.) было запісана *Лыч Леанід Міхасёў.* У школе хлопчык быў запісаны *Лыч Леанід Міхасевіч.* А пасьля вайны ў пашпарце ён быў ужо *Леанід Міхайлавіч.*

Калі носьбіт(ка) імя прынцыпова не заве сябе імем па бацьку на *-віч/-ўна*, але ў нейкім дакумэнце яго вымагаюць дзеля дакладнай ідэнтыфікацыі асобы, то зусім нармальна так і напісаць: *Пятроў* сын, *Васілёва* дачка.

Але сп. Вусовіч меў рацыю настаяць на праве абысьціся без імя па бацьку ў сваім *афіцыйным найменьні.*

Ці азначае гэта, што такі беларус менш шануе бацьку? Вядома ж, не. Павага да бацькоў уласьцівая беларусам, але выяўляецца ў іншым. А вось наша традыцыйная апошнімі стагодзьдзямі мадэль звароту і найменьня больш індывідуалістычная, зьвернутая непасрэдна да асобы, падкрэсьлівае яе самакаштоўнасьць. Для сьведчаньня ж усемагчымых ступеняў павагі да суразмоўцы беларуская мова мае шырокую палітру зваротаў, як больш афіцыйных, так і штодзённых (*спадар*, *дзядзька*, *Вашаць* і пад.).

***

Зразумела, імя па бацьку на *-віч/-ўна* за апошнія дзесяцігодзьдзі ўгнязьдзілася ў Беларусі.

Многія нават не падазраюць, што зусім нядаўна (паводле гістарычнага маштабу) беларусы ня ведалі такой антрапанімічнай мадэлі. Мой тэкст — ня спроба яе выкараніць, хай сабе будзе. (Хаця яшчэ зьвярнуся да праблемы імёнаў па бацьку ад беларускіх народных формаў імёнаў — *Алесь, Міхась, Пётра*).

Але спадар Вусовіч стварыў важны прэцэдэнт. Калі дзяржава, якая называе сябе беларускаю, ня дбае пра замацаваньне нацыянальнага іменаслоўнага канону, то яна прынамсі не павінна перашкаджаць сьведамым грамадзянам вяртацца да нацыянальнай традыцыі. І тады само жыцьцё вызначыць, якія формы найменьняў замацуюцца як нацыянальны стандарт.

## Колькі беларускіх імёнаў у Вэнэры і што такое Зорны Кол?

**Усе асноўныя зоркі й сузор'і маюць спрадвечныя беларускія імёны. Сіта, Вялікі Воз, Воўчая Зорка і нават Тры Каралі — на жнівеньскім небе.**

Жнівень — пара́ высока ўзьняць галаву. Прынамсі да зорнага неба. Паглядзім на яго зь беларускага моўнага гледзішча. Вось суседзі-літоўцы поруч зь міжнароднай астранімічнай намэнклятурай грэцка-рымскага паходжаньня ўжываюць свае народныя назвы. Групу зорак зь міжнароднаю назваю Пляяды палітоўску завуць *Sietynas* (я б пераклаў як Сітаўё, а менавіта *Сіта* — беларуская народная назва тае групы).

Нацыянальныя астронімы (імёны нябесных целаў) у Літве любяць. Sietynas — гэта і падпольная арганізацыя XIX ст., і часопісы — як адраджэнцкія пачатку дзяржаўнасьці, гэтак і адраджэнцкія канца 1980-х, і каапэратывы, і спартовыя клюбы, і фірма сьвяцільнікаў.

### Мілавіцу стварыў дэміюрг — Ластоўскі

І нам беларускі нябесны іменаслоў — дзякуючы магнэтызму астранамічных зьяваў — служыў бы невычэрпнаю крыніцаю найменьняў. Пакуль што ў нас у аналягічнай намінацыі ў лідэрах Вэнэра — дзякуючы многім беларускім най-

меньням, якія яна мае. Скажам, *Мілавіца*. Мала якія беларускія назвы сёньня параўнаюцца зь ёю ў міжнароднай вядомасьці. Натуральна, я пра „Мілавіцу“ — вытворцу жаночае бялізны. Хіба што трактар „Беларус“ больш чуваць у сьвеце. Любяць слова *Мілавіца* і паэты, і сьпевакі:

*Водар закінутага саду,*
*Ў небе зорка Мілавіца...*
*Таямніцы паркавых прысадаў*
*Пэўна, неаднойчы на чужыне*
*Будуць мроіцца і сьніцца.*

Верш напісаў Сяржук Сокалаў-Воюш для Палянэзу ля-мінор Міхала Кляофаса Агінскага ў музычны альбом „Я нарадзіўся тут“.

Але, пры ўсёй паэтычнасьці назвы, у яе народнасьці сумняваецца дасьледнік Цімох Авілін, які нядаўна выдаў грунтоўную кнігу „Этнаастраномія“ (выдавецтва „Тэхналёгія“, 2015).

Навуковым падыходам фізык Авілін дэканструяваў некаторыя моўныя прапановы нашых вялікіх адраджэнцаў. Так, ён даказвае, што імя *Мілавіца* для Вэнэры ўвёў ва ўжытак у 1926 годзе ковенскі часапіс „Крывіч“, дакладней, артыкул Андрэя Красьневіча „Крывічанскія назовы гвёзд“, напісаны на падставе пачутага аўтарам у Вопсе на Браслаўшчыне. Што ж, магчыма, рэдактар — рамантык і моватворца Вацлаў Ластоўскі — сёе-тое прыпісаў, у тым ліку паэтычнае імя Вэнэры. Але нават калі і так, імя *Мілавіца* бясспрэчна пацэліла.

Палявыя ж дасьледаваньні сьцьвярджаюць: вечаровую і ранішнюю Вэнэру нашыя продкі звалі адпаведна (і ня менш паэтычна J ) *Вечарніца* (*Вячорка*) ды *Заранiца* (*Заранка*).

Яе вобраз пад рознымі імёнамі не адпускаў Багдановіча.

*Ты ня згасьнеш, ясная заранaчка,*
*Ты яшчэ асьвеціш родны край.*
*Беларусь мая! Краіна-бранaчка!*
*Ўстань, свабодны шлях сабе шукай!*

Тая ж улюбёная Багдановічава зорка, але ня ранішняя-адраджэнцкая, а рамантычна-вечаровая, пад сваім лацінскім імем — у песенным вершы пра зорку Вэнэру. Музыка Сымона Рака-Міхайлоўскага, пра што часта забываюць, бо яго рэпрэсавалі бальшавікі ды забаранілі згадваць.

Карацей, маем выбар сынонімаў. (У старабеларускай акадэмічнай традыцыі Вэнэру-плянэту і Вэнэру — жарснае каханьне звалі Вэнус, бо ведалі лацінскую граматыку.) А сярод народных назваў яшчэ *Сьвітальная зорка* — пра ранішнюю Вэнэру, *Месяцова памочніца*, а нават *Воўчая зорка* — пра вечаровую.

Думаю, многія з вас, як і я, былі некалі ўражаныя пачаткам Караткевічавага раману „Хрыстос прызямліўся ў Гародні“. Нябёсныя знакі не абяцалі нічога добрага ў тым годзе:

*...З самага пачатку году і кожны вечар* ***заранкі*** *былі чырвоныя, як кроў, а ветру наступнага дня не было... ...Казалі: коньнік на „маці мора“ скача як шалёны і дзідай сваёй паказвае авама і сема,*

*туды і сюды, на захад і на поўдзень і на ўсход, абы толькі не на **Зорны Кол**, як то належыць.*

*Паразьбівалася ў той год караблёў — Божа ты мой!*

„Маці мора“ — компас. Ён не хацеў паказваць на *Зорны Кол* — Палярную зорку. Народныя мэтафарычныя назвы падкрэсьліваюць яе нерухомасьць і тое, што як бы вакол яе абяртаецца астатняе неба. Зьбіральнікі зафіксавалі *Зорны Гвозд*, што ж да *Зорнага Кала* — то думалі, ці не стварыў ці скалькаваў гэтую назву зь цюрскіх моваў сам Караткевіч (а ён мог!). Але Цімох Авілін сьведчыць, што 10 гадоў таму так казалі людзі, прыкладам, на Барысаўшчыне.

**Дарога ў вырай**

Нашую Галяктыку мы бачым як паласу мірыядаў зорак. Γαλαξίας [galaxias] па-грэцку і азначае „малочны“, ёсьць і адпаведны міт пра разьлітае грудное малако Геры, Дзэўсавай жонкі. Але афіцыйная назва „Млечны шлях“, хоць яна і ад грэцкай, аднак не кладзецца ў гукавы лад беларускае мовы. Беларускія словы маюць поўнагалосьсе, а паўднёваславянскія, у тым ліку так званыя царкоўнаславянскія,— адпаведна няпоўнагалосныя карані (якія пазычала адтуль расейская мова). *Малочны — млечный, палон — плен, халодны — хладный, вароты — врата, горад — град, нораў — нрав, варона — врана, сарочка...* Зрэшты, прыкладаў шмат.

Няма патрэбы называць сьціжму зорак ня грэцкім і не сваім словам, а русізмам. Пагатоў

маем выбар народных назваў: *Дарога Птушкам* або *Дарога ў Вырай*, *Божая Дарога*, *Зорны Шлях*, *Дарога ў Рым* ці *Ерусалім* ці *Кіеў*. Сустракаецца, як ва Ўкраіне, і *Чумацкі Шлях* — зоры паказвалі дарогу чумакам, што хадзілі ў Крым па соль.

Слова *Дарога* для апісаньня гэтай велічнай нябеснай праявы ў палявых запісах народнае мовы часьцейшае, чым *Шлях* або *Гасьцінец*. Але, здаецца, менавіта спалучэньне *Птушыны Шлях* як асноўнае замацоўваецца ў новай беларускай культуры і адпаведна ў літаратурнай мове. Анатоль Сыс:

*А хто ня верыць, ведайце: Багрым*
*пачаў з кажана, скончыў жаўрукамі.*
*Мы нават і ў нябёсах не згарым,*
***Птушыны Шлях** намацаем нагамі!*

**Задыяк клясычны й свой**

Для некаторых задыякальных сузор'яў, імёны якіх антычнага радаводу, беларускія тэрмінолягі ў 1920-я гады замацавалі больш беларускія назвы, без стылізацыі пад царкоўнаславяншчыну: *Баран, Бык, Дзяўчына, Казларог*, *Вадаліў*. Але, магчыма, нашыя продкі мелі і свой задыяк, які не супадаў з грэцка-рымскім.

Літоўскі этнаастраном Ёнас Вайшкунас — мой даўні знаёмец яшчэ з часоў супольнае барацьбы за нацыянальнае адраджэньне двух народаў сярэдзіны 1980-х, калі нашая „Талака“ ды аднайменны літоўскі клюб „Talka“ падтрымлівалі адно аднаго. Дык вось ён перакананы, што дванаццаць

выяваў XVI ст. на браціне (рытуальным каўшы) з Горадні, што захоўваецца ў раўбіцкім музэі, і ёсьць тутэйшы задыяк. Вайшкунас кажа, што коўш балцкі, а балцкі складнік — неад’емная частка этнагенэзу беларусаў.



Брацiна (рытуальны коўш). Горадзеншчына. Нацыянальны мастацкі музэй Беларусі, Музэй беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах. Адпаведнасьць выяваў знакаў задыяку паводле Ёнаса Вайшкунаса: Рыбы — Пярун (маланка), Баран — аўчына, Бык — коньнік (Пагоня), Блізьняты — два Ваяры за Сонца, Рак — Пава (дакладней, відаць, Паўлін), Леў — Пава, Дзяўчына — Жораў, Шалі — два Сонцы (восеньскае раўнадзенства?), Скарпіён — Алень з аленяняткам, Стралец — Ваяр зь дзідай, Казларог — Казёл з Сонцам на сьпіне, Вадаліў — Конь.

Надзвычай цікава. Але задыяк нашых продкаў — самастойная вялікая тэма, якая закранае міталёгію, народную касмалёгію, узыходзіць да індаэўрапейскіх гарызонтаў, і тут яе разьвіваць пакуль ня будзем.

## Пярун сеў на калёсы

Найбольш вядомыя незадыякальныя сузор'і спрадвеку маюць народныя назвы і, натуральна, міталягічнае значэньне. *Вялікі* і *Малы Воз* — гэта адпаведныя грэцкія Мядзьведзіцы. Сапраўды, канфігурацыя найярчэйшых зорак нагадвае аглоблю і калёсы.

Ёсьць варыянт *Ільлёў Воз*. Народны Ільля ўвабраў у сябе многія рысы Перуна. Існуе і літоўская назва *Perkūno Ratai*. Таму можна рэканструяваць і беларускую форму *Перуновыя Калёсы* / *Пяруноў Воз*.

А пра якое сузор'е сьпявае гурт „Ветах“? (Дарэчы, назва гурту таксама астранімічная, *ветах* — чацьвертая квадра месяца. *Маладзік, поўня, сход, ветах/вятох.*)

*Былі ў бацькі тры сыны,*
*Усе ж яны Васілі.*

Этнакасмоляг Сяргей Санько тлумачыць: гэта сузор'е *Тры Каралі*, бо слова βασιλεύς [basileús] па-грэцку і азначае манарха. Песьня калядная, калі адпаведнае сузор'е — Пояс Арыёна паводле міжнароднай клясыфікацыі — асабліва прыкметнае. А складаюцца *Тры Каралі* з трох зорачак. Завуць у нас гэтае сузор'е таксама *Касцы*. Запомнім проці ночы:

Млечны Шлях — Птушыны Шлях, Дарога ў Вырай, Божая Дарога, Зорны Шлях
Палярная зорка — Зорны Кол

Вэнэра — Зараніца, Заранка, Вечарніца, Вячорка, Воўчая Зорка, Мілавіца

Вялікая і Малая Мядзьведзіца — Вялікі і Малы Воз

Пляяды — Сіта

Пояс Арыёна — Тры Каралі, Касцы

Авен — Баран

Цялец — Бык

Дзева — Дзяўчына

Казярог — Казларог

Вадалей — Вадаліў

## Бацька ў кожнага свой

Словы, а дакладней значэньні, якія мы ім надаём, могуць мяняць рэальнасьць у лепшы ці горшы бок. Ёсьць тэхналёгіі маніпуляцыі значэньнем словаў. Скажам, словы *сьвядомы* ці *змагар* у векавой беларускай моўнай і літаратурнай традыцыі цалкам пазытыўныя, маюць сваю сэмантычную нішу. Але імпэрская прапаганда раней пацíху, а цяпер з выкарыстаньнем сучасных інфармацыйных тэхналёгіяў больш агрэсіўна падмяняе, выварочвае значэньне беларускага і ўкраінскага слова *сьвядомы/свідомий*. Нам варта не патураць такім маніпуляцыям нават у гарачыні палемікі, а бараніць сваё сэмантычнае поле.

Словамі з катэгорыі сямейнай лексыкі, здавалася б, маніпуляваць немагчыма. Але спрабуюць. Я пра слова *бацька* як мянушку кіраўніка дзяржавы.

А. Лукашэнка з канца 1990-х гадоў сыстэматычна называе сябе ў трэцяй асобе „бацька“. Гэта самая простая тэхналёгія ўкараненьня неўласьцівага значэньня слова ў аўтарытарных умовах.

І тым ня менш самыя беларусы ў масе сваёй так ня кажуць пра героя тэлеэкрану. Нават самыя вернападданыя (ня ведаю, наколькі ўсур'ёз), але з рэальнага народу, называюць яго проста прозьвішчам, як цётачкі зь вёскі Новыя Мілевічы Жыткавіцкага раёну ў сваёй песьні:

*А нам званяць, што едзе Лукашэнка,*
*І с удавольсьцьвем мы яго ўсе ждзём!*

Аднак мянушку падхапілі ў Расеі ды Ўкраіне, дзе добрым тонам лічыцца ўжыць яе ў размове зь беларусамі. У расейскіх мэдыя мянушка ўпершыню зьявілася, здаецца, у 1997 г. на старонках выданьня „Коммерсантъ Деньги“ (паводле „Словаря современного жаргона российских политиков и журналистов“). У нас яе ўжываюць хіба што вэртыкальныя чыноўнікі ды прыдворныя па музычнай часьці (як у песьні „Слушай Батьку!“).

У 2013 годзе А. Лукашэнка нават абвясьціў слова „бацька“ сваім прыватным брэндам:

*Под брендом „Батька“ и прочим в России и Украине продают какую-то „бормотуху“ или разведенное сливочное масло. Это уже для нас проблема. Наши цепляют там — как будто Лукашенко продает там. От моего имени продают.*

Праўда, на постсавецкай прасторы раней за яго „бацькам“ быў камуніст Мікалай Кандраценка, партыйны сакратар, а потым губэрнатар Краснадарскага краю Расеі. Падтрымаў путч ГКЧП. Дэманстраваў зварот да казацкіх традыцыяў. Палітычныя тэхнолягі выкарысталі зварот „батька Кондрат“ у ягонай выбарчай кампаніі 1996 г.

Відавочна, А. Лукашэнка пераняў мянушку ў свайго таварыша, што ўскосна прызнаў у 2007 годзе падчас прэсавай канфэрэнцыі для расейскіх журналістаў: „*Наверное, эта практика пришла от вас. Или от нас к вам. В Краснодарском крае, помните, был губернатор Кондратенко, его тоже «батька Кондрат» звали... Зацепилась за мной эта не то кличка, не то имя. Ну я и привык. Я никак к этому не отношусь*“.

**Бацюхны мае!**

У беларускай мове здаўна слова *бацька* ўжываецца амаль суцэльна ў сямейным значэньні. З пары Вялікага Княства яно і аднакаранёвыя былі ўключаныя ў юрыдычную тэрміналёгію: *бацькаўшчына* — бацькаў набытак, спадчынная маёмасьць. *Бацькí* — бацька і маці чалавека (у расейскай мове такой аднакаранёвасьці няма, там „родители“; беларускае ж зборнае слова *бацькí* яшчэ выразьней падкрэсьлівае радзіннае значэньне слова *бацька* ў адзіночным ліку).

Адзіная сфэра па-за сямейнаю, дзе зварот *бацька* ў Беларусі быў прыжыўся,— гэта царква. *Хросны бацька*. Хаця тут адбыўся наўпроставы мэтафарычны перанос значэньня.

А вось да сьвятара ў народнай мове пашанотліва маглі зьвярнуцца *татуля, татуня, татусь, татуська, татулька*: *Няхай здароў будзець татуська наш, харошы сьвяшчэнік,*— сьведчыць знаўца беларускае народнае мовы XIX ст. Іван Насовіч.

Зварот „бацюшка“ ў беларускую мову прыйшоў з расейскае, пазьней. Прычым той самы Насовіч зазначае: *бацюхна* скажуць пра ўласнага бацьку, а *бацюшка* — менавіта пра сьвятара. Відавочны словаўтваральны русізм (трэба сказаць, што для сьвятара Насовічавы запісы фіксуюць яшчэ *бацінька*, *бацічка*).

Думаю, што *бацька* ў значэньнях ‘дабрачынца’ (*Будзь бацькаю, панок!*) або ‘галава, кіраўнік, начальнік’ — таксама вынік расейскага ўплыву:

*„Demokraty“ haradzkoj dumy hutarać ab tym, kab sienakosy u hubernatorskim sadu zdawać z tarhoй. Ciapier ich trymaje za bezcen Č., swajak adnaho z* ***baćkoй horadu*** *O.*

(Naša Niwa, 1910, № 23–24, c. 363)

Вядома, слова *бацька* мае моцны мэтафарычны патэнцыял, калі адухаўляецца слова *Бацькаўшчына* або калі *Бацькам* у песьні на верш Анатоля Астрэйкі завецца адна з нашых нацыятворчых рэк — Нёман:

*Ой, Нёман! Ой, бацька мой Нёман,*
*Як сонца, як дзень дарагі,*
*Касьцямі зьвяругаў шалёных*
*Усланы твае берагі.*

## Треба батька Махна із синочками

Ва ўкраінскай мове, хоць блізкай, слова *батько* мае інакшае сэмантычнае поле. Народная песьня пра трагічныя падзеі канца XVIII ст.:

*А наш батько Калнишевський того не гадає,*
*А вже ж Москаль, а вже ж Москаль Січу обступає.*

*„Та встань, батьку-отамане, кличуть тебе люди,*
*Ой, як станеш ти на башти, Москаля не буде!“*

*Батьком* казакі называлі гетмана. Магчыма, ў працяг цюрскага *атаман*, якое часам зьвязваюць з *ата* ‘бацька’. *Батько Хмельницький, батько Богдан.* Ужо ў іншую эпоху ўкраінскі палявы камандзер-анархіст Нестар Махно зарабіў званьне *Батько* дзякуючы тым самым казацкім традыцыям нерэгулярнага як бы „народнага“ войска. „*Яблучко із листочками, треба батька Махна із синочками*“.

Цікава, што „Слоўнік мовы Янкі Купалы“ слова *бацька* ў значэньні ‘вядомая і паважаная асоба, старэйшы ў грамадзе’ фіксуе менавіта ў тэкстах, зьвязаных з Украінай:

*Праслаўнаму бацьку ўкраінскай свабоды*
*Паклон б’е разбуджана ўся старана...*
*(„Памяці Тараса Шаўчэнкі“)*

**Цар-бацюшка, абаронца ад „чужебесия“**

Чаму ўсё ж у беларускай мове слова *бацька* ня стала зваротам да начальніка? Я наткнуўся на тэкст „Русская душа и нерусская власть“. Аўтарка — Таццяна Міронава, член-карэспандэнт Міжнароднай славянскай акадэміі навук, працуе ў Праваслаўным Сьвята-Ціханаўскім гуманітарным унівэрсытэце, змагаецца з „чужебесием“, выкрывае Захад і яго антыславянскія змовы. Карацей, аўтарытэт. І вось такія ў Міронавай цікавыя назіраньні.

*Есть два типа отношений в иерархии руководителя и ему служащих — это отношения подчинения и послушания. Под-чин-ение ... предполагает преклонение перед законом, пребывание под игом закона.*

(Тут зьвернем увагу, наколькі ёмістае і цывілізацыйна адпаведнае беларускае слова *падпарадкаваньне* — г. зн. сьвядомае зьдзяйсьненьне парадку).

*Подчинение крайне противно русской натуре, потому что в нем русский человек усматривает ...холод бессердечности. Наш подлинно русский тип организованности основан на послушании, ...чужд западному представлению об организации и порядке.*

*В русском понимании иерархия начальник и подчиненный — ... это иерархия отца, его сыновей и дочерей. Причем допускается по-русски, что отец-правитель может быть суров, требователен, даже жесток, если жесткость и требовательность полезны детям.*

Адсюль, піша Міронава, паходзяць сувораўскі выраз „отцы-командиры“, казацкі зварот „батька“, сучасная мянушка „батяня-комбат“. І любімы сваімі дзецьмі-падданымі „Царь-батюшка“.

* * *

Слова *батька* ў расейскай літаратурнай мове стылёва афарбаванае. Слоўнік Ушакова пазначае яго як „областное, фамильярное, вульгарное“. Сапраўды, яго ўжываньне менавіта ў расейскай мове тэрытарыяльна і сацыяльна абмежаванае.

У пару Першай усясьветнай вайны ў былой Расейскай імпэрыі, асабліва ў так званых казацкіх рэгіёнах, зьявілася мноства параміліитарных і часта паўкрымінальных груповак, іхны дух панаваў і ў Чырвонай арміі. Расейскі вайсковы журналіст, дасьледнік біяграфіі Сямёна Будзённага Аляксандар Шчолакаў піша пра іхных камандзераў:

*Усіх атаманаў бандыцкая братва вылучала з уласнага асяродзьдзя і тытулявала „батькамі“. Больш прыстойна словам „батя“ сваіх камандзераў называлі ў партызанскіх, паўпартызанскіх і нават рэгулярных частках Чырвонай арміі. ... Таму ня дзіва, што байцы Першай коннай звалі свайго камандарма „Батька Семен“.*

Вось такая прычына жывучасьці ў Чырвонай арміі тытулу „батька“, які ажыў падчас Другой усясьветнай вайны ў савецкіх партызанаў. Украінскае казацтва тут ужо ні да чога.

**Бацька Булак**

Быў і ў беларускай гісторыі дзяяч зь мянушкаю Бацька. Гэта генэрал-маёр Станіслаў Булак-Балаховіч.

Балаховіч прайшоў расейскую армію пачынаючы ад харужага, зьнізу, у закалотах 1917–1919 гадоў сам ствараў аддзелы і пераняў завядзёнку быць „отцом солдатам“. Свой першы загад пасьля выбіцьця з Пскова чырвоных ён падпісвае „Атаман сялянскіх і партызанскіх аддзелаў“. Ужо тады да яго прыляпілася мянушка *бацька* — у традыцыйным для расейскай арміі ды казацтва

значэньні. Віктар Шалкевіч мае падставу гукнуць у песьні:

*Эх, конь, ты мой конь, чатыры падковы,*
*Ты вядзі, вядзі у бой нас, Бацька Балаховіч!*

А сам Балаховіч ня толькі ваюе, але і піша наіўныя вершы па-беларуску. Напісана ў Таліне 25 лістапада 1919 году:

*Празь цёмныя хмары на чуждай старонцы*
*Зірнула на нас цёпла-роднае сонца,*
*І гоман пачуў я з радной стараны:*
*„Свабода калоціцца ў наша ваконца,*
*За бацькаўшчыну ўсталі яе ўсе сыны!“*

Верш генэрал так і назваў: „Покліч Бацькі“. (Магчыма, слова *бацька* для яго тут мела і асноўнае значэньне — з роднай беларускай мовы.)

Ужо прыйшоўшы з войскам у Беларусь і дакляраваўшы вернасьць Беларускай Народнай Рэспубліцы, генэрал надта ня слухаўся Ўраду БНР і ўвогуле каго б ні было, заставаўся самадастатковы — падобна як „ба́цькі“ на тэрыторыі Ўкраіны і Кубані таго часу. Атаманская мянушка ішла за ім усё наступнае жыцьцё і засталася ўнікальнаю для беларускага нацыянальнага руху.

* * *

Наагул у беларускай вайсковай традыцыі не называлі камандзера, нават такога выдатнага, як князь Канстанцін Астроскі, бацькам. Бо кожны шляхціч-ваяр кіраваўся Статутам ВКЛ і меў

сваю матывацыю ваяваць за Айчыну. І манарха бацькам не маглі называць, яго выбіралі баярышляхта, ён быў першы сярод роўных і выконваў адведзеныя яму законам функцыі. А ня быў „айцом народаў“, як расейскі цар, або Сталін, або чарговы Кім.

Наўрад ці варта журналістам недзяржаўных беларускіх мэдыя пераймаць небеларускую лексычную завядзёнку і падмяняць Бацькаўшчыну „Батькой“. Шануйма **сваіх** бацькоў і не ўжывайма слова *бацька* марна.

## Я мужык-беларус, пан сухі і касы

Па-беларуску ня кажуць „мужык“ у значэньні ‘мужчына’

Бачу ў сеціве патрыятычны спокліч: „Будзь мужыком! Размаўляй па-беларуску!“

Пэўна, аўтар хацеў толькі добрага — заклікаў мужчынскую частку аўдыторыі не камплексаваць і гаварыць на нашай мове. Але пры гэтым узяў жыўцом з расейскага прастамоўя слова „мужик“ у значэньні ‘мужчына’. Гэтае „будь мужиком“ стакроць паўторанае ў расейскіх бандыцка-міліцэйскіх сэрыялах, у расейскім армейскім асяродзьдзі. Ёсьць нават расейскі фільм, назва якога не перакладаецца на ангельскую, а трансьлітаруецца — „Muzhiki!“.

Наколькі дарэчна нам у беларускім культурным полі пераймаць гэтую завядзёнку?

Зразумела, сацыяльнае значэньне слова „мужык“ у беларускай і расейскай гісторыі падобнае — ‘селянін’. Але былі істотныя адрозьненьні — расейская *община* не ўласьцівая Беларусі, беларускі селянін быў куды больш самадастатковы ды індывідуалістычны.

Гэта ён быў мэтавым адрасатам „Мужыцкае праўды“ Кастуся Каліноўскага:

*Маскалі, чыноўнікі і многа паноў будуць перапыняць пісьмо наша да вас; но найдуцца людзі і з мужыкоў разумнейшыя, і з панскага*

*роду, і зь местачковых, што хочуць вашай свабоды, вашага шчасьця,— яны то вам самі гэта пісьмо даваці будуць, каб вы зналі, хто ваш прыяцель, а хто ваш вораг.*

(„Мужыцкая праўда“, № 1)

Тут Каліноўскі не пакідае сумневаў, што трактуе паняцьце *мужык* як сацыяльную катэгорыю. Яно ў Каліноўскага ключавое, пачынаючы з назвы газэты; зьвяртаецца ён да *мужыкоў* і ў разьвітальным сваім празаічным і вершаваным слове:

Браты мае, мужыкі родныя. З-пад шубеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку радную і Цябе, дарагі мой народзе. (...)

*Бывай здаровы, мужыцкі народзе,*
*Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе.*
*І часам спамяні пра Яську твайго,*
*Што згінуў за праўду для дабра твайго.*

Але наўрад ці паняцьці *мужыцкі народ* і *беларускі народ* у Каліноўскага сынанімічныя. Тут хутчэй можна ўгледзець палеміку з канцэптам „narodu szlacheckiego“, памятным з ранейшых часоў незалежнай Рэчы Паспалітай: шляхта — самакаштоўная дзяржаваўтваральная кляса. Так Каліноўскі спрабаваў памяняць канатацыю (г. зн. эмацыйнае адценьне) слова *мужык* з адмоўнай на станоўчую.

**Le barine et le moujik**

У расейскай літаратурнай мове эпохі клясыкаў (у вуснах „барина/барыни“) слова мужик мела таксама значэньне ‘вообще невоспитанный, грубый, неотёсанный человек‘:

Попова *(сжимая кулаки и топая ногами)*: Вы мужик! Грубый медведь! Бурбон! Монстр!

(А. Чэхаў)

І, урэшце, як абласное і прастамоўнае, слова гэтае мела ў расейскай значэньне ‘мужчына’. Усе ведаем абавязковага школьнага Някрасава: „Семья-то большая, да два человека всего мужиков-то: отец мой да я“.

У выніку бальшавіцкага перавароту слова ў расейскай мове як бы сацыяльна абярнулася („кулакі“ і „серадднякі“ былі кепскія ці падазроныя, затое мужыкі-беднякі лічыліся апірышчам новай улады).

Акрамя таго, слова мужик заняло важнае месца ў савецкім турэмным жаргоне. „Мужики“ — асноўная катэгорыя вязьняў, якія не ўваходзяць у групы ані так званых блатных, ані так званых актывістаў („красных“, якія супрацоўнічаюць з органамі), такі сабе турэмны просты народ.

Зважаючы на тое, што велізарны працэнт савецкіх грамадзянаў прайшоў праз турмы й лягеры, не дзівімося пашырэньню крымінальных слоўцаў у расейскай агульнанароднай мове.

**Будзь мужыком, жуй цішком**

У XIX стагодзьдзі ў гаворках, што зафіксаваў яшчэ Іван Насовіч, бытавалі тры асноўныя значэньні гэтага слова: 1. ‘Муж’. *Мужык мой хворы. Мужука яе ўзялі ў некруты, дак яна й плачыць па мужуку.* 2. ‘Селянін наагул’. *Мужыкі вазамі дарогу занялі.* І ўрэшце — 3. ‘Нявыхаваны чалавек’. *Як ты сядзіш, мужык!*

(Гэтыя самыя тры значэньні слова *мужык* засталіся і ў XX стагодзьдзі, што фіксуе „Тлумачальны слоўнік беларускай мовы“, т. 3, 1979 г., праўда, усе з пазнакамі „ўстарэлае“ ці „размоўнае“.)

Беларуская мова ў XIX стагодзьдзі была сьвядома і штучна загнаная ў адну сацыяльную нішу — сялянства, што грэбліва падкрэсьлівалі (і дагэтуль падкрэсьліваюць) беларусаеды рознага кшталту. Францішак Багушэвіч у сваім крыку душы — прадмове да „Дудкі беларускай“ — пярэчыць менавіта гэтаму:

Братцы мілые, дзеці Зямлі-маткі маей! Вам афяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай зпрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя „мужыцкай“ завуць, а заветца яна „беларускай“.

Наша мова не мужыцкая, а беларуская! — спокліч беларускага моўнага адраджэньня канца

XIX — пачатку XX стагодзьдзя. Крыху пазьней Янка Купала нацыянальна самасьцьвярджаецца праз уяўнае самапрыніжэньне: *...Бо я мужык, дурны мужык!* (І яшчэ з Купалы, якога на скрушны сьмех настаўніка інтэрпрэтаваў нейкі наваполацкі двоечнік: *Я мужык-беларус, пан сухі і касы* :-) )

Урэшце, у нашай клясычнай літаратуры XX стагодзьдзя, у яе найлепшых узорах, менавіта такі выраз — *будзь мужыком* — ёсьць. Сымон-Музыка, адчуваючы, як яго перапаўняе талент, ідзе да пана Галыгі з просьбаю даць музычнае навукі:

*— Пакажы мне, панок, ноты,*
*Растлумач мне, як і што;*
*А за панскія турботы*
*Хай жыве пан гадоў сто!*

І атрымлівае адказ:

*— Сто гадоў!.. ня кепска плата.*
*Што ж, расьпіску дай ад Бога;*
*Сто гадоў — яму нічога:*
*У яго гадоў багата...*
*Справа добрая — навука.*
*Славу, хлеб яна дае...*
*Але, хлопча, дзе парука,*
*Што ня згінеш празь яе?*
*(...)*
*Вось затым сама прырода*
*Вас пускае сьлепаком,*
*Каб з вас меньша была шкода.*
*Раз мужык — будзь мужыком,*

*Маеш хлеб — і жуй цішком.*
*Будзь даволен сваёй доляй.*
*Што ж зь ім гутарыць тут болей?*

Адказ прыніжальны. *Раз мужык — будзь мужыком, маеш хлеб — і жуй цішком.* Такое „будзь мужыком“ зусім не натхняе на чыннасьць. Калі б школа вучыла нас беларускаму погляду на сьвет, мы ведалі б на памяць сваіх клясыкаў, а гэтая цытата бараніла б нас ад пераймaньня сэмантыкі „новага рускага“ мужыка.

Заўважма, што Колас пісаў „Сымона-музыку“ праз паўстагодзьдзя пасьля Каліноўскага, а значыць, сэмантыка і эмацыйнае напаўненьне слова *мужык* так і не памяняліся.

Выяўляецца, што для нашага нацыятварэньня гэтае слова мае іншае напаўненьне, чым для расейцаў. Інтэрнэт-заклік, які я цытаваў напачатку, нібыта вяртае нас у „мужыцкі“ пэрыяд беларускае мовы. А слова *мужык у* значэньні нейкага брутальнага macho нашай мове і ўсяму нацыянальна-моўнаму наратыву не ўласьцівае зусім.

**Ля гастраному стаяць мужыкі…**
**Ці шляхта? ☺**

Ня ўсе сучасныя творцы адчуваюць міжмоўную розьніцу. У песьні „Піце піва, мужыкі“ ключавое слова „мужык“ ужываецца ў расейскім значэньні (сьпяваюць „Сябры“, верш Валянціны Аколавай).

А Саўка з эпічнага праекту „Саўка ды Грышка“ Лявона Вольскага „мужыкоў“ строга папярэджвае:

*Перастаньце раскачываць лодку, уроды!*
*Эта — Беларусь, гасударства для народа.*
*Есьлі што-та ня нравіцца вам, пацаны,*
*Дык надзеньце красна-зялёныя штаны!*
*Есьлі што-та ня нравіцца вам, мужыкі,*
*Дык надзеньце красна-зялёныя ачкі!*

Слова „мужыкі“ тут небеспадстаўна апынулася ў адным шэрагу з расейскімі прастамоўнымі „уродамі“ і „пацанамі“.

***

І яшчэ істотны момант. Цяпер многія дашукваюцца сваіх каранёў, старанна хаваных бацькамі-дзядамі, каб дзецям-унукам за саветамі не было праблемаў. І высьвятляюць для сябе, што цяперашні беларускі народ сфармавалі розныя годныя людзі: і сяляне, і мяшчане, і вайсковы стан — шляхта (якой, дарэчы, бывала і да 12% насельніцтва), і сьвятарскі стан, і нашчадкі графаў і князёў. І кожны стан варты пашаны, ня трэба ўсіх беларусаў атаесамляць з адным якімсьці станам. Вось скажэце графу Аляксандру Прушынскаму, які размаўляе зь беларускімі памежнікамі й мытнікамі не інакш як у шапцы з Пагоняй і ад іх патрабуе насіць такія шапкі (сам бачыў): „Будзь мужыком“☺

Гэта, вядома, жарт. Але ў кожным разе па-беларуску лепей сказаць дзеля выхаваньня малому сыну: *Будзь мужчынам.*

## Прэзыдэнтка, дырэктарка... А Ярмошына — старшынька ці старшыня?

У савецкі час зь беларускае мовы былі выціснутыя традыцыйныя жаночыя найменьні прафэсіяў, пасадаў, заняткаў. Стужку „Выпускник“ насілі і выпускніцы. Толькі ў 2015 годзе ўпершыню ў гісторыі адзінаццацікляснікі менскай гімназіі № 23 замовілі стужкі з надпісамі і „выпускнік“, і „выпускніца“. А таксама „клясны кіраўнік“. І шкада, бо клясная *кіраўніца* таксама заслугоўвала на такую павагу.

Раней жа панаваў безаблічны і бясполы расейскі канцылярскі стандарт:

*Дырэктар падпісала загад. На вечарыну прыйшла карэспандэнт „Звязды“. Учора дзяжурыла ўрач Іваноўская.*

Але ўжо ў старабеларускай мове, якая абслугоўвала ўсе сфэры жыцьця вялікай дзяржавы — адміністрацыйную, культурную, адукацыйную — была паўнавартасная сыстэма жаночых намінацыяў. Падаю ўсьлед за лінгвістам Мікалаем Паўленкам словы, якія называюць жанчыну паводле роду яе дзейнасьці, заняткаў, пасады і да таго падобнага: *акторка, арандарка, ігуменьня, кухарка, пекарка, дворнічка, варажбітка і варожка, пастушка, швачка, прачка, карчмарка і шынкарка...*

Ніякіх прыніжальных адценьняў у жаночых найменьнях на -ка няма. Таксама былі *служэбніца, ключніца, чаляднiца, чараўніца, танкапрадніца* (гэта не жанчына на танку, а тая, што тонка прадзе).

Некаторыя імёны ад дзейнасьці мужа ўтвараліся падобна — *кашталянка, султанка*, а некаторыя адметна: *караліца* і *каралёвая, княгіня, харужыная, ваяводзіная, гетманавая, маляровая, залатаровая, кавалёвая.*

У пазьнейшай народнай традыцыі словы з падобным значэньнем — найменьне паводле мужа — утвараліся з суфіксам -іх-а. *Каваліха, старшыніха.* У Максіма Багдановіча *Лявоніха.*

Беларускі суфікс -к-а быў нэўтральны і вельмі пашыраны, ён панаваў у такой вечнай сфэры, як абазначэньне роднасьці й сваяцтва: *матка* і *мамка*, *бабка*, *швагерка*, *цётка* — ня цёця!

У расейскай мове словаўтваральныя мадэлі эмацыйна афарбаваныя інакш. Адчуўшы пустку ў канцылярызаванай расейскай мове савецкае пары, фантаст-рамантык Іван Яфрэмаў у сваім рамане „Юрта ворона“ паспрабаваў зрабіць словаўтваральную рэформу:

*Мы привыкли издавна к этому самому „ка“, а в нем, точно жало скрытое, отмечается неполноценность женщины. ...Разве вам так не покажется — прислушайтесь внимательно, как звучит уважительное — гражданин и уменьшительное — гражданка. А если правильно и с уважением, надо гражданиня или гражданица!*

Яфрэмаў паспрабаваў (марна) укараніць у расейскую мову словы *геологиня, агрономиня, докториня, шофериня.* З геолягамі і філёлягамі застаецца словаўтваральная праблема і ў беларускай мове. У маю бытнасьць вучобы на філялягічным факультэце дзяўчат калі-нікалі ўсьлед за Яфрэмавым называлі філялягінямі, але добрым жартам.

А што да іншых прафэсіяў — праблемы жаночых найменьняў для іх амаль няма. *Кантралёрка* — ні ў якім разе не „кантралёрша“. Беларуская мова апошняй мадэлі ня ведала, а ў расейскай гэта яскравае прастамоўе, Іван Яфрэмаў пацьвердзіў бы.

*Лекарка* і *міністарка*, *арганізатарка, аўтарка, журналістка* і *рэдактарка*, грамадзкая *дзяячка*. Хаця афіцыйныя слоўнікі даволі доўгі час такія словы, калі наагул іх фіксавалі, залічвалі ў гутарковыя. Скажам, вялікі Тлумачальны слоўнік прызнае словы *дакторка* і *доктарка*, але адпраўляе іх у „размоўны“ пласт. Але прыклады там — з саліднай Коласавай прозы:

*[Яна] працавала дакторкаю ў адной зь земскіх бальніц.*

І *паэтка* — слова размоўнае, калі верыць таму ж слоўніку. Азначэньне — ‘тое ж, што і паэтэса’. Аднак жа відавочна, як годна і зусім не гутаркова гучыць: *Паэтка Ларыса Геніюш*. Нічым ня горай за *паэтэсу* з француcкім суфіксам, уся перавага якой у тым, што яна ёсьць у расейскай.

Застаецца праблема з словам *сакратарка* — яно абазначае справаводчую прафэсію. Калі ж

ідзецца пра іншую, часьцей выбарную, пасаду, то мова пакуль ня звыкла да выразаў накшталт „сакратарка выбарчай камісіі“ або „генэральная сакратарка партыі“, хоць я нічога процінатуральнага ў такім найменьні не ўглядаю.

Расейскіх „маникюршу“ і „педикюршу“ знаўца словаўтварэньня Павел Сьцяцко прапаноўвае зваць па-беларуску *манікюрка* і *пэдыкюрка*. Я б, аднак, пярэчыў, бо іншыя ўсе назвы прафэсіяў на -ка парныя. Аптэкар, правізар — *аптэкарка*, *правізарка*. А паколькі такой прафэсіі — „манікюр“ — няма, больш лягічна *манікюрніца*.

Ёсьць некалькі назваў прафэсіяў агульнага роду. *Судзьдзя*. *Старшыня*. І ня трэба рабіць зь яе *старшыньку*, як некаторыя беларускамоўныя газэты. Нават Ярмошына не „старшынька“, а *старшыня*.

## Ян Станкевіч на сваё 125-годзьдзе спрачаецца зь Сьвятланай Калінкінай

**Мовазнаўца Ян Станкевіч вярнуў нам слова *спадар*, увёў у падручнікі тэрміны *гук* і *зычны*, рэфармаваў беларускую лацінку, быў persona non grata ў БССР і вечным спрэчнікам. Вось і цяпер ён палемізуе зь Сьвятланай Калінкінай.**

26 лістапада 2016 году споўнілася 125 гадоў з дня нараджэньня Яна (Янкі) Станкевіча.

Ён з разгалінаванае радзіны тых самых Станкевічаў, дзе і Адам, і Станіслаў Станкевічы; нарадзіўся ў фамільным гнязьдзе Арлянятах (традыцыйна — Вурляняты) цяпер Смаргонскага раёну. Гэта азначае, што Ян Станкевіч быў прыродным носьбітам віленска-менскіх гаворак — хрыбта, на якім узрастала наша новая літаратурная мова.

Доктарскую абараніў у Карлавым унівэрсытэце ў Празе. Поруч з навукай рабіў тое, што і належыць рабіць нацыянальна сьведамаму чалавеку: быў чальцом Рады БНР, падчас так званай Сярэдняй Літвы пачатку 20-х гадоў адкрыў на Віленшчыне больш за дзьве сотні беларускіх школаў, адзін зь лідэраў беларускае незалежніцкае канспірацыі ў часе 2-й Усясьветнай вайны.

Але жыцьцё прысьвяціў найперш беларускай мове, яе вывучэньню і практычнаму на яе ўплыву. Мы часам не падазраём, колькі таго Станкеві-

ча вакол нас — нават калі старанна ігнараваць несавецкую моўную традыцыю.

## Гэта ўсё зрабіў адзін чалавек

Яшчэ ў 1918 годзе ў падручніку „pròsty spòsab stàcca ŭ karòtkim čàŝe hràmatnym“, укладзеным супольна зь нямецкім славістам Рудальфам Абіхтам, ён ужывае моўныя тэрміны *гук* і *зычны,* сёньня для нас зусім звычайныя са школы.

Гэта Ян Станкевіч шукаў нацыянальна адметнага звароту — ня *пан*, бо так і па-польску. Ужо В. Ластоўскі пісаў пра „сподара“, але Станкевіч сабраў шматлікія ўжываньні гэтага выціснутага *панам* звароту — ня толькі ў Статутах ці ў Баркулабаўскім летапісе , але і ў кітабах беларускіх татараў, пісаных па-беларуску арабскай графікай.

Галоўнае, што ён пачаў настойліва ўкараняць гэтае слова ў жыцьцё, спачатку сутыкаючыся зь непрыманьнем віленскага беларускага асяродзьдзя (ня кажучы ўжо пра БССР). Станкевіча так і называлі жартам — Янка-спадар. А сёньня гэта ізноў агульнапрынятыя словы, яны былі нарматыўным зваротам у выбраным беларускім парлямэнце ды нарэшце патрапілі з савецкае няласкі ў афіцыйныя слоўнікі літаратурнае мовы. І бяз слова *спадарыня* не нарадзіўся б пранікнёны лірычны верш Рыгора Барадуліна:

*Спадарыня, мне сумна аднаму,*
*Спадарыня, мне аднаму сьцюдзёна.*
*Пра Вас адну я думаю штодзённа,*
*Марнею і ня ведаю чаму.*

Вывучэньнем мовы кітабаў, якія перадавалі асаблівасьці жывога беларускага маўленьня трох-чатырохвекавой даўніны, і наагул гістарычнае фанэтыкі Станкевіч пацьвердзіў даўнасьць характэрных рысаў нашага вымаўленьня — аканьня, дзеканьня-цеканьня, ў нескладовага.

А таму ён патрабаваў і царкоўнаславянскія тэксты, і пагатоў старабеларускія чытаць адпаведна звычайнаму сучаснаму беларускаму вымаўленьню. Скарынава прадмова да „Юдзіфі" адпаведна правілам канвэртацыі правапісу выглядае так:

*Рыбы, плываючыя па мору і ў рэках,*
*чуюць віры свая.*
*Пчолы і тым падобная*
*бароняць вульляў сваіх —*
*Така ж і людзі, ідзе зрадзіліся*
*і ўскормлены суць па Бозе,*
*К таму месту вялікую ласку імають.*

Ян Станкевіч першы пачаў укладаць гісторыю беларускае літаратурнае мовы. Сыстэмна вяртаючы ва ўжытак скарбы старабеларускае мовы, на падставе тэрміналёгіі Статутаў і судовых кніг ВКЛ уклаў, сярод іншага, слоўнік „Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія", які спатрэбіцца, калі Беларусь вернецца да сваёй традыцыі справядлівага незалежнага суду. Расейскі „иск" у нас быў *пазоў*, ня „іск".

А яшчэ ён быў першым, хто склаў расейска-беларускі слоўнічак фразэалягізмаў і прыказак. „Насильно мил не будешь" — *даганяючы не паца-*

*луесься*, такі адпаведнік ён запісаў пад Вішневам. „Ни жив ни мёртв“ — *ні сьцяты ні павешаны* (гэта зь ягонай малой радзімы Арлянятаў).

А яшчэ дасьледзіны гістарычнае фанэтыкі й гістарычных дыялектаў (пскоўскага, северскага), праблемы этнамоўных межаў Беларусі, студыі імёнаў людзей і тапаніміі, аналіз гісторыі ды сучаснага стану беларускіх альфабэтаў... Гэта Ян Станкевіч у 1930-я дамогся апошняй рэформы нашае лацінкі, якая завершыла яе дэпалянізацыю,— увядзеньня лацінскай літары **Vv** замест нямецка-польскай **Ww**.

Пісаў пра ўсё гэта і пра шмат што яшчэ Ян Станкевіч і на старонках першага ў нашай гісторыі спэцыялізаванага мовазнаўчага часопіса „Родная мова“, які выдаваў у Вільні.

Ён безупынна імкнуўся, каб найбольш адметныя рысы беларускае старое ды жывое народнае мовы знаходзілі месца ў моўнай практыцы. Бываў катэгарычны і непасьлядоўны; з практычных ідэяў Станкевічавых прыняліся далёка ня ўсе. Але і пералічанага вышэй досыць, каб прызнаць яго ўклад у моўнае будаўніцтва.

Вось жа Ян Станкевіч — найбольш яскравы прадстаўнік пурыстычнае плыні ў беларускім мовазнаўстве і моўнай практыцы. *Пурызм* — ад лацінскага слова purus ‘чысты’, гэта імкненьне выкарыстоўваць найперш уласныя рэсурсы мовы — дыялектнай, даўнейшай, часам наватворы — каб сьцьвердзіць яе жыцьцяздольнасьць і адметнасьць ад суседніх. Бальшыня моваў тых народаў, якія цярпелі ад каляніяльнага ўціску і

лінгвацыду, адраджаючыся, у той ці іншай ступені зазнаюць пурыстычныя тэндэнцыі. Гэта нармальна для нашага рэгіёну моўнай мапы сьвету, разьдзіранага раней паміж імпэрыямі (дый ці толькі раней).

**Трэ бараніць мову. Але ад чаго?**

Кагадзе вядомая журналістка і рэдактарка, шанаваная мною Сьвятлана Калінкіна выступіла з эмацыйным артыкулам. Яна бароніць мову ад непатрэбных і прэтэнцыйных англіцызмаў (накшталт „фасілітатара“, што значыць проста *вядоўца*; я б дадаў сюды і „адвокасі“ — абарону інтарэсаў, і „стэйкхолдэраў“ — зацікаўленыя бакі, і фанэтычна непісьменны, бо не адпавядае ані брытанскаму, ані амэрыканскаму вымаўленьню, выраз „роўтэр“ з мовы кампутарнікаў — маршрутызатар). Тут я зь ёю цалкам згодны.

Але спадарыню Сьвятлану аднолькава абурае ўжываньне, скажам, выразу *ўсьцяж трываць* у значэньні працяглага дзеяньня (як у сказе *„Ўсьцяж трываюць пратэсты прадпрымальнікаў...“*), *выгуляць* — у спартовым значэньні (*„Нашы хакеісты сёньня выгулялі ў матчы...“*); урэшце, яна папікае аўтараў тэкстаў, што тыя замест слова „суткі“ ўжываюць *содні*, якіх у слоўніках, паводле аўтаркі, няма. І робіць выснову:

*Часам такое ўражанне, што мовазнаўцы і аматары проста наўмысна адшукваюць любыя — польскія, украінскія, нейкія іншыя — моўныя адзінкі і крыху „абеларушчваюць“ іх — абы*

*толькі беларуская мова як мага менш была падобная на рускую.*

Вось жа не пагаджуся. Па-першае, нічога кепскага ў імкненьні пазначыць адметнасьць свае мовы ў нашай сытуацыі няма (гл. вышэй). Па-другое, сапраўдны пурызм акурат і палягае на тым, каб не цягнуць у мову чужое, а чэрпаць са сваіх крыніцаў. Па-трэцяе, праблемаў з разуменьнем словаў, як відаць, не было.

**Ян Станкевіч — Rescue Ranger**

Хацеў быў я пункт за пунктам аспрэчыць сказанае паважанай Сьвятланай Калінкінай, сабраць матэрыял, аж раптам пабачыў, што ўсё ўжо сабраў, сказаў і напісаў Янка Станкевіч — шмат гадоў таму.

Велічнае сьведчаньне ягонай спадчыны — „*Беларуска-расійскі* (*Вялікалітоўска-расійскі*) *слоўнік*“ на 60000 артыкулаў, выдадзены ўжо пасьля ягонага сыходу сынамі ў 1990 годзе. Крэда слоўніка (і яго ўкладальніка):

*Нацанальна ўсьведаміўшыся, я пачаў усюдых запісаваць словы беларускія. Пасьлей выпісаваў таксама з фольклёру й літаратуры. Такім парадкам, падаваны Слоўнік ё слоўнікам жывое народнае й заразом літаратурнае мовы беларускае. ...Заразом я даведаўся, што мова беларуская вельмі багатая.*

Амаль усе адмоўна згаданыя Сьвятланай Калінкінай словы ў адпаведных значэньнях ёсьць у слоўніку, яны бясспрэчна беларускія.

*Усьцяж* мае і значэньне ‘без перерыва’. Станкевіч не ўдакладняе, у прасторы ці ў часе; спасылаецца і на „Віцебскі краёвы слоўнік“. А вось Купалава паэма „На Куцьцю“. Князю і Княжне пра, так бы мовіць, грамадзкія настроі дакладае Другі ганец:

*А як чапнуў стралой аб лук,*
*Яны скрануліся ў прасоньні,*
*І столькі, столькі крэпкіх рук*
*К маей паціснулася броні.*

*За мною ўсьцяж, і тут і там,*
*Іх вусны бледныя шапталі:*
*„Аддайце славу нашу нам!*
*Нашто схавалі-расхапалі?“*

У савецкі час паэма была забароненая; каб яе вучылі ў школе, то гэтае *ўсьцяж* трывала б у масавай моўнай сьвядомасьці.

І для дзеяслова *трываць* першым значэньнем Ян Станкевіч падае акурат ‘пребывать, продолжаться’. *У нас такі трывае звычай* — прыклад з слоўніка жывой народнай мовы Івана Насовіча (які ня надта любіў палянізмы).

### Пятнаццаць „сутак“

Што да слова „суткі“ ў значэньні каляндарным — то Ян Станкевіч характарызуе яго як „русыцызм“. У народнай беларускай мове слова *суткі, сутачкі* азначае ‘дзьверцы ў вузкім праходзе паміж будынкаў’, напр., на Стаўпеччы-

не,— спасылаецца Станкевіч у слоўніку на свой уласны дыялекталягічны досьвед. У значэньні ж ‛дзень плюс ноч’ Станкевіч прыводзіць народнае слова *пара́*.

Папярэднік ягоны, таксама выбітны пурыст Вацлаў Ластоўскі поруч са словамі *доба* і *пара́* адпаведнік бачыць у выразе *„дзень і ноч — содні проч“* са сваёй Дзісеншчыны, падае ў тым жа значэньні таксама *у́дні* (Смаленшчына). А слова „суткі“, як пацьвярджае Ластоўскі, можа азначаць ня толькі вузкі праход паміж дамамі (зь дзьверцамі ці без), але і ўвогуле ‛отхожее место’. Якое там, відавочна, гістарычна разьмяшчалася.

*Пара́* ўсё ж мае надта шмат значэньняў (хаця літоўцы яе ў нас пазычылі менавіта ў значэньні 24-х гадзінаў). *Доба/даба́* ёсьць у некаторых нашых гаворках, але і ў суседніх мовах. У сучаснай моўнай практыцы прыняліся менавіта прыдзьвінскія *содні* — відаць, дзякуючы сваёй празрыстай словабудове.

(Хаця, такая моўная іронія, калі ў нас некаму прысуджаюць „15 сутак“, то з уласнага досьведу пацьвярджаю — менавіта што „сутак“. У камэры прыбіральня — нічым не прыкрытая дзюрка ў падлозе.)

***

І ўрэшце, не цураючыся ранейшых слоўнікаў, у тым ліку аўтарытэтнага „Маскоўска-беларускага слоўніка“ братоў Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, Ян Станкевіч даводзіць, што коранем *граць* у нас традыцыйна апісвалі толькі нешта зьвязанае

з інструмэнтальнай музыкай. Усё іншае, у тым ліку ‘забаўляцца, займацца гульнёю’ — коранем *гуляць*. У тым ліку „выигрывать — *выгульваць*, „выиграть“ — *выгуляць*. Лягічна, бо „играть“ — *гуляць*. Не магу нават штучна сканструяваць кантэксту, у якім значэньне слова *выгуляць* было б цьмяным.

То спадчына Яна Станкевіча не абрасла пылам і мохам. Яна жыве. І ня боймася свайго.

# Эўра — яно маё?
# (Граматычная загадка)

З 1 студзеня 2015 году істотна зьмянілася грашовая рэальнасьць вакол Беларусі. Я не пра эўразійскую валютную непрадказальнасьць, якой розумам не абняць і алтынам не памераць, а пра пераход Літвы з уведзенага ў 1922 годзе (і наноў уведзенага ў 1993-м) стабільнага літа на ўжо глябальнае *эўра*. Раней перайшла Латвія, але яна меншая, дый беларусы ня гэтак тлумна туды езьдзяць. А вось калі ў Вільні *эўры*, то і слова ўваходзіць у актыўную лексыку многіх жыхароў Беларусі.

Слова *эўра* ўзаконіла Рада Эўрапейскага Зьвязу ў Мадрыдзе ў 1995 годзе. Кіраўнікі дзяржаваў выбіралі назву супольнае валюты праз спрэчкі, ультыматумы ды без удзелу мовазнаўцаў. Адкінулі імёны вялікіх эўрапейскіх грошай эпохі Рэнэсансу: *дукат, карона, флёрын,* бо нехта бачыў у такіх назвах нацыянальны інтарэс кагосьці іншага.

Фіны там сказалі, што ў іх хадзіла валюта з рознымі назвамі — *талер, карона, марка* і *рубль* — і што яны могуць пагадзіцца на якую хаця, апрача рубля. Але ж і *талер*, які ведала ўся Эўропа і які пакінуў добры сьлед у гістарычнай памяці беларусаў, больш ніхто не падтрымаў. Брытанцы прапанавалі нацыянал-патрыятычны варыянт — кожны заве новую валюту традыцый-

ным у сябе імем з прыстаўкай эўра: *эўрамарка, эўрафранк*. Але прайшла толькі прыстаўка — *эўра*.

У выніку атрымалася слова хай кароткае і пазнавальнае, але праблемнае ў перадачы рознымі мовамі. Назва валюты мае быць аднолькавай ува ўсіх афіцыйных мовах Эўрапейскага Зьвязу, пісацца аднолькава ў заканадаўчых тэкстах, пры скланеньні ня траціць часткі *эўр-*.

Але, па-першае, у розных эўрапейскіх мовах пачатныя гукі гэтага слова гучаць па-рознаму — па-ангельску (брытанскі варыянт) euro [ˈjʊərəʊ], па-нямецку Euro [ˈɔʏʁo], па-француску euro [øˈʁo].

Да таго ж назва нашага кантынэнту пішацца і вымаўляецца адметна, скажам, у латыскай (Eiropa), у ірляндзкай гэльскай (Eoraip) і наагул у кельцкіх мовах, у мальтыйскай (Ewropa). А яшчэ ж у Эўрапейскім зьвязе, акрамя лацінкі, ужываецца старэйшы за яе грэцкі альфабэт і маладзейшы кірылічны (у баўгарскай).

Па-другое, цяжка патрабаваць ад моваў, дзе назоўнікі скланяюцца, нязьменнасьці патрэбнага штодня слова.

Па-трэцяе, слова на -о можа мець праблемы з вызначэньнем роду (у мовах, якія маюць граматычны род).

Таму імя новых грошай апынулася ў цэнтры моўна-палітычных канфліктаў. Яно папраўдзе кавалак, адсечаны ад старажытнагрэцкага слова Εὐρώπη [Eurṓpē], але **Ευρώ** зь літарай **Ωω** (О мэга) на канцы, якую бачым на купюрах, па-грэцку ня можа скланяцца, а грэкі хочуць скланяць,

прынцыпова пішуць слова зь літарай **Оо** (О мікрон) на канцы **Ευρό** і скланяюць як нармальны назоўнік ніякага роду. (Відаць, менавіта таму іх зьбіраліся выганяць з эўразоны ☺) Латышы вымаўляюць і пішуць назву кантынэнту Eiropa, адпаведна грашына павінна быць *eiro* ці нават *eira*. Аналягічныя праблемы ў Мальты, Славеніі, Вугоршчыны.




Рэвэрс купюры ў 5 эўраў узору 2014 г.

Літоўцы дапасавалі гэты назоўнік да сваёй граматыкі: *euras,* мужчынскага роду, каб скланяць (*2 eurai, 100 eurų*). Але эўразьвязаўскія дакумэнты пішуць толькі зь нескланяльным *euro*. Таксама славакі, славенцы, харваты, чэхі *euro* скланяюць, у раманскіх мовах слова зьмяняецца па ліках, што пярэчыць фармальным вымаганьням Эўрапейскага цэнтральнага банку.

І мы не абмінем дыскусіяў вакол асваеньня ня дужа зручнага слова, прыдуманага для зручнай рэаліі, якая можа стаць нашай будучыняй. А можа і ня стаць. Пра гэта сумленна папярэджвае Віктар Шалкевіч у „Балядзе пра Васю“:

*Наляцела зьнекуль хэўра,*
*Ўо-ўо-ўо!*
*Адабралі ў Ваські эўра,*
*Ўо-ўо-ўо!*

Вось жа каб надалей не адбіралі.

Утвараецца слова ад імя нашага кантынэнту — *Эўропа*. Грэцкае пачатнае ε- (э-) звычайна захоўваецца па-беларуску: як *эмблема, эпоха*, *эўфанія* — так і *Эвангельле, Эўфрат.*

Літару **Э** з асаблівым гукавым значэньнем, паводле Яўхіма Карскага, у XV ст. увялі ва ўжытак беларускія пісары — гэта наш уклад у разьвіцьцё кірыліцы. Прычым напачатку літара **Э** ў цяперашняй ролі ўжывалася толькі ў словах іншамоўнага паходжаньня, напрыклад у словах *тэстамэнты* (Статут ВКЛ 1588 году), *Этѵ̈моло́гїа* (этымалёгія) у граматыцы Мялета Сматрыцкага (1648).

Што да расейскай мовы, то хаця беларускі друкар Ільля Капіевіч ў сваіх шрыфтах меў гэтую літару і адпаведна яна была ўключаная ў прызначаны для Пятра I праект новага шрыфтавога стандарту, але літара Э ў цяперашняй ролі замацавалася там толькі з канца XVIII ст. (бо, напрыклад, М. Ламаносаў ёй супраціўляўся).

Наша літара **Э** люстэркава падобная да аднаго з варыянтаў напісаньня грэцкай літары **ϵ** („эпсылён“) і адпаведна да знаку эўра **€**, створанага на аснове апошняй. Таму — ***э****ўра*. Падобнае да слова ў многіх іншых эўрапейскіх мовах, на слых паз-

навальнае іншаземцамі лепш, чым расейскае слова *евро* (вымаўляецца [јэвра]) з прыстаўным [j-].

У расейскай мове яно афіцыйна нескланяльнае. Але нават калі загадам вызначыць нескланяльнасьць, жывая стыхія слова прарасьце праз бэтон. Мы ж скланяем па-беларуску слова *паліто*, насуперак спробам уніфікаваць гэтую моўную рысу з расейскай граматыкай. Вось як Ян Скрыган — знаўца мовы — пераклаў „Лазьню“ М. Зошчанкі:

*Надзяваю гэтыя штаны, іду па паліто.* ***Паліта*** *не выдаюць — нумарок патрэбен. А нумарок на назе забыты. Разьдзявацца трэба. Скінуў штаны, шукаю нумарка — няма нумарка. Матузок тут, на назе, а паперкі няма. Змылася паперка.*

*Падаю лазеншчыку матузок — ня хоча.*

*— Па матузку, кажа, не выдаю. Гэтак, кажа, кожны грамадзянін нарэжа матузкоў —* ***політаў*** *не набярэсься. Пачакай, кажа,— калі публіка разыдзецца — выдам, якое астанецца.*

Або зьявяцца жаргонныя формы. Расейцы прыдумалі маласымпатычны жарганізм *еврики*. А нам лепш папусьціцца загадзя: хай скланяецца. *Тры эўры. Пяці эўраў бракуе.*

І ўрэшце: які ў слова *эўра* граматычны род? Жаночага роду *eira* ў латыскай і *evra* ў ісьляндзкай, мужчынскага — у францускай, каталянскай, літоўскай. Ніякага роду *ευρώ/euro* ў грэц-

кай, славацкай, чэскай, афіцыйна — у польскай (хаця дзьве апошнія краіны на гэты грош яшчэ не перайшлі і моўнае парадкаваньне наперадзе).

А ў нас? Няма аднаго *эўра* — як *няма гора*, *возера* — ці няма аднаго „эўры“— як *ваяводы*? Усё ж род тут ніякі — *мора, срэбра, стабільнае эўра.*

Адсюль рэкамэндацыя: у беларускай мове (клясычнае традыцыі)

**€ = эўра,**
**назоўнік ніякага роду,**
**скланяецца як *возера.***

## Былі ў нас талеры — усе патаялі, застаўся толькі даляр

Папраўдзе першай агульнаэўрапейскай валютай быў *талер.*

У канцы XV ст. празь недавер да ранейшых здэвальльваваных манэтаў спатрэбіўся трывалы срэбны эталён. У 1518 годзе *мынца* („манэтны двор“) чэскага графа Шцепана Шліка ў Яхімаве (па-нямецку Joachimstal — даслоўна Яхімаў дол) пачала біць *Ёахімсталеры*, адкуль і пайшла назва *талер.* Талер стаў валютай міжнароднага гандлю і пайшоў па сьвеце.

Летась споўнілася 450 гадоў пачатку біцьця нашых уласных талераў. Віленская мынца пачала годную справу ў 1564 годзе і доўга біла вялікія манэты вагой 29 г срэбра высокай пробы (Жыґімонт Аўгуст абвяшчаў выпуск талераў раней, але гэта ўсё ж была, паводле энцыкляпэдыі „Археалёгія і нумізматыка Беларусі“, толькі дэклярацыя).

Срэбная манэта лічылася роўнай залатому дукату. На тэрыторыі Беларусі талер як манэта ўжываўся да XIX стагодзьдзя, а як адзінка вымярэньня грашовых сумаў — і да XX.

Яго білі і ў Кароне Польскай, і ў розных княствах сярэднявечнай Сьвятой Рымскай імпэрыі, і ў Нідэрляндах, і ў Скандынавіі. На ягоны ўзор гішпанцы ўвялі даляр, які трапіў за акіян,— і так узьнік даляр ЗША, цяпер асноўная рэзэрвовая валюта сьвету.

Беларускі ж талер (варыянт вымаўленьня — *таля́р*) застаўся ва ўдзячнай памяці людзей як ідэальная грашына, трапіў у прыказкі ды фальклёр. „Слоўнік гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча“ фіксуе гэтае слова ў Вялейскім, Пастаўскім, Лідзкім, Мастоўскім раёнах.

*Талер маленькі, а даражэнькі* — гэта тое, што па-расейску „мал золотник, да дорог“.

У велічальных песьнях на Каляды або Вялікдзень гаспадароў хаты ідэалізуюць: дзеткі як кветачкі, гаспадыня — бы сонца, а ў гаспадара галава розумам насыпана і кашуля каштуе тысячу талераў. Дый уся даўняя Беларусь — рамантычная „краіна талераў“, як звалася самая папулярная ў 1990-я песьня Зьмітра Сідаровіча і гурта „Камэлёт“:

*Мы зьвесялелі ўраз,*
*І гэтак добра, што ёсьць у нас*
*Краіна талераў,*
*Краіна талераў,*
*Краіна талераў...*

А вось фальклёрная ілюстрацыя да зьмены гістарычных эпох і прыходу „рускага міру“:

Былі ў мяне талеры — усе патаялі, былі бумажкі — аставіў у Машкі, быў мундзір на семдзесят дзір, лату на лату саджу, а дзеньгі на водку шчаджу.

(„Цар Мамай“, народная драма. Запісаў у 1960 г. К. Кабашнікаў на Случчыне)

Талер быў дарагі. Казак у народнай песьні прадае каня за розныя каштоўнасьці паводле наступнага курсу:

*Прадам цябе, косю,*
*За дробныя дзеньгі,*
*За **талер** бяленькі,*
*За мёд, за гарэлку,*
*За красную дзеўку.*

У фальклёры і літаратуры бытавала таксама іншая форма слова. Клясык беларускага мовазнаўства Браніслаў Тарашкевіч ў перакладзе Міцкевічавага „Пана Тадэвуша“ трымаўся пэўных моўных узораў. Ключнік Гервазы Рубайла супакойвае Зосю, каб не баялася вызваленьня Тадэвушам сялянаў — маўляў, не зьбяднее:

*А Стольніка скарбец, укрыты ў зямлі ад грабежы,*
*у спадку да Пані Зафіі, бясспорна, належа;*
*у замку яго пільнаваў я, як вока зраніцы,*
*і ад маскалёў, і ад вас жа, панове Сапліцы.*
*І добры йшчэ мех у мяне сваіх собскіх **таляраў**,*
*сабраных гадамі і з выслугі, й з панскіх прыдараў.*

Клясык беларускай паэзіі нашаніўскае пары Алесь Гарун:

*Праз гадзіну,— час кароткі*
*Баўтрамею доўгім здаўся,—*
*Сьвет з ваконца паказаўся*
*У карчомцы пана Ноткі.*
*„Ну вот, бацьку, гаварыў ты!*
*Зараз зьлезем, купім гáры*

*І заплацім тры* ***таляры*** *—*
*Мы ня любім жаднай крыўды“.*
(жартоўны абразок „Канец Паўлючонка“).

Незабыўнай рыфмай *„купім гáры — тры таляры*“ Гарун не пакідае нам сумневу ў народнасьці апошняга слова. Націск у ім мог перасунуцца ці пад уплывам польскіх ускосных склонаў (talar — talary; заўважма, што па-чэску і па-славенску tolar), ці зь іншае прычыны, але ў беларускай клясычнай літаратуры гучыць яно так.

А як па-беларуску называць цяперашняга заакіянскага нашчадка талераў-таляраў? Эвалюцыя ягонага імя такая: *Daler* у ніжненямецкай і ў скандынаўскіх мовах, падобна па-нідэрляндзку, і ўрэшце па-ангельску *dollar*.

Вось жа ў клясычнай „Нашай Ніве“ братоў Луцкевічаў і Купалы тое слова пішацца пераважна зь мяккім л: *даляр* і *доляр* (аканьне тады не заўсёды пазначалі). „Ангельска-беларускі слоўнік“ Валянтыны Пашкевіч, што выйшаў ужо ў наш час, дае *даляр*. Прытым, што аўтарка жыла ў Паўночнай Амэрыцы. Чаму даляр? Тут марна шукаць асаблівасьцяў амэрыканскага вымаўленьня. Гэта рэха беларускае назвы любімых народам таляраў-талераў.

І пакуль да таго эўра дойдзе, някепска было б хоць колькі гадоў пакарыстацца беларускім талерам.

## Як па-беларуску „пылесос“ і якой нацыянальнасьці Зьмей Гарынавіч

Лета — пара адпачынкаў, паяднаньня з прыродаю і панадпрыроднымі сіламі. Перад адпачынкам трэба прыбраць дома. А як назваць электрычную прыладу, што высмоктвае пыл?

У савецкім слоўніку „пыласос“. Але гэтае „сос“ паказвае, што перад намі русізм, ад „пыль сосать“. Відаць, калька зь нямецкага слова *Staubsauger.*

Па-беларуску ня можа быць „сос“. Апарат пыл *сьсе* або *смокча.* У літаратурнай мове *ссаць*, у дыялектнай (Горадзеншчына) — *сысаць.* Паводле законаў беларускай фанэтыкі пра дзіця, якое яшчэ *сьсе*, скажуць *сысун*, *сысунок* (так назавуць і цялятка да году), так могуць кпліва адшыць некага надта маладога; сюды ж слова *сыска* (дзіцяці смактаць, некалі — заматаны ў тканіну хлеб з цукрам).

Заўважым: рэчыцкае прозьвішча *Сыс*, якое насіў паэт з Гарошкава, што адышоў у вечнасьць, наўрад ці зьвязанае з гэтым коранем; усё ж *Сыс* — даўняя пакарочаная нацыянальная форма

хрысьціянскага імя *Сысой* або *Сісой*. Яно з грэцкае мовы, а туды прыйшло ці то з старажытнагабрэйскай, ці то з копцкай.

Ёсьць у Анатоля Сыса верш пра *Зьмяінага Цара*:

*Мой гаспадар Зьмяіны Цар,*
*ты ведаеш, як словы*
*над вогнішчам купальскіх чар*
*складаюцца ў замовы.*

*Мой гаспадар Зьмяіны Цар,*
*сьвятлом сваёй кароны*
*ты кажаш шлях сярод імшар*
*у храм дуброў зялёных.*

Да верша шчэ вернемся, але перш разьбярэмся з тэхнікай.

**Памва Бярында пампуе смокам**

Не, я не прапаноўваю называць той вакуўмны апарат па-беларуску „пыласыс“. У розных славянскіх мовах прыжыліся назвы, наагул не зьвязаныя з пылам: *usisavač* у харвацкай, *vysavač* у чэскай. Па-польску *odkurzacz*, пыл па-польску *kurz*. Відавочна, беларусы Падляшша скалькавалі слова ў палякаў — *адпыльвач* стасуецца са словам *адпыліць* ‘пазбавіць пылу’. Як *адахвоціць* — ‘пазбавіць ахвоты’. Але такая словаўтваральная мадэль усё ж не зусім беларуская. Мы дома ўжываем слова *адпыльвач*, але настойліва рэкамэндаваць яго іншым ня буду.

Слоўнік беларускай мовы Івана Насовіча — гэта XIX стагодзьдзе. Але знойдзем там і народныя тэхнічныя тэрміны. Вось слова СМОК:

> **СМОКЪ,** а, с. м. 1) Насосъ, машина, употребляемая для перелива какой либо жидкости. Смокомъ скорѣй перецягнёшъ куфу, чимъ си цѣдзючи. 2) Желѣзная водосточная труба. 3) Пожарная труба. Смокомъ заразъ можно залиць пожаръ. 4) Сказочное названіе змія. Слич. Цмокъ.

(*куфа* — гэта вялікая кадзь, бочка.)

Хаця што там XIX стагодзьдзе. Яшчэ ў царкоўнаславянска-беларускім слоўніку Памвы Бярынды слова ўжываецца ў тэхнічным значэньні:

*Водовожда: смок, што ваду выцягае.*

Слоўнік Бярынды выдадзены ў Куцейне пад Воршай у 1653 годзе. Так што *смок* асьвячоны тэрміналягічнай традыцыяй. Таму і *пыласмок*, відаць, найлепшае слова для сучаснае прылады.

Але апошняе значэньне слова *смок* — ‘Сказочное названіе змія’ — у  Насовіча выводзіць нас ад тэхнічнага ў ірацыянальны сьвет.

### Цмок ды Арол

*Смок* і *цмок* у Насовіча — варыянты аднаго слова ў „цмачыным“ значэньні.

Карані *смок* і *цмок* трохі розьняцца сэмантыкай. *Смактаць* — толькі калі нешта высмоктваюць, а вось *цмокаць* — таксама і цалаваць. *Цмок* як гукапераймальны выклічнік — тое, што па-расейску „чмок“.

Мой кот успрымае той самы адпыльвач-пыласмок вельмі эмацыйна. Ён яго баіцца, прэвэн-

тыўна ўцякае. Відаць, на кацінае вока пыласмок і ёсьць цмок. Загнаны ў кут кот, як той асілак, адважна падымае лапу на галаву цмока, то бок на шчотку пыласмока.

Слова *цмок* у значэньні міталягічнай істоты чыста беларускае. Нездарма да вобразу цмока зьвярнуўся, шукаючы свае беларускае тоеснасьці, Сяргей Міхалок:

*Белыя воблакі, чорны анёл!*
*Старыя ворагі — Цмок ды Арол!*

У Міхалка Цмок свой, антыпод арла. А ў народзе ён станоўчы ці адмоўны? Слова *цмок/смок* у гаворках мае і значэньне ‘вясёлка’. На пагарынскім Палесьсі, у вёсцы Цераблічах, скажуць: *Цмок з рэкі воду́ набірае.* Высмоктвае ваду з ракі, балота ці мора. А вясёлка ж адназначна станоўчы вобраз, значыць, і Цмок успрымаўся некалі станоўча. У тым самым рэгіёне сьпявалі такія песьні пра колішнюю веру ў цмока:

*Ек була земля нехрышчэна,*
*то булі людзі неверные,*
*то не веровалі ў Господа Бога,*
*да поверовалі ў Ліхого Цмока.*
*(вёска Запясочча).*

Вэрсію песьні — пра Бяздэннага Цмока — выконвае гурт „Млын Сонца“:

*Бяздэнны Цмок морам плывець,*
*Сьвяты Юры на кане едзіць.*
*Бяздэнны Цмок к берагу падплываець,*
*Сьвяты Юры канём націскаець.*

*Як цяў меччу па яго плеччу,*
*Як цяў кап'ём па яго рабром —*
*Сіняя полынь у яго роту,*
*Пакурыўся дым із яго вушэй,*
*Пасыпаліся іскры ізь яго вачэй.*
*Бяздэнны Цмок патануў на дно,*
*Сьвяты Юры на бераг выплыў.*

Так, гэта ўжо хрысьціянская вэрсія гісторыі з цмокам, якога перамог Сьвяты Юры. Але чым займаўся беларускі цмок да таго?

## Зьмей Гарынавіч як экспартны аватар беларусаў

Цмок — жыхар зацішных і вільготных мясьцінаў. І я перакананы, што менавіта з палескіх балотаў паходзіць вядомы прадстаўнік сямейства цмачыных. Мяне не задавальняе клясычнае тлумачэньне паходжаньня прозьвішча-мянушкі Зьмея Гарынавіча — ад слова *гарэць* або *гара*.

Папраўдзе ягонае прозьвішча ад ракі *Гарыні*. Ён з Пагарыньня на Палесьсі. Наш *Цмок Гарынскі*, якога ў іншых землях, дзе слова *цмок* ня ведаюць, назвалі Зьмей Гарынавіч.

Нагадаю традыцыйны сюжэт украінскага і расейскага фальклёру. Пралятаючы над Кіевам, Зьмей Гарынавіч у парушэньне дамовы з тамтэйшым асілкам Дабрынем выкрадае з палаца дзяўчыну Забаву і хавае яе ў сваіх балотных норах. Трэба зазначыць, што палескі цмок прыйшоўся ёй даспадобы.

Чаму Зьмей шматгаловы? Бо ў сьвядомасьці кіянаў так адлюстравалася пакланеньне палешу-

коў вужу. Яно ўласьцівае ўсёй Беларусі, магчыма, дзякуючы балцкаму ўплыву. Вобраз шматгаловага вужынага караля сустракаецца па ўсёй Беларусі ды мае сваё прыроднае тлумачэньне. Зімуючы, вужы сплятаюцца ў клубок, зь якога тырчыць мноства галоваў.

Пабачыўшы ўвесну такі шматгаловы клубок, старадаўні наш продак разумеў, што Цмок Гарынскі — проста XXL-вэрсія вужынага караля.

Чаму Зьмей агнядышны? Бо палешукі ведалі і выкарыстоўвалі баявы так званы „грэцкі агонь“, калі хадзілі ў свае авантурныя паходы на паўднёва-ўсходнія палянскія гарады.

Чаму Зьмей Гарынавіч выкрадае дзяўчат? Бо старажытныя пагарынцы падчас паходаў заадно здабывалі сабе жонак. А некаторым кіянкам гарынскія хлопцы нават і падабаліся.

Вось такія мае домыслы. Мо і не зусім антынавуковыя. Ужо падрыхтаваўшы гэтую гаворку (хаця матэрыял я даўно сабраў), натрапіў на ўкраінскую энцыкляпэдыю „Карыкадурка“, дзе Зьмея Гарынавіча лякалізуюць таксама на рацэ Гарыні, але ў яе ўкраінскай частцы. Ён там жыве, маўляў, таму, што рэчышча зьвілістае і віры.

Непераканаўча. У нас, бліжэй да ўпадзеньня Гарыні ў Прыпяць, цмокам зручней, бо прасторна. У „Карыкадурцы“ яшчэ кажуць, што Гарынь лепшая за Лох-Нэс, таму што там Нэсі ўжо няма, а ў рацэ Гарыні цмок па-ранейшаму ёсьць. Гэта так. Але калі сьцьвярджаюць, што ўсплывае цмок на адрэзку Гарыні ў Ровенскай вобласьці, то гэта няпраўда. У Берасьцейскай. ☺

## Сьцяг ці флаг?

А таксама што такое *харугва, пратэса* і *штандар*

25-годзьдзе зацьверджаньня нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцягу дзяржаўным сьцягам Рэспублікі Беларусі абавязвае разабрацца з адпаведнымі тэрмінамі.

Вось жа ў 1991 годзе быў прыняты Закон *Аб дзяржаўным сьцягу Рэспублікі Беларусь*, крыху пазьней — Палажэньне *Аб дзяржаўным сьцягу.*

І нават дзяржаўны Стандарт „*Сьцяг Дзяржаўны Рэспублікі Беларусь*“ № 911-91, які быў уступіў у сілу 1 красавіка 1992 году, рэглямэнтаваў прапорцыі, дакладны колер і тэхнічныя варункі вырабу *сьцягоў.*

Усюды слова *сьцяг*. Скажаце: і што за дзіва?

Так, на дзіва, у афіцыйнай лексыкаграфіі пад грыфам Акадэміі навук дасюль асноўнае слова — *флаг*, якім перакладаюць такое самае расейскае слова. Паводле гэтых акадэмічных слоўнікаў, трэба казаць толькі „дзяржаўны флаг“. У дзяржаўных выдавецтвах сярод нешматлікіх беларускамоўных выданьняў пабачым, прыкладам, кнігу А. Басава ды І. Куркова „Флагі Беларусі ўчора і сёньня“ (пераклад з расейскай).

Тыя ж слоўнікі беларускае слова *сьцяг* перакладаюць на расейскую словам *знамя*. І хаця

ў расейскай, у тым жа агульнавядомым слоўніку Ожагава, значэньні словаў *флаг* і *знамя* моцна падобныя, але *государственный* і *национальный* там можа быць толькі *флаг*. А *боевое* — толькі *знамя*.

Няўжо нашыя законатворцы і проста творцы рабілі моўную памылку, кажучы пра нацыянальны і дзяржаўны *сьцяг*?

*Пагоню не спыняе*
*Ня боль, ня кроў, ня страх.*
*І над крывіцкім краем*
*Як птах лунае сьцяг.*
*Наш бел-чырвона-белы,*
*Нябесны, вольны, смелы,*
*Наш бел-чырвона-белы,*
*Наш сьцяг, наш сьцяг, наш сьцяг...*

Відавочна, у вершы Ўладзімера Някляева слова *сьцяг* — у значэньні нацыянальнай сьвятыні.

А ў „Песьні зь Мінуўшчыны“ Андруся Мельнікава для пазначэньня палотнішчаў на дрэўках — два словы:

*Незалежнасьці паходня*
*Ў нас і гонар, і сумленьне.*
*Пад харугвамі з Пагоняй,*
*Пад сьцягамі Адраджэньня.*

*Харугвы* з Пагоняй, *сьцягі* Адраджэньня фактычна ўжытыя як сынонімы. Ці *харугва* розьніцца ад *сьцяга*?

## Харужы мае быць са зброяй

Сучаснае расейскае значэньне слова *хоругвь* — царкоўнае палотнішча для шэсьця. Але для палотнішча на гарызантальнай пярэчцы, з выявамі сьвятых, беларуская народная мова ведае іншае слова — *пратэса*, *пратэсьня*, *пратасея*, часам таксама ў значэньні „хаўтурная харугва“ (зафіксавана па ўсёй Беларусі, у тым ліку Ўсходняй — падкрэсьліваю гэта таму, што слова *пратэса* лацінізм, ад „працэсія“).

Пра харугвы кажа „Слова пра Ігараў паход“, напісанае, як мяркуюць прыхільнікі яго аўтэнтычнасьці, на старадаўнім северскім дыялекце (Чарнегаўшчына, Браншчына):

*Чрьленъ стягъ,*
*бѣла хорюговь,*
*чрьлена чолка,*
*сребрено стружїє —*
*храброму Святьславличю!*

*Чырвоны сьцяг, белая харугаў* (і далей чырвоная *чолка* — бунчук ды срэбранае *стружжа* — дзіда). Дарэчы, заўважма, якія колеры. А сьцяг і харугва тут, відавочна, сынонімы — гэта баявыя знакі.

І ў эпоху Вялікага Княства слова *харугва* мела некалькі значэньняў з галоўным — ‘баявы сьцяг’. Цытата з Статуту 1588 году — рыхтык як з ваярскага статуту:

*...Харужы, гды будзе харýгаў дзяржаці, маець на сабе меці зброю...*

Харужы — вайсковы сьцягоўнік („сьцяганосец“ па-цяперашняму афіцыйнаму) у старой Беларусі. Вось такі харужы быў заснавальнікам роду, уявеце сабе, Веры Харужай.

Другое значэньне слова *харугва* — ‘вайсковая адзінка’, роўная прыблізна кавалерыйскай роце. Зрэшты, такую вайсковую адзінку называлі і *сьцягам*.

**Штандар, штандар, Пагоня!**

Пазьней у значэньні ‘баявы сьцяг’ пашырылася слова *штандар*. Менавіта словы *„Штандар наш бел-чырвона-белы“* гучаць у нацыянальным гімне „Мы выйдзем шчыльнымі радамі“. Лягічна, бо напачатку гімн быў ваяцкім маршам.

Штандар з Пагоняй — таксама ваярскі — у песьні Сержука Сокалава-Воюша „Маналёг паўстанцкага каня”:

*Цок, цок, цок, цок — вершнікі на конях.*
*Цок, цок, цок, цок — ты зважай, народ!*
*Цок, цок, цок, цок, і штандар з Пагоняй*
*Цок, цок, цок, цок, кліча ў паход!*

*Штанда́р* — даўні германізм, але мае лацінскі першакорань, ад ‘нацягваць, разгортваць’. У беларускай народнай мове слова *штанда́р* мае таксама значэньне ‘апорны слуп будынку’ (паходзіць ад іншага германізму, але ў беларускай мове іх гучаньне супала).

Цікава, што ў розных рэгіёнах Беларусі бытуе дзіцячая *гульня ў шта́ндар*, калі вядоўца высока

падкідвае мячык, крычыць: „Штандар, штандар!“ — і называе таго, хто павінен яго перахапіць. Хто не пераняў — караецца ўмоўным расстрэлам (мячыкам). Такое сабе рэха пэрсанальнай адказнасьці штандаровага за сьцяг войска.

### Сьцяг не здамо

Што ж да слова *сьцяг*, яно вельмі старажытнае, фіксуецца з XI ст. Яго лічаць пазычаным з скандынаўскага слова са значэньнем ‘дрэўка, шост’, але мо яно і спрадвечнаславянскае, бо ведаюць яго, скажам, харваты.

У гаворках слова *сьцяг* шматзначнае. Яно азначае таксама ‘абшар, пляц’ (сьцяг лугу), ‘рад, палоска’ (сьцяг дамоў). Сьцяг гаравы — тое, што па-расейску „горный хребет“. А яшчэ сьцяг — гэта мясная туша, успомнім слова сьцягно.

Але значэньне ‘нацыянальная сьвятыня’ прыцьміла ўсе іншыя дыялектныя значэньні слова сьцяг. Знакамітая „Беларуская песьня“ Уладзімера Караткевіча:

*Ты — наш Край. Ты — чырвоная груша над дзедаўскім домам,*
*Лістападаўскіх зьнічак густых фасфарычная раць,*
*Ты — наш сьцяг, што нікому, нікому на сьвеце, нікому*
*Не дамо абсьмяяць, апаганіць, забыць ці мячом зваяваць.*

## Гарыць чырвоны флаг

Мае рацыю Ян Станкевіч, які перакладае наша слова *сьцяг* на расейскую абодвума словамі: і „знамя“, і „флаг“. Па-беларуску сказаць *баявы сьцяг* магчыма. Прыкладам, усе мы, былыя школьнікі, памятаем ваенную паэму Аркадзя Куляшова „Сьцяг брыгады“. Варта зноў паўтарыць, што сэмантычныя размежаваньні паміж беларускімі словамі часта не супадаюць з палямі значэньняў словаў расейскіх.

А вось культавых ці проста вядомых твораў пра *флаг* нешта я і не знайшоў. Акрамя спэцыфічнай байкі Кандрата Крапівы „Махальнік Іваноў“, дзе начальнік правярае стрэльбішча.

*А тут раптоўна Шэф вярхом аднекуль —*
*шасьць:*
*Цікава паглядзець, а як страляе часьць?*
*Ці вока вернае, ці цьвёрдая рука*
*Ў чырвонага стралка?*
*Зайгралі „пападзі“,*
*Гарыць* ***чырвоны флаг****.*
*Стралкі — на лінію.*
*Ляглі ўсе па упорах.*
*Вось выстраліў адзін,*
*Вось разам — пах-пах-пах!*
*І лезе ў нос, і дражніць востры пах*
*(Калісьці Шэф таксама нюхаў порах).*

Слова *флаг* расейскі цар Пётра І занёс у Расею з Галяндыі. Слова flaga запазычылі і палякі — зь нямецкай мовы. Але маем рэдкі выпадак, калі

ў народнай беларускай мове няма германізму, які маюць і польская, і расейская.

Расейская мова ведае слова *стяг* толькі ў паэтычных стылях. Ува ўкраінскай дзяржаўнае і нацыянальнае палотнішча завецца *прапор*, у літоўскай — *vėliava*. І, такім чынам, слова *сьцяг* у афіцыйным дзяржаўным значэньні — гэта наша моўная адметнасьць ад усіх суседзяў.

А што з аднакаранёвымі да „флага“ словамі? Для высокай рэйкі, на якой сьцяг уздымаюць, якая па-расейску (ізноў-такі зь нідэрляндзкае мовы) „флагшток“, укладальнікі „Расейска-беларускага вайсковага слоўніка“ (1997), беларускамоўныя афіцэры падпалкоўнік Станіслаў Суднік і старэйшы лейтэнант Сяргей Чыслаў прапанавалі былі слова з народным коранем *тронец* — параўнай *тронак* рыдлёўкі ці лыжкі.

Падсумуем:

**бяз *флага* абыдземся;**
***штандар* і *харугва* — баявы, ваярскі сьцяг;**
***пратэса* — сьцяг у рэлігійнай працэсіі;**
***сьцяг* — найбольш унівэрсальнае слова для асьвячонага сымбалізмам палотнішча на дрэўку. Дзяржаўны сьцяг, нацыянальны сьцяг.**

# Як страхавацца па-беларуску

Некалі я сказаў „Белдзяржстраху“ (пра мілагучнасьць і натуральнасьць гэтай назвы ў нас ужо была гаворка[12], што апошні раз пагаджаюся на расейскамоўны страхавы поліс. Паабяцалі праз год даць беларускі блянк. Прамінуў год. Як і трэ было чакаць, няма. Маўляў, ёсьць начальства, ёсьць міністэрства і нават „наш прэзідэнт“. І стандартная форма парасейску. Хаця, на маю думку, нішто не перашкаджала тую стандартную форму, захаваўшы ўсе канцылярскія нюансы, перакласьці. Я пасварыўся, сказаў, што ня цэняць кліентаў і што сыду да канкурэнтаў. А ім абыякава.

Стаў шукаць беларускамоўнае страхаваньне — аказалася, ня так гэта проста. Прыватныя фірмы таксама залежаць ад блянкаў полісаў, якія зацьвярджае Мінстэрства фінансаў. Але я знайшоў-такі спосаб у тым самым „Белдзяржстраху“. На іхным інтэрнэт-сайце ёсьць форма замовіць страхавую паслугу, а ў ёй графа „Пажаданьне“. Я і ўпісаў туды: *Аформіць па-беларуску.* На наступны дзень мне зь філіі „Белдзяржстраху“ для Менскай вобласьці (бо запыт трапляе ў адпаведны рэгіён) тэлефануе сп-ня Натальля, а яшчэ на наступны прывозіць дамову па-беларуску.

---

[12] Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам. — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2016. С. 11.

Пытаюся пра поліс на блянку з каляровымі разводамі і вадзянымі знакамі — няма, кажа. Але мяркую, што чым болей будзе такіх патрабаваньняў ад кліентаў, тым хутчэй Міністэрства фінансаў вырабіць блянкі, бо яго пачнуць даставаць самі страхаўнікі.

Як чуем, у сваёй рэкляме „Белдзяржстрах“ беларушчыны не цураецца, але значна важней ужываць беларускую ў штодзённай працы.

Пры ўсёй удзячнасьці я ня мог не зьвярнуць увагі на тэрміналёгію ў перакладзенай дамове. У акце страхаваньня звычайна два ці тры бакі. Фірма застрахоўвае некага, гэта значыць прымае грошы, а ў разе бяды кампэнсуе страты або таму, хто плаціў складкі, або некаму іншаму паводле дамовы.

Вось жа той, каму кампэнсуюцца страты, парасейску завецца *выгодоприобретатель*, гэта калька зь нямецкага Nutznießer. У беларускім перакладзе знаходжу *выгаданабытчык*.

Каюся, спачатку я прачытаў, бо дробны шрыфт, *вагонадабытчык*. Груваcтка, ненатуральна. Гляджу ў іншых мовах — у бальшыні эўрапейскіх гэтае паняцьце перадаецца лацінскім beneficiarius — анг. beneficiary, баўгарскі бенефициент. І нам, з нашай шматвяковай традыцыяй ужываньня лацінізмаў, таго ж слова *бэнэфіцыя* для маёнткаў, найлепш было скарыстаць ужо прысутнае ў фінансавай тэрміналёгіі ды міжнародна зразумелае слова *бэнэфіцыяр*. Хаця, скажам, па-сэрбску і па-харвацку *korisnik* — і для беларускае мовы прыдатная мадэль.

А вось як назваць фірму і таго, каму яна выдае поліс? Па-расейску гэта адпаведна *страхóвщик* і *страхователь*, і даю руку на адсячэньне, што чалавек, не зьвязаны штодня з страхавой справай, не адразу арыентуецца, хто дзе. Бо ў расейскай і словы на -щик, і словы на -тель абазначаюць асобу паводле роду заняткаў, прафэсіі, функцыі. Проціпастаўленьне *страховщик* — *страхователь* — тэрміналягічная ўмоўнасьць. Расейскія лінгвісты, праўда, тлумачаць нюансы такім чынам, што словы на -тель могуць абазначаць і часовую ролю асобы (як *покупатель*), ёсьць у расейскай падобная пара *фрахтовщик* — *фрахтователь*.

У беларускую такое проціпастаўленьне мэханічна не перанясеш. Хаця афіцыйныя слоўнікі савецкай пары даюць *страхоўшчык* — *страхавальнік*, але тут ужо з суфіксаў зусім няясна, хто суб'ект, а хто аб'ект дамовы. Пагатоў, як даказаў спэцыяліст у словаўтварэньні праф. Павел Сьцяцко, словы прафэсіяў і заняткаў на -шчык не ўласьцівыя беларускай мове. Найбольш пашыраныя ў нас такія назвы на -нік. Як *будуе будаўнік*, так *страхуе страхаўнік*. Гэты тэрмін для арганізацыяў страхаваньня знойдзем у прафэсійным часопісе беларускамоўных юрыстаў „Праўнік". А вось каго страхаўнік страхуе або хто ў яго страхуецца? У бальшыні эўрапейскіх моваў ужываюць апісальны дзеепрыметнік. Ангельцы — the insured, літоўцы — apdraustasis 'застрахаваны', таксама баўгары (застрахованият). Расейцам,

відаць, нешта перашкаджала ўжываць тэрміны *страхуемый* ці *страхующий*. А мы можам выбіраць: *страхаваны* незакончанага трываньня ці *застрахаваны* закончанага трываньня.

Урэшце, само слова *страхаваньне* ў беларускай мове русізм. Гэта ва ўсходніх суседзяў адно са значэньняў слова „страх“ — ‘адказнасьць’. Адсюль выраз „на свой страх и риск“, па-беларуску *пад сваю адказнасьць*. А ў нас страх гэта страх, вось і ў Насовіча *страхаваньне* — тое, што па-расейску ‘ужас’. І прыклад:

*Няхай Бог бароніць, якога мы набраліc страхаваньня.*

А *страховы* значыць ‘страшный, опасный’. *Баюсь, гэта страховае дзела!*

Але спробы нашых адраджэнцаў знайсьці гэтаму русізму альтэрнатыву не павяліся. *Убесьпячэньне* Янкі Станкевіча моцна нагадвае польскае. Хоць такое слова ёсьць у Насовічавым слоўніку, яно таксама палянізм, але значыць проста ‘засьцярога’, ‘абарона’. *Забесьпячэньне*, якое прапаноўвалі як варыянт Сьцяпан Некрашэвіч і Мікола Байкоў, у гаспадарча-эканамічнай тэрміналёгіі замацавалася ў іншым значэньні, як расейскае „обеспечение“, „снабжение“, і наўрад ці магчыма яго сэмантыку цяпер зьмяніць. Таму хай ужо будзе сэмантычны русізм „страхаваньне“ і хай трымае нас у страху. А каб не было пажару, прамаўляйма старыя народныя замовы:

*Ходзіць Алена па полі, каменьне зьбірае, кольле забівае, пажару не пускае.*

**P.S.** Калі каму зь Менскай вобласьці (і раёну ў тым ліку) трэба кантакт зь беларускамоўнай страхаўніцай — ахвотна падзялюся.

## Што ішча саіскальнік?

Ёсьць у расейскай мове слова „соискатель“. Яго ведаюць усе, бо яно абазначае ўдзельніка конкурсу на пасаду, на званьне ці ступень — прафэсара, доктара навук, а таксама ўдзельніка ўсякага іншага конкурсу, спабору за прэмію.

На беларускую мову афіцыйныя савецкія слоўнікі яго перакладалі найперш як *саіскальнік*, потым *суіскальнік*.

Пра слова казаў на хвалях Радыё Свабода Юрась Бушлякоў[13]. Ён падкрэсьліў, што прыстаўка *са-* з паходжаньня часьцей за ўсё царкоўнаславянская, яна даволі надзейны знак таго, што перад намі русізм. Сапраўды, ёсьць у расейскай цэлая чарада словаў царкоўнаславянскага паходжаньня з прыстаўкай *со-*, калі яна перадае ідэю супольнасьці: *сочинить, сосуд, собеседник, состав, собор, современный, соперник, соискатель, сословие. Совет* і *союз.*

Але ў беларускай прыстаўка *са-* ў такім значэньні амаль не ўжываецца (у нас *с-, з-, су-, спа-*: *склад, збор, сучасны, сузор’е, супар, спаборнік*).

Але менавіта да варыянту с**а**іскальнік вярнуў афіцыйную мову так званы новы правапіс у ліпені 2008 г.

---

[13] Юрась Бушлякоў. Жывая мова. — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2013. С. 89.

Зрэшты, нават на сайце БДУ, дзе і працуе ініцыятар апошняга перагляду савецкага правапісу, дагэтуль суіснуюць *суіскальнік* і *саіскальнік* (а можа с**а**існуюць)? Можна там і *сушукальніка* знайсьці.

Каб радыкальна ўхіліцца ад расейскіх прыставак, знаўца беларускага словаўтварэньня праф. Павел Сьцяцко стварыў слова *спашукальнік* (прыстаўка *спа-* характэрна беларуская: *спагада*, *спачуваньне*).

Але мне не падабаецца і гэтае слова. Бо яно — калька з расейскай, гэта значыць скапіяванае па кавалачках. *Со-искатель — су-іскальнік, спа-шукальнік*. Акрамя таго, мне асабіста расейскі *соискатель* сугучны са словам *заискивать* — перад начальствам.

У 1920-я гады *саіскальнікаў* у беларускай мове не было, падбіралі іншыя адпаведнікі. Сьцяпан Некрашэвіч і Мікола Байкоў у клясычным акадэмічным слоўніку 1928 году далі *запабягальнік* ад *запабягаць* (адно са значэньняў *'заискивать')*. Але Вацлаў Ластоўскі прапанаваў перадаваць паняцьце не ліслівым, а цьвёрдым беларускім словам *спаборнік*. То нават пазьнейшыя савецкія слоўнікі 1950-х гадоў пасьля *саіскальніка* ўсё ж як варыянт давалі *спаборніка* (хоць імя Ластоўскага было пад забаронай).

Слова „іскаць" у беларускай літаратурнай мове няма. А вось у дыялектах яно ёсьць — з канкрэтным значэньнем 'шукаць у галаве вошай':

— *Дай я цібе буду іскаць!*

(„Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны“ М. Шатэрніка).

Або *іскацца*, што значыць — знайшоўшы тых самых зьвяроў у галаве, нішчыць іх з дапамогаю нажа ці іншага цьвёрдага прадмету („Віцебскі краёвы слоўнік“ Міколы Касьпяровіча). Падазраю, што і згаданае расейскае слова *заискивать* паходзіць адсюль жа.

Таму лягічна задаць аўтарам апошняй вэрсіі афіцыйнага правапісу пытаньне: што або каго *ішча саіскальнік*?

Цікава, што дыялектная мова ведае і слова *іск*, таксама зьвязанае з кузуркамі ды жамярой. Гэта пчалінае выведваньне, новы пчаліны рой. Адпаведны дзеяслоў — *іскаваць*. *Пчолы іскуюць — шукаюць доміка*, скажуць на Глыбоччыне.

Кожны заўважыць, што беларускае пчалярскае слова *іск* супадае з расейскім юрыдычным тэрмінам.

У старабеларускай мове не было слова *іск*, хоць *іскаць* — было. Прычым яно як абазначала ‘шукаць нечага’, так і мела чыста юрыдычнае значэньне — дамагацца свайго праз суд; былі сталыя выразы *іскаці правам* або *іскаці на праве*, *іскаці на горла* ці *на згубу*, *іскаці помсты*. Усё ж зь цягам часу запанавала слова *шукаць*.

І, такім чынам, цяперашнія тэрміны *іск*, а таксама *ісьцец*, застаюцца ізаляваныя, без свайго словаўтваральнага гнязда. Але старабеларуская юрыдычная тэрміналёгія была выдатна распрацаваная, сыстэмная, з варыянтамі. Як у Вялікім

Княстве казалі, калі зьбіраліся ўсчаць працэс супраць некага? Вельмі проста: *я яго пазаву.*

*Ты пакліч мяне. Пазаві.*
*Там заблудзімся ў хмельных травах.*
*Пачынаецца ўсё зь любві,*
*Нават самая простая ява.*

Так пісала Яўгенія Янішчыц у сваім песенным вершы. Дык вось *пазваць* — не заўсёды *паклікаць*. Гэта тое, што па-расейску „предъявить иск“. Зрабіць *пазоў*. Вось такі ўласнабеларускі адпаведнік юрыдычнаму слову *іск*.

*Пазоўны ліст* — исковое заявление. *Пазваньне* — привлечение к суду. Той, хто пазывае — *пазоўнік, пазоўніца*, па-расейску „истец“, „истица“. А процілеглы бок, той, хто па-расейску „ответчик“,— *пазваная старана* ці *адпорная старана*. Некаторыя словы старога нашага права беларускія сяляне і шляхта памяталі яшчэ ў XIX стагодзьдзі. Дый нават цяпер мы кажам па-беларуску не *павестка* (міліцэйская, судовая ці ў вайсковы камісарыят), а *позва*.

Гэтыя ВКЛаўскія юрыдычныя тэрміны, а таксама сотні іншых, сабраў у слоўнічак „Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія“ мовазнаўца Ян Станкевіч. А ці вернуцца яны да новага жыцьця ў беларускамоўнай праўнай дзяржаве Беларусі — залежыць ад нас.

## Міліцыя і паліцыя — розныя словы, розныя рэчы

### Дзень Беларускай паліцыі

Беларусь засталася адной з чатырох дзяржаваў сьвету, дзе органы правапарадку называюцца *міліцыяй*. Яшчэ Ўзбэкістан, Таджыкістан, Кіргізстан. Міліцыяй гэтыя органы называліся ў многіх краінах былога камуністычнага блёку, але ўсе перайшлі на *паліцыю.*

Год таму ва Ўкраіне пачалася рэформа службы, якую падкрэсьліла замена назвы. У Грузіі спачатку назву памянялі, а тады правялі рэформу і зрабілі паліцыю празрыстай для грамадзтва — сьведчу, што даволі пасьпяхова. У Расеі памянялі шыльду без рэформы.

**Чым розьніцца *міліцыя* ад *паліцыі*?**

Паліцыя — старэйшае слова, з грэцкім коранем πολῑτεία ‘грамадзянства, кіраваньне дзяржавай, дзяржаўны лад’. У старабеларускай мове азначала менавіта добры дзяржаўны лад:

*За царквою бовем праўдзівою і зь вераю добраю паліцыя трываці доўга можа.*

(XVII ст.). *Паліцыя* = парадак, уладкаванасьць.

Традыцыйнае значэньне слова *міліцыя* — ад лацінскага mīlitia ‘вайсковая служба, жаўнеры, ваенная кампанія’. Корань той самы, што ў слове мілітарызм. Шмат у якіх краінах абазначае нерэгулярнае войска, скліканае ў патрэбе.

У Вялікім Княстве Літоўскім была больш дэталёвая тэрміналёгія. Маем сваю традыцыю *паспалітага рушаньня* (або *рушэньня*) — найперш шляхоцкага:

*Дзе бы з ухвалы Сойму Вялікага Вальнага прыйшло да рушаньня паспалітага ўсіх, тагды харужы, даўшы ведамасьць а том шляхце, кожды ў сваем павеце маець выехаці сам і чэраз лісты сваі азнайміці шляхце месца ку зьеханьню...*

(Статут ВКЛ, разьдзел 2 „А абароне земскай“, арт. 6 „А зьбіраньню і цягненьню шляхты на вайну“).

*Мяшчанскае* ж рушаньне ў магнацкіх гарадох было больш рэгулярнае і называлася акурат *міліцыяй*. Кожны мешчанін меў зброю і ўваходзіў у пэўную сотню. Для такой сыстэмы тэрытарыяльнай абароны сёньня звычайна шукаюць швайцарскі аналяг. А ў нас яна была свая. У мірны час міліцыя несла варту на гарадзкіх брамах, пільнавала пажарную бясьпеку, зьбірала падаткі. Таксама *міліцыяй* у XVIII ст. называлі прыватнае войска магнатаў. Караль Станіслаў Радзівіл увёў даволі жорсткі статут службы ў сваёй міліцыі пад назвай *Артыкулы вайсковыя* 1775 году, які моцна спатрэбіўся, калі міліцыя была ўключаная ў войска ВКЛ як 8-ы рэгімэнт і ваявала з расейскім акупантам.

Вось жа нашая традыцыйная міліцыя адпавядала назьве і мела сур’ёзны досьвед войнаў за незалежнасьць Бацькаўшчыны.

А *міліцыя* ў значэньні ‘органаў аховы грамадзкага парадку’ ў новы час зьявілася замест паліцыі падчас падзеяў Парыскай камуны 1871 г. *„Нацыянальная міліцыя, якая абараняе грамадзян ад улады“*,— так хацеў бачыць гэты захад камунараў Карл Маркс. Цікава, ці ведалі гэтае азначэньне місіі міліцыі бальшавікі, якія таму Марксу пакланяліся.

У Беларусі падчас 1-й усясьветнай вайны самыя людзі, найперш адукаваныя і адказныя гараджане, самаарганізоўваліся ў структуры самааховы, якія называлі міліцыяй. У Вільні гарадзкая міліцыя стварылася ў 1915 годзе.

**„Пагоня на шапцы пад какардой“**

Тэрмін гэты пераняла і ўлада Беларускае Народнае Рэспублікі. Палкоўнік Кастусь Езавітаў, які быў да таго народным сакратаром ваенных справаў і выконваў абавязкі сакратара ўнутраных справаў БНР, у лютым 1919 году стаў камісарам Плянты-Шчучынскага павету і пачаў з наступнага загаду:

*Для парадку і абезпэчэньня жыхароу ад грабежоу і гвалту мною ствараецца Павятовая Міліцыя.*
*Начальнікам міліцыі, з 8-го гэтаго Лютаго, назначаю Грамадзяніна ДРАМОВІЧА.*
*Начальніку міліцыі прыказываю зараз-же прыступіць да запісі кандыдатау у міліцыю.*

*Прыймацца могуць асобы не меньш як 22 гадоу і па рэкамэндацыі Валасных Камітэтау...*
*Адзнакі для міліцыанероу будуць гэтакія:*
*Павязка на левам рукаве з трох коляроу — белай, чырвонай і белай;*
*З такіх же коляроу круглая кокарда на шапках; нацыанальны гэрб — Пагоня на шапцы пад какардой.*
*Астрына, 6.02.1919*

(Архівы БНР. Т. I. Кн. 1. Укл. С. Шупа. Вільня—Нью-Ёрк—Менск—Прага, 1998. С. 328)

Што „міліцыя"— дзіва няма. Папраўдзе слова ўвялі да бальшавікоў. У Расеі на „милицию" перайшоў Часовы ўрад, у піку цару паліцыю замяніўшы фармальна народным рушаньнем. Міліцыяй спачатку назвалі праваахоўныя органы і ў незалежных Літве і Латвіі. Але як толькі ў Літве перайшлі на прынцыпы іх камплектаваньня і місію як у стабільных краінах Захаду, то ўвялі назву policija (у 1924 годзе). Перакананы, зрабіла б падобна і наша БНР, каб не была задушаная.

Назву „милиция" перанялі расейскія бальшавікі й напоўнілі вядомым ідэалягічным зьместам. Менавіта гэта адбылося ў Менску, дзе 4 сакавіка 1917 году канцылярыя менскага цывільнага камэнданта прызначыла часовым начальнікам гарадзкой міліцыі нейкага Міхайлава, які папраўдзе быў бальшавіцкім агентам Міхаілам Фрунзэ. Фрунзэ адразу прыступіў да расправаў з паліцэйскімі, з тымі самымі гарадавымі, пом-

нік абагульненаму вобразу якіх кагадзе адкрыў міністар унутраных справаў Рэспублікі Беларусі Шуневіч. І той самы міністар пышна сьвяткуе стагодзьдзе менскай міліцыі Часовага ўраду Расеі на чале з бальшавіком Фрунзэ.

Здавалася б, прыклад раздваеньня гістарычнай сьвядомасьці. Але не, тут ёсьць пасьлядоўнасьць. Царская паліцыя хапала і высылала ў Сыбір Алеся Гаруна і Язэпа Лёсіка, кінула ў Пішчалаўскі астрог (будучую „Валадарку“) Якуба Коласа. І бальшавікі, у прыватнасьці той самы Фрунзэ са сваёй міліцыяй, не лічылі беларусаў за нацыю. Іх усіх — разам з пазьнейшым НКВД — ядналі рэпрэсіі супраць беларускага нацыянальнага руху. Іхныя органы ўнутраных справаўператварыліся ў прыладу палітычных рэпрэсіяў надоўга.

Цяперашнія ўлады пачатак „беларускай міліцыі“ адлічваюць ад бальшавіцкага камісара беларусафоба Фрунзэ. А не ад крокаў Ураду БНР дзеля праваахоўнага мацаваньня незалежнае дзяржаўнасьці Беларусі. Між тым 22 лістапада 1918 году Рада міністраў БНР прыняла Дэклярацыю аб будаўніцтве і абароне незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Сярод унутрыпалітычных захадаў пунктам трэцім было „стварэньне ўзброенай сілы для абароны правапарадку“ (фактычна даручэньне тагачаснаму кіраўніку Міністэрства ўнутраных справаў Кузьму Цярэшчанку).

То магчымая **дата нашага Дня паліцыі — 22 лістапада**.

## Мой дружбант паліцыянт

Слова *міліцыянер* — бясспрэчны русізм, але ў расейскай яно ад ням. Milizionär. З лацінскай першаасновай такую форму мала што лучыць. І словы на *-янер* не фіксуюцца ў беларускай народнай словатворчасьці.

Суфікс гэты нямецкага паходжаньня, у расейскай мове позьні, кніжны, у беларускую прыйшоў праз расейскую. Як і словы апазіцыянер, карупцыянер і пад. — параўнай анг. oppositionist, польск. opozycjonista.

Што ж да слова *паліцэйскі*, то і гэтая мадэль ня надта ўласьцівая нашай мове. Не „паліцэя“, а *паліц**ыя***, больш лягічна *паліц**ый**ны*. Дый называць службоўца прыметнікам (які? паліцэйскі) не выпадае.

А вось беларускія *міліцыянт* і *паліцыянт* больш натуральныя. Суфікс *-ант (-янт)* хоць лацінскага паходжаньня, але ёсьць у народным словаўтварэньні. *Камэдыя — камэдыянт; рызыкант, дружбант, штукант, паліцікант, арыштант,* урэшце, — гэта ўсё словы з жывых гаворак (карыстаюся зборамі Паўла Сьцяцка).

## Падсумуйма

Маем беларускі запас словаў для важнай сфэры дзяржаўнага ўладкаваньня. Нерэгулярнае войска па-расейску завецца „ополчение“ (хоць часам пад яго шыюцца акурат рэгулярныя баявыя адзінкі). Пераносіць русізм на беларускую глебу няма патрэбы, мы ж маем слова *рушаньне*. Удзельніка рушаньня завем *ваяўнік*; аўтары „Ра-

сейска-беларускага вайсковага слоўніка“ (1997) С. Суднік і С. Чыслаў даюць варыянт *рушэнец*.

Магчыма, да свайго пачатнага значэньня — нерэгулярнае, але ўпарадкаванае войска — у нас вернуцца словы *міліцыя* і *міліцыянт*. А слова *паліцыя* будзе ізноў, як трыста гадоў таму, сьведчыць пра грамадзкае ўладкаваньне. І *паліцыянта* будуць не баяцца, а паважаць.

## Не сьмяшыце мае прыназоўнікі

Беларусы жэняцца *на кім* ці *з кім*?

Дух мовы караніцца ня толькі ў непаўторным вымаўленьні, пазнавальнай інтанацыі ды адметных словах. Словы ў розных мовах могуць быць аднолькавыя ці падобныя, але зьвязваюцца міжсобку інакш. Непрыкметныя прыназоўнікі ды злучнікі (іх называюць „службовымі словамі“) надаюць выказваньню лёгіку, а часам сьведчаць нават пра цывілізацыйныя адрозьненьні.

Напрыклад, па-рознаму паводзіцца ў беларускай і расейскай мовах старажытны прыназоўнік **па (по)**.

У нас прыназоўнік **па**, калі паказвае на месца або прастору, лягічна патрабуе **меснага** склону: *блукаў па горадз**е**, разьехаліся па ўсім кра**і**, лазіла па дрэв**ах***.

А ў расейскай мове тут (хаця ідзецца пра месца) склон давальны: „по город**у**, по кра**ю**, по деревь**ям**“.

Такая адпаведнасьць між мовамі захоўваецца і пры іншых значэньнях выразаў. Нельга сказаць па-беларуску „чытаць па складам“ або „будаваць

па старому праекту“ — „па чаму“. На такую памылку ёсьць жартоўны камэнтар: „Па чаму? — Па качану!“

Па-беларуску можна толькі *па чым? — па складах, па праекце*.

Але і гэтая адметная ад расейскай канструкцыя пабывала ахвяраю русіфікацыі савецкіх часоў. Канструкцыю „*па + давальны склон*“ пачынаючы з 1930-х гадоў навязвалі ў граматыках, слоўніках, у дзяржаўнай прэсе.

Жывая мова супраціўлялася такому гвалту, і нехта з прыдворных знаўцаў прыдумаў граматычны фінт: у адзіночным ліку замацоўваем расейскі давальны склон — „па загаду“, а ў множным, так і быць, пакуль што пакінем беларускі месны — *па загадах*.

Руплівец культуры мовы праф. Павел Сьцяцко (Горадня) успамінае, як русіфікатары скарыстоўвалі адміністрацыйныя рычагі.

У 1972 годзе ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук камуністычныя ідэолягі з ЦК КПБ правялі гэтак званую „нараду па нармалізацыі беларускай мовы“. Пасьля нарады Кандрат Крапіва (Атраховіч), віцэ-прэзыдэнт АН, за якім тады заставалася апошняе слова ў мовазнаўстве, надрукаваў у газэтах артыкул пад пагрозьлівай для „нацыянал-ухілістаў“ назвай „Грамадская неабходнасць і беспадстаўнае наватарства“. Гэта апалёгія розных моўных рысаў, найперш словаў, якія супадалі з расейскімі.

Крапіва, сярод іншага, легалізуе давальны склон у чужой для беларускае мовы функцыі

(„па гэтаму пытанню“). А заадно граміць Фёдара Янкоўскага, Алеся Каўруса і — натуральна — Паўла Сьцяцка. (І ўмацоўвае маё перакананьне: кожны, хто дбае пра культуру ўласнае мовы, мусіць грунтоўна чытаць гэтых аўтараў). Але, на шчасьце, на дварэ быў ужо не 1937 год. І моваэнаўцы засталіся жывыя, і мова ўзяла сваё.

**Прыназоўнік як агрэсіўная расьліна**

Бо прыназоўнік **па** ў дзьвюх мовах ужываецца і з рознымі склонамі, і ў розных значэньнях.

Расейскія мовазнаўцы ўстрывожаныя. Прыназоўнік **по** ў іхнай мове, не раўнуючы як рыба ратан або расьліна баршчэўнік, бескантрольна займае чужыя „экалягічныя нішы“:

Предлог-агрессор стал вытеснять другие предлоги (**для, за, о**), а также заменять традиционные беспредложные конструкции. Если раньше писали: *ателье ремонта, институт стандартизации, инженер-технолог, программа литературы, план сдачи молока, отчёт о командировке, футбольная встреча* и т. п., то теперь (особенно в газетах и в деловых документах) всё чаще применяют предлог *по*: *ателье по ремонту, институт по стандартизации, инженер по технологии, программа по литературе, план по сдаче молока, отчёт по командировке, встреча по футболу* и т. п.

(Кірыл Гарбачэвіч)

Канцелярский характер придает высказыванию широко распространенное в настоящее время употребление предлога **по** вместо других предлогов; ср. примеры из периодической печати: *Представители средств массовой информации получили ответы по интересующим их вопросам* (вместо: *...на вопросы*); *...Потребности по зерну не покрываются экспортом сырой нефти* (вместо: *потребности в...*)…

— пісаў укладальнік аўтарытэтных моўных даведнікаў Дзітмар Разэнталь.

Хутчэй за ўсё, роспачная барацьба расейскіх стылістаў супраць прыназоўніка-паразіта марная. Але нам навошта пераносіць на беларускую глебу чужыя стылістычныя праблемы?

Выразы, якія абазначаюць рух у пэўным кірунку на пэўнай прасторы, у беларускай мове абыходзяцца без прыназоўнікаў і патрабуюць творнага склону. Гэта значыць, можна сказаць не *па дарозе*, але *дарогаю.* У вядомай казцы пра Муху-Пяюху кажуць:

*Едзе яна **дарогаю**, едзе шырокаю...*

Або песьня, зь якой пачынаецца Купалава „Паўлінка“:

*Ой пайду я лугам-лугам, ну да я, ну да я,*
*Дзе мой мілы арэ плугам, ну да я, ну да я.*

Па-расейску часьцей „по лугу“. „А я по лугу гуляла“ — сьпявала сама Людміла Зыкіна.

Такім чынам, у Менскі аэрапорт лепш ехаць не „па чыгунцы“ — ня толькі таму, што мовазнаўцы забараняюць, а бо *чыгункай* нязручна і павольна. Лепш аўтобусам ці таксоўкай.

Абыходзімся без прыназоўнікаў, калі апісваецца спосаб перадачы нечага: по почте — *поштай*, по частям — *часткамі*.

Калі азначаем час, рэгулярнасьць падзеі: „по понедельникам“ — *штопанядзелак, штопанядзелка*. „По ночам“ — *начамі*:

*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць.*
*(Багдановіч)*

Дачыненьне да пэўнай справы таксама можа і павінна перадавацца без канцылярскага прыназоўніка:

*аддзел рэгістрацыі, міністэрства падаткаў і збораў, камітэт сьвяткаваньня юбілею, Арганізацыя бясьпекі і супрацы ў Эўропе*.

Або карыстаемся прыназоўнікам, але ж не навязлым у зубах „па“, а больш лягічным — залежна ад нюансаў значэньня:

*даклад на тэму, сшытак для матэматыкі* (украінскія школьнікі падпісваюць „з математики“, польскія проста — „Matematyka“). „По семейным обстоятельствам“ — *дзеля сямейных справаў*. „По происхождению“ — з *паходжаньня, паходжаньнем*. У цывілізаванай дзяржаве ўлада паводзіцца *паводле закону,* а не „па паняціям“.

Таксама *пад сакрэтам, на свой густ, у працоўныя дні, на маю думку*.

**За вадой пойдзеш — ня вернесься**

Затое прыназоўнік **па** ў беларускай мове працьвітае ў іншых сэмантычных палёх.

Ужываем **па**, калі хочам нешта сабраць, забраць, узяць: *перад першым верасьня зайшлі па кветкі*. Па-беларуску *ісьці за вадой* азначае ісьці за плыньню ракі ўніз. Да калодзежа ходзяць *па ваду*. Гэтаксама ў *касу па заробак, зьвярнуўся па афіцыйны адказ, паехаў па танную кілбасу.* Слушна кажа Павел Сьцяцко:

Канструкцыя з прыназоўнікам ***за*** пры дзеясловах [*пайсьці, паехаць*] невыразная зьместам, двухсэнсоўная. Калі пішуць (кажуць): „*Сын пайшоў за бацькам*“, то гэта можа азначаць, што *спачатку пайшоў бацька, а затым сын (сьледам за ім).*

**— Абапал пападваконьнічча.— Дзе?!**

Беларускія прыназоўнікі могуць перадаваць безьліч асаблівасьцяў руху ці разьмяшчэньня. Часта ў расейскай мове ім няма эквівалентаў. Напрыклад, слоўка *абапал, паабапал*. Яно азначае, па абодва бакі нечага,

*Часам па лесе, што абапал выбоістага шляху, пройдзецца Лясун і засьвішча, застогне.*

Гэта тонкі стыліст Мікола Лупсякоў.

Слова *паўз* ужываюць, калі прадмет рухаецца ці месьціцца побач і ўздоўж нейкай прасторы. *Праяжджалі паўзь лес. Мокрыя аўсы гнуліся да зямлі паўз гасьцінец.* (Чорны)

*Усьцяж* — калі нешта адбываецца ўсюды, удоўжкі, безь перапынку: усьцяж дарогі цьвілі рамонкі. *Усьцяж* бывае і ў ролі прыслоўя:

*За мною ўсьцяж і тут і там*
*Іх вусны бледныя шапталі:*
*Аддайце песьню нашу нам,*
*Нашто забралі — расхапалі?*
(Янка Купала, паэма „На куцьцю”; нагадаю, твор у савецкі час забаронены)

*Узбоч* нечага — значыць ‘з боку’.

Можна выгнаць ката *з-пад* канапы, але можна пачуць песьню, што даносіцца *з-над* ракі. А прыназоўнік *па-над* азначае рух над нечым:

*Па-над белым пухам вішняў,*
*Быццам сіні аганёк,*
*Б’ецца, ўецца шпаркі, лёгкі*
*Сінякрылы матылёк.*
(Максім Багдановіч)

А яшчэ можна сказаць:

*Мыш прабегла* ***па-пад*** *лаўкаю.*

*Тамтэйшыя людзі ўсе былі прыехаўшы* ***спаза*** *ракі.*

*Там, пад наміткай туманаў, відзен гай сасновы, што прабег* ***паўзьверх*** *курганаў, як дзявочы бровы* (Я.Колас).

З такімі ўкладзенымі, як кубікі, прыназоўнікамі для абазначэньня прасторы народная мова шчодра ўтварала геаграфічныя паняцьці і назвы. Тапаніміст Іван Яшкін запісаў, напрыклад:

*пазакрушыньне* — месца за зарасьнікам крушыны, *пазаёлаччу* — месца за елкамі, *пазаплотак* — месца каля агароджы, дзе садзяць гарбузы, а на Палесьсі кветкі.

І нават *пападваконьнічча* — месца блізка каля вокнаў і далей, ці *пападзагорычча* — месца за гарой, зручнае для ральлі і касьбы, пакатасьць гары ці ўзвышша. А таксама сыстэма каардынатаў *поле — запольле — надзапольле — панадзапольле.*

Разьмяшчэньне ёміста апісваюць і беларускія прыслоўі. Усе ведаюць студэнцкі выраз „спаць вальтом“, ці то „валетам“— калі ў інтэрнаце мала месца, а панаехалі госьці, то ўкладаюцца спаць галовамі ў процілеглыя бакі, як селядцы ў бочцы. Вось жа ў нас для гэтага ёсьць слова *намітусь, умітусь*: *Снапы кладуць на воз **намітусь**, ляжаць **умітусь**.* І нават: *Людзі йшлі і ехалі. Адны — на захад, другія — на ўсход. Ішлі і ехалі **ўмітуські**, куды вочы глядзелі* (Уладзімер Дудзіцкі пра ваеннае ўцякацтва).

## Суб’ект аб’екта б’е, але ветлівенька

Непрыкметныя прыназоўнікі могуць перадаваць істотныя адрозьненьні ў сьветапоглядзе нават моўна блізкіх народаў.

Калі мужчына пабраўся шлюбам, па-беларуску пра яго скажуць:

*Міхась ажаніўся з Наталяй*,

па-расейску —

„Михаил женился **на** Наталье“.

Пры жаданьні ў розьніцы прыназоўнікаў можна ўгледзець нават розьніцу ў статусе жанчыны: па-беларуску яна раўнапраўная ўдзельніца падзеі (прыназоўнік *з* перадае роўнасьць), а па-расейску — залежны, падпарадкаваны аб’ект (прыназоўнік **на** перадае вяршэнства). Зрэшты,

розьніца сапраўды была і калісьці фіксавалася ў законах і наказах:

*Тэж абяцуем і прыракаем, іж княгінь, паняй, удоў, княжон, панен, дзевак, шляхцянак і ўсякага іного стану ражаю жэнскага, яка людзей вольных пад вольным панаваньнем нашым гаспадарскім у тым панстве ня маем ні за кога ґвалтам даваці бяз волі іх.*

(Статут Вялікага Княства Літоўскага, 1588 г. Разьдзел 3, арт. 39)

Гэта значыць — жанчына як вольны чалавек сама вырашае, з кім пабрацца. Напісана ў Вільні.

Дакумэнт з той самай эпохі, што прадпісвае мужам беражліва абыходзіцца з жонкамі:

*...Ино плетью постегать по вине смотря, а побить не перед людьми, наедине (...) плетью с наказанием бережно бити (...) и за великое, и за страшное ослушание, и небрежение, ино соимя рубашку, плеткою вежливенко побить, за руки держа...*

(Домострой. Сярэдзіна XVI ст. Напісана ў Маскоўскай дзяржаве.)

То трымаймася сваіх прыназоўнікаў.

## „Я маю“ ці „ў мяне ёсьць“?

### Пра беларускі індывідуалізм і калектывізацыю ў мове

Бяседная песьня *„Ад панядзелка да панядзелка“,* якая для майго асяродзьдзя „Майстроўні“ і „Талакі“ ў свой час была студэнцкаю і якую як „люмпэнскую“ не ўхваляе мастак, музыка і мысьляр Тодар Кашкурэвіч,— пра парушэньне права ўласнасьці. Там на дзядзьку багатага нападае басота.

Песьня мае варыянты. Рэпліку „дзядзькі багатага“ нехта пяе: *„Маю, маю сто рублёў грошай...“,* а нехта — *„Ёсьць у мяне...“.*

А якая форма лепшая? (Гаворка не пра валюту ў дзядзькавай кішэні, а пра дзеяслоў.) ***Каваль мае*** *хату* ці У ***каваля ёсьць*** *хата*?

За будовай сказаў хаваецца пэўны сэнс.

Першы сказ — *Каваль мае хату* — укладзены празрыста. Паводле звычайнай для сказа схемы „дзейнік-выказьнік-дапаўненьне“. Дзейнік — гэта дзейны суб’ект: *каваль*. Ён *мае* (што?) хату. Інакш кажучы, актыўна стварае сабе права ўласнасьці ды ім карыстаецца. Карацей, Каваль Вярнідуб. Або Паўлюк Багрым.

У другой канструкцыі — у *каваля ёсьць хата* — усё больш заблытана. Граматычны дзейнік тут (хто, што?) *хата*, якая *ёсьць*, існуе як бы сама па сабе. І дапаўненьне — у *каваля*: побач зь ім? Каваль у другаснай ролі? Хату яму, так бы

мовіць, „далі“? Службовую, як беларускім судзьдзям, каб лепш судзілі? Значэньне ўласнасьці, валоданьня тут не перадаецца даслоўна.

Вось жа першая канструкцыя — са словам „мець“ — звычайная для бальшыні сучасных моваў Эўропы. *She has a cat* — яна мае ката. *Ona ma kota* па-польску. А вось па-расейску „Она имеет кота“ сказаць няможна, адразу чуваць, што гэтак спрабуе выказацца іншаземец.

І нагадаю ўсім вядомы пачатак беларускай народнай казкі:

*Жыла сабе муха-пяюха.* ***Мела яна*** *каляску* (варыянт: *вазочак*) *і шэсьць камароў.*

Пераклад на расейскую:

„Жила-была муха-певуха. **Была у неё** коляска да шесть комаров“.

**Фіна-вугорская архаіка**

Перадача значэньня валоданьня праз дзеяслоў *ёсьць* уласьцівая ўсім фіна-вугорскім мовам. Фінскае *Minulla on kirja* — літаральна ‘У мяне (каля мяне) ёсьць кніга’. Падобна ў вугорскай, эрзя, комі ды іншых. Многія мяркуюць, што ў расейскай мове гэтая канструкцыя запанавала пад уплывам фіна-вугорскага субстрату, гэта значыць „ніжняга пласта“, мовы карэнных жыхароў земляў, на якія прыйшлі продкі цяперашніх расейцаў.

І па-латыску скажуць *Man ir grāmata* (‘Мне ёсьць кніга’). Латыская мова балцкая, індаэўрапейская, блізкая родзічка літоўскае. Але па-літоўску *Aš turiu knygą* — ‘Я маю кнігу’. Адкуль такі кантраст? Рэч у тым, што на латыскую

мову таксама паўплываў фінскі субстрат, яшчэ нядаўна ля мора там жылі лівы — старадаўні карэнны фіна-вугорскі народ.

### ESSE — HABERE, або „Два мира, два... образа жизни“?

Амаль усе мовы адпаведна таму, як у іх абазначаецца валоданьне, падзяляюцца на дзьве вялікія групы — мовы **habere** (ці habeo, ад лацінскага ‘мець’, ‘маю’) і мовы **esse** (ад лацінскага ‘быць’). Большыня індаэўрапейскіх моваў — мовы **habere**. Напрыклад, як ужо згадана, найбольш вядомыя ў нас заходнія: *I have a book. J’ai un livre. Ich habe ein Buch*.

І большыня славянскіх належаць да **habere**: *Mam książkę* (польская). *Mám knihu* (чэская і славацкая). *Imam knjigo* (славенская). *Imam knjigu* (харвацкая і сэрбская). *Имам книга* (македонская). Урэшце,

*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*
(беларуская).

Але беларуская і ўкраінская мовы ў лінгвістычнай літаратуры лічацца пераходнымі, маючы рысы абедзьвюх групаў. Чарговы раз на мяжы двух сьветаў.

Выдатны расейскі лінгвіст Вяч. Ус. Іванаў піша:

*„...Катэгорыя пасэсіўнасьці* [валоданьня] *належыць да кола такіх лінгвістычных паняцьцяў, дасьледаваньне якіх дазваляе беспасярэдне падысьці да характарыстыкі моўнай сьвядомасьці („мэнталітэту“) пэўнага соцыюму“.*

Сапраўды, сама мова — гэта інструмэнт аваладваньня сьветам. Экзыстэнцыйнасьць (**esse**) у гісторыі чалавецтва дапаўняецца пасэсіўнасьцю (**habeo**), два пачаткі могуць і проціпастаўляцца (як пасіўны пачатак актыўнаму).

Францускі клясык індаэўрапеістыкі Эміль Бэнвэніст казаў: „Моўнае разьвіцьцё ідзе ад *mihi est [у мяне ёсьць]* да *habeo*, але не наадварот“. Формула *esse*, *est* („нешта ёсьць у кагосьці“) больш архаічная. Паняцьце валоданьня праз слова *мець* у мове замацавалася тады, калі чалавецтва, датуль калектывісцкае і залежнае ад навакольнага сьвету, узьнялося да асабовасьці ды прыватнай уласнасьці. Асабліва выразна гэтая моўная зьмена цягам сярэднявечча зазначылася ў эўрапейскіх мовах, і цяпер яна добра абслугоўвае асабова-арыентаваную эўрапейскую цывілізацыю.

Зразумела, адсюль не вынікае, што калі мова зьберагла архаічнасьць у формуле валоданьня, то і народ — яе носьбіт — застаўся на ранейшым этапе разьвіцьця. Так, у фіна-вугорскіх мовах канструкцыі з аслабленым суб’ектам валоданьня засталіся зь вельмі даўніх часоў. Але прына-

лежнасьць у гэтых мовах дадаткова перадаецца інакш — адмысловымі суфіксамі назоўнікаў і займеньнікаў. Падобна ў іўрыце, дзе, строга кажучы, няма адпаведніка дзеяслову *мець*.

**Esse-мова і расейская цывілізацыйная мадэль**

Расейская адзіная сярод славянскіх выразна рэпрэзэнтуе групу **esse**. Прычым мовазнаўцы адзначаюць далейшае пашырэньне ў сучаснай расейскай мове аналягічных канструкцыяў (безасабовых, ня толькі са значэньнем валоданьня). І, што важна, расейскія лінгвакультуролягі бачаць у гэтай тэндэнцыі глыбокі мэнтальны сэнс. Як піша дасьледніца сынтаксу ў культуралягічным аспэкце Марына Захарава,

*„расейская мова ... усяляк заахвочвае пераважную ў расейскай культурнай традыцыі тэндэнцыю разглядаць сьвет як сукупнасьць падзеяў, якія не паддаюцца ані чалавечаму кантролю, ані чалавечаму ўразуменьню“.*

Калі на Захадзе поруч з умацаваньнем статусу асобы і яе правоў, з разьвіцьцём індывідуалізму зьяўляліся адпаведныя моўныя сродкі, у Маскоўскай дзяржаве такой матывацыі не было, старая фаталістычная канструкцыя (да таго ж падмацаваная фінскім субстратам) запанавала цалкам.

Аслабленае пачуцьцё ўласнасьці тут кампэнсуецца пачуцьцём уяўнай спрычыненасьці. У тым ліку ў расейскіх канструкцыях кшталту *„у ко-*

*го-то есть что-то*“, якія мэтафарычна апісваюць ідэальныя рэчы:

*„У расейскай моўнай карціне сьвету такія аб’екты валоданьня, як душа, сэрца, думкі і інш., выяўляюцца як незалежныя ад суб’екта (...) Яны адасабляюцца ад чалавека*“ (І. Куралёва).

Напрыклад: „У меня есть душа“. „У него есть мозги“.

Расейскія лінгвісты пішуць, што заходняя *habere*-мадэль разглядае сьвет у проціпастаўленьні чалавеку (як нешта, чым трэба авалодаць), а расейская *у_меня_есть*-мадэль уключае аб’екты, на якія чалавек ня можа ўплываць, у ягоную эмацыйную сфэру. Практычна ўсе лінгвакультуролягі гавораць пра закадаваную ў мадэлі расейскую схільнасьць да абшчыннага калектывізму. Многія вучоныя, у тым ліку расейскія (А. Лосеў, С. Тэр-Мінасава, М. Захарава) угледаюць у падобных канструкцыях сьведчаньне пэўнай пасіўнасьці стаўленьня да сьвету:

*„...У гэтай асаблівасьці граматыкі расейскай мовы бачаць і фаталізм, і ірацыянальнасць, і алягічнасьць, і страх перад нераспазнаным, і агнастыцызм расейскага народу. Магчыма, у гэтым і ёсьць нешта правільнае*“ (С. Тэр-Мінасава).

**Ці ж беларусы нічога ня маюць?**

Для беларускай традыцыі ды мэнталітэту катэгорыя ўласнасьці вельмі важная, павага да асобы і набытай працаю маёмасьці — аснова грамадзкага ўладкаваньня. Тут ніякай ірацыянальнасьці

быць ня можа. Таму дзеяслоў *мець* у сваім асноўным значэньні — прыналежнасьці — у старабеларускай мове пераважаў:

***Меў** князь вялікі Скрымонт трох сыноў. Казімер як кароль **меў** стадолы і шпіхлеры збожжа ў каждым іменьню.*

І ў пераносным:

*Ідзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месцу вялікую ласку **імаюць**.*

Гэта Скарына.

Ва ўсіх сучасных беларускіх гаворках уласнасьць перадае найперш дзеяслоў „мець“ у канструкцыі „дзейнік-выказьнік-дапаўненьне“. Прыклады з „Слоўніка гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча“:

*Адзін **ня меў** грошы, дык не далі яму мяса.* (Брасл.) *Я **мела** гусі, рабіла падушкі, сваё пер’я.* (Смарг.) *Кожны свое коні **маў**.* (Столінскі р-н)

Слова *мець, мае* набыло таксама значэньне ‘мусіць нешта рабіць, павінен’. Гэта ключавое слова артыкулаў Статуту ВКЛ:

*А пісар земскі **маець** паруску, літарамі й словы рускімі, усі лісты, выпісы й позвы пісаці, а ня іншым языком і словы.*

А тут у адным сказе спалучаюцца два значэньні слова *мець* — валоданьня і мусу: *Сьвяшчэнік... у цэркве **імеці маець** віно, ладан, прасфуры і сьвечы* (1586).

У старабеларускай мове была таксама формула „*у некага ёсьць (было) нешта*“, але яна не панавала. Укладальнікі „Гістарычнага слоўніка беларускай мовы“ паставілі пасэсіўнае значэньне

слова „быць“ толькі на пятае месца сярод іншых. Напрыклад: у *таго Карата чатыры сыны былі* (летапіс Рачынскіх). Формы зь *ёсьць* бытавалі ў беларускіх гаворках у XIX і XX стагодзьдзях, хаця ў іх значэньне быцьця часта пераважала над маёмасным: *цяпер работы ест многа* (Капыльск.), іх нямала ў клясычнай „Нашай Ніве“: *Пры школе ёсьць бібліятэка. Шмат бацьком ё мукі* (*бацьком* — не „ў бацькоў“!). Але яны суіснавалі з *habere*-формуламі.

Пра ўнівэрсальнасьць дзеяслова *мець* сьведчыць незьлічоная колькасьць сталых выразаў, уласьцівых старой і сучаснай мове. *Мець досыць* — задаволіцца нечым. *Мець моц* — уладарыць. *Мець язык* — шмат балбатаць. *Веру мець* (адсюль *імавернасьць*), *веры ня мець. Што ты маеш супраць мяне? Трэба меру мець ва ўсім. Як дбаеш, так і маеш. Як мае быць.*

### „Ёсьць“ есьць „мець“

Пачатак барацьбы з прыватнай уласнасьцю і пачуцьцём адказнасьці ўласьніка як „перажыткам“ супаў з моўнай русіфікацыяй у БССР. Мадэль „у мяне ёсьць“ займела магутную падтрымку ў рэальным жыцьці. Прыблізна такую:

| habere | esse |
|---|---|
| (Я) маю зямлю і каня. | У мяне ёсьць кніжка калгасьніка. |

Так беларуская мова выпала з агульнаэўрапейскай тэндэнцыі **esse↔habere**. Мадэль „у некага

ёсьць нешта“ зноў пачала пераважаць. Паводле ацэнкі беларускай дасьледніцы тэмы Іны Гліньнік, у яе выбарцы тэкстаў яна трапляецца ў 55% выпадкаў.

Але цалкам перацягнуць беларускую мову ў іншае поле не ўдалося. Уласьніцкае слова *мець* хаваецца шмат дзе. Напрыклад, слова процілеглага да *ёсьць* значэньня — *няма* — утворана ад *мець* („ня ма(е)ш“). А расейскае „нет“ — ад „не есть“.

Слова *мець* па-ранейшаму служыць зьвязкай у значэньні павіннасьці: *Калі ўжо паабяцаў, то маю прыйсьці*. Яно ж крыецца ў формах будучага часу: *гадавацьму, рабіцьмеце* (паходзяць ад *гадаваць маю, рабіць маеце*).

Натуральна гучаць па-беларуску выразы *мець праблемы, мець на ўвазе, мець жаданне, мець патрэбу, мець на ўвазе, ня мець сэнсу, мець рацыю.*

Беларуская мова розьніцца ад расейскай у перадачы прыналежнасьці ня толькі ў гэтай канструкцыі (пра спэцыфіку беларускіх прыналежных займеньнікаў і прыметнікаў, якія складаюць паўнавартасную асобную катэгорыю, накшталт *дзядзькаў дом* ці *ягоны сьпеў*, мы гаварылі[14]). То бок катэгорыя прыналежнасьці ў нашай мове ўсюдыісная і сапраўды, як падкрэсьлівае Вяч. Ус. Іванаў, сьведчыць пра мэнталітэт народу. І радок тае песьні ад пачатку гучаў так:

*Але ж* ***маю сто рублёў грошай****,*
*Шкода разьмяніць.*

[14] Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам. С. 190.

# Як па-беларуску „пир во время чумы“?

(або як падабраць дэвіз для II Эўрапейскіх гульняў у Менску)

**Як назваць марнатраўнае сьвяткаваньне падчас нягоды? Як па-беларуску „пир“, што такое Бальтазараў банкет і адкуль вобраз вясельля на пажарышчы?**

Дзяржаўная ўлада заявіла пра гатоўнасьць прыняць у Беларусі так званыя „Эўрапейскія гульні“ ў 2019 годзе. Першыя такія гульні ў 2014 годзе каштавалі Азэрбайджану больш за мільярд эўра. А дэмакратычныя краіны Эўропы, дзе бюджэтныя выдаткі кантралююцца выбранымі парлямэнтамі, за іх арганізацыю не бяруцца.

Камэнтатары, шукаючы яскравага вобразу для апісаньня бяздумнага або пыхлівага марнатраўства ў цяжкі час, кажуць: „пір у час чумы“. Ці гэта па-беларуску?

Выраз „Час чумы“ — бязь „піру“ — у нашай культуры ёсьць. Гэта аповесьць Уладзімера Арлова пра Міколу Гусоўскага, але там дурнаватых сьвяткаваньняў няма.

## Бяседнікі — ня проста „собеседники“

Дык вось. Само па сабе слова „пір“ не беларускае. Беларуская народная мова і нават афі-

цыйныя слоўнікі яго ня ведаюць. Гэта расейскае слова, а ў расейскай мове — царкоўнаславянізм.

А як па-нашаму назваць шумнае застольле? Найбольш вычарпальная назва — бяседа. Слова старажытнае агульнаславянскае, азначала некалі пасядзелкі па-за хатаю. Народная песьня „Вясёлая бяседачка“ менавіта пра застольле. Беларускі кампазытар Мікола Шчаглоў-Куліковіч, чыё імя нельга было ўпамінаць за Саветамі, быў і дасьледнікам. У першаадкрывальніцкай працы „Беларуская народная песьня у творсьцьве выдатных кампазытараў“ Куліковіч піша пра Фрыдэрыка Шапэна:

*У „Grande fantaisie“ [A-dur] выступае жартлівая беларуская песьня „Вясёлая бяседачка“. Яна ёсьць асноўнаю тэмаю 2-й часткі фантазіі і праходзіць у колькі варыяцыях. Выкарыстана гэта песьня зь вельмі войстрым розумам, арыгінальнасьцяй і мастацкім смакам. Аднак карэньне тут зусім відавочнае: Беларуская народная песьня „Вясёлая бяседачка“ (у запісе Грыневіча).*

„Вясёлая бяседачка“ — так называюць фальклёрныя калектывы. Ёсьць ансамбаль тэлерадыёкампаніі „Бяседа“ са стылізаваным пад фальклёр рэпэртуарам. Слова *бяседа*, аднак, ён ужывае правільна: ...*Сабірацца на бяседу за сьвяточным за сталом.*

Так званая старaславянская мова належала да паўднёваславянскіх, а ў іх спрадвечнае слова *беседа* стала абазначаць размову, гутарку. Такое значэньне замацавалася і ў расейскай мове. А ра-

сейская „беседка“ (летняя спаруда) па-беларуску *альтанка* (ад італьянскага).

Расейскае слова „собеседование“ важнае для абітурыентаў ці тых, хто наймаецца на працу. Па-беларуску „субяседаваньне“ абітурыента і выкладніка — хоць такое слова афіцыйна ўжываецца — папраўдзе мае абазначаць зусім іншы жанр — за чаркай. Размова ж з мэтай высьветліць памкненьні ды схільнасьці чалавека — сумоўе.

**Бальтазар vs Пушкін**

Пра застольле па-беларуску кажам і *банкет*, гэта даўняе народнае пазычаньне зь нямецкай. Але адкуль вобраз банкету падчас чумы?

Аказваецца, аўтар выразу — Аляксандар Пушкін (расейскі паэт). Маленькую трагедыю „Пир во время чумы“ ён напісаў на аснове эпізоду з драмы шатляндзкага пісьменьніка Джона Ўільсана „The City of the Plague“ („Чумны горад“).

Але ў ангельскай мове адпаведны Пушкінаваму „піру“ выраз „A Feast in Time of Plague“ як фразэалягізм не ўжываецца. Такім чынам, перакладзены на іншыя мовы выраз „Пир во время чумы“— культурная цытата, узятая менавіта з расейскае літаратуры.

У эўрапейскіх мовах бытуе іншы выраз — пра біблійнага апошняга валадара Бабілёну, якога звалі Бальтазар (у грэцкай традыцыі Валтасар). Акурат у ноч, калі пэрсы захоплівалі Бабілён, ён наладзіў шумны банкет. Раптам на сьцяне зьявілася таямнічая рука і напісала па-арамэйску словы:

MENE MENE TEKEL UPHARSIN

‘Палічыў, палічыў, узважыў, дзялю’.

Гэта быў знак канца Бальтазара (ён загінуў у тую ж ноч) і канца Бабілёну. Таму ў мовах нашага цывілізацыйнага кола бытуе выраз „Бальтазараў банкет“: Belshazzar’s feast па-ангельску, Belsazarova hostina па-чэску. Вобраз адчайнага банкету ў сьмяротнай небясьпецы ўвайшоў у высокую эўрапейскую культуру. Скажам, ёсьць араторыя Ґеорґа Фрыдрыха Гендэля „Бальтазар“ (1744 год).

Між іншым, моцны фільм паводле Фазіля Іскандэра „Ноч са Сталінам“, які выкрывае псыхалёгію крывавага дыктатара, мае другую назву, па-расейску „Пиры Валтасара“, то бок „Банкеты Бальтазара“.

**Вясельле на пажарышчы**

Маем і свой літаратурны вобраз для абазначэньня недарэчнай весялосьці, дурнаватага імкненьня сьвяткаваць, калі навокал бяда. Усё ж лягічна, калі зьвяртаемся не да Пушкіна, а да Купалы. *Вясельле на пажарышчы* — вобраз з клясычнага Купалавага абразка ў паэме „Сон на кургане“. Насустрач вясельнай дружыне выбягае, задыхаўшыся, са стараны пажару Мачыха Маладой:

*Ах, ах! чым вас прывітаем?..*
*Чула, чула, галубочкі,*
*Вашы звонкія званочкі!..*
*Так усе мы вас чакалі:*

*Каравай прыгатавалі,—*
*А які ж, ах, быў удачны!*
*Каб вы знаюі — які смачны!*

Той каравай папраўдзе згарэў...

***

Такім чынам, калі пышнае сьвята — недарэчнае, па-беларуску скажам або *Бальтазараў банкет*, або *вясельле на пажарышчы*.

## „Орёл или решка“? Пагоня ці лічба!

**У беларусаў рубель — жэрдка для прывязваньня сена, а ідэальны грош — талер. І Пагоню на манэтах нашыя продкі бачылі даўжэй, чым кожнага з розных арлоў.**

Мы ўжо амаль прывыклі да беларускіх манэтаў. Пра цяперашнюю афіцыйна прынятую назву беларускае грашовае адзінкі скажу, што *рубель* па-беларуску — гэта перадусім тоўстая жэрдка, якой уціскаюць на возе сена, снапы і падобнае. Кажуць: *прыціснутае пад рубель жыта*.

У XIV ст. назву *літоўскі рубель* меў трохкантовы падоўжаны срэбны зьлівак — такія папярэднічалі манэтам. Падобны формаю да рубля-жэрдкі, таму так і зваўся. (Тут зазначу, што пішу пра гісторыю манэтнага абарачэньня вылучна з моўнага гледзішча, хай мне даруюць гісторыкі й нумізматы магчымыя недакладнасьці.)

Потым у Вялікім Княстве Літоўскім нейкі час слова *рубель* было ўмоўнаю адзінкаю для падліку, 1 рубель абазначаў сто грошаў. Карацей, манэты ў нас рублямі не называліся. А пасьля акупацыі Расейскай імпэрыяй слова пачало асацыявацца выключна з *расейскім рублём*.

У сучаснай мове са словам *рубель* ужываюцца фраэалягізмы ня самага станоўчага значэньня: *за доўгім рублём пагнацца, пакараць рублём,*

*набрацца як Марцін за рубля, сто рублёў нястачы* — значыць ‘адны непрыемнасьці’.

Беларускі талер застаўся ў народнай памяці ды фальклёры як ідэальная грашына[15]. Як манэты меншай вартасьці ў нас хадзілі *пенязь, грош, солід.* Грошы — так у нас сталі называцца сродкі платы наагул, ад слова *грош* (а яно з лацінскага *denarius grossus* ‘вялікі дэнар’). А не „капейка“. Пра капейку — расейскую „деньгу копейную“— нашыя продкі наагул ня ведалі.

**Капеечныя забавы**

Манэты вернуцца ў розны ўжытак, напрыклад у дзіцячыя гульні. Фальклярысты ў ранейшыя манэтныя эпохі запісалі народную гульню ў *пры́пень.* Хлапчукі і падлеткі б’юць рабром манэты аб сьценку ці пянёк. Калі манэта падае ад манэты суперніка так блізка, што абедзьве можна забраць пальцамі аднае рукі, то гулец забірае іх. (Не рэклямую газардовыя гульні, гэта этнаграфія! Ёсьць, скажам, гульня з гарэхамі *цот ці лішка* — таксама на выпадковасьць.)

Манэту ўжываюць як *жэрабя*, або *кон.* Прыкладам, для жарабаваньня на футбольных матчах, каб вызначыць, каторая брама чыя.

**Чыя „рэшка“?**

Расейскі выраз для гэтага працэсу — „Орел или решка“. Чаму арол — зразумела, двугаловае стварэньне было на царскіх манэтах. Цікава, што

---

[15] Гл. с. 178.

нават у савецкі час камісары ня выкаранілі царысцкага слова з выразу. Што такое „решка“ — дасюль спрачаюцца этымолягі. Магчыма, гэта „решетка“, маўляў, так бачылі спляценьне літараў і манаршых манаграмаў на рэвэрсе манэты малапісьменныя людзі. Некаторыя збліжаюць тую „решку“ са словам „ряшка“, „ряха“ — гэта значыць фізіяномія імпэратара. Праўда, фанэтычна гіпотэза патрабуе доказу. Галоўнае — і арол, і ня ў меншай ступені „решка“ нам, беларусам, чужыя.

**Кожнаму сваё**

У ангельцаў лёсавызначальная гульня завецца Heads or tails, даслоўна ‘галовы ці хвасты’. Манаршая галава на брытанскай манэце ёсьць і сёньня, ну а хвост — гэта нешта процілеглае галаве.

Як кажуць іншыя народы? Старажытныя рымляне, падкідваючы манэту, казалі Navia aut caput — ‘карабель ці галава’. Сучасныя грэкі — *Κορώνα ή γράμματα* (‘карона ці літары’; калі напісаць вялікімі — ΚΟΡΏΝΑ Ή ΓΡΆΜΜΑΤΑ, то і перакладаць ня трэба). Італьянцы — *Testa o croce* (‘галава ці крыж’). Як бачым, усе называюць выявы абодвух бакоў сваіх манэтаў. Або не зусім сваіх. Хаця на чэскіх манэтах леў, чэхі кажуць *Panna nebo orel*: арол яшчэ аўстра-вугорскі, імпэрскі, Швэйк такім плаціў Паліўцу за піва.

Па-латыску Cipars vai ģerbonis (лічба ці герб). Лічбу называюць і немцы — яны выгукаюць Kopf oder Zahl — галава ці лічба.

**Якія выявы на манэце найдаўжэй бачылі беларусы?**

Першая Пагоня ў нас была на Ягайлавых грашах прынамсі з 1387 году. З Пагоняй былі пенязь і грош, шэлег і талер. Пасьля Люблінскай вуніі на манэтах ужо быў герб Рэчы Паспалітай — звычайна па дзьве Пагоні і па два польскія арлы (часам з мадыфікацыямі). Апошнія манэты ВКЛ — шастакі — білі падчас Паўночнай вайны, але яшчэ да 1795-га, да канчатковай акупацыі, запускаліся ў абарачэньне талеры Станіслава Панятоўскага, таксама з аб'яднаным гербам. Такім чынам, жыхары Беларусі карысталіся манэтамі з Пагоняй больш за 400 гадоў.

З адваротнага боку манэтаў былі розныя выявы — партрэт манарха, іншы геральдычны знак. Намінал упершыню быў пазначаны на Вітаўтавых двудэнарах: рымская лічба II месьцілася пад гербам Гедымінавымі Слупамі, а на рэвэрсе там акурат Пагоня; за наступных манархаў, напрыклад Казімера Ягайлавіча, дызайн паўтараўся.

Паступова намінал пачалі пазначаць лічбамі рэгулярна, ня толькі рымскімі, але і арабскімі. Пэўны час іх часьцей ставілі на тым баку манэты, дзе і Пагоня, пад ёю. *Пагоня і лічбы* фактычна сталі найбольш характэрнымі атрыбутамі нашых манэтаў.

А колькі часу ў нас **шырока** хадзілі манэты з асноўным канкурэнтам Пагоні Арлом?

Арлы былі розныя. Часам Арла зьмяшчалі на манэтах ВКЛ і да Люблінскай вуніі, больш рэгулярна з 1495 году (хоць не на ўсіх манэтах,

Пагоня была часьцей). Польскага Арла разам з Пагоняй білі на манэтах Рэчы Паспалітай з 1580 году да расейскай акупацыі. Прыйшоў двухгаловы расейскі і быў па 1918 год. Нават калі дадаць 20 гадоў абарачэньня ў Заходняй Беларусі польскіх грошай і тры гады яшчэ аднаго чужога арла — на нямецкіх пфэнігах Другой усясьветнай вайны — усё адно працягласьць масавае прысутнасьці кожнага з розных арлоў на манэтах, якія хадзілі ў Беларусі, меншая, чым Пагоні. Хаця больш важна тое, што ня наш гэта герб.

Таму трэба выбіраць іншы вокліч, не пра арла.

*Пранцысь падкінуў шэлег угору. Шэлег вярнуўся назад нібыта неахвотна, некалькі разоў перакруціўшыся ў паветры... Баявіты вершнік зь мячом на цьмяным твары манэты скакаў у бок Валожына...*

Гэта Людміла Рублеўская, „Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега“. І, авантурна падкідваючы манэту для выпрабаваньня лёсу, па-беларуску скажам: *Пагоня ці лічба*. І хай выпадае Пагоня.

## Як эканоміць у СМС і твітах?

Прынцып моўнай эканоміі заўсёды пратачыць сабе дарогу. Калі беларускай мове словы накшталт „ветурач“ ці „тэхумовы“ традыцыйна не ўласьцівыя[16], то імкненьне ашчаджаць моўныя намаганьні выявіцца інакш.

Цяпер пісаць сьцісла нас вымушаюць інфармацыйныя тэхналёгіі. СМС-весткі абмежаваныя 160 знакамі лацінкай без дадатковых (дыякрытычных) знакаў ці 70 сымбалямі кірыліцай. Паведамленьне ў Twitter не даўжэйшае за 140 знакаў (таму гэтая сетка прымальная для мяне — не патонеш у доўгіх тэкстах. І выйгрышная для японскай і кітайскай, якія карыстаюцца ерогліфамі, бо ў іх кожны знак перадае ня гук, а слова ці яго частку).

Нядаўна інтэрнэт абышла мапа, дзе колерамі пазначаныя твітэрныя конты на розных мовах. Добра відаць, скажам, Каталёнію — жоўтую пляму паміж франкамоўным і гішпанамоўным абшарамі. А вось Менск і Беларусь (зрэшты, як і Ўкраіна) — такога самага колеру, як і Расея. У выніку глядач вырашае, што тут суцэльная расейскамоўная прастора, хаця пры ўкладаньні мапы ўлічвалася мова інтэрфэйсу, выбраная карыстальнікам,— а пакуль беларускае мовы там няма. Аднак у твітэрным жанры яна пачуваецца камфортна: даволі эканомная.

16 Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам. С. 10–16.

Рэсурсы эканоміі беларускай мове дае граматыка. Прыкладам, параўнальна з расейскаю, у нас карацейшыя канчаткі прыметнікаў мужчынскага роду назоўнага склону: *белый — белы,* дзеясловаў адзіночнага ліку 3-й асобы 1 скланеньня: *пишет — піша.* Хаця бывае і наадварот. Гэта асобныя словы. Але беларускія тэксты (сказы) і сапраўды часьцей карацейшыя за расейскія (гэта ведаюць рэдактары й выдаўцы) і нават за ангельскія:

To be continued
Продолжение следует
Працяг будзе

Ангельская мова выпрацавала шматлікія скароты словаў для кампактных тэкставых жанраў. Некаторыя вынікаюць з жывога вымаўленьня: he is → he's; іншыя — скароты з пропускам прамежкавых літараў: thanks → thx; яшчэ іншыя гуляюць на частым гукавых супадзеньні кароткіх ангельскіх словаў з назвамі лікаў: прыназоўнік for 'для' → 4 (four вымаўляецца гэтаксама). Два апошнія спосабы нам не пасуюць.

Стыхійна ўзьнікаюць і ўласнабеларускія СМС-скароты накшталт:

*Дз.* 'дзякуй'
*КЛ* 'калі ласка'

Гэта графічныя (пісьмовыя) скароты. Чытаюць іх у „расшыфраваным“ выглядзе.

Але ў жывой народнай і ў традыцыйнай літаратурнай беларускай мове ёсьць варыянты часта ўжываных словаў, якія і каротка вымаўляюцца, і адпаведна пішуцца.

*Дo спаць! Паўстаньце грамадою*
*І йдзіце ім там памагаць,*
*Паўстаньце крэпасьцю такою,*
*Каб вораг вас ня мог зламаць.*
(Янка Купала. „Там“. 1906)

*До* — гэта *досыць*.

Або:

Мандравала двох братоў і змэнчыліся надта. Ажно пад вечар прыйшлі на могілкі, так старшы кажа: „Пераначуйма тудакава!“ Паклаліся яны спаць, малодшы заснуў, а старшага сон ніяк не бярэ. Апоўначы чуе: трашчыць нештась. Сьпёрся на локці і слухае. Ажно выходзіць труна, а з тае труны вылез чалавек і пайшоў. Ён што робячы ўлез у труну і ляжыць. Нібавам прыходзіць той мрэц і як угледзеў его, так пытае: — *Хто тут?* — А ён **ка’**: — *Я!* — *Вылазь!* — *Не* — **ка’**,— *ня вылезу! Скажы, дзе быў?* — Мрэц **ка’**: — *Вылазь!* — *Не, скажы, дзе быў?* — Так ён **ка’**: — *На вясельлі. Вылазь!* — *Не, скажы, што ты там рабіў?* — *Вылазь!* — *Не, пакуль ня скажаш, што ты там рабіў, то ня вылезу.*— Мрэц его прасіў, маліў, нарэшце мусіў прызнацца: — *Маладых*,— **ка’**,— в*ужамі парабіў.*

Фальклярыст Міхал Фэдэроўскі у канцы XIX ст. запісаў гэты сюжэт у Шандрах ля Мсьцібава (цяпер Ваўкавыскі раён).

Маем сцэнар фільму жахаў, ня горшы за ГогалевагаВія. А слова *ка’,* як лёгка здагадацца,— абсечаная форма ад *кажа*. Фіксуецца такая форма ў многіх рэгіёнах (на паўночным усходзе адпаведна дыялектнай граматыцы дзеяслова — *ка́эць* ад *кажэць*).

Перад намі цэлая моўная зьява:

мо, нат, зара, шчэ, трэ, до, ё, ка, нек

Тут словы розных часьцінаў мовы ды функцыяў.

*можа = мо; нават = нат*

*зараз = зара;, яшчэ = шчэ, неяк = нек*

*трэба = трэ; досыць = до*

*ёсьць = ё; кажа, кажуць = ка*

Таксама карацейшыя варыянты маюць прыназоўнікі *паміж = між, каля = ля,*

часьцінка *няхай = хай*, сьцьвярджальны выклічнік *аняго(ж) = нё.*

Некаторыя словы (*ё = ёсьць*) бытуюць як асноўная (звычайная) форма ў гаворках.

— *А за Гомлем людзі ё?*

— *Ё, толькі дробненькіЁ!*

Згаданае вышэй ёмістае слова *до*, і ня менш ёмістае *досыць*, і сынонім да іх *годзе* нярэдка забываюць, а ўжываюць слова *хопіць*, якое выглядае на кальку з расейскага *хватит.* Добрая го-

мельская грамадзкая ініцыятыва „Хопіць піць — трэба жыць“ магла б звацца лепей: *„Годзе піць...“* або нават *„До піць — трэ жыць!“*.

Бальшыню гэтых формаў (словаў) у акадэмічных даведніках савецкай пары падавалі, але (ці не з прычыны браку аналягічных у расейскай мове) запісвалі ў „размоўныя“. Як *мо, нат, трэ* ў шасьцітамовым Тлумачальным слоўніку 1970–80-х гадоў. Хаця ілюстрацыяй — радкі М. Танка: *Дыміць туман. Мо лепш перачакаць, Пакуль зара не прыадчыніць дзьверы?* — што ж тут размоўнага?

І сапраўды, словы гэтыя ўвечненыя нашымі клясыкамі ў найбольш узьнёслых творах, зьмест і настрой якіх далёкія ад нефармальна-„размоўнага“:

***Мо** яны, Беларусь, панясьліся*
*За тваімі дзяцьмі уздагон,*
*Што забылі цябе, адракліся*
*Прадалі і аддалі ў палон?*
(Максім Багдановіч. „Пагоня“. 1916)

Цікава, што абсячэньне слова крыху мяняе ягоную інтанацыю ды паўзы. Скажам, мадальнае слова *можа* звычайна вылучаецца коскамі, а слова *мо* — не вылучаецца.

Расейская мова такой зьявы ня ведае. Мо таму, што ў расейскай моўнай плыні ненаціскныя галосныя могуць зусім прападаць (*пжалста, какгрится*), і так забясьпечваецца эканомія ў вуснай

мове. Лявон Вольскі іранічна малюе вобраз героя, устаўляючы русізм у беларускі моўны рытм:

*Адзін зь іх Юзік,*
*Другі, какгрыцца, Казік...*

У беларускай жа мове галосныя не „зьядаюцца“ і практычна не мяняюць тэмбру нават не пад націскам. Рытм беларускага маўленьня больш раўнамерны. Кажам выразна: *мАлАкО*, не [мълъко] (рас.). У нашай мове часта ўжываныя словы скарачаюцца коштам пропуску цэлых складоў у канцы або пачатку слова (акрамя *нат*), а не асобных галосных.

## Skaročanyja słovy.

**jo’** „A pasahu mnoha, bratka,
vytrasieš dziaŭčynie, —
Bohu dziakavać, dastatku
jo’ nia mała ŭ skryni.“

**na’t** U vioscy ciš zapanavała:
na’t sabaka ani źviahnie.

**tre’** Kruci nia kruci, a tre’ pamiarci.
Maciej źmierz — ruki tre.

**mo’** Lon treba abrablać mo’ sorak razoŭ, adsiul słova „saročka“.

**Siarhiej Paŭłovič. Zasieŭki.** Biełaruski lemantar dla chatniaha navučańnia. **Vilnia, 1937.**

Для несавецкіх беларускіх мовазнаўцаў і мэтадыстаў гэтыя формы былі важнай катэгорыяй, яны лічылі неабходным уключаць іх асобнай тэмай нават у лемантары.

Абсячэньне пазначана апострафам. У беларускай лацінцы апостраф не ўжываецца так, як у кірыліцы, адзіная функцыя ягоная — паказваць скарот аналягічна як у ангельскай ці францускай: haven’t = have not, d’ = de.

У кірылічным беларускім пісьменстве міжваеннай пары, а таксама і ў пазьнейшыя часы, скажам, у Яна Станкевіча, такія словы таксама пісаліся з апострафам на месцы скароту.

Але ў кірыліцы апостраф найперш мае іншую ролю — паказвае, як чытаецца галосная літара пасьля яго: *абед* ці *аб’едкі*. Таму апошнім часам абсечаныя словы, прынамсі ў кірыліцы, абыходзяцца без апострафа. Заадно эканомім знак для Твітэру ці СМС-весткі. Тады месца будзе до.

Ці трэ шчэ нешта дадаць? Калі не, то —

**Дз.**

# Моўныя парады дармаедам і падатковай інспэкцыі

Многія беларусы неўспадзеўкі даведаліся, што яны *дармаеды*. Такіх аказалася нямала, набярэцца на кампактную сярэднеэўрапейскую нацыю. Для беларускага працоўнага этасу сытуацыя дзіўная; відавочна, слова чамусьці памяняла значэньне. Разьбярэмся.

*Ты туняядзец, ты дармаед! Ты еў зашмат катлет!* — дае азначэньне паняцьцю *дармаед* рэпэр Вінсэнт.

Але, адрозна ад расейскага слова *тунеядец* (царкоўнаславянскага паходжаньня), *дармаед* — спрадвечнае беларускае слова. Ёсьць падобныя: *мурашкаед, мясаед, людажэр* урэшце. Яны збудаваныя паводле мадэлі „есьць каго ці што? — мурашак, мяса, жарэ людзей“. Назоўнік *дармаед* утвораны крыху інакш: „есьць як? — дарма“. Ёсьць і варыянт *дармо*, як у бедаваньні хлапца, які змарнаваўся, ходзячы на пералаз да дзяўчыны: *Заплаці ж ты мне, дзяўчына, што я хадзіў дармо.* Значыць, дарэмна, марна хадзіў.

Другое значэньне *дарма(о)* — гэта бясплатна, за нішто. Таксама *дармова, на дармаўшчыну.* Ёсьць і такое калярытнае слова, напрыклад, у Якуба Коласа: *„...Паехаў машынаю дармагалам“.*

Вось яна, галоўная ўласьцівасьць лянівага і хітрага *дармаеда* — усё спажываць *дармагалам*!

**Шляхоцтва, мяшчанства, дармаедзтва**

Яшчэ ў зборніку павучаньняў сярэдзіны XVII стагодзьдзя бачым рытарычнае пытаньне: *Як ... глядзеці маю на тыя дармаеды.* Пакута, ганьба.

У XIX стагодзьдзі Іван Насовіч запісвае ў народнай мове гняздо аднакаранёвых словаў:

*Дармавое* — ‘Прыбытак, атрымваны бяз працы ці заслугаў’. *Дармавога нічога на сьвеце няма. Дармавое прахам бярэцца.*

*Дармаеднага хлеба захацеў, пусьціўся красьць.*

*Спасіба за абед, што пайдаў дармаед* (г. зн. пад’еў).

*Дармаедаў многа, а работаць некаму.*

І — увага — слова-падарунак для цяперашняе шматлюднае дармаедзкае грамады: *дармаедзтва* — гэта ня толькі чым дармаед займаецца. Насовіч тлумачыць: **дармаедзтва** — гэта ‘общество лентяевъ и празднолюбивыхъ’. *Сабралася дармаедзтва* (часта кажуць жартам пра гасьцей).

То вы, шаноўныя „новыя дармаеды“, усе разам складаеце **беларускае дармаедзтва** — можна сказаць, сацыяльную групу, стан, як шляхоцтва ці мяшчанства!

**Ты лайдак і абібок!**

У народзе тых, традыцыйных, дармаедаў не ўхвалялі. З гаворак: *Як можно, не пагналі кароў пасьвіць, дармаеды вы! Дармаед ты, валяч!* (в. Стральцы Горадзенскага р-ну). *Нашто ў дому дармоеда годоваті* (в. Курашэва Чыжаўскай гміны). Карацей, лайдакі, гультаі. О, беларуская мова багатая на сынонімы для такіх:

*гультаіна, абібок, лежабок, лежань, лянівец, нядбалец* (разм.); *лайдак, лайдачына, лодар* (разм. непахв.); *завала, валяч, загавайла* (абл.).

Гэтую калярытную калекцыю сабраў Міхась Клышка ў сваім „Слоўніку сынонімаў“. Яе ведаюць беларускія настаўнікі і ўжываюць у выхаваўчых дыскусіях з вучнямі, якія творча пераказаў Зьміцер Сідаровіч:

*— Ты **лайдак** і **абібок**,*
*Ты ня вывучыў урок,*
*Ты ня ведаеш зусім*
*Анічога ані ў чым!*
*Добра ўчора адпачыў?!*
*— Я вучыў!..*
(„Дзіцячы альбом“, ч. 2)

Вось з такіх, відаць, і вырастаюць пасьля зацятыя дармаеды ☺.

## Сакральныя і міталягічныя апекуны дармаедаў

З народнай мудрасьці можна даведацца, хто ў дармаедаў сакральны апякун:

*Лежань ты пятроўскі!* — скажуць ва Ўсходняй Беларусі (П. Растаргуеў запісаў на Смаленшчыне). Пятроўскі — гэта хто ляжыць і нічога ня робіць у гарачы час чэрвеньскай касавіцы ў Пятровіцу.

Тыя ж дармаеды, якія цікавяцца даўнейшай міталёгіяй, павінны ведаць: на Гомельшчыне на лянівую жанчыну кажуць *сядзіць як копша.* А Копша — гэта ж вядомае хтанічнае боства, ва-

ладарыня царства мёртвых, уся ў сажы і смале (як сьведчыць П. Шпілеўскі).

### Дэталёвая клясыфікацыя дармаедаў

Менш вусьцішныя, але разнастайныя сваёй мэтафарычнасьцю запісаныя ў розных беларускіх землях выразы пра дармаедаў-гультаёў з дадатковымі сэмантычнымі адценьнямі:

*ледач, атландзер* ‘бестурботны чалавек і гультай’, *біндзюгайла, блында* ‘які бадзяецца бяз справы’, *апруда* ‘гультай і да таго ж пражэрлівы’, *валяч* ‘гультай, які любіць шмат спаць’, *дзяндзівер* ‘лянівы і балбатлівы чалавек’, ад назвы птушкі, *дуда Мамонава!* ‘калі не разумее ніякай работы’ — хто ж там быў той Мамон? *Завалюга, кацьмак* ‘гультай, нядбайны чалавек’, *лабідуда, додаль, какора, лагіза, лакіза, вантух, павала* ‘проста гультай’, *лантух* ‘тоўсты і гультаяваты чалавек’, *логмін* ‘з хаты лянуецца выйсьці’.

А таксама:

*пáмак* ці *помак* (*Вот памак, ляжыць і не паварнецца*) ‘намоклае бервяно, палена’ і ‘тоўсты, бязвольны чалавек; гультай’, *пячурнік* (*Ён у нас пячурнік: як находзе зіма, дык стараецца скарэй заняць печ*) — гэта на Вялейшчыне, а на Мсьціслаўшчыне, паводле Янкі Бялькевіча, з тым жа значэньнем *ворапень*, *баўтрук* ‘здаровы, але лянівы чалавек’, *саўмэла* (*Соўгаецца бы саўмэла*) ‘чалавек, які ходзіць сюды-туды бяз справы’ (запісаў Іван Лучыц-Федарэц у Дарагічынскім раёне).

*Саўмэла* хаця б ходзіць, але клясычны *гультай* ляжыць —

*як апока, як калода, як камень, як плаха, як кот на печы, як пан, як пласток, як прасла*.

Выбачайце, трэба ж гендэрная раўнавага:

*І такая туйка, ды ўжо з туек туйка!* (запісаў Мікола Касьпяровіч на Віцебшчыне), *валяваха* ‘лянівая’, *ацесьліўка* ‘непаваротлівая і гультаяватая’.

Беларускія дармаеды і дармаедкі, выбірайце сабе сынонім на свой густ!

І **падатковая інспэкцыя** можа завесьці асобныя тэчкі-файлы для *пячурнікаў, бэйбасаў, саўмэлаў, павалаў* і *кацьмакоў*. А таксама для *латругаў* і *додаляў*. І каб кожная *туйка*, *калода* і *аторва* мела свой статус і спэцыяльны фармуляр „ліста шчасьця“.

**Дармаеды = крывапіўцы й жываглоты!**

Вернемся да гісторыі. Раней традыцыйныя народныя словы прыліпалі да тых, хто ня дбаў пра ўласную гаспадарку, лайдачыў, шкодзячы самому сабе і ўжо тым самым грамадзе.

Але сэмантыка некаторых словаў перакулілася, калі ў нашай частцы Эўропы завяліся бальшавікі. Новая ўлада ўкладала людзям у галовы, што яны цяпер свабодныя ад ранейшых *дармаедаў-прыгнятальнікаў* (тут народныя сынонімы ўжо іншыя: *абдзірала, зьдзірца, шкурадзёр, жывадзёр, жываед, жываглот, крывапівец, крывапіўца, крывасмок; паразыт, чужаед, чужапас*). Праўда, у „дармаеды-прыгнятальнікі“ патрапілі і звычайныя культурныя й заможныя сяляне,

талковыя прадпрымальнікі, лішне разумныя інтэлектуалы, сьвятары.

*Мы ўсе работнікі, сяляне —*
*Сусьветны рой працаўнікоў —*
*Меці будзем на зямлі ўладаньне —*
*А **дармаеды** прэч! Далоў!*

*Жывіцца целам нашым годзе*
*Усім трутнём ды груганом!*
*Для нас, паўстаўшых, сонца ўсходзе,*
*Сьвяціць нам будзе век вяком!*

(Міжнародны камуністычны гімн „Інтэрнацыянал“, пераклаў на беларускую Янка Купала ў 1921 г., пазначыўшы гэтым пачатак сваёй „нутраной эміграцыі“,— выраз Ант. Адамовіча)

Неўзабаве высьветлілася, што пры новай уладзе вынікі працы чалавеку зусім не належаць. У беларускіх сялян і майстроў забралі ўласнасьць. Зьявіліся калгасы, дзе за працу налічвалі ня грошы, а фармальныя працадні. Псэўдафальклярысты забясьпечвалі новае жыцьцё ідэйна — кляпалі нібыта народныя прыказкі:

*Хто ў калгасе ня робіць, той калгасу шкодзіць.*

*Працаваць яму лень, а крычыць: мала на працадзень.*

*Гультай — то калгас ня лай.*

Калгаснае XX стагодзьдзе ўдарыла па працоўнай этыцы беларусаў, хаця дарэшты яе ўсё ж не разбурыла. Але застаўся недавер да сыстэмы — і да камуністычнай, якая забірае ў людзей уласнасьць, і да посткамуністычнай, якая не дае га-

рантыяў прыватнай уласнасьці, якая не бароніць чалавека, а крэатыўна накладае падаткі на тых, хто ня можа знайсьці працу.

***

Слова *падаткі* важнае, яно трапіла ў сталыя выразы моваў сьвету. Калі Брытанія абклала амэрыканскіх каляністаў дадатковымі падаткамі, яны вуснамі Джэймса Отыса заявілі:

**No taxation without representation!**

Выслоўе назаўсёды ўвайшло ў ангельскую мову. Даслоўна яно азначае ‘няма ападаткаваньня без прадстаўніцтва’, ніякіх падаткаў без свабодных і справядлівых выбараў. Толькі створаны ў выніку такіх выбараў урад можа распараджацца сродкамі грамадзянаў. „Ападаткаваньне без прадстаўніцтва — тыранія“, лічылі абураныя каляністы. Гісторыя з падаткамі прывяла да Амэрыканскай рэвалюцыі ды стварэньня Злучаных Штатаў Амэрыкі. У беларускай мове падобнага выслоўя пакуль няма.

***

Папраўдзе, калі працавітыя і адказныя людзі аказаліся ў *нявыкрутцы*, пачуваюцца *як у кляшчотках*, у іх *непярэліўкі*,— ніякія яны не дармаеды. Іх можна так называць толькі жартам. Або са злосьці.

## Беларускі шкалярскі жаргон. Як па-нашаму „шпаргалка“ і „камчатка“

**Кожная жывая мова не абыходзіцца без шкалярскага жаргону. А беларуская? Адметную мову беларускія шкаляры мелі нават 150 гадоў таму. Мелі свае словы і для шпаргалак, і для зубрэньня, і для месца, якое адказвае за правíны.**

Традыцыйна гаворым пра тое, каб беларуская мова зыходзіла ад школы, ад пэдагога. Але іншы неад’емны бок пытаньня — калі па-беларуску гаворыць сама моладзь, прычым нязмушана, тады мова сапраўды жыве.

У жывой мове абавязкова ёсьць жаргоны — наборы размоўных словаў, ужываных у пэўным карпаратыўным асяродзьдзі. Гэта такі асаблівы код, які аб’ядноўвае пасьвячоных, служыць для распазнаваньня сваіх.

Ці ёсьць беларускі шкалярскі жаргон? Сябра, колішні настаўнік, зьдзівіўся такому пытаньню. Няма, а калі і ёсьць, то пазычаны з расейскіх сэрыялаў пра крымінальнікаў, кажа.

Але сьвядома беларускамоўных школьнікаў у гарадох ужо зноў дастаткова, каб было асяродзьдзе. Яны слухаюць сваю музыку, гуртуюцца ў сеціве, ходзяць на свае вулічныя й канцэртныя падзеі. І, маючы патрэбу ў сваёй умоўнай мове, нешта ствараюць, калькуюць. Прыкладам, *стро-*

*мы* ў пераносным значэньні расейскага „крутой“ — але гэта няўдалая, на маю думку, калька.

**Зьмей-акулярнік**

Вось як назваць неад’емнага ад школьнага жыцьця акулярыстага пэрсанажа-«батана»? Вось запамінальная песьня Зьмітра Сідаровіча, якую ён разам са школьнікамі і запісаў:

*Я маленькі акулярык,*
*У мяне на носе шнарык.*
*І, здараецца, з-за гневу*
*Абзываеце мяне вы!*

*Але я зусім ня сумны –*
*Дастаткова я разумны!*
*І зь сябрамі — я сяброую,*
*І на вас я не крыўдую.*

*Акулярык!*

Наагул „Школьная нізка“ Сідаровіча — выдатны прыклад жывых, не афіцыёзных песень. Іх бы ставіць на школьныя сьвяты, а не бясконцае даўкае „Учат в школе“. Зьміцер шукаў і знаходзіў і жывыя словы. Праўда, наватвор *акулярык* ня самы ўдалы: і быццам маленькі акуляр мікраскопа, і адчуваецца калька з расейскага „очкарика“. Па-беларуску ж, паводле слоўнікаў 1920-х гадоў, „очковая змея“ — *акулярніца*. Значыць, у пáру ёй павінен быць і *акулярнік*.

І сапраўды, знаходзім *акулярніка* ў прозе Янкі Брыля, Сакрата Яновіча. Скажуць — на іх уплывала польская мова. Але і ў магілёўскага пісьменьніка Сяргея Ўкраінкі ёсьць *акулярнік*. Ну і ваш адданы слуга таксама належыць да гэтага племя (фота ў канцы кнігі пацьвярджае).

### Шпакі пад партамі

Напэўна, гэтае слова гістарычна новае, як і зьява — дзеці ў акулярах. Але вось звычка сьпісваць такая самая даўняя, як і навучаньне. Зьвернемся да слоўніка беларускае мовы, які ўклаў Іван Насовіч на аснове чутага ад беларускіх сялянаў, шляхты, мяшчанаў, у тым ліку і шкаляроў. У сярэдзіне пазамінулага стагодзьдзя ў беларускіх студыёзусаў быў свой паўнацэнны жаргон, а ў ім важнае слова:

***Шпакі**, ужываецца ў множным ліку. Слова школьнае. Запазычваньне вучнем працаў у свайго таварыша. **Шпакі лавіць** — значыць падглядаць у іншага, лепшага вучня і запазычваць. Шпакамі жывець — значыць сам не складае, а запазычвае ў іншых.*

Жаргоннае слова даўніх беларускіх шкаляроў *шпакі* цалкам пасуе да цяперашняй *шпаргалкі*. Дык хай бы праз 150 гадоў вярнуліся *шпакі* — ня зьява, яна і так неўміручая, а вобразнае і непазычанае беларускае слова — у школьна-студэнцкі жаргон.

Хаця слова *шпаргалка* расейская мова запазычыла акурат са старабеларускае. У апошняй было слова *шпаргал*, і абазначала яно пісульку,

неістотную або часовую — для нататак. Прыклад: *Заплацілі... за сто шэсьцьдзесят сьвеч асмаковых лоевых... рахуючыся з шпаркгалаў* (1689). Гэтае слова ў сваю чаргу з лацінскага sparganum (а тое з грэцкага σπάργανον, што значыць ‘дзіцячая пялюшка’).

А тыя шкаляры мусілі лаціну *даўбаць* — што адпавядае значэньнем расейскаму „зубрить“. „Зубрилка“ па-беларуску і ёсьць *даўбень* або *даўбня* — „непонятливый“, як тлумачыць Насовіч расейскамоўнаму чытачу. Зрэшты, *даўбень* хаця б даўбе, а ёсьць такія, што нічога ня робяць, і для іх словаў і ў сучаснай беларусай практыцы не бракуе.

Але ў галовах і *даўбнёў*, і звычайных лайдакоў усё ж заставаліся нейкія лацінскія словы. Вось Насовіч падае слова *фарнапікс* — жорсткае катаваньне. *Задаў яму фарнапіксу.* Адкуль такое? Ад лацінскага Inferna pix — пякельная смала.

Той жа Насовіч запісаў беларускія шкалярскія выразы пра ўсякія хуліганствы. *Фінфа* — папяровая трубачка, тонкі канец якой устаўляюць у нос соннага чалавека, а шырокі падпальваюць. Жах. У пераносным значэньні *фінфа* азначае непрыемнасьці.

І гэтыя непрыемнасьці могуць сустрэць пэўнае шкалярова месца:

**Сэмпітэрня**. От лат. sempiternus — всегдашний. *...Усыпалі ў сэмпітэрню дзясяткі два, няхай носіць здароў.*

Але і свае беларускія словы, ня толькі *шпакі*, у школьнай практыцы могуць набываць жаргоннае значэньне.

Як назваць апошні шэраг сталоў, дзе зьбіраюцца вышэйзгаданыя лайдакі, абібокі, аматары фінфаў і лаўцы пакемонаў? Ну не „камчаткай“ жа ці іншымі магаданскімі паняцьцямі. Дык вось, у нас далёкі край — гэта *вырай*! У *выраі* добра, утульна, настаўнікава вока не дастане.

## Дзень Волі. Дзень Незалежнасьці. Як называць галоўнае сьвята

Перачытваю мову дакумэнтаў Рады БНР 1918 году. Імкліва знаходзіліся патрэбныя словы, і калі б гісторыя нашае незалежнае дзяржавы не была перапыненая гвалтам, ужо ў пачатку 1920-х мы б мелі паўнавартасную тэрміналёгію дзяржаўнага жыцьця, прычым не бальшавізаваную.

Вось машынапіснае запрашэньне на гістарычнае паседжаньне:

...чарговае пасядзэньне рады адбудзецца
у нядзелю 24-го сакавіка /марца/ а 5-й гадзіне
/па сярэдне-эуроп/ у вечары у домі пад №
43 на захароускай вуліцы. /3-й этаж 1-го ад
серпуховскай вуліцы пад'езду/.
(...)
старшыня рады [Я. Серада]
пісар [К. Езавітаў]

(Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі / Укл. Сяргей Шупа. Т. І. Кн. 1. Вільня—Нью-Ёрк—Менск—Прага, 1998. С. 62.)

Яшчэ ня выйшла была друкам „Беларуская граматыка для школ“ Браніслава Тарашкевіча, і айцы БНР пішуць паводле інтуіцыі. На расейскай друкавальнай машынцы няма літары Ў (як і цяпер яе ня могуць знайсьці на сваіх кампутарах дзяржаўныя чыноўнікі). Часам рука мэханічна дадае ў канцы слова расейскі Ъ.

Прабіваюцца русізмы (як *этаж*) і палянізмы (як *пасядзэньне*). Яшчэ пішуць *Мінск*, і вуліца па-расейску — а ёй такое імя расейскія ўлады і далі — *Серпуховская*. Але Рада завецца Радаю, сакавік сакавіком. Хоць гэтую даўнюю нацыянальную назву на ўсякі выпадак тлумачаць у дужках дыялектным слоўкам *марац*. І нават гадзіны лічаць паводле сярэднеэўрапейскага часу.

***

Што ж да найважнейшых палітычных тэрмінаў, то айцы БНР ужываюць іх дакладна. Вернемся ў ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 году.

Пад раніцу 25-га Рада прымае гістарычны дакумэнт — Устаўную Грамату Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якую мы звычайна нумаруем і называем трэцяю. 3-я грамата ўжо *„дана ў Менску Беларускім“*, і дата пазначаная бяз „марца“ — 25 Сакавіка.

*Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскіе цары на наш вольны і незалежны*

*край. Ад гэтага часу **Беларуская Народная Рэспубліка абвешчаецца Нізалежнай і Вольнай Дзяржавай**.*

Вось жа 25 сакавіка 1918 году ўпершыню ў афіцыйным дакумэнце паўнамоцнага беларускага органу зьяўляецца слова **незалежнасьць**. Акрэсьліваюцца межы незалежнай дзяржавы ды яе лад.

Дакумэнт таксама прасякнуты ідэяй волі, свабоды: ён гаворыць пра „вольны і нізалежны край“, „правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі“. Але грамадзянскія вольнасьці ўжо прадэкляравала папярэдняя, 2-я Ўстаўная грамата ад 9 сакавіка 1918 году:

5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвешчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

Таму, калі ўжо на тое, *Днём Волі* можна было б лічыць 9 сакавіка.

Своеасаблівае публічнае табу на слова *незалежнасьць* да ночы 25 Сакавіка 1918 году нагадвае мне 1980-я гады, калі словы *Незалежная Беларусь* выклікалі ўтрапеньне сатрапаў і былі жаданаю мараю ў думках маладых адраджэнцаў. Ужываць прыметнік „незалежная“ ў дачыненьні да Беларусі ў савецкі час было забаронена.

Хаця „сувэрэнная“ — калі ласка. Парадаксальна. Паводле БелЭН, *сувэрэнітэт* — незалежнасьць і паўнаўладзьдзе суб’екту дзяржаўна-палітычных і праўных дачыненьняў у прыняцьці рашэньняў у межах сваёй кампэтэнцыі й выкананьні паўнамоцтваў улады. Слова ж *незалежны*, паводле слоўнікаў, азначае ‘самастойны, які не залежыць ад каго-н., чаго-н., свабодны’. Інакш кажучы, у неспэцыяльных тэкстах гэта часьцей за ўсё сынонімы.

Але вось у Канстытуцыі БССР 1978 году ёсьць „глава 7“ пад назваю

***Беларуская ССР — саюзная рэспубліка ў складзе СССР.*** І ў ёй

*Артыкул 68. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — суверэнная савецкая сацыялістычная дзяржава.*

А каб не было сумневаў у такім „сувэрэнітэце“, ніжэй ясна тлумачыцца:

*Артыкул 75. Суверэнныя правы Беларускай ССР у адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР ахоўваюцца Саюзам ССР.*

Слова „незалежнасьць“ у той Канстытуцыі няма. „Паўнапраўным і незалежным членам сусветнага супольніцтва“ БССР нарэшце асьцярожна названая толькі ў „Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце“ ад 27 ліпеня 1990 году (толькі адзін раз).

Лексычны казус „сувэрэнітэт vs незалежнасьць“ адлюстраваўся ў двух этапах юрыдычнага афармленьня новай беларускай дзяржаўнасьці. Згаданая Дэклярацыя абвяшчала „поўны

дзяржаўны сувэрэнітэт Рэспублікі Беларусь як вяршэнства, самастойнасьць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі“. Але дзяржаўную незалежнасьць сьцьвярджалі ўжо дакумэнты, ухваленыя падчас рэвалюцыйных падзеяў жніўня і пазьнейшых месяцаў 1991 году.

***

А як называлі айцы-заснавальнікі БНР гадавіны 25 Сакавіка? У 1921 годзе, ужо, на жаль, на эміграцыі Беларускі ўрад ушанаваў 25 Сакавіка як сьвята і надаў яму імя. *„Дэклярацыя Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі з прычыны трэцьцяй гадаўшчыны абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі*“ пачынаецца словамі:

*Дзень 25 сакавіка — нацыянальнае сьвята Беларусі.*

*Тры гады таму ... Беларуская Дзяржаўная Рада ... абвесьціла наш край Дзяржавай вольнай і ад нікога незалежнай.*

*(...) ...Моцна трымае Рэвалюцыйны Беларускі Урад у сваіх руках сьцяг незалежнасьці і непадзельнасьці роднага краю.*

(Архівы БНР. Т. І. Кн. 2. С. 1059)

Дакумэнт ковенскі; тэкст, хутчэй за ўсё, аўтарства Вацлава Ластоўскага.

У іншым дакумэнце тых дзён — *„Адозва Рады БНР і Рады Міністраў БНР да беларускага й жыдоўскага народаў*“ ад 25 сакавіка 1921 году — знаходзім і назву сьвята, і яго спокліч:

*...вялікі гістарычны дзень 25 сакавіка 1918 году — Дзень апавешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі*

*Слава Беларускай Народнай Рэспубліцы! Ніхай жыве Беларуская Незалежнасьць!*

(Тамсама. С. 1057–1058)

Такім чынам, **першая афіцыйная назва сьвята — Дзень апавешчаньня/абвешчаньня (дзяржаўнай) Незалежнасьці Беларусі.**

Вядома, што тады, што цяпер незалежнасьць беларускае нацыі немагчымая без свабоды й дэмакратыі. Толькі свабодны народ, а не тыран ці сатрап, абароніць незалежнасьць краіны. Але правільна і адваротнае: безь незалежнасьці ня будзе нам волі.

Да 1990 году 25 Сакавіка звалася толькі *Днём Незалежнасьці*. А *Дзень Волі* — гэта пазьнейшая, вобразная назва: спэцыяльны выпуск газэты „Свабода" з такою „шапкаю" ўпершыню заклікаў менчукоў на сьвяточную дэманстрацыю.

***

Новая назва пашырылася, зьявіліся новыя, часта гераічныя, вобразы і легенды *Дзён Волі* найноўшага часу, у тым ліку і сёлетняга. Некаторыя нават не падазраюць пра пачатнае імя сьвята. На жаль, у сытуацыі татальнага замоўчваньня і скажэньня нашай гісторыі дзяржаваю назва *Дзень Волі* не падказвае людзям, што ж адбылося эпахальнага ў гэты дзень. Нават незалежныя журналісты пішуць пра 25 Сакавіка: „99 лет назад была провозглашена Белорусская Народная

Республика“. Ці: „Дзень Волі, 99-я ўгодкі БНР“. Але ж Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчаная раней, 2-й Устаўной граматай 9 сакавіка (таму для гэтае даты лягічнае таксама імя Дзень Рэспублікі).

У іншаземных навінах як толькі ні завецца гэты дзень, але пра Незалежнасьць ані слова. Асабліва расейскамоўныя рэсурсы — пабачыш там і „День свободы“, і „День воли“ — а ў расейскай жа мове слова *воля* ня тоеснае зь беларускім, у ім ёсьць моцнае адценьне „вольницы“. Вось калі пра падзею, скажам, 25 сакавіка 2017 году напісаць „Улады брутальна задушылі шэсьце ў гонар Дня Незалежнасьці“ (што адпавядае праўдзе), то многія ўяўленьні і пра гэтую ўладу, і пра каштоўнасьці беларусаў сталі б на месца.

Несумненна, *Дзень Волі* — прыгожая, сьцiслая, шматзначная і нездарма падхопленая грамадою мэтафара. І ўсё ж **мэтафара не павінна засланяць першаснага значэньня таго дня.** Прынамсі каб нам не навязвалі фальшывых „дзён незалежнасьці“ ўзамен.

Людзі, якія выходзяць 25 Сакавіка на вуліцы беларускіх гарадоў, ахвотна атаесамляюць свой парыў і з Воляй, і зь Незалежнасьцю. Нават калі яны найперш бароняць свае сацыяльна-эканамічныя правы. У абліччы гібрыдных пагрозаў з боку „рускага міру“ ня трэба доўга тлумачыць, чаму гэта важна. Перад Стагодзьдзем Незалежнасьці пра гэта варта пачынаць рупіцца.

## Сьвята — Вялікдзень, а велікодны пірог — паска ці булка

Часам Вялікдзень паводле двух хрысьціянскіх календароў супадае, і каляндар ня дзеліць беларусаў розных канфэсіяў. У кожным разе ўсіх нас мелі б яднаць традыцыйныя беларускія звычаі ды — галоўнае — беларуская мова, што іх апісвае.

Слова *Вялíкдзень*, у гаворках таксама *Вялíкадне*, *Вялічка*,— старажытнае і матываванае. Вялікі дзень, пачатак перамогі сьвятла над цемраю. Назва перш абазначала вялікі дзень у наўпроставым значэньні — калі зь веснавога раўнадзеньня сьветлая пара содняў робіцца даўжэйшаю за цёмную. Гэта і было сьвята ў гонар сонца, вясны, абуджэньня прыроды й надыходу земляробчага сэзону. Зь яго ў далёкіх продкаў пачынаўся адлік каляндарнага году.

Націск у слове *Вялíкдзень* падобна як у вітальных складаных словах — *дабры́дзень*, *дабра́нач*. Скланяем абедзьве часткі, але першую — абмежавана: *Вялíкадня*, *Вялíкаднем*. Прыметнік — *велікодны*.

У палякаў Wielkanoc. А ў нас *Вялікдзень*. Значыць, літоўскае слова Velykos, як і некаторыя іншыя асноўныя літоўскія словы, зьвязаныя з хрысьціянствам, пайшло ад беларускага.

Слова ж *Пасха* з грэцкае мовы — Πάσχα, а ў яе прыйшло з старажытнагабрэйскае —

פסח, як вымаўлялі габрэі-ашкеназы ў Беларусі, *Пэйсах* — сьвята Абмінаньня, у памяць пра тое, што Божая кара абмінула габрэйскія дамы ў дзень зьнішчэньня першынцаў. У хрысьціянаў жа адпаведнае слова стала абазначаць пераход ад сьмерці да жыцьця Хрыста, які *ўскрос/уваскрос/ уваскрэс/зь мёртвых паўстаў* менавіта ў тыя дні.

Пасха была і ахвяраваньнем, таму словам гэтым пачалі называць рытуальныя хлябы ў некаторых мовах. Але слова *Пасха* фанэтычна нязручнае для беларускае. Як яго ўжыць у давальным і месным склонах, дзе гукі чаргуюцца (як *страха — на страсе*) — „аб Пасьсе”? Формы *Пасха*, але *аб Пасцы* ўжываюць а. У. Завальнюк, М. Прыгодзіч і В. Раманцэвіч у „Энцыкляпэдычным слоўніку рэлігійнай лексікі беларускай мовы“ (2013). Тут яны ідуць за народнай мовай, у якой *Пасха* заканамерна ператварылася ў *Паску* ва ўсіх склонах. *Паска — аб пасцы*. І абазначае велікодную здобную круглую булку ці пірог. Гэта важны складнік народнай традыцыі ў нашым рэгіёне Эўропы — велікодны пірог, які розьніцца рэцэптурай і выглядам у розных народаў і ў розных рэгіёнах. Скажам, ля Давыд-Гарадка ён мае ўверсе ўзоры зь цеста ў выглядзе крыжыка ці сакральных літараў, аплецены коскай і паліты толькі жаўтком.

Расейскае слова *кулич* таксама грэцызм, але паходзіць яно ад бізантыйскага κουλλίκι(ον), а тое ад старажытнага κόλλιξ ‘хлеб круглай ці авальнай формы’. У Беларусі слова „кулич“ ня ведалі. У галовах сучасных беларусаў яго за-

мацавала расейская інфармацыйная прастора і незьлічоныя палітыя глязурай стандартныя „куличи“ ў супэрмаркетах. У тым ліку беларускай вытворчасьці. Як рэклямаваны ў раённай газэце „пасхальный кулич от Столинского хлебозавода в каждый дом“, хаця на Століншчыне ёсьць свая вышэйзгаданая традыцыя і свая назва велікоднага пірага.

Дарэчы, „кулич“ — гэта нават ня ўся Расея, а Паўночная і Цэнтральная. у паўднёварасейскіх землях не *кулич*, а *паска*, як і ва Ўкраіне.

У беларускіх гаворках поўначы і паўночнага захаду велікодны пірог назавуць *бабка, баба, булка*, але затое тая ежа, якую прыносяць у царкву ці касьцёл, будзе звацца *паска*.

Часам паўстае моўная праблема — як перадаць па-беларуску рытуал сакралізацыі сьвяточнай ежы. *Сьвянціць* і *сьвянцоны* — відавочны палянізм. *Сьвяціць, асьвячаць, асьвяціць, пасьвяціць, асьвячоны* — больш натуральна па-беларуску.

Як віншавацца? Пакуль розныя канфэсіі не дамовіліся пра імёны ды тэрміналёгію велікодных падзеяў, маем павітаньні, не зьвязаныя наўпрост з пэўнай канфэсійнай або іменнай традыцыяй — Зь Вялікаднем! Радасных і спакойных Велікодных сьвятаў!

## Гадуйся! Разьвітацца па-беларуску і нікога не пакрыўдзіць

**Зь беларускіх разьвітаньняў першым (а то і адзіным) многія назавуць выраз *да пабачэньня*. Але выбар разьвітаньняў у нас куды багацейшы — на ўсякую сытуацыю, настрой і дачыненьні.**

Разьвітальны выраз *да пабачэньня* — і ў школьнай практыцы, і ў электронных перакладніках (радзейшы варыянт *да пабáчаньня*). Але гэтая формула не спрадвечная, у гаворках ня надта папулярная, беларуская літаратура яшчэ ў XIX стагодзьдзі такога выразу ня ведала. Выраз як выраз, але, магчыма, ён прыняўся не без уплыву суседзкіх *до свидания, do widzenia* і *до побачення*, а таксама і *auf Wiedersehen*. Між іншым, малым дзецям цяжкавата вымаўляць *да-па-ба*, атрымліваецца *„паценьня“*.

Выбар разьвітаньняў у нас куды багацейшы — на ўсякую сытуацыю, настрой і дачыненьні паміж удзельнікамі рытуалу. Гэта і нэўтральныя

*усяго добрага / усяго найлепшага*
*да сустрэчы / да спатканьня*
*да заўтра / да раніцы / да вечара*
І больш свойскія, карацейшыя
*пакуль, тымчасам, шчасьліва*

У кожнай мове разьвітаньні адметныя, ня кожнае зь іх адэкватна перакладзецца на іншую мову.

Рыхтуючы неяк размоўнічак для расейскамоўных, я шукаў адпаведнікаў для нефармальнага разьвітаньня *гадуйся* — яно ж часьцей адрасаванае ня дзецям, якіх гадуюць, а дарослым (выраз зьвязаны зь вітаньнем *Як гадуесься?*). Урэшце спыніўся на такім перакладзе:

Беларускае *Гадуйся!* — не переводимое на русский пожелание повышать материальный и духовный уровень.

Сяброўскі разьвітальны выраз *трымайся* не выпадае перадаць па-расейску наўпрост — *держись*, бо там так разьвітваюцца радзей.

Затое ў ангельскай традыцыі, бадай, блізкі настроем будзе славуты заклік *Keep calm and carry on,* літаральна ‘трымай спакой і працягвай’. Хоць гэта і не разьвітаньне.

З часоў кніжкі Яна Станкевіча „Маленькі маскоўска-беларускі (крывіцкі) слоўнічак фразэолёґічны і прыказкаў ды прывітаньні, зычэньні і інш.“ на тэмы беларускага моўнага этыкету і разьвітаньняў паболела парадаў і дасьледаваньняў (хай бы і ў школьных падручніках таксама).

Але бачу разнабой у стылёвай атрыбуцыі разьвітаньняў. Так, выразы *трымай(це)ся* і *мацуй(це)ся* некаторыя аўтары залічваюць у „афіцыйныя“. Але ж яны шчыра-свойскія ды наўрад ці пасуюць сухому ліставаньню.

**Добрае беларускае разьвітаньне „Бывай!“**

Або, наадварот, у навучальных матэрыялах для студэнтаў чытаем: „*Бывай* і *будзь* нелітаратурныя, сустракаюцца, як правіла, сярод моладзі“.

Але яны розныя. Адвітаньне *будзь* утворана ад *будзь здаровы/-ая*, яно новае, сапраўды гутарковае (і гэтым супадае з расейскім).

А выраз *бывай*, хоць таксама скарот — ад *бывай здаровы*, але, па-першае, даўні і цалкам літаратурны (ёсьць і ў шасьцітамовым Тлумачальным слоўніку). Аўтары вышэйзгаданых матэрыялаў пайшлі за расейскімі лексыколягамі, якія форму *бывай* у расейскай мове залічваюць у „разговорные“, „стилистически сниженные“.

Па-другое, разьвітаньне *бывай, бывайце* — нэўтральнае (іншыя аўтары так і лічаць), але дзякуючы найлепшым узорам паэзіі, у тым ліку вершу юнага Аркадзя Куляшова (і музыцы Ігара Лучанка, і выкананьню „Песьняроў“) выраз набыў і паэтычна-ўзьнёслае адценьне. *Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая...*

Тут *бывай* — ‘назаўсёды’. Але не заўсёды, даруйце за калямбур, *бывай* мае такое фатальнае значэньне. Гаспадары казалі гасьцям і так:

— *Бывайце ў нас* (Дзятлаўскі р-н).

— *Бувайце к нам кагда-нібудзь* („Віцебскі краёвы слоўнік“ М. Касьпяровіча).

То бок гэта запрашэньне да наступных сустрэчаў. Як і *Здаровы бывайце, нас не забывайце* (запіс Міхала Фэдэроўскага ў Ваўкавыскім павеце). Як і разьвітальныя словы Аркадзя Смолі-

ча ў лісьце Антону Луцкевічу 21 лістапада 1919 году зь Менску ў Варшаву: *Тымчасам бывайце здаровы* — г. зн. да наступнае сустрэчы або ліставаньня.

**Лісты**

Дарэчы, пісьмовая традыцыя разьвітаньня ў нас не бяднейшая за вусную: *З шчырым паважаньнем.* Або: *Аставайцеся здаровы, Ваш Я. Станкевіч* — так ён заканчвае свае лісты-трактаты да Вацлава Ластоўскага з Прагі ў Коўна.

*Моцна цісну руку і чакаю каго з вашых. Ваш Язэп.* (Запіска Язэпа Варонкі Антону Луцкевічу, 1918.)

і нават

*Усіх скарбаў.* (Ліст Янкі Чарапука Антону Луцкевічу, 1919.)

Але і гэтыя разьвітаньні айцоў-заснавальнікаў БНР блякнуць перад раскошнымі барокавымі формуламі эпохі Вялікага Княства:

*З тым зычачы вашай міласьці, майму міласьціваму пану і гаспадару, у ласцы Божай пры добрым здароўі (быць). Пісан у Воршы юня 30 дня, року 1574*

(стандартнае заканчэньне „водпісу“ — інфармацыйна-аналітычнага ліста Філона Кміты-Чарнобыльскага да Мікалая Радзівіла, ваяводы Віленскага, аб сытуацыі на ўсходняй мяжы і намерах Івана Жахлівага. Такія былі тады беларускія дзяржаўныя службоўцы).

## Разьвітаньне па-свойму як апошні бастыён

Бывалі народныя кплівыя адказы на разьвітаньне, як жа бязь іх:

*Дабранач! — Блохі табе нанач!*

Жартоўныя водпаведзі кпілі з моды на пальшчызну: *Чэсьці! — Не панесьці!* І на расейшчыну: *Спакойнай ночы! — Сьпі вытрашчыўшы вочы!* (Слонімшчына, запісаў Іван Саламевіч).

Формулы этыкету служаць маркерамі выбару мовы, ідэнтычнасьці, а таксама павагі да суразмоўцы. (Таму падарожныя даведнікі раяць вывучыць асноўныя формулы этыкету на мове краіны, у якую едзеш.) Пра гэта абразок „Горкая прамудрасьць“ з аповесьці „Ціхая плынь“ М. Гарэцкага.

Рэалістычная і таму вусьцішная карціна таго, як расейская школа выбівала беларускую мову, у тым ліку формулы этыкету, з галоваў беларускіх дзяцей (у поўнай адпаведнасьці з запаветамі Мураўёва-вешальніка). І дзеці як умелі ўзбунтаваліся супраць унтэрскага моўнага цкаваньня:

---

Пачалося з драбніцы.
— Да сьвіданьня! — казалі вучні, ідучы дамоў.
І ў сваім рухавым грудку жартавалі: „Да сьвістаньня! Да сьняданьня!“
Таго дуронства унтэр-афіцэр ня чуў. Але Хомка ці то жартам, ці то здуру бракнуў, троху астаўшыся пад самым настаўніцкім носам:
— Да сьняданьня, гаспадзін вучыцель!
— Застанесься да цёмнага,— схапіў яго настаўнік (...)

---

(Чытаць поўны тэкст усім! У цяперашняй школьнай праграме абразка гэтага няма.)

**У дарогу**

Асобная катэгорыя адвітаньняў, насычаная старадаўняй станоўчай магіяй,— словы, сказаныя перад дарогаю. *Час добры на дарогу! Гладкае дарожкі! Рушнічком дарога! Пухам дарожка! Сакалінага лёту!* (адказы на ўсе гэтыя зычэньні — *Дзякую!*) У нас няма нэгатыўнага пераасэнсаваньня гэтых формулаў, як ва ўсходніх суседзяў *Скатертью дорога*.

Вельмі паэтычныя адвітаньні-зычэньні падарожніку ў вясельным абрадзе:

*З Богам, з Богам, пан дружанька, у дарогу. Месяц табе дарожаньку асьвеціць, Вецер табе дарожаньку асушыць* (Пружанскі раён).

Сярод апекуноў падарожнага — сьвяты Юры, той самы, які на Пагоні. Ахоўная замова перад далёкай дарогай:

*Сьвяты Юры каня запрагае, сьвяты Аўлас памагае, ад бяды, напасьці зьберагае* (запісаў Адам Багдановіч, Максімаў бацька, у Халопенічах).

Ёсьць і нязлосныя жарты-показкі на тэму разьвітаньня з госьцем/госьцяй:

— *Ну, Янaчка, разьвітайся зь цёткаю! Што кажуць, калі цётка сыходзіць?*

— *Дзякуй богу!*

## Як адказаць

На разьвітаньне адказваюць ці яго паўторам, ці традыцыйна зьвязанай формулай. Ян Станкевіч у згаданай кнізе павучае:

Разьвітуючыся, той, што адыходзе, кажа таму ці тым, што застаюцца: *„Заставайся здароў!“*. На гэта адзержуе адказ: *„Ідзі (або хадзі) здароў!*“ Тыя, што застаюцца, часта скажуць: *„З Богам!“*.

## Новыя разьвітаньні

Дарэчы, слова *дабранач* — хаця формаю супадае з прывітаньнем *дабрыдзень*, але служыць разьвітаньнем-зычэньнем. Народная традыцыя ведае і разьвітаньне *Шчасьліва ноч!* (М. Фэдэроўскі запісаў у колішнім Ваўкавыскім павеце).

Пачынае замацоўвацца, магчыма, пад уплывам іншых моваў і дзякуючы падарожжам беларусаў, фармальнае дзённае разьвітаньне-зычэньне — *добрага дня*. Аналягічна як па-ангельску кажуць *have a good day*, па-польску *dobrego dnia* ці па-літоўску *geros dienos*, скажам, прадавачкі ў краме. Прыемна і чаму б не пераняць?

# Калі ў роце *ёлка*…

…значыць, пара заканчваць сьвяткаваньні

Раней у калядныя дні мы высьвятлялі[17], якія калядныя постаці нашыя, а якія ня вельмі. Высьветлілі. Сьвяты Мікалай ці хай сабе і Зюзя — нашыя, калядні́кі з Казой нашыя, а вось Сьнягурачка — гэта пэрсанаж расейскай літаратуры, роля якога гістарычна і сюжэтна не пасуе да нашых Калядаў ані традыцыйна-народных, ані хрысьціянскіх.

Сёньня пра важны калядны атрыбут. Як завем сьвяточнае дрэва? *Елка, ёлка* ці *ялінка*? Бытуе меркаваньне, нават у слоўніках савецкай пары запісанае, што дрэва — *яліна* ці *елка*, але са зьменай ролі нібыта мяняецца яго назва. Як казаў паэта,

*А прынесьлі елку ў хату — стала ёлачкай яна.*

Але разьбярэмся.

Сам па сабе корань **ель-**, **едл-** старажытны, агульнаславянскі і ня толькі.

Акрамя роду Picea, гэтым коранем завуцца таксама іншыя хваёвыя дрэвы. Маем слова *ялавец* — тое, што па-расейску „можжевельник“. А славяне на захад ад нас гэтым коранем абазначаюць хваёвае дрэва роду Abies (польская jodła, сэрбская јела), якое ў цяперашніх беларускіх слоўніках завецца „піхта“.

---

[17] Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам. С. 321–323.

Але „піхта“ ў беларускай мове — русізм, а ў расейскай гэта сьлед уплыву фіна-вугорскіх моваў (так мяркуюць сучасныя фінскія і расейскія этымолягі). У беларускай мове для піхты ё лепшае слова: *ельніца*.

**Ельніца** — Abies Dietr.—alba Mill, піхта белая (Киселевский А.И. Латино-русско-белорусский ботанический словарь. Мн.: 1967).

Дарма што цяпер гэтае дрэва ў нас вельмі рэдкае — у Чырвонай кнізе (ельніца расьце толькі ў Белавескай пушчы), варта вярнуць яму беларускае імя.

Немцы, ад якіх нашыя продкі, хутчэй за ўсё, і перанялі параўнальна новы звычай выстройваць каляднае дрэва, некалі бралі на гэтую ролю піхту-ельніцу (або і ўсякае хваёвае дрэва). Адна з улюбёных немцамі калядных песень акурат ёй прысьвечаная — „O Tannenbaum!“ Мэлёдыя даўнейшая, словы Эрнста Аншуца. На беларускую гэтую песьню пераклаў Сяржук Сокалаў-Воюш. Каб не заглыбляцца ў батанічныя дэталі, ён перадаў назву дрэва Tannenbaum абагульнена:

*О хвойка-хвоя, хваіна́,*
*О хвайныя іголкі!*
*І ў летні, і ў зімовы час*
*Ты зелянінай вабіш нас.*
*О хвойка-хвоя, хваіна,*
*О хвайныя іголкі...*

Дарэчы, яшчэ адзін, акурат найбольш у нас пашыраны, гатунак хваёвых дрэваў па-белару-

ску завецца двума сынонімамі: *сасна* і *хвоя*. А зеляніна хваёвых — гэта *ігліца*.

***

Вернемся да ялінкі-елкі-ёлкі. Паводле складанага правіла старадаўні гук [э] часам пераходзіў у [о] пасьля мяккіх — на пісьме гэта пераход літары **е** ў **ё**: дзень — *дзённы*. Працэс меў закрануць і пары словаў накшталт *ельнік — ёлка*. У расейскай мове так і адбылося. А ў беларускай — ня ўсюды. Яшчэ акадэмік Карскі заўважыў, што і на Барысаўшчыне, і на Ігуменшчыне, і на Ваўкавышчыне фальклярысты запісвалі слова *елка*, ня *ёлка*.

У іншых словах, у тым ліку імёнах, таксама бывае, што расейскай літары **ё** адпавядае беларуская **е (э)**: рёбра — *рэбры*, тёща — *цешча*, опёнок — *апенька*, идём — *ідзем*, Алёна — *Алена*, Фёдор — *Хведар*. Гэтая рыса — адна з адметнасьцяў беларускае мовы ў параўнаньні з расейскаю. Часам яна тлумачыцца гукавымі зьменамі наступных зычных гукаў, часам — аналёгіяй зь іншымі формамі (гэта акурат выпадак зь *елкаю*).

Слова *ёлка* ў значэньні адпаведнага дрэва ведаюць асобныя беларускія гаворкі, яно выразна лякалізуецца на Віленшчыне — там ужываецца і палянізм *ёдла* з тым жа значэньнем (хоць у польскай мове гэта ‘піхта-ельніца’). І я вымушаны паправіць аўтарытэтны „Этымалягічны слоўнік беларускай мовы“: формы *ёлка* няма ані ў „Віцебскім краёвым слоўніку“ Міколы Касьпяровіча (1927), ані ў „Краёвым слоўніку Чэрвеншчыны“ Міколы Шатэрніка (1929).

У іншыя гаворкі ды ў літаратурную мову слова *ёлка* прыйшло ўжо ў савецкі час для абазначэньня менавіта сьвяточнага дрэва. Яшчэ „ёлачкай“ могуць называць узор вышыўкі. Гэта што да кораня **ел-/ёл-**.

А ёсьць жа яшчэ варыянты словаўтваральнага суфікса: **-к-а** або **-ін-а**. Беларускія этымолягі з агульнаславянскай пэрспэктывы і пра *елку*, і пра *ёлку* кажуць: такія формы *„маюць вельмі абмежаваны характар: галоўным чынам беларуска-руская тэрыторыя“*.

А на пераважнай бальшыні абшару менавіта беларускае мовы вядомая назва дрэва *яліна*, з варыянтамі *éліна*, *ялінá*, а нават *ядліна*. У першым вялікім зборы словаў беларускае мовы XIX стагодзьдзя — слоўніку Івана Насовіча — толькі *яліна* і *ялінка*. Елак-ёлак няма зусім. Дакладней, ёлка ёсьць: у сказе

**Ёлка ў роце!**

Гэта значыць — горка, прыкра ў роце. Многія ў Беларусі, нават расейскамоўныя, ведаюць і ўжываюць беларускі прыметнік *ёлкі*, які апісвае спэцыфічны непрыемны смак сапсаванага масла ці сала. Ёсьць і дзеясловы — *зьялчэць*, *ёлкнуць*. Этымалёгія слова зьвязаная з старымі яшчэ індаэўрапейскімі каранямі, як у слова *эль*. У кожным разе думаю, што беларускае слова *ёлка* са значэньнем горкага смаку падказвае нам, што для сьвяточнага дрэва лепей выбіраць іншыя

словы. Што і рабілі клясыкі. Якуб Колас, верш „Дзед-госьць“:

*А ялінка!.. Чаго толькі*
*На яе няма галінках!*
*Сьвецяць зоркі і вясёлкі*
*У бліскучых павуцінках.*

Няма слова „ёлка“ як беларускага ў аўтарытэтным „Расійска-беларускім слоўніку“ С. Некрашэвіча і М. Байкова (1928). Там *елка, яліна, ель*.

Дарэчы, у расейскай мове слова „ёлка“ мела і спэцыфічнае значэньне. Лексыкограф Уладзімір Даль запісаў выраз: „Идти под ёлку“ — значыць ісьці ў „кабак“. Бо была там завядзёнка на карчму ставіць яліну. Адсюль таксама жартоўная назва карчмы-кабака — „Иван Ёлкин“.

У нашых суседзяў-украінцаў са словам „ёлка“ атрымаўся цэлы мэм-анэкдот. Былы прэзыдэнт Януковіч хацеў абвясьціць, што на месцы народных пратэстаў зьявіцца каляднае дрэва. І забыўся, як яно завецца па-ўкраінску. 10 сэкундаў думаў і ўсё роўна спудлаваў. Сказаў „ёлка“. А трэба было *ялинка*. Гэта ва ўкраінскай мове адзінае нарматыўнае слова.

***

Цягам XX стагодзьдзя слова „ёлка“ ў сьвяточным значэньні даволі моцна пранікла ў беларускую мову. Літаратары стварылі для дзяцей нямала тэкстаў пра „навагоднюю ёлку“.

Хаця... Купала пераклаў вядомую расейскую песеньку на нямецка-швэдзкую мэлёдыю так,

што наша паддосьледнае слова можа быць і праз літару **Ё** (так пераклад публікуецца ў зборах твораў), і праз **Е** (так сьпяваюць яе ў беларускіх асяродках цяпер): *Узышла у лесе елачка...*

Для маладзейшых беларускіх аўтараў выбар беларускага слова *ялінка* — натуральны: *Да нас прыйшла ялінка — зялёная галінка* (песенька на верш Сержа Мінскевіча, музыка Тацяны Грыневіч). Сьвяткаваньне пад назваю *калядная ялінка,* перажыўшы савецкія часы на эміграцыі, вярнулася на Бацькаўшчыну. Цяпер нават імя такое дзецям даюць: многія чулі пра Ялінку Салаўёву, якая разам з бацькамі дамагаецца права вучыцца па-беларуску ў Магілёве. Сэмантыка імя, дарэчы, вядомая іншым народам: так, многія літоўкі носяць імя Eglė.

То хай жыве ялінка.

## У беларусаў апошняя чарка — толькі адна. Як яна называецца?

Гэты тэкст пра беларускі моўны этыкет — прэвэнтыўная дапамога чытачам перад рознымі сьвяточнымі маратонамі.

**Псэўданімы апошняе чаркі**

Спэцыфічны разьвітальны рытуал у розных народаў пазначае заканчэньне бяседы (нагадаю, што па-беларуску *бяседа* абазначае застольле). Ансамбль з гэтаю назваю пры Беларускай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі выконвае ўсюдыісную песьню з такім рэфрэнам:

*Чарка на пасашок —*
*На марозе кажушок.*
*А за ёй чарговая*
*Чарка аглаблёвая.*

У тым, што гэта не фальклёр, сумневу не пакідаюць далейшыя радкі:

*Эх, славянскае жыцьцё —*
*Стрэчы ды расстаньні.*
*Пасьля чаркі забыцьцё,*
*Потым — пакаяньне.*

Пра гэткае „славянскае“ жыцьцё беларускі народ дакладна песень не складаў, гэта аўтарскі твор (верш А. Лягчылава, музыка А. Балотніка). Па-першае, зашмат — як на беларускі звычай —

разьвітальных чарак (мае быць адна!). Па-другое, ёсьць пытаньні да ўжытых у ім назваў.

**_Пасашок_ — гэта булачка, а ня тое, што вы падумалі!**

*На посошок* — так казалі й кажуць у Расеі. Сьведчыць Уладзімір Даль:

***Посох****, шуточное.* ***Третья рюмка вина*** *на прощанье: первая на праву, вторая на леву ногу; третья на посох: надо, не захромал бы! Посошок* (костромское) — *то же.*

І сучасныя расейскія дыялектолягі у значэньні разьвітальнага пачастунку фіксуюць слова *посошок*, прыкладам, у вясельных абрадах пад Калугаю.

Слова *посах* — ад сахі, рассохлай галіны — вядомае і беларускай мове, але нават у 6-тамовым Тлумачальным слоўніку, які русізмаў не цураецца, *посах* значыць толькі ‘доўгі кій’ (у тым ліку жазло ў сьвятара) і падаецца бяз прыкладаў.

На Тураўшчыне гэта яшчэ і прылада, якою заганяюць рыбу ў сетку, на Гомельшчыне *посахам* завуць наседжанае яйка. Беларускія дыялекты, здаецца, ня ведаюць слова *пасашок* у значэньні ‘чарка’.

З адным выняткам — на крайнім усходзе беларускамоўнага абшару, дзе моцны ўплыў расейскае стыхіі, дасьледнікі запісвалі на мяжы XIX і XX стагодзьдзяў такое значэньне: *Посо-*

*шокъ — послѣдняя прощальная рюмка. Ну, ужъ выпiй пасашокъ,— нильзя такъ ѣхать* (Смаленскі павет. „Смоленскiй областной словарь“ У. Дабравольскага, 1914 г.).

Але пазьнейшыя дыялектолягі адзначаюць на той самай Смаленшчыне словы *посóх, посошóк* у значэньні маленькіх сьвяточных булачак ці піражкоў, а ня чаркі (Словарь смоленских говоров: Набережье — Пояснить. Выпуск 8. Смоленск: Смоленский государственный педагогический университет, 1998).

Што да літаратурнае мовы, то не пакідае сумневаў афіцыйны „Руска-беларускі слоўнік“: расейскі *посошок* у жартоўным значэньні — па-беларуску там *адыходная*, *выпіць на дарогу адыходную.*

Словы для рытуалу расстаньня (калі разыходзяцца ці разьяжджаюцца) у Беларусі шматстайныя: *адыходзіны, адыходак, ад’яжджаньне*. Адпаведная чарка можа называцца формулай *на адыходак* і пад. У Івана Насовіча (жывая народная мова XIX ст.) — *на расхожую, на расхажку.* Народны тост — *Годзе, годзе: трэба выпіць на расходзьдзе!* На паўночным усходзе, на Полаччыне і Падняпроўі, скажуць хутчэй *на дарожку.*

## Дылема „транспартам ці пехатой“ як выбар нацыянальнай ідэнтычнасьці

Але цікавейшыя вобразныя назвы гэтай самай разьвітальнай. Рыгор Барадулін пра мову сваёй Вушаччыны:

*На адыходзіны* ***капытковую*** *выпіць ня шкодзіць.* ***Капытковую*** *да дна!*

Дзядзька Рыгор слова ня выдумаў: у рэгіёне падобныя бытуюць. Кажа дзяўчына, род якой зь Сянна: *„Пакуль гэтыя госьці ад'яжджаюць, пакуль пап'юць усіх гэтых падкапытных...*“ (запіс С. Сокалава-Воюша).

Яшчэ Барадулінаў выраз з Вушаччыны: *Адхадную пілі* ***на пужку****, каб пуга добра каня падганяла*.

А што наконт *аглаблёвай*?

Міхась Скобла ў даўнім тэксьце на тэму ў „Слоўніку Свабоды“ таксама палемізуе з вышэйзгаданай песенькай пра „пасашок-кажушок“ і ў палемічным запале шчодра аддае

*аглаблёвую* ўсходнім суседзям. Але ў расейскай мове само слова такое наўрад ці магчымае. Там *огло́бля* заканамерна ўтварае прыметнік *огло́бельный*, і *огло́бельная* бывае толькі крытыка палітычна няправільных пісьменьнікаў і навукоўцаў, але ня чарка.

А ў нас *аглабля́* — *аглаблёвы*, заканамерна ўтвораны прыметнік, і *аглаблёвую* чарку ведаюць амаль па ўсёй краіне. Яе ўпамінаюць пісьменьнікі з розных рэгіёнаў — ад Л. Левановіча з усходніх Касьцюковічаў і А. Бароўскага з паўднёвае Мазыршчыны да Ўладзімера Пецюкевіча з паўночнай Браслаўшчыны, Анатоля Клышкі з На-

ваградчыны (у яго варыянт *аглабельная*) і Адама Мальдзіса з паўночна-заходняй Віленшчыны:

— Час позьні ўжо. Зараз і першыя пеўні засьпяваюць.
— Ага, дадому пара.
— Тады па астатняй, па *аглаблёвай*.
...Услед за Дайнаровічамі і Лакуціеўскімі паступова ўсе, нават няцьвёрды ў нагах Сыракомля, выйшлі ў сені. Па старадаўняму звычаю гаспадар вынес туды *аглаблёвыя* кілішкі.

(Адам Мальдзіс. Восень пасярод вясны)

Запомнім: Адам Мальдзіс уклаў Сыракомлеваму шляхоцкаму асяродзьдзю ў вусны *аглаблёвую.*

Суседзі палякі дагэтуль п’юць *strzemiennego*. Ужывалі падобнае таксама казакі. Але тост гэты ведалі і ў нас. *Страмяна́я* — ставячы нагу ў стрэмя. Выраз у нашай традыцыі вядомы акурат ад Уладыслава Сыракомлі („Дарога зь Вільні ў Ашмяну“; відаць, пісьменьнік усё ж разьмяжоўваў *страмяную* і *аглаблёвую* залежна ад сытуацыі) ды з шляхоцкіх мэмуараў.

Як бачым, *капыток, пужка, аглабля, стрэмя* — усё конна-транспартныя атрыбуты. А суседзі-ўкраінцы разьвітваюцца з госьцем самым відавочным конскім тостам: *На коня!*

Таму на расейскіх сайтах жартуюць: і беларусы, і ўкраінцы, і палякі разьяжджаюцца хто на калёсах, хто на кані, а яны самыя пехатой ды з кіёчкам.

Хаця, відаць, і некаторыя беларусы ня грэбавалі пехатой. І сваё тое эсэ Міхась Скобла назваў „Расхадуха“, і раскошны тост зьвершаваў: *Узьніміце чарку-„расхадуху“ за веліч і сілу беларускага духу.* Гэтае ж слова ўжываў Янка Брыль у сваіх абразках: „Упершыню пачуў тут, калі сядзелі за сталом, што апошняя чарка называецца *расхадуха*“. Ёсьць яно ў згаданага Анатоля Клышкі, у ягоным вольным пераказе нямецкіх народных казак пра недарэкаў-Шыльдбюргераў:

...Праўду казаў мой дзед: ня пі, а асабліва першай чаркі.
Шыльдбюргеры гэтай мудрай парады ня ведалі ... і таму ладна надзюбаліся. Бо была розная чарка — і *кругавая*, і *медавая*, і *расхадуха*, і *падскакуха*, а пасьля і *паваліха*, і *пакаціха*. А як хапілі *аглабельную*, дык толькі праз гадзіны тры ачомаліся.

(І не маглі разабраць ногі, бо былі ў аднолькавых штанах, а дапамагчы высьветліць, дзе чыя нага, мог толькі ладны ўдар дубцом па ёй.) Пералік і назвы чарак тут ад А. Клышкі.

Міхась Скобла абвясьціў *расхадуху* агульнабеларускім разьвітальным тостам. Праўда, я заўважыў, што ўсе аўтары, якія ўжываюць выраз *расхадуха*,— з аднаго рэгіёну: Брыль і Клышка з Наваградчыны, Скобла з Зэльвеншчыны. Але хай сабе будзе і такі рэгіянальны ўнёсак у нацыянальную лексычную скарбніцу.

Анатоль Клышка ў эсэ, прысьвечаным посуду для піцьця, дае яшчэ адзін назоў разьвітальнай чарцы — *„на рукавіцы“*:

*Гэта ўжо напрыканцы бяседы, пасьля чаркі-пакатухі або калі п'еццa разьвітальная „на рукавіцы“ або „аглабельная“, усялякі посуд можа страціць выразныя абрысы, і ня толькі кілішак, а нават шклянка можа сысьці за чарку.*

Зычу ўсім чытачам, каб такога зь імі ня здарылася. І закончым здаравейшым разьвітаньнем:

*Бывайце здаровы, жывіце багата.*

Верш Адама Русака, песьня на музыку Ісака Любана. Разьвітаньне зусім традыцыйнае, але была такая эпоха, што ў тэксьце 1936 году поўна вымушаных калгасна-савецкіх рэаліяў, якія новым выканаўцам у межах праекту „Народны альбом“ давялося мяняць: *У вашай **гаспoдзе** шырокае поле. Бывайце здаровы, жывеце багата.*

Такім чынам:

1) беларуская разьвітальная чарка — АДНА.
2) вобразная назва на густ, транспарт і настрой:
аглаблёвая
капытковая
на пу́жку
страмяна́я (гіст.)
на рукавіцы (узімку)
3) простая назва: — расхадуха, адыходная, на адыходак, на дарожку, на расходзьдзе

# Паказьнік

## разгледжаных беларускіх словаў, формаў і выразаў

### Г, Ґ



### Д

**Н**



**П**

**Э**



**Я**

# Пра аўтара



Вінцук Вячорка нарадзіўся ў Берасьці 7 ліпеня 1961 г. Дыплём філёляга ў БДУ абараняў на тэму беларуска-літоўскіх моўных узаемаўплываў. У асьпірантуры Акадэміі навук вывучаў мову выданьняў Заходняй Беларусі міжваеннага часу. Публікаваўся ў гадавіку „Беларуская лінгвістыка“, у энцыкляпэдыі „Беларуская мова“ (1994). Ініцыяваў сучаснае ўпарадкаваньне беларускага клясычнага правапісу, аўтар зводаў „Правапіс. Спроба сучаснае нармалізацыі“ (1995); „Беларускі клясычны правапіс“ разам зь Ю.Бушляковым, З. Саньком і З. Саўкам (2005).

Выкладаў у БДПУ, чытаў лекцыі ў Віленскім унівэрсытэце ды інш. Укладаў (разам з П. Садоўскім) першыя беларускія праграмы і чытанкі для дашкольных установаў. Аўтар праграмы „Гісторыя і культура беларускай мовы“ для ліцэяў. У 1990-я гады намесьнік старшыні Тэрміналягічнай камісіі пры міністэрстве адукацыі.

Удзельнічаў у выданьні часопісаў падпольнай Групы Незалежнасьць „Люстра Дзён“ (1979—1980) і „Бурачок“/„Вітажэнец“ (1986—1987). Сузаснавальнік „Майстроўні“, „Талакі“, Беларускага Народнага Фронту.

Намесьнік галоўнага рэдактара часопіса „Спадчына“, дзе вяртаў ва ўжытак тэксты эпохі беларускага адраджэньня 1-й паловы XX ст. Аўтар навукова-папулярных тэкстаў і кніг пра нацыянальную сымболіку.

На Радыё Свабода ў пачатку 1990-х гадоў вёў праграму, прысьвечаную беларускай мове, у 1997—1999 г. быў суаўтарам цыклю „Неабжытая спадчына“. З 2014 г. вядзе сэрыю папулярных нарысаў пра беларускую мову.

Першая кніга выбраных тэкстаў гэтай сэрыі „Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам“ выйшла ў „Бібліятэцы Свабоды“ ў 2016 г.

# SUMMARY

"Don't Make My Prepositions Laugh" is a book of essays based on Radio Liberty's Belarus service (svaboda.org) web series "In Belarusian with Vincuk Viačorka." In this second of two volumes, philologist Viačorka encourages his website audiences and, in this case, his readers, to dissect the vocabulary, grammar and syntax of authentic Belarusian — a language which UNESCO classifies as "vulnerable" to eventual extinction. While his subject is serious, the author adopts an often tongue in cheek approach, and these essays are an enjoyable as well as an informative read.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.* **Прыгоды АРА ў Беларусі.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** 2-е выд., дапоўненае. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.* **Вострая Брама.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Беларуская Атлянтыда.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03–25.03.2006.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.* **Альбом сямейны.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы
Радыё Свабода.
Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар.
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.**
Зборнік гутарак
і песень 100
удзельнікаў
перадачы
«Барды Свабоды».
Мультымэдыйны
DVD-дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
192 с.: іл.




**Галасы**
**Салідарнасьці.**
Міжнародная
падтрымка
беларускай
дэмакратыі.
Мультымэдыйны
DVD-дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў**
**Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
330 с.




**Саўка ды Грышка.**
**Год першы.**
Калекцыя 50
песьняў – падзеі
году ў сатырычным
дуэце Лявона
Вольскага з самім
сабой на Радыё
Свабода.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Малая мэдычная**
**энцыкляпэдыя**
**Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.** Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/ Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.* **Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.* **Справа Бяляцкага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.* **Турма і здароўе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.* **Хто ўзарваў менскае мэтро?** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.* **Жывая мова.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.